© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

**РЭДАКЦЫЙНЫ КАМІТЭТ**

**А. Баршчэўскі, Г. Валкавыцкі (старшыня), М. Гайдук, Я. Зенюк, В. Склубоўскі, Ю. Туронак і В. Швед**

**АД'ЮСТАТАР**

**Яніна Чэрнякевіч**

**КАРЭКТАР**

**Валянціна Жэшка**

**ВОКЛАДКА**

**Стэфан Рыбі**

Wydawca: Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w Białymstoku. Oddano do druku 14.VII.1983 r. Druk ukończono w grudniu 1983 r. Ark. druk. 14, ark. wyd. 17. Nakład 8000 egz. Cena 80 zł.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne, Zam. 1188/83 r. C-9.

## ХВАЛЮ І КАХАЮ...

Хвалю я пах жытнёвых ніў,
духмяны водар сенажаці.
Хоць многа вёснаў пражыў,
яны мне родныя, як маці...
І свежую раллю палёў
і бель зімою наваколля,
і шум галінак ад вятроў
— мнё не забыць таго ніколі...
Хвалю руплівых землякоў,
занятых працай ад світання,
і ўсіх нам блізкіх сваякоў,
што працу цэняць, як каханне.
Ды як жа не хваліць мне зноў
гул фабрык новых і заводаў.
Наўкол узнятых гарадоў,
жыццё працоўнага народа?!...
Найбольш хвалю тых змагароў,
якія праўды ўсцяж шукалі,
што ахвяравалі сваю кроў
ды косці ў могільнік паклалі.
Каб вораг болей не таптаў
зямелькі роднае, айчыннай,
народ, каб болей не стагнаў
пад гнётам працы непасільнай.
Хвалю заўсёды родны край,
дзе я жыву і нарадзіўся;
і спеўку родную... Бадай
хваліць ніколі не забыўся...
Яшчэ хвалю сваіх бацькоў,
ад іх я мовай ганаруся,
ды ўсіх айчынных песняроў.
Яны далі мне імя беларуса!..

**УЛАДЗІМІР ШКЛЯРУК**

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011




| Стыль | | Дні | Імяніны і святы | | Усх.— —зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | | | |
| **1** | **19** | **Н** | **Новы Год, Мечыслава** | **Цімафея, Рыгора** | **7.45— —15.34** |
| 2 | 20 | П | Ізыдара, Макара | Ігната | 7.43—15.43 |
| 3 | 21 | А | Дануты, Генавефы | Пятра, Ульяны | |
| 4 | 22 | С | Яўгенія, Тытуса | Анастасіі, Феадосіі | |
| 5 | 23 | Ч | Эдуарда, Шымана | Паўла, Ніфанта | |
| 6 | 24 | П | Трох Каралёў | *Куцця*, Яўгеніі | |
| 7 | 25 | С | Юльяна, Люцыяна | *Раждажаство Хрыстова* | |
| **8** | **26** | **Н** | **Мсціслава, Севярына** | **Сабор Пр. Багародз.** | |
| 9 | 27 | П | Марцэліна, Марыянны | Сцяпана, Фёдара | 7.38—15.53 |
| 10 | 28 | А | Яна, Вільгельма | Агаты, Феафілы | |
| 11 | 29 | С | Ганараты, Матыльды | Марка, Маркела | |
| 12 | 30 | Ч | Аркадзія, Бенядыкта | Анісіі, Фядоры | |
| 13 | 31 | П | Багумілы, Веранікі | *Шчодры вечар,* | |
| 14 | 1 | С | Фелікса, Гіляра | *Новы год,* Васіля | |
| **15** | **2** | **Н** | **Дамаслава, Паўла** | **Сяргея, Серафіма** | |
| 16 | 3 | П | Марцэля, Уладзіміра | Малахіі, Гардзея | 7.31—16.05 |
| 17 | 4 | А | Антона, Расціслава | Феакціста, Засіма | |
| 18 | 5 | С | Малгажаты, Пятра | *Куцця*, Рыгора | |
| 19 | 6 | Ч | Генрыка, Марыуша | *Хрышчэнне Гасподне* | |
| 20 | 7 | П | Фабіяна, Себастыяна | *Іана Хрысціцеля* | |
| 21 | 8 | С | Агнешкі, Ярослава | Георгія, Емяльяны | |
| **22** | **9** | **Н** | **Анастаза, Вінцэнта** | **Філіпа, Пятра** | |
| 23 | 10 | П | Ільдафонса, Раймунда | Рыгора, Маркіяна | 7.21—16.17 |
| 24 | 11 | А | Феліцыі, Тыматэвуша | Феадосія | |
| 25 | 12 | С | Мілоша, Паўла | Таццяны, Саввы | |
| 26 | 13 | Ч | Паўліны, Палікарпа | Якуба, Ярміла | |
| 27 | 14 | П | Яна, Пшыбыслава | Ніны | |
| 28 | 15 | С | Радаміра, Валерыя | Паўла, Гаўрыіла | |
| **29** | **16** | **Н** | **Францішка, Здзіслава** | **Леаніда, Данакта** | |
| 30 | 17 | П | Мацея, Мартыны | Антона | |
| 31 | 18 | А | Яна, Марцэлі | Кірыла, Афанасія | |





*Вёска Чарэўкі. Фота Я. Целушэцкага.*

Дзе б я ні быў, заўсёды я з табою
І да цябе заўжды мне сэрца б'е.
І кожнай ноччу льюцца, як ракою,
Сны аб табе, ды толькі аб табе...

**ДЗМІТРЫ ШАТЫЛОВІЧ**
**(з верша „Радзіма")**

1.I.1861 — нарадзіўся вялікі беларускі вучоны Я. Ф. Карскі ● 21.I.1905 пачатак першай рускай рэвалюцыі ● 1.I.1919 — абвяшчэнне Беларускай ССР ● 1.I.1944 — заснаванне Краёвай Рады Нарадовай ● 5.I.1948 — утварэнне ў Маскве Савета ўзаемнай гаспадарчай дапамогі ● 24.I.1924 — памёр У. І. Ленін.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



# ЛЮТЫ

| Стыль Новы | Стыль Стары | Дні | Імяніны і святы | | Усх.— —зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 19 | С | Ігната, Брыгіды | Арсенія, Макара | 7.10—16.30 |
| 2 | 20 | Ч | Грамніцы, Марыі | Яфіма, Лаўрэнція | |
| 3 | 21 | П | Блажэя, Гіпаліта | Максіма, Яўгенія | |
| 4 | 22 | С | Андрэя, Веранікі | Цімафея, Ляонція | |
| **5** | **23** | **Н** | **Агаты, Адэляйды** | **Клімента, Генадзія** | |
| 6 | 24 | П | Дароты, Багдана | Ксеніі, Герасіма | 6.58—16.44 |
| 7 | 25 | А | Рамуальда, Рышарда | Георгія, Віталіса | |
| 8 | 26 | С | Пятра, Яна | Марыі, Іосіфа | |
| 9 | 27 | Ч | Цырыля, Аполонія | Івана, Дзмітра | |
| 10 | 28 | П | Яцка, Таміславы | Яфрэма, Паладзія | |
| 11 | 29 | С | Марыі, Люцыяна | Ігната, Лаўрэнція | |
| **12** | **30** | **Н** | **Еўлаліі, Мадэста** | **Трох Свяціцеляў** | |
| 13 | 31 | П | Анелі, Рыгора | Мікіты, Кіра | 6.44—16.57 |
| 14 | 1 | А | Зенона, Валянціна | Васіля, Трыфана | |
| 15 | 2 | С | Іовіта, Фаўстыны | *Срэценне Гасподне* | |
| 16 | 3 | Ч | Дануты, Юльяны | Сямёна, Ганны | |
| 17 | 4 | П | Лукаша, Збігнева | Ізыдара, Георгія | |
| 18 | 5 | С | Шымона, Зузанны | Агафіі, Феадосія | |
| **19** | **6** | **Н** | **Кандрата, Маневеты** | **Вуколы, Хрысціны** | |
| 20 | 7 | П | Ляона, Людмілы | Парфена, Лукі | 6.29—17.10 |
| 21 | 8 | А | Элеаноры, Фелікса | Захарыя, Фёдара | |
| 22 | 9 | С | Малгажаты, Марты | Нікіфара, Панкрата | |
| 23 | 10 | Ч | Дамяна, Рамана | Валянціны, Паўла | |
| 24 | 11 | П | Мацея, Богуша | Уласія, Усевалада | |
| 25 | 12 | С | Цэзара, Віктара | Аляксея, Мялеція | |
| **26** | **13** | **Н** | **Аляксандра** | **Зоі, Святланы** | |
| 27 | 14 | П | Габрыеля, Анастасіі | Кірыла, Канстанціна | |
| 28 | 15 | А | Рамана, Макара | Анісіма, Еўфрасініі | |
| 29 | 16 | С | | | |





*Прылада да гнуцця дуг Аляксея Куршаля з Паўночнага Вострава. Фота У. Юзвюка.*

Тут кожны камень дарагі і блізкі,
І кожны след, дзе ні ступі нагой.
Звычайны дом, дзе радасці калыскай
Быў свежы хлеб і цёплы сырадой...

**ЛЕАПОЛЬД ТАНКЕВІЧ**
**(з верша „Звычайны дом“)**

**19.II.1473** — нарадзіўся вялікі астраном Мікалай Капернік ● **2.II.1838** — нарадзіўся Кастусь Каліноўскі ● **18.II.1893** — нарадзіўся беларускі пісьменнік Максім Гарэцкі ● **23.II.1918** — першая пераможная бітва Чырвонай Арміі ● **2.II.1943** — разгром нямецкай арміі пад Сталінградам ● **1.II.1945** — перанясенне сядзібы цэнтральных улад ПНР з Любліна ў Варшаву ● **26.II.1956** — у Беластоку адбыўся I арганізацыйны з'езд БГКТ.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011




| Стыль: Новы | Стыль: Стары | Дні | Імяніны і святы | | Усх.—зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 17 | Ч | Альбіна, Антаніны | Фёдара, Мар'янны | 6.16—17.21 |
| 2 | 18 | П | Галены, Паўла | Лёвы, Уласія | |
| 3 | 19 | С | Кунегунды, Тыцыяна | Архіпа, Яўгенія | |
| **4** | **20** | **Н** | **Казіміра, Луцыі** | **Карніла** | |
| 5 | 21 | П | Вацлава, Фрыдэрыка | *Запусты.* Рыгора | 6.00—17.33 |
| 6 | 22 | А | Віктара, Ружы | Цімафея, Яўгеніі | |
| 7 | 23 | С | Тамаша, Паўла | Антона, Палікарпа | |
| 8 | 24 | Ч | Міжнародны | дзень жанчын | |
| 9 | 25 | П | Францішка, | Івана, Эразма | |
| 10 | 26 | С | Цыпрыяна, Марцэля | Тараса | |
| **11** | **27** | **Н** | **Канстанціна** | **Парфіра, Севасцьяна** | |
| 12 | 28 | П | Бернарда, Рыгора | *Масленая.* Прахора | 5.44—17.45 |
| 13 | 29 | А | Бажэны, Крысціны | Васіля, Касіяна | |
| 14 | 1 | С | Ляона, Матыльды | Яўдокіі, Антаніны | |
| 15 | 2 | Ч | Клеменса, Людвікі | Фядота, Агафона | |
| 16 | 3 | П | Гіляра, Ізабелы | Яўтропія, Кляоніка | |
| 17 | 4 | С | Гертруды, Збігнева | Паўла, Якава, Ульяны | |
| **18** | **5** | **Н** | **Эдварда, Цырыля** | **Іраіды, Марка** | |
| 19 | 6 | П | Юзэфа, Багдана | Аркадзія, Конана | 5.27—17.58 |
| 20 | 7 | А | Еўфіміі, Клаўдзіі | Васілія, Яўгенія | |
| 21 | 8 | С | Бенядзікта, Любаміра | Феафілакта | |
| 22 | 9 | Ч | Кацярыны, Багуслава | *40 мучанікаў* | |
| 23 | 10 | П | Пелагіі, Фелікса | Кандрата, Міхала | |
| 24 | 11 | С | Марка, Габрыеля | Сафрона, Георгія | |
| **25** | **12** | **Н** | **Благавешчанне** | **Феафона, Сымона** | |
| 26 | 13 | П | Аўрэліі, Уладзіслава | Юльяна | |
| 27 | 14 | А | Космы, Дамяна | Расціслава | |
| 28 | 15 | С | Анелі, Яна | Аляксандра, Нікандра | |
| 29 | 16 | Ч | Аўстахія, Віктарына | Ульяна, Трафіма | |
| 30 | 17 | П | Амеліі, Яна | Аляксея | |
| 31 | 18 | С | Бальбіны, Карнеліі | Кірыла, Трафіма | |



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



*Шчыт хаты. Паўла Гусакова з вёскі Сацы. Фота У. Юзвюка.*

Белавежа — зялёны гармонік,  
цябе край мой на грудзі ускінуў,  
палажыў на клавішы далоні,  
да грудзей прытуліў, як дзяўчыну.  
І баяніць звінячаю мовай,  
ды санатай плыве па-над светам,  
а пад кожнай сукенкай вярбовай  
у гіпнозе застылі паэты.  
І танцуюць бярозы-мадонны  
У туманных развеяных крылах;  
тут песня так моцна палоніць,  
што Хрыстос танцаваў бы кадрылі.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

4.III.1956 — выхад першага нумара „Нівы" ● 14.III.1883 — памёр Карл Маркс ● 22.III.1864 — загінуў Кастусь Каліноўскі ● 27.III.1923 — нарадзіўся беларускі пісьменнік Алесь Рылько.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011




| Стыль | | Дні | Імяніны і святы | | Усх.— —зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | | | |
| **1** | **19** | **Н** | **Гражыны, Тадоры** | **Дар'і, Клаўдзія** | **5.11— —18.00** |
| 2 | 20 | П | Францішка | Аляксандра, Сяргея | 4.55—18.22 |
| 3 | 21 | А | Панкраца, Рышарда | Якуба, Фамы | |
| 4 | 22 | С | Ізыдара, Вацлава | Васілія, Ісакія | |
| 5 | 23 | Ч | Ірэны, Вінцэнта | Нікана, Лідзіі | |
| 6 | 24 | П | Цэлестына | Захара, Арсенія | |
| 7 | 25 | С | Даната, Руфіна | *Благавешчанне* | |
| **8** | **26** | **Н** | **Дзяніса, Радаслава** | **Алы, Ларысы** | |
| 9 | 27 | П | Марыі, Дабраславы | Матроны, Мануіла | 4.39—18.34 |
| 10 | 28 | А | Міхала, Макара | Іларыёна, Сцяпана | |
| 11 | 29 | С | Ляона, Філіпа | Марка, Кірылы | |
| 12 | 30 | Ч | Юльюша, Віктара | Іана, Кесара | |
| 13 | 31 | П | Пшэмыслава | Апалонія, Веньяміна | |
| 14 | 1 | С | Юстыны, Валярыяна | Марыі, Яўфіміі | |
| **15** | **2** | **Н** | **Анастасіі, Базыля** | **Ціта, Палікарпа** | |
| 16 | 3 | П | Бенядзікта, Урбана | Мікіты, Паўла | 4.24—18.46 |
| 17 | 4 | А | Рудольфа, Роберта | Іосіфа, Георгія | |
| 18 | 5 | С | Апалонія, Аліцыі | Хвядоры, Платона | |
| 19 | 6 | Ч | Леанарда, Уладзіміра | Мяфодзія, Платаніды | |
| 20 | 7 | П | Агнешкі, Часлава | Марціна, Рыгора | |
| 21 | 8 | С | Анзельма, Фелікса | Ірадзівона, Руда | |
| **22** | **9** | **Н** | **Вялікдзень** | **Вялікдзень** | |
| **23** | **10** | **П** | **Вялікдзень** | **Вялікдзень** | 4.10—18.58 |
| 24 | 11 | А | Фідэліса, Рыгора | Анціпа, Марціяна | |
| 25 | 12 | С | Марка, Яраслава | Васілія, Афанасія | |
| 26 | 13 | Ч | Мажэны, Марцэліны | Артамона, Крыскента | |
| 27 | 14 | П | Зыты, Тэафіля | Марціна, Антона | |
| 28 | 15 | С | Паўла, Валерыі | Трафіма, Анастасіі | |
| **29** | **16** | **Н** | **Пятра, Роберта** | **Ірыны, Ніліі, Галіны** | |
| 30 | 17 | П | Мар'яна, Кацярыны | Сымона, Адрыяна | |



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



*Вёска Чыжы. Фота Я. Целушэцкага.*

O, białoruska mowo! Twój wdzięk śpiewny budzi
  Echa zmarłych lat...
Ty jesteś mową mir czyniących ludzi,
  Puszcz wolnych, jasnych chat.
Tam, gdzie słowiańskie włada słowo,
  Ty dzwonisz nutą skowronkową,
O, szczebiotliwa, słodka mowo,
  Miodna jak lipy kwiat.

**WIKTOR GOMULICKI**
**(z wiersza „Na Białej Rusi")**

10.IV.1923 — памёр вядомы польскі фальклярыст Міхал Федароўскі ● 12.IV.1961 — палёт Юрыя Гагарына ў космас ● 21.IV.1840 — нарадзіўся беларускі пісьменнік Ф. Багушэвіч ● 22.IV.1870 — нарадзіўся У. І. Ленін.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011




| Стыль: Новы | Стыль: Стары | Дні | Імяніны і святы | | Усх.— —зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| **1** | **18** | **А** | **Свята Працы** | **Свята Працы.** Віктара | 3.56—19.10 |
| 2 | 19 | С | Анатоля, Зыгмунта | Іана, Антонія | |
| 3 | 20 | Ч | Марыі, Антаніны | Анастаса, Гаўрылы | |
| 4 | 21 | П | Манікі, Фларыяна | Фядота, Януарыя | |
| 5 | 22 | С | Ірэны, Вальдэмара | Віталія, Клімента | |
| **6** | **23** | **Н** | **Яна, Юдыты** | **Георгія Пабеданосца** | |
| 7 | 24 | П | Людмілы, Гізэлі | Саввы, Валянціна | 3.44—19.21 |
| 8 | 25 | А | Станіслава | Марка, Сільвестра | |
| 9 | 26 | С | Дзень Перамогі | Сцяпана, Глафіры | |
| 10 | 27 | Ч | Ізыдара, Антаніны | Сымона, Сцяпана | |
| 11 | 28 | П | Францішка, Мамерыя | Віталія, Кірыла, Тура | |
| 12 | 29 | С | Дамінікі, Панкраца | Мамнона | |
| **13** | **30** | **Н** | **Роберта, Серваца** | **Якуба, Даната** | |
| 14 | 1 | П | Дабяслава, Баніфаца | Тамары, Іераміі | 3.44—19.32 |
| 15 | 2 | А | Зофіі, Яна | Барыса, Глеба | |
| 16 | 3 | С | Андрэя, Венчыслава | Цімафея, Феадосія | |
| 17 | 4 | Ч | Веранікі, Славаміра | Пелагіі, Сільвана | |
| 18 | 5 | П | Фелікса, Аляксандра | Ірыны, Андрыяна | |
| 19 | 6 | С | Мікалая, Пятра | Іова, Дзянісія | |
| **20** | **7** | **Н** | **Базыля, Бернардзіна** | **Акакія, Філа** | |
| 21 | 8 | П | Тыматэвуша, Даната | Іана, Арсенія, Пімена | 3.25—19.41 |
| 22 | 9 | А | Галены, Юліі | Мікалая | |
| 23 | 10 | С | Міхала, Івоны | Сымона, Таісы | |
| 24 | 11 | Ч | Іанны, Зузанны | *(Прапалав.).* Мяфодзія | |
| 25 | 12 | П | Урбана, Рыгора | Германа, Ермалена | |
| 26 | 13 | С | Дзень Маці. Філіпа | Д. Маці. Аляксандра | |
| **27** | **14** | **Н** | **Яна, Юлія** | **Ісідара, Мікіты** | |
| 28 | 15 | П | Аўгусціна, Яраміра | Пахома, Ісакія | |
| 29 | 16 | А | Магдалены, Тэадозія | Фёдара, Музы | |
| 30 | 17 | С | Фелікса, Фердынанда | Андроніка, Сцяпана | |
| 31 | 18 | Ч | Петранелі, Анелі | *Ушэсце,* Клаўдзіі | |




*Нашыя краявіды. Фота М. Шаховіча.*

Гэту мову удыхнуў я ад мамы
Пад навесам жытнёвай страхі,
І яе меладыйныя гамы
Мне мілей і радней ад другіх.

**ВАСІЛЬ КАЙКА**
**(з верша „Мая мова")**

**1.V.1890** — устанаўленне Свята Працы ● **1.V.1905** — у Беластоку адбылася першая дэманстрацыя працоўных ● **8.V.1945** — капітуляцыя гітлераўскай Германіі і канец вайны ў Еўропе ● **9.V.1945** — устанаўленне свята — Дзень Перамогі ● **11.V.1883** — нарадзіўся беларускі дзіцячы пісьменнік Янка Маўр ● **14.V.1943** — утварэнне ў СССР І Дывізіі імя Т. Касцюшкі. ● **14.V.1955** — падпісанне Варшаўскага Дагавору. ● **16.V.1917** — памёр Максім Багдановіч.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011




| Стыль | | Дні | Імяніны і святы | | Усх.— —зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Старыя | | | | |
| 1 | 19 | П | Дз. Дзіцяці. Якуба | Дз. Дзіцяці. Карніла | 3.14—19.50 |
| 2 | 20 | С | Марыі, Эразма | Аляксея, Аляксандра | |
| **3** | **21** | **Н** | **Лешка, Клатыльды** | **Канстанціна, Галены** | |
| 4 | 22 | П | Кароля, Францішка | Васілісы, Якуба | 3.15—19.56 |
| 5 | 23 | А | Валерыі, Баніфаца | Еўфрасініі, Ігара | |
| 6 | 24 | С | Паўліны, Норберта | Мялеція, Сцяпана | |
| 7 | 25 | Ч | Роберта, Вяслава | Ферапонта, Іана | |
| 8 | 26 | П | Медарда, Максіма | Ялены, Георгія | |
| 9 | 27 | С | Пелагіі, Феліцыяна | Ніла, Фядоры | |
| **10** | **28** | **Н** | **Зялёнэ Свёнткі** | **Тройца** | |
| 11 | 29 | П | Фелікса, Барбары | Фядосіі, Івана | 3.13—20.00 |
| 12 | 30 | А | Яна, Андрэя | Ісакія, Рамана, Якава | |
| 13 | 31 | С | Люцыяна, Антона | Ерма, Ермія | |
| 14 | 1 | Ч | Базыля, Валерыя | Валерыяна, Дзянісія | |
| 15 | 2 | П | Віта, Ёлянты | Нікіфара, Аляксандра | |
| 16 | 3 | С | Аліны, Юстыны | Паўла, Лук'яна | |
| **17** | **4** | **Н** | **Лаўры, Адольфа** | **Марфы, Марыі** | |
| 18 | 5 | П | Марка, Эльжбеты | Канстанціна, Ігара | 3.15—20.02 |
| 19 | 6 | А | Гервáза, Пратаза | Тэклі, Сасанны | |
| 20 | 7 | С | Богны, Флёрантыны | Фядота, Валерыі | |
| **21** | **8** | **Ч** | **Божэ Цяло** | **Фёдара, Яфрэма** | |
| 22 | 9 | П | Паўліны, Флавія | Кірыла, Аляксандра | |
| 23 | 10 | С | Ванды, Зенона | Цімафея, Антаніны | |
| **24** | **11** | **Н** | **Яна** | **Варфаламея, Варнавы** | |
| 25 | 12 | П | Луцыі, Вільгельма | Ануфрыя, (*Усіх Св.*) | |
| 26 | 13 | А | Паўла, Яна | Анны, Акуліны | |
| 27 | 14 | С | Марыі, Уладзіслава | Елісея, Мяфодзія | |
| 28 | 15 | Ч | Ляона, Ірэнеуша | Амоса, Мадэста | |
| 29 | 16 | П | Пятра, Паўла | Ціхана, Яўтропія | |
| 30 | 17 | С | Эміліі, Люцыны | Мануіла, Савела | |





*Хата Аляксея Місеюка з вёскі Пухлы. Фота У Юзвюка.*

Ці знаеш край, дзе срэбра рос
Страсае звон сталёвых кос;
Дзе грае май шумлівых лоз,
І млее гай дзяўчат-бяроз?
Я ў краі тым радзіўся, рос
І адтуль сны істужкай шос
У шырокі свет з сабой панёс...

**МІКОЛА ГАЙДУК**
**(з верша „Родны краявід“**

1.VI. — Міжнародны дзень дзіцяці ● 1—3.VI.1946 — першы кангрэс Таварыства польска-савецкай дружбы ● 8.VI.1943 — роспуск III інтэрнацыянала ● 22.VI.1941 — пачатак гітлераўскай агрэсіі на СССР. ● 27.VI.1954 — пуск першай у свеце атамнай электрастанцыі ў СССР.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011




| Стыль | | Дні | Імяніны і святы | | Усх.— —зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | | | |
| **1** | **18** | **Н** | **Галіны, Мар'яна** | **Ляонція, Іпація** | **3.18— —20.01** |
| 2 | 19 | П | Мар'і, Урбана | Іуды, Таісія | 3.24—19.57 |
| 3 | 20 | А | Яцка, Анатоля | Мяфодзія, Апанаса | |
| 4 | 21 | С | Тодара, Інацэнта | Юльяна, Цярэнція | |
| 5 | 22 | Ч | Караліны, Антонія | Галакціёна, Юльяны | |
| 6 | 23 | П | Луцыі, Дамінікі | Агрыпіны, Іосіфа | |
| 7 | 24 | С | Цырыля, Мяфодзія | *Нар. Іана Хрысц.* | |
| **8** | **25** | **Н** | **Эльжбеты, Пракопа** | **Фяўроніі, Леаніда** | |
| 9 | 26 | П | Зэнона, Веранікі | Давіда, Дзяніса | 3.32—19.51 |
| 10 | 27 | А | Філіпа, Амеліі | Ганны, Інесы | |
| 11 | 28 | С | Ольгі, Пелагіі | Іана, Сяргея | |
| 12 | 29 | Ч | Яна, Гвальберта | *Пятра, Паўла* | |
| 13 | 30 | П | Эрнеста, Малгажаты | *12 апост.* Арсенія | |
| 14 | 1 | С | Марцэліна | Кузьмы, Дзямяна | |
| **15** | **2** | **Н** | **Генрыка, Уладзіміра** | **Юліты, Ювеналія** | |
| 16 | 3 | П | Марыі, Еўстахія | Анатолія, Піліпа | 3.41—19.43 |
| 17 | 4 | А | Багдана, Аляксея | Андрэя, Феадосіі | |
| 18 | 5 | С | Каміля, Шымана | Сяргея, Анны | |
| 19 | 6 | Ч | Вадзіслава, Вінцэнта | Валянціна, Лукі | |
| 20 | 7 | П | Чэслава, Гераніма | Фамы, Евангела | |
| 21 | 8 | С | Андрэя, Данеля | Пракопа, Феафіла | |
| **22** | **9** | **Н** | **Свята Адраджэння** | **Панкрата, Кірыла** | |
| 23 | 10 | П | Богны, Апалінара | Апалонія, Антона | 3.51—19.32 |
| 24 | 11 | А | Крысціны, Кінгі | Яўфіселіі, Вольгі | |
| 25 | 12 | С | Якуба, Крыстофа, | Іларыя, Фёдара | |
| 26 | 13 | Ч | Анны, Міраславы | Серапіёна, Сцяпана | |
| 27 | 14 | П | Юліі, Наталіі | Анісіма | |
| 28 | 15 | С | Віктара, Інацэнта | Уладзіміра, Кірыла | |
| **29** | **16** | **Н** | **Алафа, Марты** | **Юліі, Аляўціны** | |
| 30 | 17 | П | Юліты, Людмілы | Маргарыты, Лазара | |
| 31 | 18 | А | Ігната, Любаміра | Емяльяна, Якінфа | |





*Вёска Нараўка. Фота Я. Целушэцкага.*

Буйнеюць вершы
хваляй спеўнай.
Малее з кожным
годам збожжа.
Паэтаў хопіць
нам, напэўна,
але сялян
забракнуць можа.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

6.VII.1971 — пастанова ЦК ПАРП аб бясплатным лячэнні жыхароў вёскі ● 7.VII.1882 — нарадзіўся Янка Купала ● 8.VII.1917 — нарадзіўся Янка Брыль ● 15.VII.1410 — грунвальдская бітва ● 21.VII.1944 — утварэнне Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення ● 22.VII.1944 — абвяшчэнне Маніфеста ПКВН ● 27.VII.1944 — вызваленне Беластока. ● 30.VII.1893 — утварэнне Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011




| Стыль | | Дні | Імяніны і святы | | Усх.— —зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | | | |
| 1 | 19 | С | Пятра, Юстына | Макрыта, Серафіма | 4.02—19.21 |
| 2 | 20 | Ч | Карыны, Густава | Ілы | |
| 3 | 21 | П | Лідзіі, Аўгусціны | Сымона, Ануфрыя | |
| 4 | 22 | С | Дамініка, Пратаза | Мар'і, Магдаліны | |
| **5** | **23** | **Н** | **Мар'і, Станіслава** | **Трафіма, Апалінара** | |
| 6 | 24 | П | Славы, Якуба | Барыса, Глеба | 4.13—19.07 |
| 7 | 25 | А | Дароты, Кандрата | *Анны*, Алімпіяды | |
| 8 | 26 | С | Цыпрыяна, Емельяна | Ермалая, Параскевы | |
| 9 | 27 | Ч | Рамана, Рамуальда | Панцеляймона | |
| 10 | 28 | П | Барыса, Ваўжынца | Прахора, Ніканора | |
| 11 | 29 | С | Сузанны, Філамены | Калініка, Серафімы | |
| **12** | **30** | **Н** | **Клары, Гіляра** | **Андроніка, Валянціны** | |
| 13 | 31 | П | Дыяны, Гіпаліта | Еўдакіма, Юліты | 4.25—18.53 |
| 14 | 1 | А | Альфрэда, Еўзебія | *Маккавеяў* | |
| 15 | 2 | С | Успенне НМП | Сцяпана, Васілія | |
| 16 | 3 | Ч | Роха | Кузьмы, Антона | |
| 17 | 4 | П | Яцка, Мірона | Еўдакіі | |
| 18 | 5 | С | Галены, Браніслава | Яўсігнея, Нонны | |
| **19** | **6** | **Н** | **Юльяна, Баляслава** | **Праабр. Гасп. Спаса** | |
| 20 | 7 | П | Бернарда, Сабяслава | Далецiя, Пімена | 4.36—18.38 |
| 21 | 8 | А | Іаанны, Францішкі | Леаніда, Емяльяна | |
| 22 | 9 | С | Цэзара, Тыматэвуша | Юльяна, Дзмітрыя | |
| 23 | 10 | Ч | Філіпа, Апалінара | Лаўрэнція, Рамана | |
| 24 | 11 | П | Ежага, Бартламея | Сусанны, Раісы | |
| 25 | 12 | С | Луізы, Людвіка | Фоція, Аляксандра | |
| **26** | **13** | **Н** | **Мар'і, Зефірыны** | **Максіма, Ціхана** | |
| 27 | 14 | П | Юзэфа, Калясанта | Міхея, Фядосія | |
| 28 | 15 | А | Аўгусціна, Вышаміра | *Усп. Пр. Багародзіцы* | |
| 29 | 16 | С | Яна, Сабіны | Дзяміда Якіма | |
| 30 | 17 | Ч | Ружы, Шчэнснага | Мірона, Паўла | |
| 31 | 18 | П | Багдана, Раймунда | Іларыёна | |



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



*Хор Тэхнікума сельскагаспадарчага рахункаводства ў Бельску. Фота Я. Целушэцкага.*

Мілы дружа, слухаць горка,
Ты набыў дурных манер:
Брыдкаю завеш гаворкай
Мову родную цяпер...

**ВІКТАР ШВЕД**
**(з верша „Родны краявід")**

1.VIII 1914 — пачатак першай сусветнай вайны ● 5.VIII.1895 — памёр Ф. Энгельс ● 6.VIII. 1945 — амерыканцы кінулі атамную бомбу на Хірасіму ● 27 VIII.1944 — у часе бамбардзіроўкі загінула ў Варшаве кіраўніцтва Арміі Людовай ● 27.VIII.1856 — нарадзіўся вялікі пісьменнік украінскага народа Іван Франко.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011




| Стыль: Новы | Стыль: Стары | Дні | Імяніны і святы | | Усх.— —зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 19 | С | Ідзія, Браніслава | Андрэя, Фёклы | 4.48— |
| **2** | **20** | **Н** | **Сцяпана, Юльяна** | **Самуіла, Сявіра** | —18.22 |
| 3 | 21 | П | Ізабелы, Шымана | Фадзея, Вассы | 5.00—18.06 |
| 4 | 22 | А | Разаліі, Лільяны | Агафоніка, Аўлаліі | |
| 5 | 23 | С | Дароты, Ваўжынца | Ірынея, Калініка | |
| 6 | 24 | Ч | Беаты, Яўгенія | Яўціхія, Георгія | |
| 7 | 25 | П | Рэгіны, Мельхіёра | Варфаламея, Ціта | |
| 8 | 26 | С | Нар. Н.М.П. Сеўнай | Адрыяна, Наталіі | |
| **9** | **27** | **Н** | **Пятра, Сяргея** | **Пімена, Ліверыя** | |
| 10 | 28 | П | Лукаша, Мікалая, | Майсея, Анны | 5.11—17.50 |
| 11 | 29 | А | Яна, Прота | *Усячэнне гл. І. Хр.* | |
| 12 | 30 | С | Мар'і, Гвідона | Аляксандра, Даніла | |
| 13 | 31 | Ч | Філіпа, Яўгеніі | Кіпрыяна, Генадзія | |
| 14 | 1 | П | Цыпрыяна, Бернарда | Сымона, Марфы | |
| 15 | 2 | С | Альбіна, Нікадэма | Маманта, Івана | |
| **16** | **3** | **Н** | **Эдыты, Карнэлія** | **Анфіма, Васілісы** | |
| 17 | 4 | П | Юсціна, Францішка | Майсея, Вавілы | 5.23—17.35 |
| 18 | 5 | А | Ірэны, Юзэфа | Захара, Раісы | |
| 19 | 6 | С | Януара Канстанцыі | Рамана, Кірыла | |
| 20 | 7 | Ч | Філіпіны, Яўстахія | Сазонта, Іана | |
| 21 | 8 | П | Гіпаліта, Матэуша | *Раждж. Пр. Багародз.* | |
| 22 | 9 | С | Тамаша, Маўрыца | Якіма, Анны | |
| **23** | **10** | **Н** | **Тэклі, Багуслава** | **Клімента, Пятра** | |
| 24 | 11 | П | Герарда, Тэодара | Сяргея, Германа | 5.38—17.17 |
| 25 | 12 | А | Аўрэліі, Ладыслава | Юльяна, Фёдара | |
| 26 | 13 | С | Юсціны, Цыпрыяна | Карніла, Валерыяна | |
| 27 | 14 | Ч | Космы, Дамяна | *Уздзв. Крыжа Гасп.* | |
| 28 | 15 | П | Марка, Вацлава | Мікіты, Філафея | |
| 29 | 16 | С | Міхала, Міхаліны | Яўфіміі, Людмілы | |
| **30** | **17** | **Н** | **Зофіі, Геранімa** | **Веры, Надзеі, Любові** | |



*Вёска Сухавольцы. Фота В. Рудчыка.*

Усё, што ўзрасціла старонка любімая,
Усё, што магла даць, як матка радзімая,
Усё на сынкоў аддала.
Чым жа яны ёй за ўсё адгадзіліся?
Тым, што зусім ад яе адхіліліся,
Быццам не маць ім была...

**Р. АРОЛ**
**(з верша „Часта мне жыць не пад сілу прыходзіцца")**

1.IX.1939 — пачатак II сусветнай вайны ● 1.IX.1943 — адпраўка I Дывізіі імя Т. Касцюшкі на фронт ● 2.IX.1945 — капітуляцыя Японіі. Канец II сусветнай вайны ● 6.IX.1944 — Дэкрэт ПКВН аб зямельнай рэформе ● 17.IX.1912 — нарадзіўся беларускі пісьменнік Максім Танк ● 28.IX.1864 — заснаванне ў Лондане I Інтэрнацыянала.





© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011




| Стыль | | Дні | Імяніны і святы | | Усх.— —зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | | | |
| 1 | 18 | П | Дануты, Рэмігіуша | Софіі, Ірыны | 5.46—17.00 |
| 2 | 19 | А | Тэафіля, Дзіяніза | Фёдара, Канстанціна | |
| 3 | 20 | С | Тэрэсы, Герарда | Міхала, Алега | |
| 4 | 21 | Ч | Разаліі, Францішка | Кандрата, Андрэя | |
| 5 | 22 | П | Пляцыда, Апалінара | Іоны, Фокі | |
| 6 | 23 | С | Артура, Брунона | Іраіды, Пятра | |
| **7** | **24** | **Н** | **Марыі, Марка** | **Фёклы, Уладзіслава** | |
| 8 | 25 | П | Брыгіды, Пелагіі | Еўфрасініі, Сяргея | 5.58—16.45 |
| 9 | 26 | А | Людвіка, Дзіяніза | Іана, Яфрэма | |
| 10 | 27 | С | Паўліны, Францішка | Марка, Ігнація | |
| 11 | 28 | Ч | Эміля, Альдоны | Вечаслава, Харытона | |
| 12 | 29 | П | Дз. Войска Польскага | Феафана | |
| 13 | 30 | С | Тэафіля, Эдуарда | Грыгорыя, Міхаіла | |
| **14** | **1** | **Н** | **Дзень настаўніка** | **Пакрова Пр. Баг.** | |
| 15 | 2 | П | Тэрэсы, Ядвігі | Андрэя, Анны | 6.11—16.30 |
| 16 | 3 | А | Паўла, Амбражэя | Дзяніса, Іана | |
| 17 | 4 | С | Віктара, Малгажаты | Ерафея, Веранікі | |
| 18 | 5 | Ч | Юльяна, Лукаша | Пятра, Аляксея | |
| 19 | 6 | П | Пятра, Земавіта | Фамы, Макара | |
| 20 | 7 | С | Ірэны, Клеапатры | Сяргея, Юльяна | |
| **21** | **8** | **Н** | **Уршулі, Гіляра** | **Пелагеі, Таісіі** | |
| 22 | 9 | П | Філіпа, Кардулі | Якуба, Андроніка | 6.23—16.17 |
| 23 | 10 | А | Тодара, Севярына | Яўлампія, Васілія | |
| 24 | 11 | С | Рафала, Марціна | Філіпа, Зінаіды | |
| 25 | 12 | Ч | Інгі, Крысціны | Кузьмы, Марціна | |
| 26 | 13 | П | Луцыяна, Эварыста | Карпа, Веніяміна | |
| 27 | 14 | С | Івоны, Сабіны | Назара, Параскевы | |
| **28** | **15** | **Н** | **Тадэуша, Шымана** | **Лук'яна, Яўфімія** | |
| 29 | 16 | П | Эўзебіі, Віялеты | Лонгіна | |
| 30 | 17 | А | Зэнобіі, Пшэмыслава | Восія, Андрэя | |
| 31 | 18 | С | Урбана, Сатурніна | Лукі, Іосіфа | |



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



*Ганак у вёсцы Ячна каля Дубровы Бел. Фота У. Юзвюка.*

А можа павернем да роднага слова,
І возьмем мы прыклад з палякаў і рускіх,
І вернасць суседзяў для роднае мовы
Патрапім мы выліць у сэнс беларускі...

**АЛЕСЬ БАРСКІ**
**(з верша „Мой сын“)**

1.X.1949 — утварэнне Кітайскай Народнай Рэспублікі ● 4.X.1957 — у СССР запуск першага штучнага спадарожніка зямлі ● 7.X.1949 — утварэнне Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі ● 12.X.1943 — Бітва І Дывізіі імя Т. Касцюшкі пад Леніна ● 17.X.1849 — памёр Ф. Шапэн ● 24.X.1945 — заснаванне Арганізацыі Аб'яднаных Нацый ● 30.X.1921 — заснаванне ў Мінску Беларускага дзяржаўнага універсітэта ● 30.X.1951 — утварэнне Польскай акадэміі навук.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011




| Стыль | | Дні | Імяніны і святы | | Усх.— —зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | | | |
| **1** | **19** | **Ч** | **Усіх Святых** | **Клеапатры, Іана** | |
| 2 | 20 | П | Багдана, Бажыдара | Арцёма, Матроны | 6.36— |
| 3 | 21 | С | Сільвіі, Губерта | Іларыёна, Якуба | —16.02 |
| **4** | **22** | **Н** | **Кароля, Альгерда** | **Казанскай Іконы Б.М.** | |
| 5 | 23 | П | Эльжбеты, Славаміра | Якуба, Ігната | |
| 6 | 24 | А | Фелікса, Леанарда | Іана, Афанасія | |
| 7 | 25 | С | Вял. Кастр. Рэв. | Марціна, Анастасія | |
| 8 | 26 | Ч | Северына, Віктарына | Дзмітрыя, Феафіла | 6.49—15.51 |
| 9 | 27 | П | Урсына, Тодара | Нестара, Марка | |
| 10 | 28 | С | Андрэя, Людаміра | Іова, Параскевы | |
| **11** | **29** | **Н** | **Марціна, Бартламея** | **Анастасіі, Клаўдзіі** | |
| 12 | 30 | П | Рэнаты, Вітальда, | Зіновія, Маркіяна | |
| 13 | 31 | А | Мікалая, Станіслава | Спірыдона, Нікадзіма | |
| 14 | 1 | С | Серафіма, Ваўжынца | Кузьмы, Дзямяна | |
| 15 | 2 | Ч | Альберта, Леапольда | Афонія, Маркіяна | 7.01—15.41 |
| 16 | 3 | П | Эдмунда, Гертруды | Іосіфа, Аганія | |
| 17 | 4 | С | Саламеі, Рыгора | Ніканора, Сымона | |
| **18** | **5** | **Н** | **Анелі, Рамана** | **Галакціёна, Рыгора** | |
| 19 | 6 | П | Эльжбеты, Севярына | Аляксандры, Клаўдзіі | |
| 20 | 7 | А | Фелікса, Анатоля | Фядота, Кірыла | |
| 21 | 8 | С | Януша, Кандрата | Міхаіла | |
| 22 | 9 | Ч | Марка, Цэцыліі | Анісіфара, Парфіра | 7.13—15.33 |
| 23 | 10 | П | Феліцыты, Клеменса | Ораста, Радзівона | |
| 24 | 11 | С | Яна, Флёры | Віктара, Максіма | |
| **25** | **12** | **Н** | **Эразма, Кацярыны** | **Іана, Ніла** | |
| 26 | 13 | П | Кандрата, Сільвестра | Іана, Нічыпара | |
| 27 | 14 | А | Валерыяна, Віргінія | Філіпа | |
| 28 | 15 | С | Рыгора, Здзіслава | Гурыя, Сымона | |
| 29 | 16 | Ч | Блажэя, Сатурніна | Мацвея, Сяргея | |
| 30 | 17 | П | Андрэя, Маўры | Рыгора, Нікана | |





*Хата С. Грыгарука ў вёсцы Цялушкі. Фота У. Юзвюка.*

Ля бяроз рыжэла лета.
Слаўся уніз дымок калматы,
На няхітрай горцы гэтай
Не снапы ляглі — салдаты.
...Прыйшоў май,
І прыйшлі дзеці,
Услалі абеліск вянкамі.
Вечная ім зорка свеціць
І не падаць ад свінца ім.

**ЮРКА ЗУБРЫЦКІ**

**3.XI.1882** — нарадзіўся Якуб Колас ● **7.XI.1917** — Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя ● **11.XI.1918** — заканчэнне І сусветнай вайны ● **22.XI.1944** — заснаванне ў Любліне Таварыства польска-савецкай дружбы. ● **26.XI.1855** — памёр Адам Міцкевіч.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011




| Стыль: Новы | Стыль: Стары | Дні | Імяніны і святы | | Усх.— —зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 18 | С | Наталії, Элігіуша | Платона, Рамана | 7.23— |
| **2** | **19** | **Н** | **Бальбіны, Паўліны** | **Аўдзея, Іларыёна** | —15.27 |
| 3 | 20 | П | Францішка, Ксавера | Рыгора, Пракопа | 7.32—15.24 |
| 4 | 21 | А | Барбары | *Увядз. ў хр. Пр. Баг.* | |
| 5 | 22 | С | Сабы, Крысціны | Хілімона, Валерыяна | |
| 6 | 23 | Ч | Мікалая, Эмільяна | Аляксандра Неўскага | |
| 7 | 24 | П | Амбражэя, Марціна | Кацярыны | |
| 8 | 25 | С | Мар'і | Клімента, Пятра | |
| **9** | **26** | **Н** | **Веслава, Леакадзіі** | **Інакенція, Алімпія** | |
| 10 | 27 | П | Юліі, Данеля | Якуба, Паладзія | 7.39—15.24 |
| 11 | 28 | А | Дамаза, Вальдэмара | Сцяпана, Васілія | |
| 12 | 29 | С | Адэлаіды | Парамона, Нектарыя | |
| 13 | 30 | Ч | Луцыі, Атыліі | Андрэя | |
| 14 | 1 | П | Альфрэда, Ізідара | Навума, Філарэта | |
| 15 | 2 | С | Цэліны, Вальдэмара | Авакума, Фіяфіла | |
| **16** | **3** | **Н** | **Альбіны, Здзіслава** | **Іана, Сафоніі** | |
| 17 | 4 | П | Алімпіі, Лазара | Варвары | 7.44—15.27 |
| 18 | 5 | А | Грацыяна, Багуслава | Саввы, Гурыя | |
| 19 | 6 | С | Урбана, Дарыуша | Мікалая | |
| 20 | 7 | Ч | Дамініка, Багумілы | Амбражэя, Ніла | |
| 21 | 8 | П | Тамаша, Севярына | Патапа, Анфісы | |
| 22 | 9 | С | Зэнона, Ганараты | Ганны | |
| **23** | **10** | **Н** | **Вікторыі, Славаміры** | **Фамы, Міны** | |
| 24 | 11 | П | Адама, Евы | Данілы, Нікана | 7.45—15.32 |
| **25** | **12** | **А** | **Раждж. Хрыстова** | **Спірыдона** | |
| **26** | **13** | **С** | **Шчэпана** | **Яўгенія, Арсенія** | |
| 27 | 14 | Ч | Яна, Максіма | Калініка, Апалона | |
| 28 | 15 | П | Тэафіліі, Цэзара | Паўла, Сцяпана | |
| 29 | 16 | С | Тамаша, Дамініка | Агея, Феафаніі | |
| **30** | **17** | **Н** | **Сабіны, Яўгенія** | **Данілы, Азарыя** | |
| 31 | 18 | П | Сільвестра, Меланіі | Севасціяна, Зоі | |



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



*Хата ў вёсцы Волька. Фота М. Гайдука.*

Каб кожны новы год быў лепшы, прыгажэйшы,
Не паўтарыўся больш ніколі здзек, прымус,
Каб на пытанне „Хто ты?" замест „Я — тутэйшы",
Мог кожны адказаць: „Я, братка, беларус!"

**ВІКТАР ШВЕД**
**(з верша „На нашай ніве")**

6 — 13.XII.1945 — Першы з'езд Польскай рабочай партыі ● 9.XII.1891 — нарадзіўся Максім Багдановіч ● 15 — 21.XII.1948 — Аб'яднаўчы кангрэс ППР і ППС. Заснаванне ПАРП ● 16.XII.1918 — заснаванне Камуністычнай партыі Польшчы ● 17.XII.1884 — Памёр В. Дунін-Марцінкевіч ● 24.XII.1798 — нарадзіўся Адам Міцкевіч ● 30.XII.1922 — утварэнне Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

# II
# 40 ГОД ПОЛЬСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

## Шлях да вызвалення

Гітлер плануе напасці на СССР вясною 1941 года. Але нечакана планы яго перакрэсліваюць здарэнні на Балканах. Фашысцкая Італія нападае на Грэцыю. Малая і слабая Грэцыя наносіць удар фашыстам Мусаліні. Гітлер вырашае заняць Грэцыю і адначасова Югаславію, што на практыцы аказалася не такой простай справай. Гітлераўцам дапамагло тое, што іх войскі ўвайшлі па згодзе прафашысцкага ўрада ў Балгарыю, а адтуль нанеслі ўдар Грэцыі і Югаславіі. Такім чынам на пачатку лета 1941 года немцы ўжо занялі Аўстрыю, Чэхаславакію, Польшчу, Данію, Нарвегію, Бельгію, Галандыю, Люксембург, Францыю, Грэцыю, Югаславію. Такія краіны, як Фінляндыя, Румынія, Венгрыя і Балгарыя, нібы незалежныя, былі падпарадкаваны гітлераўскай Германіі, а Італія, Іспанія і Японія былі патэнцыяльнымі саюзнікамі. Велізарны еўрапейскі прамыслова-эканамічны патэнцыял пачаў працаваць на гітлераўскую ваенную машыну.

Лёгкае заваяванне Еўропы ўзвысіла „правадыра“, яго ідэю, выкладзеную ў „Mein Kampf“ у вачах маршалаў, генералаў, усіх афіцэрскіх кадраў, салдат вермахту, моладзі выхаванай у „Гітлерюгенд“, духавенства і наогул большасці немцаў, за выключэннем камуністаў, якіх кідалі ў канцэнтрацыйныя лагеры. Паны з III Рэйха бачылі перад сабой апошні этап вайны — разгром Савецкага Саюза.

### НАПАДЗЕННЕ

22 чэрвеня 1941 года ўся савецкая абарона ўздоўж дэмаркацыйнай лініі па Бугу, Нарве і Бебжы была заатакавана сканцэн-


© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

траванымі нямецкімі танкавымі часцямі. Камандаванне 10-й арміі, штаб якой знаходзіўся ў Беластоку па вуліцы Міцкевіча 5, у гэты дзень раніцай атрымаў з Масквы загад — не адкрываць артылерыйскага агню па наступаючых немцах. Авіяцыя атрымала загад не бамбардаваць нямецкія вайсковыя калоны. Дазволены былі толькі разведвальныя лёты ў глыб тэрыторыі праціўніка да 50 кіламетраў. Практычна лётаць ужо не можна было. Нямецкія самалёты на досвітку збамбардавалі аэрадром, большасць самалётаў не паспела ўзляцець. Збамбардаваны былі таксама склады гаручага, амуніцыі і іншыя важныя ваенныя і гаспадарчыя аб'екты, а таксама камунікацыйныя вузлы і масты.

Пасля некалькігадзінных баёў ваенным часцям 10-ай арміі не хапіла боепрыпасаў і гаручага для танкаў. Нямецкія самалёты з паветра дэзарганізавалі адступленне савецкіх войск і паралізавалі франтавыя тылы.

Так пачаўся другі этап вайны, той самай, першы этап якой разыграўся на польскіх землях у верасні 1939 года, той вайны, якая была вынікам шматгадовых дзеянняў найцямнейшых сіл сусветнай рэакцыі.

Тады, у чэрвені 1941 года, не кожны мог зразумець, што гэтая вайна, выкліканая фашызмам, па самой сваёй натуры будзе найбольш крывавай, што забярэ з сабою найбольшыя людскія ахвяры і матэрыяльныя страты па абодвух баках, што ў гэтай вайне сутыкнуцца не толькі дзве эканамічныя і мілітарныя сілы, але і дзве ідэалагічна супрацьстаўныя сістэмы, што гэта ваенны канфлікт на чыста класавым грунце.

Вядомы ў гісторыі „План Барбароса" ўключаў у сябе таксама план актыўнага дзеяння спецыяльных служб ваеннай разведкі — абверы, якой кіраваў адмірал Канарыс, і Галоўнага праўлення бяспекі, якім кіраваў Гімлер. Згодна з гэтым планам створаны былі спецыяльныя аперацыйныя групы — „А", „B", „С" і „D". Кожная з іх дзейнічала на тылах фронту на акрэсленым стратэгічным напрамку. Група „В" дзейнічала ў напрамку Беларусь — РСФСР.

Салдат у гэтыя групы набіралі з выбраных фармацый СС, злачынцаў і забойцаў, працаўнікоў апарату службы бяспекі (СД), працаўнікоў гестапа і іншых. Заданнем гэтых груп было ўступаць услед за вайсковымі часцямі на захопленыя тэрыторыі і „ачышчаць" тылы ад яўрэяў, камяністаў, камісараў, працаўнікоў савецкага апарату ўлады, работнікаў камітэтаў партыі, дэпутатаў у народныя саветы, работнікаў органаў унутраных спраў і бяспекі, пракуратуры і судоў, інтэлігенцыі, спецыялістаў, а таксама вярбоўка рознай масці нацыяналістаў да супрацоўніцтва з немцамі.

У Беласток увайшлі часці пад камандаваннем Г. Біркнера, былога начальніка асобнага аддзела варшаўскага гестапа, якое ахоплівала і тэрыторыю Беластоцкага ваяводства і далей на ўсход у стратэгічным поясе дзеяння аперацыйнай групы „В". На Беласточчыне яна дзейнічала да жніўня 1941 года, да часу, калі вайсковая адміністрацыя перадала ўладу цывільнай адміністрацыі. Біркнер пакінуў па сабе сляды-помнікі злачынства ў выглядзе масавых магіл на палях і ў лясах каля Беластока, Шчучына, Радзілова, Ядвабнага, Тыццянага, Ставіскаў, Вансожа, Багушоў і каля соцень іншых мясцовасцей на ўсход ад Беласточчыны. Ад 1 жніўня 1941 года па загаду Гітлера надпрэзідэнт і гаўляйтэр НСДАП Усходняй Прусіі Эрых Кох быў адначасова назначаны начальнікам цывільнай улады на беластоцкую акругу. Кох быў падпарадкаваны непасрэдна Гітлеру і не надта лічыўся з А. Розенбергам — галоўным камісарам па справах усходніх тэрыторый. Кох дзейнічаў на падставе спецыяльнага ўпаўнаважання Гітлера, якое давала яму права ствараць уласныя праўныя нормы шляхам загадаў. Кох вырашае замест „бальшавіцкага хаосу і польскага беспарадку" ўвесці „нямецкі парадак, нямецкую чысціню, нямецкі дух". Гэты дух вельмі трагічна адчулі жыхары Беласточчыны. Наводзіла гітлераўскі парадак паліцыя бяспекі, у склад якой уваходзіла паліцыя службы бяспекі (СД), тайная дзяржаўная паліцыя — гестапа, крымінальная паліцыя. Функцыю начальніка беластоцкай службы бяспекі выконвалі ад лістапада 1941 года да чэрвеня 1943 года дзяржаўны саветнік СС — штурмбанфюрэр В. Антэнлёх, а ад чэрвеня 1943 года да вызвалення СС — оберштурмбанфюрэр Г. Цымерман — гаспадары жыцця і смерці.

## ФРОНТ

Нямецкія танкавыя і зматарызаваныя калоны ішлі на ўсход з незвычайнай хуткасцю. Праз некалькі дзён ад пачатку наступлення пагроза навісла над сталіцай Беларусі Мінскам. Улады рэспублікі былі перанесены ў Гомель. Немцы захапілі Мінск 27 чэрвеня 1941 года, гэта значыць на пяты дзень ад пачатку вайны.

30 чэрвеня ў СССР быў створаны Дзяржаўны Камітэт Абароны пад камандаваннем І. Сталіна. Назначаны былі тры камандаванні для напрамкаў ваенных дзеянняў:

— камандаванне паўночна-заходняга напрамка ваенных дзеянняў, уключна з балтыйскім і беларускім флотамі;

— камандаванне заходняга напрамка ваенных дзеянняў;

— камандаванне паўднёва-заходняга напрамка ваенных дзеянняў і чарнаморскага флота.

Найцяжэйшае становішча было на заходнім напрамку, ось якога праходзіла ад Беластока праз Мінск, Оршу, Смаленск, да Мажайска.

Гісторыя II сусветнай вайны, а асабліва гісторыя Айчыннай



© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

вайны савецкіх народаў, добра ў нас вядома з гістарычных апрацовак і выдадзеных успамінаў знатных асоб і слаўных стратэгаў, такіх, як маршал Жукаў, маршал Ракасоўскі, маршал Васілеўскі і шмат іншых. Аднак, мне здаецца, варта прыпомніць некаторыя падзеі і факты, якія мелі асаблівае значэнне або спецыфічную вымову.

16 ліпеня гітлераўскія войскі рушылі ў новае наступленне пад Смаленскам. Армія ген. Бока сустрэлася з моцным супраціўленнем савецкіх войск.

Зацятыя баі працягваліся да канца ліпеня 1941 года. 19 ліпеня Сталін стаў Народным камісарам абароны. Найбольш увагі савецкае камандаванне прысвячала стратэгічнаму напрамку Смаленск-Масква.

14 жніўня 1941 года каля горада Рудня, які знаходзіцца на паўночным захадзе ад Смаленска, савецкае камандаванне ўводзіць у бой не ўжываную яшчэ да гэтага часу зброю — ракетную артылерыю, слаўныя пазней „кацюшы". Прымяненне „кацюш" выклікала ў немцаў несамавіты страх і паніку. Наступленне было стрымана на тры дні.

У горадзе Новабарысаве, у штабе арміі „Цэнтр", Гітлер склікаў спецыяльную нараду генералаў і выдаў загад узнавіць наступленне на паўночным напрамку, захапіць прамысловасць ленінградскай зоны і спалучыцца з фінамі. Пад Смаленскам Чырвоная Армія далей аказвала мужнае супраціўленне немцам.

23 жніўня адбылася другая нарада гітлераўскага камандавання, пасля якой ідзе загад узнавіць наступленне нямецкай арміі на поўдзень, захапіць Украіну і Крым. Гэтым Гітлер спадзяваўся адвярнуць увагу савецкага камандавання ад Масквы і прымусіць яго адцягнуць адтуль значныя сілы. Такім чынам, пад Смаленскам заламаўся гітлераўскі план „бліцкрыгу" — маланкавай вайны.

Пасля 30 дзён крывавых баёў немцы захапілі Смаленск. Ім удалося прарваць фронт на паўднёвы захад ад Ельні і захапіць горад. У раёне Ельні савецкія войскі неспадзявана перайшлі ў контрнаступленне, адбілі Ельню, вызваляючы пры гэтым невялічкі кавалак савецкай зямлі — каля 300 км². У гісторыі II сусветнай вайны гэты факт адзначаны спецыяльнай увагай — упершыню ў гітлераўцаў была адабрана занятая імі тэрыторыя.

30 верасня 1941 года гітлераўскае камандаванне пачынае „апошняе" наступленне. Армія Гудэр'яна атакуе ў напрамку Глухава і Арла. Частка савецкіх войск у раёне Бранска трапляе ў акружэнне. Пасля тыдня зацяжных баёў немцам удаецца прарваць фронт паміж Ржэвам і Вязьмай, падыйсці да Мажайска і зноў акружыць частку савецкіх войск. Цэлы тыдзень генерал Болдзін рэшткамі сіл адбівае атакі ворага.

У гэты час Масква рыхтуецца да абароны горада. Ужо 19 лі-



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011




*Адкрыццё помніка забітым гітлераўцамі жыхарам вёскі Полька гм. Міхалова.*

пеня пачалі ставіць па вуліцах барыкады, будаваць абаронныя лініі. Пачалася эвакуацыя жанчын і дзяцей, таксама дэмантаж 498 вялікіх заводаў і фабрык. 22 ліпеня 1941 года нямецкія самалёты зрабілі першы налёт на Маскву.

Немцы наступалі на Маскву з двух напрамкаў, утвараючы велізарныя клешчы, правае крыло якіх кіравалася на поўдзень, на Арол і Тулу, а левае — на поўнач, на Ржэў і Калінін. Баі ішлі пад Малаяраслаўцам, Калугай, Серпуховам.

14 кастрычніка 1941 года здаўся г. Калінін, 19 кастрычніка — Мажайск, а на поўдні — Арол і Мцэнск. Гітлер ганарыста аб'явіў, што 7 лістапада 1941 года, у гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі, ён будзе прымаць парад сваіх войск на Чырвонай плошчы ў Маскве. Партыя выступіла з лозунгам: „Масква ў небяспецы. Усё на абарону сталіцы!"

16 лістапада 1941 г. немцы пачалі чарговае наступленне на Маскву, кідаючы ў бой 51 новую дывізію, у тым ліку 13 танкавых дывізій. У абароне малой станцыі Дубасекава 16 лістапада 28 салдат з арміі генерала Панфілава праявілі незвычайнае геройства. Чатыры гадзіны яны адбівалі атакі 50 нямецкіх танкаў. 28 герояў згінула ў няроўнай барацьбе, абараняючы падыход да Масквы. Пярэднія часці немцаў дайшлі да станцый Крэнькава і Сходня амаль на перыферыях Масквы, і, нягледзячы на гэта, Маскву не ўзялі.

6 снежня 1941 года Чырвоная Армія пад Масквой перайшла ў



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

контрнаступленне. За першыя пяць дзён контрнаступлення немцы страцілі больш 35 тысяч салдат і афіцэраў. Савецкае наступленне працягвалася ўвесь снежань. Адборныя гітлераўскія арміі, у тым ліку і дывізіі СС, сканцэнтраваныя пад Масквой, былі поўнасцю разбіты, уся Маскоўская вобласць была вызвалена. Гітлераўцы былі таксама выцеснены з-пад Тулы.

Пад Масквой немцы страцілі 75 прац. сваіх танкаў, 40 прац. жывой ударнай сілы ў ліку 500 тысяч салдат і афіцэраў. Перамога Савецкай Арміі пад Масквой мела велізарнае значэнне як для СССР, так і на міжнароднай арэне, асабліва ў заходніх саюзнікаў, якія ўжо ў кастрычніку верылі ў агонію сацыялістычнай дзяржавы. У савецкі народ, у Чырвоную Армію ўступіў новы дух — вера ў свае сілы. Кожны разумеў, што першая значная перамога — гэта пачатак астатковай перамогі над гітлерызмам і нямецкім мілітарызмам, што вораг будзе разбіты, акупаваныя тэрыторыі будуць вызвалены, што толькі час аддзяляе іх ад канчатковай расправы, што бой пад Масквой — гэта паўтарэнне Барадзінскай бітвы 1812 года.



*Нішчэнне вёскі Райск гітлераўцамі 16.VI.1942 г.*

## НА ТЫЛАХ ФРОНТУ

У 1943 годзе Генеральны штаб Савецкай Арміі апрацаваў аперацыйны план пад крыптонімам „Баграціён“, у які быў укладзены намер правесці ў 1944 годзе вялікую наступальную аперацыю з мэтай разграміць наймацнейшую групу арміі „Цэнтр“ сіламі I, II, і III Беларускіх франтоў, а таксама I Прыбалтыйскага фронту. Гэты план прадбачваў поўнае вызваленне Беларусі, у тым ліку і Беластоцкага ваяводства.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

У той час уся Беларусь была ахоплена партызанскай барацьбой. Народныя мсціўцы, як называлі партызан, наносілі ворагу ўдары ў найбольш чулых і нечаканых месцах, трымалі пры сабе значныя сілы нямецкай арміі, узрывалі шасейныя і чыгуначныя масты, транспарты з войскам, боепрыпасамі, палівам і тэхнікай, зрывалі лініі высокага напружання, нішчылі сувязь, падпальвалі нямецкія фальваркі, склады, будынкі гітлераўскай адміністрацыі, разбівалі пастарункі жандармерыі і паліцыі, нападалі на калоны аўтамашын, на канторы па вывазу на прымусовыя работы, адбівалі моладзь, якую немцы гналі ў Нямеччыну. Бязлітасна каралі здраднікаў і паліцыянтаў, войтаў, „аграномаў“, нямецкіх салдат і афіцэраў. Так было не толькі на Беларусі, але ўсюды на акупаванай тэрыторыі. Кожны дзень і кожную ноч на ўсёй шырыні фронту, ад Кольскага паўвострава на поўначы да Чорнага мора на поўдні, за лініяй фронту ішла вялікая „вайна на шынах“. Яна паралізавала шляхі забеспячэння нямецкіх войск, прымушала ворага разбіраць другапланавыя чыгункі ў акупаваных краінах: у Польшчы, Чэхаславакіі, Бельгіі, Францыі, перакідаючы забраныя шыны на ўсходні фронт, каб латаць узарваныя шляхі на стратэгічных напрамках.

Надыйшоў час перакінуць агонь партызанскай вайны далей на захад, на лінію Буг-Нарва, а гэта зн., ахапіць і Беластоцкае ваяводства.



*Помнік 149, памардаваным жыхарам Райска. Фота ЦАФ (Р. Сянько).*



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

У той час у Маскве, па вул. Камсамольскі завулак, дом № 1, ад раніцы да позняга вечара працаваў створаны пры ЦК КП(б)Б штаб партызанскага руху пад кіраўніцтвам Першага сакратара ЦК КП Беларусі П. К. Панамарэнкі.

Ужо ў верасні 1942 года рашэннем ЦК быў створаны Беластоцкі падпольны абласны камітэт партыі з I сакратарам Васілём Самуціным, які дасканала ведаў Беласточчыну і польскую мову. Да 1935 года, у часы санацыі, дзейнічаючы нелегальна пад прозвішчам Мікалай Зянкевіч, ён выконваў функцыю Акруговага сакратара КП(б)Б у Беластоку. У 1935 годзе быў арыштаваны „Дэфай" і пасаджаны ў беластоцкую турму. Прысудам акруговага суда ў Беластоку ён быў засуджаны на 10 гадоў турмы і вывезены ў Равічскую турму. Выйшаў з гэтай турмы 1 верасня 1939 года пасля нападу Германіі на Польшчу.

Членам беластоцкага камітэта партыі быў упаўнаважаны ЦК партыі Беларусі Даніла Сукачоў.

На пачатку 1943 года на Беласточчыну была перакінута ініцыятыўная група, якая складалася з кадравых работнікаў партыйнага апарату Беларусі. У склад групы ўваходзілі Кундовіч, Сурман, Аўсейчук, Казакоў, Бастун, Гардзеенка, Ісаенка, Аўсейчук, Стома і Шаламанаў. Кожны з вышэй названых быў упаўнаважаны на прыдзелены яму павет Беластоцкай вобласці. У другой палове 1943 года яны навязалі кантакт з існуючымі ўжо ад 1941-1942 г. антыфашысцкімі камітэтамі ў Беластоку і паветах. Летам 1943 г. рашэннем Беларускага штаба партызанскага руху са Слуцкай партызанскай зоны (у Мінскай вобласці) было выдзелена Беластоцкае партызанскае злучэнне. Шкілетам злучэння былі тры атрады — „За Радзіму", імя Кутузава і імя Хмяльніцкага, з агульным станам у 600 чалавек. Камандзірам злучэння быў назначаны палкоўнік Піліп Капуста, а ад 1944 года — генерал П. Капуста, камісарам злучэння — В. Самуцін, начальнікам штаба — І. Сянкевіч. У час пераходу ў Ружанскія лясы злучэнне павялічылася з 600 да 1500 чалавек. Выявілася неабходнасць рэарганізаваць злучэнне. З атрада „За Радзіму" была створана брыгада „У імя Радзімы". Камандуючым брыгадай быў назначаны Міхаіл Янкоўскі, папярэдні камандзір атрада „За Радзіму". Брыгадзе была вызначана зона дзеяння: ад паўднёва-заходніх раёнаў Белавежскай пушчы, уключаючы Бельск і Лапы, аж да Буга.

Створана была другая брыгада — імя Чапаева. Камандуючым быў назначаны армянін Матавасян. Раён яе дзеяння — па лініі Свіслач-Ваўкавыск-Ліда.

Трошкі пазней створана была трэцяя брыгада — імя Кастуся Каліноўскага, героя Студзеньскага паўстання. Камандуючым гэтай брыгады стаў капітан Мікалай Вайцяхоўскі, інжынер-будаўнік. Раён дзеяння брыгады — Сакольскі, Аўгустоўскі і Грабеўскі паветы. У 1944 годзе атрады брыгады імя Каліноўскага супрацоўнічалі з польскімі партызанамі з АК, з групай „Мазур", дайшлі да лініі Бебжа-Нарва. У бязлітаснай барацьбе з немцамі Беластоцкае партызанскае злучэнне пад камандаваннем генерала П. Капусты наносіла немцам вялікія страты. Паводле даных з архіва Інстытута гісторыі партыі ў Мінску, партызаны гэтага злучэння забілі каля 16 тыс. нямецкіх салдат і афіцэраў, больш 25 тыс. паранілі, а 451 узялі ў палон; узарвалі 418 паяздоў, знішчылі 182 масты, 23 прамысловыя аб'екты, 50 ваенных складаў, 467 км ліній сувязі, 26 танкаў, 1 самалёт, 65 станкавых кулямётаў, 43 гарматы, 109 ваенных аўтамашын.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

## БЕЛАСТОЦКАЯ АПЕРАЦЫЯ

Надышоў 1944 год. Стаўка Галоўнага Камандавання Савецкай Арміі паставіла перад камандуючымі франтамі заданне выканаць аперацыйны план „Баграціён". У канечным этапе гэтага плана была праведзена беларуская аперацыя, у выніку якой была вызвалена з-пад акупацыі ўся Беларусь.

У той час вораг яшчэ не „канаў", не „падаў трупам", як гэта часам пішуць некаторыя. У палове 1944 г. прамысловасць Рэйха дасягнула свой максімальны ўзровень ваеннай прадукцыі. У той жа час савецкая прамысловасць была сканцэнтравана ў Сібіры і на Урале, тысячы кіламетраў ад фронту. Трэба было перавозіць мільярды тон узбраення слабым транспартам. Многія савецкія ваенныя часці адчувалі недахоп танкаў, артылерыі.

Нягледзячы на гэта, 5 ліпеня 1944 г. камандуючы II Беларускім фронтам ген. арміі Захараў сіламі трэцяй арміі генерала Гарбатава, 49-ай арміі генерала Грышына і 50-ай арміі ген. Болдзіна ў судзеянні з 4-ай арміяй паветранага флота выдаў загад перайсці ў наступленне ў напрамку Навагрудак-Гродна-Ваўкавыск-Беласток. Ад 5 да 15 ліпеня 1944 года беспярапынна працягвалася гонка за адступаючымі войскамі групы армій „Цэнтр", якой камандаваў фельдмаршал Модэль. У час наступлення савецкія войскі прайшлі на захад каля 250 км і набліжаліся да Беласточчыны. У палове ліпеня 1944 года, дасягнуўшы лінію Гродна-Свіслач, наступленне сіл II фронта было аслаблена, а ў некаторых месцах стрымана. Гітлераўцы лічылі Беласток важным стратэгічным пунктам і камунікацыйным вузлом на лініях Беласток-Варшава, Беласток-Брэст, Беласток-Элк. Падыход да Беластока ахоўвалі чатыры лініі абаронных умацаванняў на глыбіню 50 кіламетраў. Тут завязаліся цяжкія, крывавыя баі.

Адным з тых абаронных умацаванняў былі камунікацыйныя вузлы ў Крынках і Гарадку, на якія паступалі часці 35 і 40 карпусоў II фронта. 35-ым корпусам камандаваў 40-гадовы генерал-маёр Віктар Жолудзеў. У крывавых баях за Крынкі, Мі-

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

халова і Гарадок немцы зрабілі дваццаць контратак. Пад Крынкамі загінуў геройскай смерцю камандзір 35-га корпуса. За прыкладнае камандаванне ў баях, як у Беластоцкай аперацыі, так і ў ранейшых, В. Жолудзеву пасмертна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Ён пахаваны на плошчы ў Ваўкавыску.

У Беластоцкай аперацыі прымалі таксама ўдзел войскі камандуючага І Беларускім фронтам маршала Савецкага Саюза Канстанціна Ракасоўскага і камандуючага 65-ай арміяй генерал-палкоўніка Паўла Батава. Працягваючы ў рамах Беластоцкай аперацыі наступленне ў напрамку Буга, часці 65-ай арміі 20 ліпеня 1944 года ўзялі Чаромху і накіраваліся на Брэст.

Над згрупаванымі ў раёне Брэста нямецкімі часцямі навісла небяспека аказацца ў катле. На нямецкім баку на беластоцкім напрамку былі 2-ая армія генерал-палкоўніка Вайса, 9-ая армія Формана, 4-ая армія ген. Госбаха і часці 6-га армейскага корпуса. Вайс, паразумеўшыся са стаўкай Гітлера, вырашыў зрабіць дзве моцныя ўдарныя групоўкі ў раёне Бельска Падляшскага і Высока-Літоўска. Пад Бельск падышла 4-ая танкавая дывізія, 5-ая дывізія пяхоты, частка 129 дывізіі і 57-ы полк абароны.

У раёне Высока-Літоўска згрупавалася 5-ая танкавая дывізія „Вікінг“ ген. Галя, дзве дывізіі пяхоты і дывізія вянгерскай кавалерыі.

Такім становішчы камандаванне нямецкай групы арміі „Цэнтр“ вырашыла выканаць сіламі рэзерваў 2-ой і 9-ай арміі контрудар на тыл найбольш высунутай на захад 65-ай арміі. 22 і 23 ліпеня немцы пайшлі ў сканцэнтраванае наступленне ў напрамку Чаромхі і Кляшчэляў. Але ўсе нямецкія часці аказаліся акружанымі ў Брэсцкім катле, вырвалася з яго толькі 5-ая танкавая дывізія СС.

Да 25 ліпеня два армейскія карпусы і 17-ая танкавая брыгада 65-ай арміі зліквідавалі нямецкае контрнаступленне, перайшлі ў наступленне, зноў занялі Чаромху і Кляшчэлі. Немцы страцілі 40 танкаў, 50 гармат і больш 5.000 салдат і афіцэраў. Перапынак паміж аперацыямі быў кароткі. Войскі II Беларускага фронту разам з войскамі І Беларускага фронту, якім камандаваў маршал К. Ракасоўскі, а дакладней — з арміяй ген.-палк. Батава пачалі новую аперацыю, якая працягвалася да 27 ліпеня і ўвайшла ў гісторыю пад назвай Беластоцкая аперацыя.

Горад Беласток зацята абаранялі 50-ая, 365-ая і 12-ая танкавыя дывізіі, а таксама 2-ая змеханізаваная дывізія. У крывавых баях за вызваленне горада часці 3-ай арміі ген. Гарбатава зламалі супраціўленне фашыстаў, і 28 ліпеня 1944 г. Беласток быў вольны.

14 верасня 1944 г. 50-ая армія ген.-лейтэнанта Івана Болдзіна (II Бел. фронт) у крывавых баях узяла моцны абаронны вузел-крэпасць Асовец — вароты ва ўсходнюю Прусію.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



*Абеліск герою СССР Рыгору Кунавіну ў Гаркавічах.*



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

Паміж 10-13 кастрычніка 1944 года войскі 49-ай арміі ген.-лейтэнанта Грышына (II Бел. фронт), удзельнічаючы ў ломжынскай аперацыі, пасля зламання моцнага супраціўлення фашыстаў на поўнач ад Замброва, ударылі на Ломжу і Навогруд — наймацнейшы вузел супраціўлення, адсланяючы паўднёвую граніцу Усходняй Прусіі. Ломжа была ўзята 13 кастрычніка 1944 г.

31-ая армія ген.-палкоўніка В. Глагольева (III Беларускі фронт) разам з 50-ай арміяй ген.-лейт. Болдзіна 24 кастрычніка



*Пачатковая школа імя Рыгора Кунавіна ў Гарасімавічах.*

вызваліла г. Аўгустаў, а далей дарога вяла проста на г. Просткі, які быў да 1939 года нямецкім гранічным пунктам Усходняй Прусіі.

Беластоцкая аперацыя закончылася на лініі рэк Буг, Нарва і Бебжа, г.зн. на тых рубяжах, адкуль 22 чэрвеня 1941 года гітлераўскія войскі напалі на Савецкі Саюз.

Перад пераможнай Савецкай Арміяй засталіся тры стратэгічна-аперацыйныя этапы: Вісла, Одра і фашысцкае логава — Берлін.

Няхай гэтая лекцыя гісторыі прыпомніць нашым ворагам, што сусветнай сістэмы сацыялізму перамагчы нельга.

**ІВАН АНАЦІК**

**(Аб аўтары глядзі „Беларускі каляндар“ за 1969 г.)**



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

# Пачаткі народнай улады на Беласточчыне

Станаўленне народнай улады на Беласточчыне ў 1944-47 гадах залічваецца да найвялікшых зваротных падзей у жыцці беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Насельніцтва гэтае ўпершыню ў сваёй гісторыі адчула сябе раўнапраўным гаспадарам прынамсі той часткі краіны, на якой пражывала. Менавіта таму яно так актыўна ўключылася ва ўсе працэсы арганізавання новай народнай улады, яе першыя рэвалюцыйныя пачыны і яе ахову ад ворагаў. Не знаючы пачуцця айчыны, трапна адчувала неабходнасць абароны грамадскай справядлівасці. У змаганні з рэакцыйнымі сіламі тысячы сыноў аддало сваё жыццё. Ахвярнасць гэтую падкрэсліваюць шматлікія крыніцы на польскай, беларускай і іншых мовах.

З нагоды саракагоддзя вызвалення Беласточчыны і ўстанаўлення народнай улады ў Польшчы трэба прысвяціць нашай слаўнай недалёкай мінуўшчыне крыху больш увагі.

Усходняя Беласточчына была вызвалена Савецкай Арміяй у канцы ліпеня 1944 года, а заходняя (правабярэжжа Нарвы і Бебжы) — у канцы студзеня 1945 года. Перамога над гітлераўцамі стварыла спрыяльныя ўмовы станаўлення народнай улады. Аднак рэчаіснасць аказалася больш складанай. Цэлае першае паўгоддзе нават ва ўмовах прыфрантавога рэжыму было насычана рознымі формамі ўнутранай барацьбы двюох супрацьстаўных палітычных арыентацый: дэмакратычнай і буржуазна-санацыйнай. Адпаведна да іх праграм у народзе ўкшталтаваліся адметныя адносіны. Беларускае насельніцтва ўсходняй Беласточчыны ад пачатку 1942 года (калі не ўспамінаць ранейшых перыядаў) знаходзілася пад уздзеяннем антыфашысцкай арганізацыі ў Беластоку, а пасля цэлай сеткі падобных арганізацый у Бельскім, Беластоцкім паветах і беластоцкім гета. Увесь перыяд дзейнічалі савецкія партызанскія злучэнні і нават ячэйкі партыі і камсамола. Распаўсюджваліся лістоўкі („К населению Белостокской области“, „Молодежь Белоруссии“ — 1943 г., „К старостам, к полицейским“ і іншыя), газета на рускай мове „Белостокская Правда“, — усё гэта стварыла дастатковую базу станаўлення народнай улады. Таму прыход Савецкай Арміі беларускае насельніцтва сустрэла ветліва, а змест Маніфеста Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення (ПКВН) успрыняло як пачатак новай дэмакратычнай рэчаіснасці, якая зліквідуе санацыйны прыгнёт і акупацыйныя зверствы, а разам з тым дагэтуляшнюю гаспадарча-культурную адсталасць. Яно масава выказалася за дэмакратызацыю жыцця і стала атаесамліваць яе з савецкай уладай.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

А значная частка польскага насельніцтва тагачасных прыфрантавых паветаў, якая ў гады акупацыі знаходзілася пад уздзеяннем празахадніх палітычных плыняў, успрыняла прыход Савецкай Арміі недаверліва, нават варожа. Дзейнічаючыя тут шматлікія экспазітуры лонданскага эміграцыйнага ўрада спынілі барацьбу з акупантамі і ўсю ўвагу накіравалі на захоп улады. Згодна з планам „Бужа“ былі пастаўлены ў баявую гатоўнасць канспірацыйныя адзінкі Арміі Краёвай, арганізаваны былыя санацыйныя служачыя, а нешматлікія прагрэсіўныя дзеячы былі стэрарызаваны або зліквідаваны (глядзі Т. Раўскі, 1963).

Улічваючы складаныя палітычныя абставіны, мясцовыя дзеячы, у паразуменні з савецкім ваенным камандаваннем, утварылі ў дзень вызвалення Беластока першую цывільную ўладу — Гарадскі савет. У той жа дзень з'явіўся дэлегат эміграцыйнага ўрада, які ад імя сваіх працадаўцаў хацеў яе пераняць. Крыху пасля прыбылі таксама з Хэлма прадстаўнікі ПКВН на чале з Эдуардай Арлоўскай і Тадэушам Паштам. Створана было спачатку арганізацыйнае бюро Польскай рабочай партыі (ППР), якой дагэтуль тут не было, потым выбраны Абласны камітэт ППР, а па яго ініцыятыве створана была трэцяя ўлада — Ваяводская рада нарадовая на чале з Леанардам Барковічам і Ежым Штахельскім. Укантытуваўся таксама орган выканаўчы — Ваяводскае праўленне (Г. Маецкі, 1969).

Насычанасць гэтых некалькіх дзён важнымі падзеямі была выклікана тым, што дасягнута было ўступнае пагадненне аб савецка-польскай усходняй граніцы і захапленне ўлады на вызваленай Беласточчыне мела выключна вялікае палітычнае значэнне. Аб тым, што супольны вораг — гітлераўская Германія была яшчэ вялікай мілітарнай сілай і трэба было яе разграміць, рэакцыя не задумвалася. Таму канчатковы дагавор аб устанаўленні гэтай граніцы падпісаны быў у Маскве 16 жніўня 1945 года, г.зн. больш трох месяцаў пасля перамогі над гітлераўскай Германіяй (В. С. Талстой, 1966). Згодна з успамянутым уступным пагадненнем хутка быў перанесены гарсавет у Гродна, а Савецкая Армія пачала ўспамагаць уладу ПКВН. У такім становішчы дэлегатура эміграцыйнага ўрада не згадзілася на супрацоўніцтва і адразу перайшла да канспірацыйнай дзейнасці. Спачатку яна не многа перашкаджала ў арганізаванні народнай улады. Мела абмежаваныя магчымасці дзеяння — усюды былі моцныя згрупаванні савецкага і польскага войска, ахопленага энтузіязмам блізкай супольнай перамогі. Да таго ж уведзены былі пропускі, дарожны кантроль, міліцыйныя гадзіны.

Умацоўванне народнай улады пачалося ад арганізавання ў паветах і гмінах мясцовай адміністрацыі, міліцыі, ячэек ППР, а таксама маладзёжных і грамадскіх арганізацый. Ужо 18.VIII.1944 года дзеячы Бельска Падляшскага Васіль Васілюк, Антон Рошка, Міхал Джэвецкі, Сцяпан Артымовіч і іншыя арганізавалі першую на Беласточчыне гарадскую раду нарадовую, 20.VIII. былі ўтвораны амаль усе гмінныя рады нарадовыя, а 29.VIII. — павятовая рада нарадовая (Г. Маецкі, 1969). Тут адразу наладзілася сапраўднае інтэрнацыянальнае супрацоўніцтва ўсіх дэмакратычных сіл, якія не дазволілі ўвесці двоеўладства.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Напярэдадні, 28.VIII., адбылося першае пасяджэнне Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку, на якім быў выбраны прэзідыум у складзе 23 асоб на чале з Ежым Штахельскім. У ім было 4 рабочых, 4 інжынеры, 3 сялян, 3 лекары, 2 настаўнікі, сярод якіх вядомы ў нашых асяроддзях дзеяч Піліп Кізевіч, юрысты і прадстаўнікі іншых прафесій. Адначасова створана было некалькі камісій, між іншым, па справах сельскай гаспадаркі і сельскагаспадарчай рэформы, аправізацыі, адбудовы прамысловасці, аховы здароўя, асветы і культуры.



*Будынак эканамічнага тэхнікума ў Беластоку. Фота М. Гайдука.*

Утворана таксама бюро інфармацыі і прапаганды, якое неўзабаве ўзначаліў Аркадзь Лашэвіч, потым — мясцовы часопіс „Вядомосці Радыёвэ“, а ад 3.XII.1944 года тыднёвік „Едносць Народова“.

Гарадская рада нарадовая ў Беластоку арганізавалася 31.VIII,



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

павятовая рада нарадовая на Беластоцкі павет — 1.IX., а ў Саколцы — 10.IX. Ва ўсходняй Беласточчыне да канца года былі створаны ўсе гмінныя рады нарадовыя, а ў вёсках на агульных сходах насельніцтва праведзены былі выбары солтысаў і дэлегатаў у новыя адміністрацыйныя ўлады.

У арганізаванні тэрытарыяльных улад вялікія заслугі маюць Іван Карпюк, Язэп Сяржан, Надзея Гайдук і Аляксандр Грэсь (Гарадок), Іван Андрушкевіч і Уладзімір Хлябіч (Рудня), Аляксандр Якубоўскі, Антон Нікановіч і Андрэй Сяргеюк (Нарва), Васіль Васілюк і Антон Рошка (Бельск), Мікалай Мароз і Іван Харашуха (Заблудаў), Дзямян Баравік і Міхась Волчык (Мілейчыцы), Аляксандр Жданук і Аляксандр Міцкевіч (Дуброва Б.) і дзесяткі іншых.

Да працы ў радах нарадовых ахвотных было многа, але рэдка хто меў адпаведную падрыхтоўку. Закончаны VI-VII клас пачатковай школы і нейкі кароткатрывалы курс у 1940-41 годзе (бухгалтарскі, настаўніцкі) — гэта лічылася зусім задавальняючым. Безумоўна, у гэты час было менш бюракратыі, больш аднак арганізацыйнай працы сярод насельніцтва (выкананне абавязковых паставак на патрэбы арміі і гарадскога насельніцтва, шарваркаў, перавозу тавараў і г.д.).

У канцы жніўня 1944 г. арганізаваліся ў Беластоку першыя прафсаюзы працаўнікоў тэкстыльнай прамысловасці, чыгуначнікаў, будаўнікоў, якія пачалі аказваць дапамогу ў мабілізацыі працоўных да адбудовы гарадоў, асабліва прамысловасці і транспарту. У вясковых асяроддзях адначасова арганізаваўся Саюз сялянскай самапомачы (ЗСХ), пры дапамозе якога наладжаны быў гандаль.

Актывізаваліся крыху ў гэты перыяд санацыйныя ўраднікі, але не знайшлі падтрымкі насельніцтва і на некаторы час супакоіліся.

Дзеля аховы ўлады і агульнага парадку была створана народная міліцыя (МО). Першымі ў яе складзе аказаліся 18 салдат Войска Польскага, якія прыбылі ў Беласток разам з упаўнаважанымі ПКВН, і 40 партызан з савецкіх легендарных згрупаванняў ген. С. Каўпака і ген. П. Капусты, — апошні са жніўня 1943 года быў начальнікам штаба партызанскага руху ў Беластоцкай вобласці. Папаўненне міліцыі склалі былыя дзеячы антыфашысцкіх камітэтаў і асабліва мясцовая моладзь. У кастрычніку 1944 года міліцыя мела 1694 служачых, у тым ліку толькі 19 афіцэраў. У Беластоку і ва ўсіх павятовых гарадах міліцыю ўзмацняла 280 асоб з бяспекі (УБ). Большасць і гэтых служачых не мела належнай падрыхтоўкі. У гмінах складаныя абавязкі міліцыянераў выконвалі найчасцей мясцовыя сяляне, якія не мелі нават адпаведнага абмундзіравання, харчавання ці бяспечных



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

начлегаў. Яны патрапілі асабістыя інтарэсы і выгады падпарадкаваць ідэі барацьбы за сацыялізм.

Вялікі ўдзел у станаўленне народнай улады на Беласточчыне ўнеслі члены ППР. Як ужо ўспаміналася раней, партыя пачала дзейнічаць ад першых дзён незалежнасці. Аднак спачатку мясцовыя дзеячы недаверліва адносіліся да яе пачынанняў. Цяжка было адрозніць сярод некалькіх новых палітычных арганізацый найбольш рэвалюцыйную ППР. Незалежна аднак ад гэтага ў складзе 15-асабовага першага Ваяводскага камітэта аказалася 10 асоб былых членаў міжваенных партый — КПЗБ і КПП. Разбудова партыі праходзіла з вялікімі цяжкасцямі, спачатку ў Беластоку сярод міліцыі, войска і рабочых, а пасля ў Бельскім і Беластоцкім паветах. У снежні 1944 года ППР налічвала толькі 646 членаў, у тым ліку ў Бельскім павеце — 212, г. Беластоку — 150 і Беластоцкім павеце — 100. Пасля I ваяводскай канферэнцыі ў Беластоку (3.XII.44) пачалі арганізоўвацца гмінныя камітэты ў Гарадку, Міхалове, Нарве, Нараўцы, Орлі, Кляшчэлях. У многіх вёсках паўднёва-ўсходняй Беласточчыны ўзніклі першыя партыйныя ячэйкі. Налічвалі яны па некалькі членаў, якія мелі вялікі вопыт вядзення палітычнай барацьбы ў міжваенны перыяд і ў гады гітлераўскай акупацыі. Моладзі тут было мала. Яна не арыентавалася ў тагачасных складаных грамадскіх абставінах. Не было таксама арганізатараў. Камсамол перастаў дзейнічаць, а польскія прагрэсіўныя арганізацыі былі вельмі слабыя.

Згодна з дэкрэтам ПКВН ад 6.IX.1944 года на Беласточчыне была праведзена сельскагаспадарчая рэформа, у якой прынялі ўдзел усе дэмакратычныя сілы. Але мела яна тут абмежаваны выраз. На перанаселенай ад стагоддзяў тэрыторыі мала было абшарніцкіх маёнткаў, а і тыя былі падзелены ў 1939-40 годзе. Карыстаючыся падтрымкай акупантаў, частка ўласнікаў вярнулася, але маёнткамі кіраваць не хацела. Пасля вызвалення створаныя ў кастрычніку 1944 года камісіі і фальваравачныя камітэты сельскагаспадарчай рэформы, пры дапамозе ваяводскага актыву ППР і ППС, правялі сярод насельніцтва выясняльную працу і прыступілі да падзелу маёнткаў у Дабрынёўцы, Ігнатках, Дайлідах і іншых. На працягу месяца яны падзялілі 350 маёнткаў, г.зн. каля 38 тысяч гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў. На цікавячай нас тэрыторыі баланс рэформы быў мізэрны: у Беластоцкім павеце падзелена было 3,3 тыс. га для 1558 сем'яў, у Бельскім пав. — 8,5 тыс. га для 3377 сем'яў і Сакольскім пав. — 3,6 тыс. га для 1118 сем'яў. Зямлю атрымалі былыя парабкі і беззямельныя сяляне, а для малазямельных яе ўжо не хапіла.

Апрача гэтага, насельніцтву перададзена была зямля часткі беларусаў, якая эмігравала ў СССР: у Беластоцкім — 11,1 тыс. га, у Сакольскім — 3,3 тыс. га і нямнога ў Аўгустоўскім і Сувальс-



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011



*Адбудова Беластока ў 1945 г. Фота З. Бомбчынскага*

скім паветах. Падзеленыя землі складалі ад 5 да 8% сельскагаспадарчых угоддзяў паасобных паветаў.

За гэты кароткі перыяд наладжвацца пачала гаспадарка ў гарадах: адбудова знішчаных заводаў, пошукі кваліфікаваных кадраў, прылад працы, сыравіны, з перапынкамі пачалі ў крамах і на рынках паяўляцца прадукты першай патрэбы, арганізоўвацца школы з занятками на такой мове, якую ведаў настаўнік. Больш шпарка наладжвалася жыццё ва ўсходняй Беласточчыне, дзе насельніцтва ад самага пачатку было на баку народнай улады і не ўспрымала рэакцыйнай прапаганды аб чарговых хуткіх пераменах.

Аднак на пачатку 1945 года палітычныя абставіны ўскладніліся. У выніку студзеньскага наступлення Савецкай Арміі ўсе прыфрантавыя адзінкі адыйшлі далёка на захад, а мясцовыя ўлады не паспелі яшчэ ўмацавацца. Было ясна, што ў краіне рэакцыйныя сілы адразу пасля вызвалення ўлады не атрымаюць. Стаяць са зброяй і прапагаваць палітыку двух ворагаў было бязмысна. Таму кіруючыя кругі задумалі змяніць тактыку. У студзені была распушчана АК і на базе яе кадраў утворана Армія Краёва Обыватэлі (АКО), якая мела дзейнічаць сярод існуючых улад, міліцыі, войска і раскладаць іх знутры. У лясах асталіся толькі невялікія групы, большасць перайшла да нармальнага



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

жыцця і чакала сігналу да дыверсійна-тэрарыстычнай дзейнасці. Але частка згрупаванняў не падпарадкавалася такім загадам і пачала з асаблівай жорсткасцю тэрарызаваць улады і насельніцтва ўсходняй часткі ваяводства, а ў першую чаргу членаў ППР і міліцыянераў. Найбольш трагічнай была гісторыя пастарунка міліцыі ў Боцьках. Ужо ў канцы 1944 года ён быў разбіты, а міліцыянеры павешаны. Пасля яшчэ сем разоў гэты пастарунак быў спалены, а міліцыянераў забівалі. Тэрор насільваўся ўсюды. Насельніцтву, пад пагрозай разбояў, смерці, забаранялася аддаваць прадукты дзяржаве, кантактавацца з прадстаўнікамі афіцыйных улад і арганізацый. Гінулі ў першую чаргу члены ППР, МО, працаўнікі рад народовых і ЗСХ, нават настаўнікі за навучанне дзяцей у „камуністычных школах".

На працягу некалькіх месяцаў згінула 215 чалавек, знішчана было 40 камісарыятаў міліцыі, некалькі гмін. Дыверсійная дзейнасць яшчэ ўзмоцнілася пасля прыбыцця на Беласточчыну вясной 1945 года з Віленшчыны 560-асабовага згуртавання АК пад кіраўніцтвам З. Шэндзеляжа, псеўдонім „Лупашка", якая далучылася да існуючай сеткі АК. Раёнам яго дзеяння стаў Бельскі павет. У Беластоцкім і Сакольскім паветах найвялікшую сілу мела згуртаванне „Ежэго".

За кароткі перыяд (III-VI.45 г.) яны правялі 186 нападаў, у тым ліку 74 — на пастарункі міліцыі, 49 — на гмінныя рады народовыя, 10 — на касы і банкі, 22 — на іншыя дзяржаўныя ўстановы і 31 — на паасобных грамадзян. У выніку гэтых дзеянняў згінула яшчэ 380 чалавек. Па сутнасці ўлада існавала толькі ва ўсходняй частцы ваяводства, дзе ўспамянутыя рэакцыйныя групоўкі не знаходзілі падтрымкі. Але і тут насельніцтва жыло пад страхам смерці. Рэакцыя ўсё часцей рабіла жорсткія напады. Змяшаліся тут элементы тэрору, бандытызму і малой дамашняй вайны.

У гэты цяжкі перыяд згінулі:
11.III. Дзмітры Гаскевіч — Беласток,
25.III. Іван Майсак — Супрасль,
17.IV. Пётр Кобац — Нараўка,
17.IV. Іван Ляшчынскі — Нараўка,
17.IV. Аляксандр Валкавыцкі — Нараўка,
2.V. Мікалай Буднік — Супрасль,
2.V. Язэп Матэйчык — Супрасль,
3.V. Аляксандр Лемеш — Даброміль,
4.V. Мікалай Салавянюк — Піліпкі,
7.V. Аляксей Сцепанюк — Боцькі,
10.V. Карніла Васілюк — Вітава,
15.V. Аляксандр Знайкоўскі — Гарадок,
16.VI. Аляксандр Тарасевіч — Вышкі і многія іншыя.

У выніку рэакцыйнага тэрору вясковыя партыйныя ячэйкі ў



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

заходняй частцы ваяводства фактычна перасталі існаваць. Нават у Супраслі, Чорнай Беластоцкай, Цеханоўцы члены ППР пачалі затрачваць сувязь з партыяй, нельга было склікаць нават сходу. У цэлым па ваяводстве зменшыўся лік членаў партыі.

Нармальна дзейнічалі партыйныя ячэйкі ў тых раёнах, дзе пражывала беларускае насельніцтва. У Бельскім павеце налічвалася 1.I. — 232, 1.IV. — 358 і 1.VII. — 544 членаў, у Беластоцкім аналагічна 165, 301 і 378 членаў, а ў Беластоку — 139, 228 і 233.

Нацыянальны склад партыі ў палове 1945 года выглядаў наступна:
у Беластоцкім павеце беларусаў — 175, палякаў — 52, яўрэяў — 1;
у Бельскім павеце беларусаў — 461, палякаў — 83, яўрэяў — 1
У заходніх частках гэтых жа паветаў партыйных ячэек не было зусім (Г. Маецкі, 1965).

Узрастаючы тэрарызм выклікаў зразумелы непакой мясцовых улад. Па іх жаданню на дапамогу міліцыі прыбылі на Беласточчыну I полк першай дывізіі, які быў накіраваны ў Бельскі павет, IX полк — у Беластоцкі павет і XI полк унутраных войск — у Сакольскі, Аўгустоўскі і Сувальскі паветы. Адначасова ППР і ППС арганізавалі агітбрыгады, у складзе якіх было 250 асоб. Яны пачалі праводзіць у вёсках і гарадах сходы, мітынгі, на якіх выясняли палітыку партыі і народнай улады, а таксама заахвочвалі выкарыстаць аб'яўленую амністыю. Спалучаныя парадкавыя сілы пачалі найвялікшую дагэтуль дзейнасць. На працягу двух месяцаў яны знішчылі асноўныя згрупаванні АКО і іншых арганізацый у ліку каля 150 чалавек. Пакінуў Беласточчыну „Лупашка", а ў жніўні быў схоплены камандзір АКО. Асталіся толькі невялікія тэрарыстычныя групы, якія пасля канчатковага роспуску арганізацыі згуртаваліся ў ВіН і НЗВ („Млот", „Юранд", „Р8") і яшчэ некалькі год утрымліваліся ў заходняй частцы Беласточчыны.

Ва ўсходняй частцы жыццё пачало стабілізавацца. Пастунова пашыралася сярод насельніцтва ўздзеянне ППР. Аб гэтым сведчыць узрост ліку членаў. У канцы 1945 года ППР налічвала ў Беластоцкім ваяводстве ўжо 2581 член, у тым ліку ў Бельскім павеце — 751, у Беластоку — 508, у Беластоцкім павеце — 151 і ў Сакольскім павеце — 54. Складала гэта каля 60% усяго ліку партыі. Тут членамі ППР былі сяляне, служачыя павятовых і гмінных радаў нарадовых, настаўнікі. Яны ахвярна ўключаліся ва ўсе мерапрыемствы маладой народнай улады. Насельніцтва падтрымлівала іх пачынанні. Не было ўжо байкоту абавязковых паставак збожжа ці мяса, пасылання дзяцей у школы, выконвання шарваркаў ці грамадскіх прац. Не ўсюды нават даходзіла рэакцыйная прапаганда. Арганізаванае ў канцы 1945 года Ваяводскае праўленне ПСЛь не змагло — за выключэннем Юхноўца, Заблудава і Бранска — згуртаваць актыву і арганізаваць гурткі. Мікалайчыкаўскім лозунгам насельніцтва не верыла.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Але ў пачатку 1946 года палітычныя абставіны ў ваяводстве зноў ускладніліся. Прыняццё пастановы аб нацыяналізацыі асноўных галін народнай гаспадаркі (3.I.46) і надыходзячыя выбары ў Сейм завастрылі барацьбу двух існуючых ужо супрацьстаўных блокаў: чатырох дэмакратычных партый (ППР, ППС, СЛь і СД) і рэакцыйных сіл на чале з мікалайчыкаўскім ПСЛь. Выбарчая кампанія пад лозунгам еднасці ўсіх дэмакратычных сіл пераўтварылася ў вострую палітычную барацьбу. Беларускае насельніцтва амаль аднадумна падтрымлівала дэмакратычны блок. Рэакцыя пачала зноў спалучацца з канспірацыйнымі згуртаваннямі ВіН і НЗВ, якія на ўсёй тэрыторыі насілілі тэрарыстычную дзейнасць. Але найбольш бязлітасна яны пачалі здзеквацца над насельніцтвам усходняй часткі. Спачатку пад пагрозай смерці (нават пісьмова) змушалі пакінуць Польшчу. Многія сяляне этнічнага паграніччa пасля катаванняў вымушаны былі выехаць у СССР або перасяліцца ў Беласток, Бельск, а нават на паўночныя землі.

Іншай формай тэрору стала сцягванне з насельніцтва высокіх грашовых кантрыбуцый. Жыхары вёсак Белкі, Сасіны, Снежкі і іншых у Бельскім павеце заплацілі 531 тыс. злотых (Т. Лубінскі, 1966). Гэта ведаем з літаратуры. Многа падобных выпадкаў нідзе не запісана. Калі кантрыбуцыі не памаглі, ворагі пачалі разбой і самаволю. Так, напрыклад, баёўка „Бурага", якая налічвала тады каля 100 чалавек, пачала пацыфікацыю вёсак. Адной з прычын было выконванне планавых паставак збожжа і мяса для Войска Польскага. Калі верыць афіцыйнай версіі, за гэта яны спалілі 29.I.1946 года пяць вёсак у гміне Кляшчэлі: Сухавольцы, Сакі, Москаўцы, Вольку Выганоўскую і Залешаны. Асаблівым варварствам адрозніліся пацыфікатары вёскі Залешаны. Усіх жыхароў сагналі ў школу, якую пасля падпалілі. Да ўцякаючых з полымя стралялі, нават раненых паўторна ўкідвалі ў дагараючы будынак. Так згінула 14 асоб, 2 цяжка было паранена. Спалена было 129 будынкаў і 480 галоў жывёлы. (Г. Маецкі, 1969). З успамінаў Дз. Карповіча (1961 г.), які быў у Залешанах на наступны дзень, вынікае, што прычыны пацыфікацыі былі больш складаныя. Пацыфікатары ўвайшлі ў вёску ў мундзірах Войска Польскага і доўга дапытвалі жыхароў аб адносінах да народнай улады. Калі пераканаліся, што яны аднолькава прыхільныя, пачалі бязлітасную пацыфікацыю.

Не меншыя зверствы яны выказалі 2.II. на жыхарах вёсак Зані, Шпакі і Малешы Бельскага павета, а 3.II. — Канцавізны Беластоцкага павета. Згінула 36 чалавек.

Жыхары Свірыдаў, Чорнай Царкоўнай і іншых вёсак успамі-



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

наюць, што амаль кожны тыдзень прыходзілі ўзброеныя банды, забіралі вопратку, мяса, свінней, нават коней. Зімою жыхары замыкаліся ў будынках моцнымі самаробнымі замкамі. Для многіх гэта заканчвалася цяжкімі катаваннямі. Летам хаваліся разам з жывёлай у лясах.

Гінулі паасобныя дзеячы ў вёсках і ў Беластоку. Мясцовыя ўлады і насельніцтва дамагаліся пакончыць нарэшце з тэрарызмам. І зноў на Беласточчыну былі накіраваны значныя сілы Войска Польскага, у выніку чаго да канца красавіка 1945 года былі разгромлены ўсе большыя згуртаванні ВіН і НЗВ. У маі створаны былі Добраахвотныя рэзервы міліцыі (ОРМО) і ўжо праз месяц яны налічвалі 1242 члены. У Гарадку, Трасцянцы, Кленіках, Зубаве, Мілейчыцах і іншых вёсках былі арганізаваны моцныя адзінкі самаабароны. Яны выдатна садзейнічалі ўмацаванню спакою.

Народны рэферэндум (30.VI.1946 г.) пад вядомым лозунгам „3 × так" праходзіў ужо ў больш спрыяльных палітычных умовах. Рэакцыя не змагла аказаць адмоўнага ўздзеяння на агульныя вынікі рэферэндума. Але былі яны на Беласточчыне далёка неаднолькавыя. У беларускіх асяроддзях насельніцтва амаль у 100 прац. пацвердзіла свае прыхільныя адносіны да карэнных пытанняў унутранай палітыкі краіны. У іншых асяроддзях яны былі ніжэйшыя — ад 33 да 97 прац.

Дадатнія вынікі рэферэндума, паляпшэнне ўмоў жыцця і спакой на міжнароднай арэне спрыялі ўмацаванню народнай улады. На Беласточчыне далей аднак існавалі невялікія грозныя банды. Іх прыхільнікі пераставалі верыць у мэтанакіраванасць палітычнай барацьбы ў імя ідэалаў санацыйнага эміграцыйнага ўраду. Апошняй надзеяй на захапленне ўлады яны пачалі лічыць выбары ў Сейм. Згодна з выбарнай ардынацыяй Беластоцкае ваяводства было падзелена на дзве выбарныя акругі. Цікавячая нас усходняя частка ўвайшла ў 19 акругу з сядзібай у Беластоку.

У перадвыбарны перыяд улады таксама ўзмоцнілі дзейнасць. Яны абмежавалі прапаганду ПСЛь, знішчылі некалькі згуртаванняў ВіН.

Беларускі актыў пачаў больш рашуча дзейнічаць у мясцовых выбарных камісіях і ў арганізаванні мітынгаў, сустрэч насельніцтва з кандыдатамі на паслоў. Многія дзеячы былі накіраваны ў гэты час у склад выбарных троек на заходнюю частку ваяводства, дзе далей рэакцыйнае падполле запалохвала жыхароў „саветызмам" Мне не давялося ўдзельнічаць у выбарнай кампаніі, але прыпамінаецца, з якой ахвярнасцю дзейнічалі члены ЗВМ — Вера Шалай, Уладзімір Ясюк, Мікалай Яканюк і сотні іншых. Цікава ўсё ж, што сярод 16 кандыдатаў на паслоў блока чатырох дэмакратычных партый не было дзеячоў такой актыўнай беларускай меншасці.



Выбарныя вынікі ў Сейм былі зблізкаваны да вынікаў рэферэндума. Зноў беларускае насельніцтва аддало 100 прац. галасоў за кандыдатаў дэмакратычных партый пры 75 прац. у цэлым па Беластоцкаму ваяводству. Толькі ў Шудзялаве стэрарызаванае насельніцтва не прымала ўдзелу ў выбарах.

Была гэта выдатная чарговая перамога над рэакцыяй. Аб'яўленая амністыя, якую выкарыстала на Беласточчыне каля 10 тысяч членаў рэакцыйнага падполля, па сутнасці закончыла перыяд узброенага змагання. Далей працягвалі дзейнічаць толькі тры невялікія тэрарыстычна-грабежныя банды: „Орач", „Гузар" і „Млот", але ўжо ніколі не змаглі яны арганізаваць супольных дзеянняў. Некаторыя былі арыштаваны, іншыя яшчэ некалькі год утрымліваліся ў тых асяроддзях, з якіх выводзіліся. Страціўшы надзею на поспех у барацьбе з народнай уладай, перасталі дзейнічаць.

Хутка пачалі папаўняцца шэрагі ППР, маладзёжных арганізацый, асабліва ЗВМ, і грамадскіх арганізацый. Найбольш выразна гэта відаць на прыкладзе далейшага ўзросту шарэгаў ППР. 1.І.1947 г. было ўжо ў ваяводстве 6455 членаў, у тым ліку ў Бельскім павеце — 1772, у Беластоку — 1410 і ў Беластоцкім павеце — 525 членаў, г.зн. звыш паловы агульнага ліку. У шэрагі ППР пачала ўступаць моладзь, асабліва з ЗВМ, больш актыўныя сяляне, рабочыя. Яны складалі ахвярны актыў ніжэйшых ступеняў радаў нарадовых і грамадскіх арганізацый, былі ініцыятарамі і рэалізатарамі многіх пачынаў.

Падзеі перыяду станаўлення народнай улады на Беласточчыне жывуць яшчэ ва ўспамінах насельніцтва, захоўваюцца ў дакументах і некалькіх апрацоўках. Складаюць яны вартасную спадчыну, якая была ў нямалай частцы ўдзелам гераічнай барацьбы беларускага насельніцтва з рэакцыяй за новую дэмакратычную рэчаіснасць. Спадчыну гэту трэба ўзбагаціць новымі доследамі і пераказаць будучым пакаленням. Цяпер ніхто не ведае, колькі беларусаў аддало жыццё за народную ўладу ў Польшчы. Аб гэтым з дакорам гаварыў у 1961 годзе на папулярна-навуковай сесіі, прысвечанай дзейнасці ППР на Беласточчыне, Іван Анацік: „...Аб тым, у якіх цяжкіх умовах даводзілася будаваць зруб новай сацыялістычнай Польшчы, колькі гэта каштавала крыві і слёз, павінна ведаць наша моладзь — будучыня нашага народу. Мы павінны паказаць прыклады бязмежнага гераізму працаўнікоў міліцыі, бяспекі, армоўцаў, салдат і афіцэраў КБВ і ВП, якія згінулі ў барацьбе з бандамі рэакцыйнага падполля, тых членаў партыі і беспартыйных рабочых і сялян, адзетых у выцертыя, выгарэўшыя на сонцы салдацкія дрэліхі, не



© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

ўмеючых чытаць і пісаць, якія пакінулі сем'і і ішлі змагацца за новую рэчаіснасць...“

Змяніліся карэнна ўмовы быту. Цяпер ніхто не патрабуе ад нас ахвяры жыцця. Нельга аднак дапусціць да паступовага затрачвання пачуцця грамадскай справядлівасці, асабістай годнасці і сумленных адносін да працы.

УЛ.ЮЗВЮК

## З УСПАМІНАЎ АНДРЭЯ ТРУСЕВІЧА

Сярод многіх жыхароў Беласточчыны, якія з поўнай адданасцю ўключыліся пасля вызвалення ва ўсе працэсы станаўлення народнай улады ў ПНР быў селянін Андрэй Трусевіч з вёскі Гарадзіска гміна Нараўка. Ён яшчэ ў маладосці пазнаў усе цяжкасці жыцця. У міжваенны перыяд жыў пры бацьках на гаспадарцы, але дарабляў на лесанарыхтоўках у Белавежскай пушчы, потым працаваў у цагельні, а зімою трачаваў па суседніх вёсках. У ліпені 1941 г. акупанты перасялілі жыхароў вёскі ў Нараўку і іншыя гарады, а пабудовы спалілі. Зноў прыйшлося цяжка працаваць на ўтрыманне.

Амаль адначасова з уваходам Савецкай Арміі А. Трусевіч пачаў будаваць на бацькаўшчыне хату і пайшоў працаваць у чыгуначную міліцыю станцыі Нараўка. Успамінае ён, што таксама ў ліпені 1944 года Андрэй Ахрымюк арганізаваў з мясцовага насельніцтва 12-асабовы пастарунак міліцыі ў Нараўцы, а сам стаў яго першым камендантам. Услед за гэтым тагачасны ваенны камендант Дубінін запрапанаваў стварыць з прадстаўнікоў насельніцтва сельскі савет. Першым яго старшынёю выбралі Язэпа Станкевіча. Аднак сельсавет гэты праіснаваў толькі да канца верасня 1944 г. Затым у прысутнасці ўпаўнаважанага ПКВН склікалі ў народным доме ў Нараўцы сход, на якім была выбрана гмінная рада нарадовая. Момант выбараў выкарысталі былыя міжваенныя санацыйныя служачыя і ўвайшлі ў яе кіруючыя органы. Хутка аднак выявілася, што яны, як прыхільнікі лонданскага эміграцыйнага ўраду, сталі дзейнічаць супроць народнай улады. Пасля некалькіх месяцаў змаганняў мясцовага актыву была створана новая гмінная рада на чале з Іванам Ляшчынскім, а пасля яго забойства — Уладзімірам Харкевічам. У складзе гэтай рады быў таксама А. Трусевіч.

Здавалася, што ціхі нараўкаўскі раён закончыў станаўленне народнай улады. Тым больш, што ў канцы года пачалі паяўляцца першыя члены Польскай рабочай партыі спачатку сярод міліцыі і працаўнікоў мясцовых улад, а потым сялян. Наш размоўца ўспамінае, што недзе ў пачатку сакавіка 1945 г. солтыс Нараўкі Мяфодзій Карпюк арганізаваў на чыгуначнай станцыі сход усіх служачых, якіх паінфармаваў аб палітычным і гаспадарчым становішчы ў Беластоцкім ваяводстве і заклікаў уступаць у рады ППР. Большасць прысутных падтрымала заклік, але да партыі ўступіла толькі 5 ці 6 асоб. Выявіліся, хоць яшчэ недацэненыя, праціўнікі ППР. І гэта здавалася, як успамінае А. Трусевіч, з'явай сярод насельніцтва нармальнай. Кожны пачаў клапаціцца аб гаспадарцы, працы, пабудове жылля.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Аднак раскінутая сярод найбольшых лясоў Нараўкаўская гміна не магла доўга заставацца з боку ад нарастаючай на Беласточчыне палітычнай барацьбы, тым больш, што ў ёй удзельнічала ўжо некалькі гадоў мясцовая рэакцыя. Сілы яна тут не мела, больш небяспечнымі аказаліся сувязі з АК і іншымі канспірацыйнымі арганізацыямі.

У палове красавіка 1945 г. каля Гайнаўкі паявілася згуртаванне АК „Лупашкі“, аб чым быў паведамлены пастарунак міліцыі ў Нараўцы, а ранкам 17.IV. г.г. увайшла ўжо сюды вайсковая група на чале з маёрам у савецкім мундзіры — быў гэта „Лупашка“. За ім „савецкія“ салдаты вялі павязаных калючым дротам нібы злоўленых „бандытаў“, зразумела, сваіх, дзеля змылення чуйнасці мясцовых жыхароў. Але атрад гэты адносіўся надта вульгарна да дзяцей, жанчын і хутка выклікаў падазрэнні. Таму частка мясцовага актыву здолела схавацца. Схопленых некалькіх членаў ППР, у тым ліку Івана Ляшчынскага, Пятра Кабаца і Аляксандра Валкавыцкага, лупашкаўцы расстралялі на месцы. Разам з імі загінуў гаёвы Леўша, прычыны смерці якога не выяснены.

Згуртаванне „Лупашкі“ затрымалася ў Белавежскай пушчы ненадоўга. Адразу быў узмоцнены мясцовы пастарунак міліцыі, а ў пушчу накіравалася савецкае войска, якое правяло вялікую аблаву.

Праз некалькі месяцаў паявілася банда „Жбіка“, і зноў згінулі дзве асобы — Іван Еляневіч і Уладзімір Трусевіч. Банду грунтоўна вынішчыла беластоцкая міліцыя. Пасля арганізавалася 18-асабовая банда, якая вяртаючыся з нападу ў Нарве, была цалкам ліквідавана Войскам Польскім. Выявілася, што ў ёй удзельнічалі мясцовыя рэакцыянеры.

На пачатку 1946 г. жыхары Нараўкі вырашылі арганізаваць сваю гмінную спулдзельню „Самапомач хлопска“ замест існуючай „Зожы“. Тры дні яны не дапускалі „міжваенных буржуяў“ да крамы. Потым склікалі сход, унеслі ўклад, сталі членамі спулдзельні. Хутка далучыліся суседнія вёскі. Праўленне спулдзельні пад кіраўніцтвам спачатку Максіма Краснапольскага, потым Антона Салаўя і ўрэшце Андрэя Трусевіча даставляла з Бельска Падляшскага неабходныя тавары: цвікі, мыла, цукар, рыбу, простыя прылады працы. Сіламі насельніцтва была арга-



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

нізавана ў вёсцы Заблоччына цагельня, у якой прэзас быў адначасова і кіраўніком і майстрам. І гэта не выпадкова — ён меў у гэтай прадукцыі вопыт, а жыхары спаленых гітлераўцамі навакольных вёсак патрабавалі цэглы.

Спулдзельня „Самапомач хлопска" займалася падзелам дараў, скупам сельскагаспадарчых прадуктаў. Усё гэта аб'ядноўвала сялян. Андрэй Трусевіч успамінае, што ў той перыяд працаваць трэба было ад раніцы да вечара, а ўначы хавацца ад ворагаў.

Набліжаўся рэферэндум. У народзе зноў загаварылі аб ажыўленні рэакцыі. Але тут было ўжо прыхільнікаў народнай улады вельмі многа. Жыхары дэкларавалі падтрымку, патрабавалі аднак афіцыйна зброі. Наш размоўца аднойчы замест традыцыйнага тавару прывёз у супраўваджэнні міліцыі з Бельска Падляшскага аўтаматы, вінтоўкі, гранаты і вечарам раздаў іх жыхарам Нараўкі, Скупава, Ляўкова, Семяноўкі і іншых вёсак, а сам быў назначаны камендантам ОРМО. Спачатку ўсе крыху пабойваліся, асабліва жанчыны. Але гэта склала вялікую сілу, з якой пачалі лічыцца ўсе ворагі. У ваколіцы запанаваў доўгачаканы спакой. Частка армоўцаў была нават аддэлегавана на перыяд рэферэндума ў іншыя гміны.

Цяпер дзядзьку Андрэю за семдзесят. Ён далей актыўны, тактоўны, працаздольны, сумленны і таму шанаваны ў асяроддзі дзеяч.

Сто год вам, ТРУСЕВІЧ!

**ую**

# Праблемы гаспадарчага развіцця Беласточчыны

Беластоцкае ваяводства займае ад 1.V.1975 года, 10055 км² плошчы, што складае 3,2 прац. тэрыторыі Польскай Народнай Рэспублікі. У 1981 годзе пражывала тут 645 тыс. насельніцтва, гэта значыць, — 1,8 прац.

З увагі на сваё геаграфічнае палажэнне, гістарычнае мінулае, этнаграфічны склад насельніцтва, спецыфічныя рысы эканамічнага і культурнага развіцця яно заўсёды выклікала вялікае зацікаўленне ў краіне і за яе межамі. Тут крыжаваліся плыні ўсходніх і заходніх славян, дзесяткі разоў змяняліся рэгіянальныя і дзяржаўныя граніцы, узнікалі і гінулі плямёны, а таксама славутыя ачагі культуры, гаспадарчай дзейнасці і цэнтры рэвалюцыйнага руху. Усё гэта пацвярджае назву краіны кантрастаў.

Беластоцкае ваяводства займае прыгранічную частку Падляшскай нізіны, на якой выдзяляецца Сакольскае ўзвышша (2,5 тыс. км²), Беластоцкае ўзвышша (3 тыс. км²) і Бельская раўніна (3,5 тыс. км²), а рэшту займаюць даліны рэк Нарвы і Бебжы. З карысных выкапняў вядомы пакуль што толькі крэйда, жвір, гліны і пяскі. Найбольшае месцазнаходжанне крэйды на поўдні, у Мельніку, запасы якой акрэсліваюцца на 1,5 млн. м³ высакаякаснай сыравіны. Гліны вядомы ў звыш 30 месцах, а іх запасы акрэслены на 27 млн. м³, аднак большасць марэннага паходжання з дамешкай мергеля. На месцанараджэннях стужкавых глін у Ласінцы, Ляўкове, каля Беластока працуюць цагельні.

Значна больш тут месцазнаходжанняў жвіру і пяскоў. На Сакольскім узвышшы яны эксплуатуюцца ў каля 40 мясцовасцях, на Беластоцкім узвышшы разведаныя запасы акрэслены на 3 млн. м³, у тым ліку асабліва важныя месцазнаходжанні ў Агародніках і Сабалеве. Месцанараджэнні торфу ў верхнім цячэнні рэк Супрасль, Нарва, Арлянка і Нурэц, ацэненыя на 800 млн. м³ сыравіны, у большасці загаспадараваны на сенажаці, і толькі адзін унікальны ў краіне тарфянік Імшар, які займае 4 тыс. га, эксплуатуецца на плошчы 300 га, дзе прадпрыемства прадукуе торфападсцілку, торфабрыкеты і баравінавую пасту на патрэбы бальнеалагічнага лячэння.

У кліматычных адносінах Беласточчына асаблівымі рысамі не адрозніваецца. Выдзяляецца, праўда, Падляшскі кліматычны падраён, які характарызуецца больш нізкімі тэмпературамі зімою (сярэдняя студзеня — 5,5°C) і нязначна павышанай колькасцю ападкаў у год, асабліва ў ліпені і жніўні. Глебы разнародныя: найбольшыя плошчы (4,5 тыс. км²) займаюць дзярнова-сярэднепадзолістыя, распаўсюджаныя ў раёне Сямяціч, Саколкі, Гайнаўкі, а таксама дзярнова-слабападзолістыя (4 тыс. км²), якія займаюць усю ўсходнюю частку ваяводства. Паводле глебазнаўчай класіфікацыі з 1966 года, І і ІІ класа глеб не ўстаноўлена, ІІІ класа вельмі мала, IV і V класы займалі 75 прац. плошчы, а рэшта — VI клас, прызначаны пад залясенне.

Расліннасць захавалася даволі добра. Лясы займаюць 32 прац. плошчы, сярод якіх вядомы Белавежская і Кнышынская пушчы. Першая ў межах ПНР займае 580 км², захоўвае 990 гатункаў вышэйшых раслін, сярод якіх пераважае сасна, ёлка, дуб, бяроза, клён, граб, альха і іншыя. У выніку эксплуатацыі драўніны першабытны характар пушчы захоўваецца толькі ў Белавежскім рэзерваце прыроды на плошчы 4750 га. Кнышынская пушча займае 700 км², але ў фларыстычных адносінах яна значна бяднейшая і таксама інтэнсіўна эксплуатуецца.

Захаваліся яшчэ невялікія лясныя комплексы каля Мельніка, Рудкі, Дзядкавіч, Паўлаў, Тыкаціна. Сялянскія лясы моцна знішчаны.

Апошні адміністрацыйны падзел абмяжоўвае аналіз насель-





© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



*Новыя жыллёвыя блокі ў Гайнаўцы. Фота Я. Целушэцкага.*

ніцтва. Для сучаснай тэрыторыі Беластоцкага ваяводства падаюцца даныя толькі ад 1970 г.: 1970 — 597 тыс. жыхароў, 1975 — 618 тыс., 1980 — 641 тыс. Натуральны прырост — 9.2 прац. (9,7




*Беласток перад І сусветнай вайной.*





*Беласток — пасёлак „Прывакзальны II“. Фота Я. Целушэцкага.*

прац. у краіне), пры найвышэйшым 19 прац. у Моньках, крыху меншыя у Чорнай Беластоцкай і іншых гарадах і найніжэйшым, — каля 4 прац., у гмінах Белавежа, Бельск Падляшскі і Міхалова.

У гарадах пражывае 54 прац., у вёсках 46 прац. насельніцтва. Далей утрымліваецца адмоўнае міграцыйнае сальда за межы ваяводства (0,4 тыс.); Асноўны напрамак міграцыі — з вёсак у гарады, у ліку каля 12 тыс. чалавек у год. Найхутчэй павялічваецца насельніцтва Беластока — па 5 тыс. жыхароў у год, (у 1980 годзе было тут 168 тыс., у 1975 — 196 тыс., у 1980 — 224 тыс. і ў 1981—230 тыс.). Чарговыя месцы займалі Бельск Падляшскі — 21 тыс., Гайнаўка — 20 тыс., Саколка — 16 тыс. і Лапы — 14 тыс., а іншыя 12 гарадоў налічвалі менш дзесяці тысяч кожны.

Значныя розніцы ў тэмпах развіцця гарадоў выкліканы многімі абставінамі. Утрымліваюцца найстарэйшыя гарады — Бельск, Драгічын, Бранск, Тыкацін, якія былі заснаваны ў перыяд росквіту Кіеўскай Русі як абаронна-гандлёвыя цэнтры, а зараз спаўняючыя ўслуговыя функцыі ў густанаселеных раёнах. Гарады перыяду пашырэння асадніцтва і штучнага надавання гарадскіх прывілеяў у большасці страцілі гэтыя правы ў апошнім 50-годдзі — Боцькі, Гарадок, Карыцін, Кляшчэлі,



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

Крынкі, Мельнік, Нарва, Орля, Сухаволя, Янаў і іншыя. Гарады перыяду зараджэння на гэтых землях прамысловасці — Беласток, Гайнаўка, Лапы — пачалі хутка развівацца. Наймалодшую групу складаюць гарады, утвораныя ў перыяд народнай улады як адміністрацыйныя цэнтры (Дуброва Беластоцкая і Монькі) або прамысловыя ачагі (Чорная Беластоцкая).

Занятасць насельніцтва — розная. У дзяржаўна-кааператыўным сектары працавала 193 тыс. асоб, у прыватным — 2,6 тыс. асоб, у тым ліку ў прамысловасці 62 тыс., транспарце і гандлі — па 21 тыс., будаўніцтве — 19 тыс. і 46 тыс. у непрадукцыйнай сферы (асвеце — 15 тыс., ахове здароўя — 14 тыс., дзяржаўнай адміністрацыі — 3,5 тыс. і іншых).

Нацыянальны склад разрозданы. Асноўныя групы складаюць палякі — на захадзе і беларусы — на ўсходзе Беластоцкага ваяводства. Яшчэ большая разнароднасць у гарадах. Цікавячы нас агульны лік беларускага насельніцтва з увагі на адсутнасць афіцыйных дадзеных можна — услед за апублікаванымі „шацункамі“ акрэсліць на: 120 тыс. — „Воев. Бял. 1967“, 200 тыс. — „Бел. каляндар“ ГП БГКТ і БСЭ 1970, 360 тыс. — „Ніва“ 1967.

У раёне Саколкі — Багонікі, Крушыняны — жыве некалькі дзесяткаў татараў. Значна больш іх — каля 800 асоб — у Беластоку, Саколцы і іншых гарадах ваяводства.

Ёсць таксама рускія, украінцы, літоўцы, яўрэі, цыгане і іншыя. Сужыццё ў гэтым шматнацыянальным ваяводстве, незалежна ад захавання шматлікіх нацыянальных асаблівасцей, укладваецца добра. Крыху парушаюць яго фанатычныя веравызнаўцы паасобных рэлігій.

Па ўзроўню гаспадарчага развіцця Беластоцкае ваяводства залічваецца да сярэднеразвітых у ПНР.

**ПРАМЫСЛОВАСЦЬ** яго разнародная. Вартасць трывалай маёмасці ў 1981 годзе была падлічана на 125 мільярдаў злотых, што складала 1,3 прац. усёй краіны і столькі ж працэнтаў склала яго валавая прадукцыя (30 млд. злотых пры 62 тыс. рабочых). Дзяржаўны сектар з яго 140 заводамі даў амаль 65 прац. усёй прадукцыі, а кааператыўны — 700 прадпрыемстваў — 30 прац. прадукцыі. Рэшту выпрацаваў раздроблены ўласніцкі сектар.

Структуру прамысловасці ілюструе табліца, складзеная паводле Стат. гадавіка ВУС у Беластоку за 1980 год.

З табліцы і папярэдніх даных вынікае, што ў 1981 крызісным годзе лік рабочых узрос на 1260 асоб, а вартасць прадукцыі зменшылася на больш чым 5 млд. злотых. Далей аднак вядучае месца займалі спажывецкая, электрамашынабудаўнічая і лёгкая (на Беласточчыне — тэкстыльная) прамысловасці. Сучасная яе структура складалася яшчэ ў даваенны і міжнародны перыяды, а канчаткова сфармавалася ў апошняе саракагоддзе ПНР.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

| Галіны прамысловасці | Лік | | Валавая прадукцыя | |
|---|---|---|---|---|
| | заводаў | рабочых | у млн. зл. | у прац. |
| 1. Паліўна-энергетычная | 11 | 1792 | 421 | 1,2 |
| 2. Электрамашынабудаўнічая | 315 | 17679 | 8586 | 24 4 |
| 3 Хімічная | 21 | 2128 | 1134 | 3,2 |
| 4. Будаўнічых матэрыялаў | 92 | 3134 | 1023 | 2,9 |
| 5. Драўляна-папяровая | 103 | 6797 | 4348 | 12,4 |
| 6. Лёгкая | 293 | 17868 | 7711 | 21,9 |
| 7. Харчовая | 173 | 9532 | 10756 | 30,7 |
| 8. Іншыя | 36 | 1814 | 1171 | 3,3 |
| Разам | 1040 | 60744 | 35150 | 100 |

У 1944-46 гадах былі адбудаваны старыя заводы, між іншым, электрастанцыя, гарбарня, дзве тэкстыльныя фабрыкі і шклозавод у Беластоку, дрэваапрацоўчы камбінат у Гайнаўцы, лесапільні, млыны, пякарні. У 1947-49 гадах адбудаваны дзве чарговыя тэкстыльныя фабрыкі, паліграфічны камбінат, а таксама льняны завод і завод сельскагаспадарчых машын у Беластоку, тэкстыльная фабрыка ў Васількове і іншыя, на якіх закончыўся перыяд адбудовы прамысловасці з ваенных знішчэнняў.

Новы этап індустрыялізацыі пачаўся ў гады шасцігадовага плана (1950-1955). Пабудаваны быў інструментальны завод



*Фрагмент цэха кааператыўнага прадпрыемства вытворчасці мэблі ў Супраслі.*



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011



*Прадзільны цэх тэкстыльнай фабрыкі ў Васількове. Фота Я. Целушэцкага.*

„Ухвыты“, тэкстыльны камбінат „Фасты“ ў Беластоку, металаапрацоўчы завод у Чорнай Беластоцкай, ільнозавод у Бельску Падляшскім, гарбарня ў Крынках, некалькі малочных і іншых прадпрыемстваў. Дзякуючы пабудове 15 заводаў, лік прамысловых рабочых у 1955 годзе павялічыўся ў 4 разы ў параўнанні з 1946 годам, а Беласточчына стала вядомай у краіне акругай тэкстыльнай і ачагом металаапрацоўчай прамысловасці.

У гады наступных пяцігодак у выніку пабудовы новых і мадэрнізацыі старых прадпрыемстваў наступілі далейшыя змены ў напрамку дапасавання вытворчасці да сыравіннай базы, выкарыстання мясцовых кадраў і патрэб насельніцтва. Шырока стала вядома ў краіне прадукцыя такіх заводаў электрабудаўнічай прамысловасці, як такарных патронаў „Понар-Бял“ (Ухвыты) у Беластоку, які разбудаваны ў рамках крэдытаў СЭУ, прадукуе ў большасці на экспарт да 70 краін свету; сельскагаспадарчых машын „Агромет“ у Чорнай-Беластоцкай, тэлевузлоў „Унітра-Бязэт“ у Беластоку, які скааперараваны з прадукцыяй каляровага тэлевізара „Ёвіш“; інструментальнага ў Бельску Падляшскім; дарожных машын, сталеканструкцыі і медычнаакустычнай апаратуры ў Беластоку; рамонтна-чыгункавага ў Лапах і іншых. У хімічнай прамысловасці: сухой перагонкі драўніны ў Гайнаўцы; апакаванняў, у супрацоўніцтве з ФАО, у Беластоку; насычальні чыгункавых падкладаў у Чаромсе. У прамысловасці будаўляных матэрыялаў: будаўлянай керамікі ў Ляўкове, сілікатаў у Беластоку; у дрэваапрацоўчай прамысловасці: дрэваапрацоўчы камбінат у Гайнаўцы з яго вытворчасцю фарніраў, мазаікавых паркетаў і мэблі; будаўлянай сталяркі ў Саколцы, мэбляў у Беластоку і Супраслі. Асабліва шырока вядомы вырабы тэкстыльнай прамысловасці (65 млн. м баваўняных і 7 млн. м ваўняных), у тым ліку фабрык „Фасты“, імя Сяржана ў Беластоку і Міхалове, ваўняных вырабаў імя Э. Плятэр у Васількове, штучных футраў „Біруна“ ў Беластоку, трыкатажных вырабаў „Кора“ ў Гарадку і Бельску Падляшскім, а ў апошнія гады дываноў „Агнелла“ ў Беластоку. Харчовую прамысловасць прадстаўляюць новыя заводы: мясны, піваварны і спіртна-водачны ў Беластоку, сухога малака ў Бельску Падляшскім, цукроўня ў Лапах. Сведчыць гэта аб хуткім і рознанапрамкавым развіцці прамысловасці. На працягу саракагоддзя ПНР лік рабочых узрос у 10 разоў і далей адчуваецца дэфіцыт кваліфікаваных кадраў. Крызіс васьмідзесятых гадоў затармазіў тэмпы развіцця. Стрымана мадэрнізацыя абсталяванняў, зменшылася выдайнасць працы. Недахоп імпартнай сыравіны змусіў некалькі заводаў тэкстыльнай прамысловасці перастаўіцца на ўслуговую прадукцыю ў рамах паразуменняў з Савецкім Саюзам, іншыя дапасавалі прадукцыю да мясцовай сыравіны. Вынікі 1982 года сведчаць аб паступовай ліквідацыі крызісу.

**СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА** Беластоцкага ваяводства доўгія гады залічвалася да найбольш занядбаных галін у ваяводстве



*Прадпрыемства будаўлянай цэрамікі ў Старым Ляўкове.*
*Фота ЦАФ Р. Сянько.*





© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

і ў краіне. Ваенныя знішчэнні, традыцыяналізм, празмерная раздробленасць гаспадарак, нізкі агратэхнічны ўзровень гаспадарання, недастатковая дапамога ўлад і іх зменлівая палітыка выклікалі масавую міграцыю найбольш працаздольнага насельніцтва ў гарады і на паўночныя землі. Яшчэ нават у сямідзесятыя гады сельскую гаспадарку Беласточчыны пакідала 13 тыс. асоб у год у асноўным моладзі, якая пасля заканчэння школ заставалася ў гарадах, дзе былі лепшыя ўмовы жыцця. Прыбывала ў вёскі каля 7 тысяч асоб, але большасць да працы ў іншыя галіны гаспадаркі. Некантраляваныя міграцыйныя працэсы паглыбілі дэфіцыт рабочай сілы да такой ступені, што для многіх раёнаў стаў ён асноўнай праблемай. Яе вырашэнне павінна пайсці не па лініі насаджвання індывідуальнага каштоўнага асадніцтва, а арганізавання пэгээраў і эскаэраў, якія тут існуюць і далей прымаюцца насельніцтвам як лепшая форма сацыялістычнага гаспадарання.

Структура зямельных угоддзяў у Беластоцкім ваяводстве даволі карысная. Сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 61 прац. агульнай плошчы, у тым ліку ворыва 42 прац., сенажаці і выганы 19 прац.; лясы 32 прац. і іншыя землі 7 прац. плошчы. Падобна, як ва ўсёй краіне, плошча ворыва змяншаецца на некалькі тысяч гектараў у год на карысць лясоў, агародаў і жыллёва-прамысловага будаўніцтва.

Структуру зямельных угоддзяў паасобных сектараў сельскай гаспадаркі ілюструюць наступныя даныя: індывідуальны сектар валодаў 65 прац., дзяржаўна-кааператыўны — 35 прац. (або 81 прац. і 19 прац. сельгасугоддзяў). У склад другога ўваходзілі пэгээры — 4 прац., спулдзельні прадукцыйныя, сельскагаспадарчыя гурткі — па 2 прац. і землі дзяржаўныя несельскагаспарчыя — 28 прац. Сектар гэты аб'яднаўваў прапарцыянальна да агульнай плошчы ў тры разы менш ворыва і зялёных угоддзяў, што для эфектыўнасці гаспадарання было некарысна. У апошняе дзесяцігоддзе пераймаў ён ад сялян у сярэднім па 11 тыс. га зямельных угоддзяў у год. Зараз кожная з 70 спулдзельняў прадукцыйных валодае ў сярэднім па 300 га, 33 сельскагаспадарчыя гурткі па 650 га, а пэгээры — яшчэ большай плошчай сельгасугоддзяў. Добрая гэта з'ява незалежна ад цяжкасцей гаспадарання.

Выключна некарысна склалася структура гаспадарак індывідуальнага сектара. Разам у 1981 годзе ў Беластоцкім ваяводстве было 72 тыс. сялянскіх гаспадарак, сярод якіх найбольш раздробленыя — ад 0,5 да 2 га займалі 13 прац. зямельных угоддзяў, ад 2 да 5 га — 18 прац., ад 5 да 7 — 13 прац., ад 7 да 10 — 21 і вышэй 10 га — 33 прац. З прыведзеных дадзеных вынікае, што на дзвюх трэціх зямельных угоддзяў немагчыма было выдатна гаспадарыць, а тым больш развіваць таварную прадукцыю. Найбольшая раздробленасць гаспадарак выступіла ў гмінах Белаве-





*Вёска Ляшукі гміна Нараўка. Фота Я. Целушэцкага.*

жа, Харошча, Лапы, Юхновец, Крынкі, Нараўка, Чаромха. У цэлым па ваяводстве сярэдняя іх плошча складала каля 7 га.

Гаворыцца, што нашая сельская гаспадарка змеханізавана вельмі слаба, а ўжо асабліва індывідуальная. Статыстычны гадавік ВУС 1980 паказвае, што мелася тут 17 тыс. трактараў, а гэта значыць, у 2 разы больш, чым пяць гадоў назад, што на адзін трактар прыпадала прыблізна, як ва ўсёй краіне, 28 га зямельных угоддзяў (у суседняй ГДР — 43, у ЧССР — 50, а ў СССР — 216 га). Дэфіцыт машын сапраўды адчуваецца, але таму, што яны выкарыстоўваюцца не больш чым у 10 прац. З кожным годам прыбывае іх. У тым жа 1980 годзе прададзены 44 трактары для гаспадарак дзяржаўна-кааператыўнага сектара і 1284 для індывідуальнага, рассявальнікаў штучных угнаенняў адпаведна 43 і 589, раскідвальнікаў гною 14 і 634, касілак 2 і 340, нават бульбакамбайнаў 4 і 17 штук. Апошнія ў сярэдняй індывідуальнай гаспадарцы эфектыўна будуць выкарыстаны на працягу 2 дзён у год, рэшту выкопкаў — на паслугах або перахоўвацца дзесяцігоддзямі для ўнукаў.

Да дасягненняў сельскай гаспадаркі пасляваеннага перыяду трэба залічыць зліквідаванне цераспалосіцы і трохпольнай сістэмы апрацоўкі зямлі, меліярыцыю 86 тыс. га зялёных угоддзяў, што склала амаль палову агульнай плошчы, і дрэнаванне 54



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

тыс. га ворыва. Нароўні з традыцыйным угнойваннем глеб гноем, узрасло прымяненне штучных угнаенняў. У 1950 годзе высявалася іх статыстычна ўсяго 4 кг на адзін гектар, у 1960 — 23 кг, у 1970 — 139 кг і ў 1980 — 131 кг (у сярэднім па краіне — 186 кг). Закончана электрыфікацыя сельскай гаспадаркі, уведзена для сялян бясплатная медыцынская дапамога, пенсія і іншыя сацыяльныя забеспячэнні. Разбудавана сетка сельскагаспадарчых прафесіянальных і сярэдніх школ, у якіх навучаецца каля 5 тыс. вучняў у год.

Сельская гаспадарка Беластоцкага ваяводства захоўвае раслінна-жывелагадоўчы напрамак. Валавая прадукцыя раслінаводства склала 8338 млн., а жывёлагадоўлі 7351 млн. злотых. З аднаго га сельгасугоддзяў дасягнута 25,5 тыс. злотых, у краіне — 32 тыс. злотых.

Традыцыйна найбольшыя плошчы пасеваў займалі збожжавыя культуры — 260 тыс. га, бульба — 72 тыс. га, кармавыя — 48 тыс. га і прамысловыя — 9 тыс. га. Сярод збожжавых першае месца, г.зн. 25 прац. пасяўной плошчы, займала жыта, зборы якога склалі 208 тыс. тон пры ўраджаі каля 20 цэнтнераў з гектара. Чарговае месца — 22 прац. пасеваў займаў авёс з сярэдняй выдайнасцю 21 цэнтнер з гектара. Пасевы гэтых малапатрабавальных збожжаў былі размешчаны ў ваяводстве даволі раўнамерна. Ячмень і пшаніца займалі ўсяго па каля 5 прац. пасяўной плошчы і давалі аднолькавыя ўраджаі па 24 цэнтнеры з гектара, а гэта значыць, ніжэйшыя на 3—4 цэнтнеры, чым у краіне. Пасевы сканцэнтраваны былі на лепшых глебах гмін — Чыжы, Драгічын, Боцькі, Лапы, Карыцін, Сухаволя.

Продаж збожжа дзяржаве ў 1981 годзе склаў усяго 35 тыс. тон, а пакупка камбікармоў — 137 тыс. тон.

Бульба займала 20 прац. ворыва, зборы 1,5—1,8 млн. тон пры найвышэйшых у краіне ўраджаях 212 (1981) — 224 (1980) цэнтнераў з гектара. У гміне Монькі, дзе яе пасевы займаюць 32 прац., а ўраджаі 293 цэнтнера з гектара, арганізуецца восенню агульнадзяржаўнае „свята бульбы". У многіх іншых гмінах — Тыкацін, Карыцін, Пасвентнае, Харошча, Бранск — ураджаі таксама пераўвышаюць на 40, а нават на 50 цэнтнераў сярэднія агульнадзяржаўныя паказчыкі.

Надта малыя плошчы пасеваў займаюць кармавыя і тэхнічныя культуры. Асабліва незадавальняючыя зборы цукровага бурака (90 тыс. тон), якія не пакрываюць сыравінавых патрэб адной з навейшых у ПНР цукроўняў у Лапах. Сярод садова-агароднінных культур трэба адзначыць яблыні, ураджаі якіх складаюць каля 100 тыс. тон невыкарыстоўваных належна яблык, і трускалкі — 90 тыс. тон, асабліва ў гміне Заблудаў, дзе яны кантрактуюцца на ўнутраны рынак і на экспарт, асабліва ў СССР.

У жывёлагадоўлі асноўнае значэнне мае рагатая жывёла і свінні. Пагалоўе буйнай рагатай жывёлы зменлівае. У апошнім дзесяцігоддзі выказвае тэндэнцыю да спадку з 345 тыс. у 1975 годзе да 340 тыс. у 1980 годзе і 312 тыс. штук у 1981 годзе, што складала на 100 га сельскагаспадарчых угоддзяў 52 галавы (у краіне 62 штукі). Сярэдняя выдайнасць малака ад каровы абліччваецца на 2,5 тыс. літраў у год. Спадак пагалоўя рагатай жывёлы выклікала некарысная каньюнктуральная змена цаны малака і змяншэнне продажу сялянам канцэнтраваных кармоў. Крыху большае пагалоўе ўтрымліваецца вакол гарадоў і ў заходняй частцы ваяводства.

Пагалоўе свінней таксама мала стабільнае. У 1975 годзе налічвалася 568 тыс., у 1980 годзе — 547 тыс., а ў 1981 годзе — 458 тыс. штук, гэта дае 75 штук на 100 га сельскагаспадарчых угоддзяў (у краіне 98 штук). Прычынай хістання стала павышэнне цаны бульбы і збожжаў, а таксама змяншэнне камбікармоў, прадукцыя якіх была абаперта на імпартнай сыравіне. У тэрытарыяльным размяшчэнні гэтай жывёлы вялікіх розніц няма.

Авечкагадоўля развіта слаба, а яе пагалоўе — каля 150 тыс. штук (24 штук на 100 га сельгасугоддзяў) — утрымліваецца ва ўсходняй частцы ваяводства. Увядзенне замест мясцовай вера-



*Будынак гарадскога праўлення ў Гайнаўцы.*







© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

соўкі пароды мерыносаў павялічыла выдайнасць воўны з аднаго да трох і больш кілаграмаў у год, але павысіла патрабаванні ў доглядзе, што аказалася часта немагчыма.

Пагалоўе коней таксама змяншаецца. У 1975 годзе налічвалася 79 тыс. штук, а ў 1981 — толькі 60 тыс. штук, што складала 10 штук на 100 га сельгасугоддзяў. Далей яно надта вялікае і абумоўлена патрэбамі невялікіх гаспадарак у цяглавай сіле. Пэўнае зацікаўленне ў краіне і за яе межамі выклікае так званы „пагрублены конь сакольскі".

У цэлым таварнасць сельскай гаспадаркі Беластоцкага ваяводства даволі нізкая. У 1981 годзе склала яна каля 18 тыс. злотых з аднаго гектара сельскагаспадарчых угоддзяў, гэта значыць, на 10 тысяч злотых менш, чым сярэдняя ў краіне.

**ТРАНСПАРТ** Беластоцкага ваяводства развіты даволі слаба з увагі на нізкую таварнасць гаспадаркі і ўскладненні, якія выклікала перыферыйнае палажэнне ў адносінах да прамысловых цэнтраў ПНР. Захоўваецца сетка чыгунак раней пабудаваных, якая ў 1963 годзе была дапоўнена новым 42-кіламетравым адрэзкам Саколка—Каменна Новая. Зараз іх працяг складае 542 км, што дае 5,4 км на 100 км² плошчы (у краіне 8,7 км). Найбольшае значэнне мае чыгунка Кузніца—Беласток—Лапы, якая далей спалучае тэрыторыю са сталіцай, а адначасова з'яўляецца транзітнай магістраллю СССР—ГДР. Другое месца належыць чыгунцы Чаромха—Беласток—Дуброва Беластоцкая.

Найбольшым чыгуначным цэнтрам з'яўляецца Беласток, у якім крыжуюцца спалучэнні ў пяці напрамках. Вузел гэты зараз разбудоўваецца. Агульнавядомыя таксама таварныя станцыі ў Геніушах, дзе перагружаюцца савецкія піламатэрыялы, збожжа, прамысловыя тавары, а таксама Лапы з іх рамонтнымі майстэрнямі. Асноўнымі таварамі ўвозу былі вугаль, цэмент, штучныя ўгнаенні і нафтапрадукты, а вывазу — піламатэрыялы, мінеральная сыравіна, сельскагаспадарчыя тавары. Чыгункавы транспарт патрабуе мадэрнізацыі.

Значна лепш развіваецца аўтамабільны транспарт. Пракладка дарог была пачата адразу пасля вызвалення грамадскім чынам сялян, асабліва Бельскага павета, а потым іншых. Усяго пракладзена ў ваяводстве каля 600 км новых і адрамантавана 800 км старых дарог. Ад шасцідзесятых гадоў у дарожнае будаўніцтва ўключыліся дзяржаўныя прадпрыемствы з больш выдатнай тэхнікай. Працяг усіх дарог з цвёрдай паверхняй (палова з асфальтаванай) склаў 3640 км, што дае 36 км на 100 км плошчы. Дарогі гэтыя ўтвараюць радыяльныя сістэмы з цэнтрамі: Беласток — 10 напрамкаў, Бельск Падляшскі — 7 напрамкаў і іншыя.

Найбольшае значэнне мае шаша Е-12 Кузніца—Беласток—Варшава і лакальная шаша Сямяцічы—Беласток—Аўгустова. Іншыя выкарыстоўваюцца слаба. На 2800 км дарог ездзяць аўтобусы ПКС. Рухомы склад у апошнія гады павялічваецца вельмі хутка. У 1980 годзе было зарэгістравана 11 тыс. грузавікоў, 880 аўтобусаў і 36 тыс. легкавых аўтамашын. У кожнай чацвертай сям'і Беласточчыны была свая аўтамашына.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



*Адзін з цеплаходаў гданьскай сточні, які атрымаў імя „Гайнаўка".*

Трэба адзначыць выключна вялікія дасягненні ў галіне асветы. У 1980/81 навучальным годзе мелася 262 пачатковыя школы, у якіх навучалася 78 тыс. вучняў. Было 65 прафесіянальных школ з 13 тыс. вучняў і 132 сярэднія школы з агульным лікам 30 тыс. вучняў, у тым 107 тэхнікумаў і 26 паліцэальных школ — разам 22 тыс. вучняў, якія здабывалі падрыхтоўку ў 36 прафесіях. Усе дзеці мелі магчымасць заканчэння пачатковай школы і працягвання вучобы ў прафесіянальных няпоўных сярэдніх або сярэдніх школах. Новыя школьныя будынкі, інтэрнаты, кваліфікаваныя кадры, магчымасць навучання дзяцей нацыянальных меншасцей на роднай мове, школьныя дапаможнікі, давоз вучняў на кошт дзяржавы ў зборныя школы і г.д. ні ў чым ужо не прыпамінаюць занядбанай асветы міжваеннага перыяду.

Велізарным дасягненнем Беласточчыны з'яўляецца арганізаванне Медыцынскай акадэміі, у якой зараз на 3 кірунках вучыцца 1954 студэнты, Палітэхнічнага інстытута з 6 кірункамі і 3428 студэнтамі і філіяла Варшаўскага універсітэта з 13 кірункамі і



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011



*Група гарцэраў Пачатковай школы ў Орлі. Фота М. Шаховіча.*



*Дом культуры ў Гарадку. Фота Я. Целушэцкага.*



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

4654 студэнтамі. Апрача гэтага, існуе аддзяленне Варшаўскай акадэміі музычнай — 109 студэнтаў і Варшаўскай тэатральнай школы — 73 студэнты. Ва ўсіх вышэйшых школах у 1980/81 годзе навучалася 10,2 тыс. студэнтаў, з гэтага амаль 40 прац. атрымлівала стыпендыі.

Гаспадарчае развіццё Беластоцкага ваяводства, як і ўсёй краіны, стрымалі падзеі 1980/81 гадоў. Здэактуалізаваліся перспектыўныя планы. Аднак наступныя гады прынеслі ўжо значна лепшыя прадукцыйныя вынікі. Таму можна меркаваць, што далей асноўная ўвага ўлад будзе канцэнтравацца на мадэрнізацыі і разбудове прамысловасці дзеля выкарыстання мясцовых кваліфікаваных кадраў і сыравіны, а ў сельскай гаспадарцы — на ўкараненне больш эфектыўных напрамкаў раслінаводства, жывёлагадоўлі і агародніцтва. Да гэтага існуюць усе ўмовы, а іх выкарыстанне будзе залежаць таксама ад нашай выдайнай працы і грамадскай актыўнасці.

**УЛ. ЮЗВЮК**

---

# Сорак гадоў без вайны

Вось ужо сорак гадоў мінула з таго памятнага дня, калі над Домам Урада ў Мінску, адным з нямногіх незруйнаваных будынкаў сталіцы Савецкай Беларусі, залунаў сцяг Перамогі. 1100 дзён і начэй, ператвораных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў суцэльную ноч акупацыі, чакала гэтага часу беларуская зямля.

Маё пакаленне не памятае тых дзён. Але іх помняць нашы бацькі. У дзяцінстве я столькі разоў чуў апавяданні і ўспаміны аб вайне, што цяпер часамі мне здаецца, што нешта я і сам бачыў, у нечым сам удзельнічаў.

А потым тое самае пазнаў з гісторыі, якую спачатку вывучаў, пазней выкладаў ва універсітэце.

Ганаруся гісторыяй сваёй рэспублікі. Асабліва тымі старонкамі, якія прысвечаны гераічнай барацьбе беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Больш мільёна патрыётаў, кожны дзевяты з даваеннага насельніцтва, уступілі ў рады дзеючай арміі. Воіны-беларусы разам са сваімі братамі з усіх саюзных рэспублік абаранялі Маскву і Ленінград, вызвалялі Польшчу і Чэхаславакію, Балгарыю і Югаславію, штурмавалі Берлін.

Найбольш хвалюючай старонкай гісторыі Савецкай Беларусі стала ўсенародная барацьба ў тылу ворага. Больш тысячы партызанскіх брыгад, атрадаў дзейнічалі на тэрыторыі рэспублікі, 374 тысячы мужчын і жанчын узяліся за зброю, каб бараніць

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

сваю зямлю, сваіх дзяцей і бацькоў, свой гонар перад раз'юшанымі захопнікамі і насільнікамі.

Былі сярод партызан юнакі і дзяўчаты, былі людзі старэйшага пакалення, былі, апрача беларусаў, прадстаўнікі амаль усіх нацыянальнасцей Савецкага Саюза. Аб'яднала іх любоў да Айчыны і нянавісць да ворага. Ядром кожнага атрада, кожнай групы падпольшчыкаў з'яўляліся камуністы і камсамольцы.



*Абеліск на месцы экзекуцыі насельніцтва ва ўрочышчы Прэраў у Белавежскай пушчы, дзе сустракаюцца жыхары Белавежы і савецкіх вёсак*



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Грознай сілай для ворага аказаўся народ, які не захацеў стаць на калені. Гарэла зямля пад нагамі захопнікаў. Хоць лінія фронту была далёка на ўсходзе, але ў Беларусі для іх не было „спакойнага тылу". Нямецка-фашысцкае камандаванне вымушана было весці сапраўдную вайну на акупіраванай тэрыторыі. У гэтай вайне ад партызанскіх куль і гранат было забіта ці паранена больш чым паўмільёна нямецкіх салдат і афіцэраў, знішчана 18,7 тыс. аўтамашын, 1355 танкаў і бронемашын, 305 самалётаў, больш чым 11 тыс. чыгуначных эшалонаў. Дарагой цаной далася перамога. Сярод маіх знаёмых на Міншчыне няма такой сям'і, якая б не панесла страт у гады вайны. Кожны чацвёрты жыхар Беларусі загінуў, кожны чацвёрты...

Пазарасталі за сорак гадоў партызанскія сцёжкі, узнесліся з руін гарады і вёскі, збудаваны заводы і школы, выраслі сады і паркі. Але сляды вайны і сёння відаць на ўсёй Беларусі. Яны як-бы ўраслі ў яе краявіды. Курган Славы, Хатынь, Помнік Перамогі, помнік маці-гераіні — усё гэта ўжо не толькі гісторыя, але і атрыбуты краязнаўства рэспублікі.

Крывавыя сляды і боль вайны засталіся ў сэрцы і памяці народа. Як самае вялікае свята адзначаюцца на Беларусі Дзень Перамогі — 9 мая і Дзень вызвалення — 3 ліпеня. У гэтыя дні мае землякі, перапоўненыя пачуццямі ўрачыстай павагі, глыбокага смутку і светлага аптымізму, ідуць да помнікаў і на магілкі, збіраюцца ў кампаніі і арганізуюць застолле. Успамінаюць, маўчаць, спяваюць песні. Я часта бачыў у гэтыя дні, як у майго бацькі і яго сяброў блішчэлі слёзы на вачах...

Тэмай вайны і народнага гераізму прасякнута беларускае мастацтва. Калі глядзіш на карціны вядомага мастака М. Савіцкага, то здаецца, што сэрца ў грудзях б'ецца гучней, чым званы Хатыні. А на старонках твораў М. Танка, В. Быкава, І. Мележа праўдзіва і навечна запісаны падзеі тых дзён, учынкі і пачуцці людзей, мудрасць і слава народа.

Беларуская зямля памятае не толькі апошнюю вайну. Беларусь ляжыць у геаграфічным цэнтры Еўропы і за стагоддзі гісторыі чые толькі боты не спрабавалі патаптаць яе зямлю, наступіць на грудзі яе народа! Праходзілі тут татарскія орды і шведскія палкі, войскі польскіх магнатаў і напалеонаўскіх маршалаў, кайзераўцы і гітлераўцы. Адны затрымліваліся даўжэй, другіх удавалася пры братняй дапамозе рускага народа хутчэй выправадзіць. Але заўсёды потам і крывёю плацілі беларусы за візіты няпрошаных гасцей.

І вось цяпер, першы раз за ўсю гісторыю, мой народ пражыў аж сорак гадоў без вайны, без прыгнёту, без сацыяльных патрасенняў. Два пакаленні выраслі пад мірным небам.

Я ведаю мясціны, дзе ў гады вайны немцы павыпальвалі лясы, каб не хаваліся ў іх партызаны. Адраслі тыя лясы, шэпчуць хво-



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

лй там цяпер магутныя сосны, мае равесніцы. Нам ужо па сорак гадоў.

Беларускі народ добра ведае каму і чаму ён удзячны. Гэтыя сорак мірных гадоў не былі выпадковымі. Мір для народаў яшчэ ад першых ленінскіх дэкрэтаў быў галоўнай мэтай палітыкі камуністычнай партыі і сацыялістычнай дзяржавы. Але мір трэба было збудаваць, яго трэба абараняць.

Гістарычную перспектыву самога існавання беларускай нацыі, стварэння нацыянальнай дзяржавы, эканамічнага і культурнага развіцця замацаваў уваход Беларусі ў склад Саюза ССР. Аб'яднанне братніх народаў у адной шматнацыянальнай дзяржаве, стварэнне магутнай індустрыяльнай базы, прадуманая на многія гады наперад палітыка Камуністычнай партыі — усё гэта дало магчымасць адстаяць свабоду і незалежнасць народаў савецкіх рэспублік, перамагчы ў самай цяжкай вайне.

Народ Беларусі, як і народы ўсяго Савецкага Саюза, добра ўсведамілі гэты вопыт гісторыі. Толькі дзякуючы эканамічнай і абароннай магутнасці Савецкай Дзяржвы, дзякуючы міралюбівай знешняй палітыцы Савецкага Урада ўдалося зберагчы мір на нашых граніцах вось ужо на працягу сарака гадоў.

Народная мудрасць сцвярджае, што вялікае шчасце для чалавека мець добрых суседзяў, жыць сярод сяброў. Гэта без сумнення можна сказаць і ў адносінах да народаў, да дзяржаў.



*Члены дэлегацыі ПНР. У. Гамулка. Ю. Цыранкевіч, А. Завадскі ў суправаджэнні К. Т. Мазурава і А. І. Кірычэнкі ў Мінску (1.XI.1958).*



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Вось ужо амаль сорак гадоў Савецкі Саюз, у тым ліку і Савецкая Беларусь, упершыню ў гісторыі маюць дачыненне на сваёй заходняй граніцы не з варожа настроенымі суседзямі, а з сябрамі, з суседзямі-братамі. І гэта вялікае дасягненне. Беларускі народ высока ацэньвае і шануе савецка-польскую дружбу, уносіць свой, як мне здаецца, значны ўклад у яе развіццё і паглыбленне.

Беларусь актыўна ўдзельнічае ў гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве паміж СССР і ПНР. Да Польшчы экспартуюцца добра тут вядомыя фотаапараты „Зеніт" і халадзільнікі „Мінск", калійныя ўгнаенні і трактары „Беларусь", электронна-вылічальныя машыны і тэлевізары. У сваю чаргу жыхары Беларусі шырока карыстаюцца польскай вопраткай, мэбляй, касметыкай.

Савецкая Беларусь і яе народ маюць усе падставы да гістарычнага аптымізму. Рэспубліка-партызанка ператварылася ў адну вялікую будоўлю.

Хуткімі тэмпамі расце прамысловасць рэспублікі: аб'ём прадукцыі павялічваецца ў два разы кожныя сем гадоў. Па свайму індустрыяльнаму патэнцыялу БССР раўняецца такім краінам, як Венгрыя ці Балгарыя. Далёка за межамі рэспублікі вядомы трактары „Беларусь", якіх выпрабляецца каля 90 тыс. штук у год, вялікагрузныя аўтамабілі МАЗ, Бел АЗ, МО АЗ (40 тыс. штук), металарэжучыя станкі (28 тыс. штук), сіласаўборачныя камбайны (33 тыс. штук), халадзільнікі (605 тыс.), тэлевізары (660 тыс. штук), гадзіннікі (8,1 млн. штук), фотаапараты (1,5 млн. штук).

У апошнія дваццаць гадоў апярэджваючымі тэмпамі развівалася галіна хімічнай прамысловасці. Салігорскія камбінаты даюць 14 млн. тон мінеральных угнаенняў, што складае палову ўсесаюзнай прадукцыі. Вырабляюцца аўтамабільныя шыны (апоны), хімічныя валокны, шкловалакно і іншыя штучныя матэрыялы.

Доўгі час лічылася, што нетры Беларусі бедныя на карысныя выкапні. За пасляваенныя дзесяцігоддзі гэты погляд цалкам змяніўся. Важнае народнагаспадарчае значэнне мае здабыча мінеральнай солі, будаўнічых матэрыялаў, торфу, а таксама нафты. Амаль уся Гомельская вобласць і частка Мінскай стаяць на нязлічаных залежах каменнай солі, здабыча якой пачынаецца ў XI пяцігодцы. Чакаюць сваёй распрацоўкі месцанараджэнні бурага вугалю, жалезнай руды, гаручых сланцаў, баксітаў.

Важнай і нялёгкай для выканання праблемай застаецца жыллёвае будаўніцтва. Штогод паляпшаюць свае жыллёвыя ўмовы 400 тысяч жыхароў. Выглядае, што нямала. Але, каб атрымаць бясплатную кватэру, маладым сем'ям даводзіцца чакаць ад трох (на вялікіх прадпрыемствах) да 11 гадоў (як, напрыклад, у чарзе Мінскага гарвыканкома). Кааператыўнае памяшканне можна атрымаць хутчэй. Партыя ставіць задачу рэзка скараціць гэтыя тэрміны.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

На ўздыме знаходзіцца сельская гаспадарка рэспублікі, у якой занята пятая частка насельніцтва. Недахоп працоўных рук, які пачаў праяўляцца ў 70-я гады, кампенсіруецца ўсё мацнейшымі тэхнічнымі сродкамі. Каля 200 тыс. механізатараў абслугоўвае сучасную тэхніку.

Калгасы і саўгасы Беларусі спецыялізуюцца пераважна ў мяса-малочнай і бульбяна-гародніннай вытворчасці. На душу насельніцтва прыпадае больш 90 кг мяса ў год, а харчовая праграма СССР прадугледжвае рост яго прадукцыі ў 1990 г. да 120—130 кг. За пасляваенныя гады ў два-тры разы выраслі ўраджаі збожжавых культур. На канец бягучай пяцігодкі запланавана давесці валавы збор збожжа да 7,8—8,1 млн. т. у год, што будзе раўняцца 800 кг на кожнага жыхара рэспублікі.

Галоўнай задачай, якую ставіць перад працоўнымі Савецкага Саюза Камуністычная партыя, з'яўляецца павышэнне эфектыўнасці народнай гаспадаркі, яе інтэнсіфікацыя. На падставе гэтага плануецца далейшы ўздым матэрыяльнага дабрабыту і культурнага ўзроўню насельніцтва. Да дасягнення гэтага імкнуцца і працоўныя Савецкай Беларусі.

Такімі клопатамі жыве сёння мой народ, у саракавую гадавіну пасля вызвалення з-пад нямецка-фашыскай акупацыі. Ён выразна бачыць светлыя гарызонты сваёй будучыні. У адной сям'і і з братэрскай узаемадапамогай усіх народаў нашай шматнацыянальнай дзяржавы ён набліжае гэту будучыню сваімі працавітымі рукамі.

А для гэтага яму патрэбен мір. І на наступныя сорак гадоў, і назаўсёды.

**ЛЕАНІД ЛОЙКА, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.**

# ТППР на Беласточчыне

Ідэі сяброўства паміж польскім і ўсходнеславянскімі народамі, асабліва рускім, заглыбляюцца сваімі карэннямі ў апошнія стагоддзі, але заўсёды мелі выключна класавы характар. Інакш уяўлялі іх сабе магнаты, шляхта і кіруючыя колы. У іх разуменні сяброўства павінна было дапамагаць прыгнятаць суседнія народы і эксплуатаваць іх. Цэлыя стагоддзі польская шляхта і каралі рваліся на ўсход, а пазней, баяры і цары — на захад. Цярпелі ад гэтага абодва народы.

Інакш ідэі дружбы развіваліся сярод перадавой інтэлігенцыі, якая супольна імкнулася вызваліць ад эксплуатацыі працоўныя масы. Асабліва іх рэвалюцыйны авангард, аб'яднаны ў сацыял-дэмакратычных і марксісцкіх партыях, як у Польшчы, так і ў Расіі, супольна кіраваў велізарным рэвалюцыйным зрывам, як у 1905, так і ў 1917 гадах.

Нарэшце найбольш рэвалюцыйны рабочы клас разам з сялянствам стварылі адзіны фронт барацьбы за грамадскае і нацыянальнае вызваленне. Тысячы найлепшых сыноў польскага рабочага класа актыўна ўдзельнічалі ў Кастрычніцкай рэвалюцыі, а потым выконвалі важныя функцыі ў гаспадарчым і палітычным жыцці СССР. Савецкая Расія адраклася ад усіх тэрытарыяльных прэтэнзій царызму і аб'явіла аб суверэннасці польскага народа і волі супрацоўніцтва. На жаль, польскі рабочы клас аказаўся слабы на тое, каб дабіцца рэвалюцыйных перамен.

Перад II сусветнай вайной, ва ўмовах росту сіл мілітарна-фашысцкай Германіі Савецкі Саюз зноў прабаваў шукаць зразумення ў польскім санацыйным урадзе. Нягледзячы на шматлікія спробы, з гэтага нічога не выйшла. Вынікі аказаліся трагічнымі. На працягу двух тыдняў Польшча знікла з карты Еўропы.

Два гады пазней гітлераўская Германія напала на СССР. У час вялікага змагання ўсяго савецкага народа і польскага падполля ў нашай краіне, у СССР была арганізавана і ўзброена Польская Армія. Але яе камандуючы Андэрс здрадзіў інтарэсы польскага народа і, не пачаўшы нават ваяваць, вывеў армію на Блізкі Усход.

Нягледзячы на гэта, знайшліся сапраўдныя польскія патрыёты, якія зноў арганізавалі палякаў, ствараючы I дывізію імя Т. Касцюшкі. Гэтая армія ў баях на савецкай і польскай землях уласнай крывёй мацавала польска-савецкую дружбу. Сімвалам гэтай дружбы сталі 600 тыс. савецкіх салдат, якія згінулі на польскай зямлі.

Паваротным пунктам у гісторыі польскай дзяржаўнасці і фармаванні польска-савецкіх адносін было ўтварэнне 21 ліпеня 1944 года Польскага Камітэта Нацыянальнага Вызвалення, а затым — Часовага Урада Рэчыпаспалітай. Аб'яўлены 22 ліпеня 1944 г. Маніфест ПКВН, апрача таго, што заклікаў шырокія масы польскага грамадства ўдзельнічаць у разгроме акупантаў і ў адраджэнні грамадскага жыцця ў духу прагрэсіўных традыцый, заклікаў насельніцтва як найцясней супрацоўнічаць з Чырвонай Арміяй і аказваць ёй усемагчымую дапамогу. Маніфест ПКВН падкрэсліваў, што пасля 400 гадоў спрэчак і канфліктаў са славянскімі суседзямі на ўсходзе ў адносінах наступіў гістарычны зварот. Канфлікты ўступілі месца дружбе і супрацоўніцтву, так патрэбнаму абедзвюм краінам. Сяброўства і баявое супрацоўніцтва, пачатае братэрствам зброі Войска Польскага з Чырвонай Арміяй, павінны перарасці ў трывалы саюз і суседскае супрацоўніцтва пасля вайны. Маніфест падкрэсліваў, што ўсходняя граніца павінна быць лініяй добрасуседства, а не падзелу. На пад-





© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

ставе ідэйна-палітычных прынцыпаў Ліпеньскага Маніфесту 21.V.1945 года быў падпісаны Дагавор аб супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе паміж Пальшчай і СССР на 20 гадоў, а затым, 8.IV.1965 г. прадоўжаны на чарговых 20 гадоў. Прадметам дагавору з'яўляюцца тры падставовыя справы: дружба паміж народамі, узаемадапамога, супрацоўніцтва ва ўсіх галінах грамадска-гаспадарчага жыцця. Дагавор стварыў падставы доўгатрывалай нармалізацыі адносін паміж нашымі народамі. Ён з'яўляецца галоўным дакументам, на якім абапірае сваю дзейнасць ТППР.

Пасля вызвалення ўсходняй часткі Беласточчыны мясцовыя ўлады пачалі дзейнічаць супольна з Савецкай Арміяй. Савецкія



*Будынак Ваяводскага праўлення ТППР у Беластоку. Фота Р. Сяськевіча.*

салдаты дапамагалі адбудоўваць чыгунку, масты, сувязь, фабрыкі. У Гайнаўцы навязаліся кантакты актыву і моладзі з савецкімі салдатамі. Паявіліся першыя групы сяброў савецкіх салдат. Моладзь Гайнаўкі збірала падарункі — шалікі, рукавічкі і высылала на фронт для савецкіх салдат. Гэта была невялікая дапамога, але ад шчырага сэрца для салдат-вызваліцеляў.

Развівалася і ўмацоўвалася дружба і на іншай тэрыторыі нашага ваяводства. Адразу пасля вызвалення Беластока савецкія спецыялісты працавалі ў гарадской водаправоднай сеці, пусцілі ў рух некалькі беластоцкіх прадпрыемстваў. Першы дырэктар беластоцкай фабрыкі плюшу Янка Храноўскі ўспамінае, што ўжо ў жніўні і верасні 1944 года атрымалі з Савецкага Саюза вялікую дапамогу для адбудовы поўнасцю знішчанай гітлераўцамі фабрыкі. Бясплатна былі прывезены будаўнічыя матэрыялы, абсталяванне і транспарт ад часцей Савецкай Арміі. Такіх прыкладаў было больш.

Гурткі сяброў Савецкага Саюза ў нашым ваяводстве паявіліся восенню 1944 года. Побач з Гайнаўкай, Беласток быў мясцовасцю,



дзе развіццё гэтых гурткоў зазначылася вельмі хутка. Першыя гурткі ў Польшчы ўтварыліся ў фабрыцы імя Сяржана, потым — у фабрыцы плюшу і ў дзяржаўнай друкарні. З кожным днём лік іх павялічваўся. У пяцідзесятыя гады на Беласточчыне былі пабудаваны па савецкай дакументацыі і з поўным тэхнічным абсталяваннем найбольшыя прадпрыемствы: Беластоцкі баваўняны камбінат „Фасты", Замброўскі баваўняны камбінат і іншыя. Пачаўся новы этап супрацоўніцтва паміж нашымі і савецкімі прадпрыемствамі. Усе былыя паветы Беластоцкага ваяводства пачалі абменьвацца вопытам з суседнімі раёнамі БССР і Літ. ССР. Супрацоўнічаць пачалі таксама вышэйшыя, прафесіянальныя і агульнаадукацыйныя школы.

Гэтыя першыя крокі знайшлі ў польскім грамадстве вялікі водгук. Хутка пачала ўзрастаць колькасць членаў ТППР у гарадах і вёсках, на прадпрыемствах і ў школах.

У красавіку 1979 года быў урачыста ўручаны 100-тысячны на Беласточчыне членскі білет ТППР. Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы працы ў апошнія гады, на канец 1982 года дзейнічалі 502 гарадскія гурткі і 315 вясковых, якія разам налічвалі 45 720 членаў. Апрача таго, было 242 гурткі калектыўнага членства, якія матэрыяльна памагалі Ваяводскаму праўленню ТППР весці сваю дзейнасць. У сувязі з тым, што Ваяводскае праўленне мае толькі некалькі штатных працаўнікоў, у сваёй штодзённай дзейнасці абапіраецца галоўным чынам на актыў. Гэта члены Ваяводскага праўлення (каля 60 чалавек) і яго прэзідыум (18 чалавек), а таксама члены шматлікіх камісій: маладзёжна-педагагічнай, рабочай, вясковай, студэнцкай, арганізацыйнай, прапаганды і культуры, гурткоў савецкай песні і выпускнікоў савецкіх вузаў. Разам гуртуюць яны каля 200 актывістаў. Кожная названая



*Ваяводская справаздачна-выбарная канферэнцыя ТППР у Беластоку. (8.VI.1978). Фота К. Свідэрскага.*



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011



*I сакратар КВ ПАРП А. Лапэвіч і старшыня Ваяводскай рады нарадовай С. Жмійко на Мітынгу дружбы ў Берастаўіцы (1970 г.). Фота архіў ГП БГКТ.*

адзінка мае свой план працы, а разам гэтыя планы складаюць падставовую частку ваяводскай праграмы дзейнасці ТППР.

Дзякуючы іх працы стала магчымым выкананне адной з найважнейшых задач — распаўсюджванне ведаў аб СССР сярод беластоцкага грамадства. Актыўная дзейнасць камісій высока ацэньваецца Ваяводскім і Галоўным праўленнямі ТППР.

Ужо шмат гадоў ТППР з'яўляецца ініцыятарам і суарганізатарам адзначання ў школах і на прадпрыемствах гадавін і свят — Кастрычніцкай рэвалюцыі, Дня Савецкай Арміі, Дагавору аб дружбе і супрацоўніцтве, Дня Перамогі, а нядаўна — 60-годдзя ўтварэння СССР. У некаторых асяроддзях, напрыклад, у Мілейчыцах, Чаромсе, Бельску, Дуброве, Гайнаўцы, Кузніцы, на ўрачыстасці запрашаюць прадстаўнікоў Савецкай Арміі, савецкага пасольства ў Польшчы, удзельнікаў партызанскага руху.

Праведзена было шмат папулярна-навуковых сесій з удзелам вучоных з Мінска, Вільнюса, Гродна, якія былі прысвечаны праблемам навейшай гісторыі, навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва, жыццю і дзейнасці Ф. Дзяржынскага, а таксама дзейнасці „Грамады", супрацоўніцтву савецкіх і польскіх партызан і іншыя.

Беласточчына заўсёды сардэчна прымае прыязджаючых у Польшчу вядомых літаратараў, працаўнікоў навукі і культуры, як, напрыклад, М. Танка, П. Пестрака, А. Лойкі, Н. Гілевіча, Н. Каменскую, Ул. Казберука, Л. Шакуна, Н. Раманоўскага, В. Новікава, а таксама мастацкія калектывы на чале з Р. Шырмай, Г. Цітовічам, Т. Міянсаравай, Л. Зыкінай, І. Абразцовым, Б. Аляксандравым, якія пакінулі ў нашым грамадстве незабыўныя ўражанні.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

У супрацоўніцтве паміж ваяводскімі ўстановамі і прадпрыемствамі арганізаваны былі прыгранічныя сустрэчы насельніцтва Польшчы і Беларусі ў Ялоўцы, Берастаўіцы, Белавежы і Вясёлым, якія сталі формай папулярызавання дружбы і непасрэдных кантактаў.

Шырокім зацікаўленнем грамадства карыстаюцца ў нас конкурсы, асабліва Агульнапольскі конкурс савецкай песні, які нарадзіўся на Беласточчыне ў 1960 годзе. Двухступенны конкурс перарос у наступным годзе ў агульнапольскае мерапрыемства ў Зялёнай Гуры. Наша ваяводства мела шмат лаўрэатаў, у тым ліку і першых: Люба Томчык і Аляксандр Каліноўскі — 1962 г., Павел Яноўскі і Лешэк Турын — 1965 г., Павел Яноўскі зноў у 1966 г., Мікалай Мікалаюк — 1967 г., Анна Куроўская і Генрык Владарчык — 1968 г., Ядвіга Завадская — 1969 г., Ірына Аляксандрава — 1970 г., Януш Сабалеўскі — 1971 г., Янка Панасевіч — 1973 г., квартэт „Макс" — 1974 г., калектыў „Дыяменты" — 1977 г. і калектыў „Кляпа" — 1979 г.

Праводзіцца шэраг іншых конкурсаў і алімпіяд. У час алімпіяды рускай мовы ў 1974 годзе Марыя Койла заваявала першае месца, а Барбара Кучэўская — другое месца ў краіне, а за паказанне свайго ўмення ў Маскве Б. Кучэўская атрымала Залаты медаль. Іх дасягненне паўтарылі ў 1979 годзе вучаніцы Гэлена Копчук, а год пазней — Мілена Кураш.

Высокія месцы заваёўваюць прадстаўнікі Беласточчыны ў агульнапольскіх студэнцкіх турнірах рускай мовы і ведаў аб Краіне Саветаў. Студэнтка беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта Ірэна Гічэўская здабыла ў 1977 годзе другое месца ў краіне, а студэнтка Медыцынскай акадэміі Барбара Кучэўская — у 1977 г. першае месца ў краіне.

Шмат увагі арганізацыя прысвячае візуальнай прапагандзе. Прадпрыемствы, школы, грамадскія ўстановы, вясковыя клубы экспануюць сотні фотавыставак аб грамадска-гаспадарчых дасягненнях СССР. Яны рэгулярна атрымліваюць з Дома савецкай культуры ў Варшаве фотагазетку „У сяброў", савецкую прэсу, арганізуюць сустрэчы і вечарыны „пры самавары".

Супольна з маладзёжнымі арганізацыямі ТППР арганізуе для маладзёжнага актыву і настаўнікаў—апекуноў школьных гурткоў моваазнаўчыя лагеры ў Польшчы і СССР, адзначае ўрачыстасці ў сувязі з гадавінамі смерці Герояў Савецкага Саюза Грыгорыя Ку-



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

навіна ў Гарасімовічах, Аляксея Фларэнкі ў Гайнаўцы, Аляксандра Вашкевіча ў Белавежы і іншых мясцовасцях.

У 1974—78 гады пачаліся калектыўныя экскурсіі ў СССР. У пяці „Паяздах дружбы", трох рэйсах і васьмі „Аўтобусах Дружбы" ўдзельнічала каля 4 тыс. чалавек.

Нарастаючы гаспадарчы крызіс і дзейнасць экстрэмісцкіх колаў тармазілі працу таварыства. Аджылі антысавецкія тэндэнцыі. Прыхільнікі гэтых плыняў не перабіралі ў сродках, каб напалохаць чэсных людзей. Але падставовы актыў ТППР не схіліўся пад напорам гэтых сіл, яшчэ больш згуртаваўся і працягваў дзейнасць. Былі падпісаны дагаворы са ЗБоВіД-ам і БГКТ, якія ўзмоцнілі нашы планы дзейнасці. Вялікую дапамогу аказаў нам Дом Савецкай культуры і навукі ў Варшаве на чале з сябром Беласточчыны дырэктарам Леанідам Лойкам.

Ваяводскае праўленне ТППР і далей будзе весці працу ў напрамку паглыблення польска-савецкай дружбы, будзе пашыраць групы актывістаў, будзе ўдасканальваць метады дзейнасці, умацоўваць арганізацыю і яе ўплывы ў грамадстве. Гэта не толькі патрэба дня, але і добрасуседскіх народаў.

**ЯЗЭП ТРУСЕВІЧ**
**намеснік старшыні**
**ВП ТППР**

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

# III
# НА ХВАЛЯХ ЖЫЦЦЯ

## Летапіс БГКТ 1982—1983

22.VI.1982 У Галоўным праўленні БГКТ адбылася сустрэча прадстаўніка Саюза савецкіх таварыстваў дружбы і культурнай сувязі з заграніцай у Польшчы д-ра А. Каўко і сакратара Ваяводскага праўлення ТППР М. Альшэўскай-Трахімяк з працаўнікамі БГКТ і „Нівы".
Пасля спаткання др А. Каўко разам з М. Альшэўскай-Трахімяк і К. Майсенем наведалі Дуброўшчыну, сустрэліся там з актывам ТППР і ўсклалі вянок на магілу Героя Савецкага Саюза Грыгорыя Кунавіна.

22.VI.1982 Адбыўся сход гуртка БГКТ у Бельску. Была асаблівая нагода: гурток атрымаў сваё памяшканне. На сходзе закранута было шмат спраў, звязаных з актывізацыяй дзейнасці бельскага гарадскога гуртка БГКТ і гурткоў у раёне. Гурток выступіў з прапановай павышэння членскіх складчын БГКТ.

27.VII.1982 У Беластоцкім парку Звярынец адбыўся ўрачысты канцэрт, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Я. Купалы і Я. Коласа. З мастацкай часткай выступілі бельскія „Васілёчкі", самадзейны эстрадны калектыў Дома культуры і працаўнікоў аховы здароўя з Бельска, калектыў песні і танца „Зязюлькі", а таксама Аля і Люба Гаўрылюк з беластоцкага гуртка БГКТ. Кніжкі свае падпісвалі Віктар Швед і Ян Чыквін.

11.VII.1982 Пад лозунгам 100-ай гадавіны з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа адбыўся народны фэст у Гарадку. На пачатку выступіў з дакладам старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік, пасля прэзас СКР у Гарадку Рыгор Рагач. У мастацкай частцы выступілі



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011




*Самадзейны мастацкі калектыў са Старога Корніна. Фота М. Шаховіча.*

калектывы з Вялікіх Тыневіч, што ў Нараўскай гміне, Курашава, што ў Чыжоўскай гміне, і Гарадка.

26.VII.1982 Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ з задавальненнем прыняў „Дэкларацыю ў справе Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння" і заявіў аб гатоўнасці ўдзельнічаць у працах Часовай рады Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння.

17.VIII.1982 Пасля канікулаў сабралася рада хору „Васілёчкі", якая вырашыла развучваць новыя песні, пераважна нашыя народныя з ваколіц Бельска Падляшскага і Гайнаўкі.

30.VIII.1982 Адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Галоўнай мэтай пасяджэння былі справы, звязаныя з навучаннем беларускай мовы ў пачатковых школах Беласточчыны ў беларускіх асяроддзях. Актуальны стан беларускага школьніцтва прадставіў старшыня галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ Міхась Хмялеўскі.

5.IX.1982 Бельскі хор „Васілёчкі" даў канцэрт на дажынках у Ягадніках.

9.IX.1982 Адбылося пасяджэнне праўлення гарадскога гуртка БГКТ у Беластоку, на якім былі абмеркаваны святкаванне 100-ай гадавіны з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа, а таксама арганізацыйныя справы гуртка.



12.IX.1982 У Бельску адбыўся сход гуртка БГКТ, на якім была выбрана рада клуба і прыдзелены актывістам для абслугі паасобныя гурткі БГКТ у раёне.

12.IX.1982 Харавыя калектывы БГКТ з Аўгустова і Кнарыд выступілі на гмінных дажынках у Бельску.

19.IX.1982 Адбылося пасяджэнне праўлення гуртка БГКТ у Паўднёвым Востраве, на якім абмеркаваны былі справы актывізацыі дзейнасці гуртка.

19.IX.1982 У клубе БГКТ у Бельску адбылося спатканне мясцовага актыву БГКТ з моладдзю, на якім былі закрануты справы належнага выкарыстання новага памяшкання. Пастанавілі арганізоўваць культурна-асветныя мерапрыемствы.

22.IX.1982 Адбылася сустрэча педагагічных рад школ у Вульцы Нурэцкай і Клюковічах з сакратаром ГП БГКТ К. Майсенем і інструктарам ГП М. Вішанкам у справе навучання беларускай мовы.

26.IX.1982 Адбылося пасяджэнне выдавецкай секцыі ГП БГКТ. Быў абмеркаваны план „Беларускага календара на 1984 год" і бягучыя выдавецкія справы.

27.IX.1982 Праходзіла пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Была праведзена ацэнка рэалізацыі пастаноў IX з'езду БГКТ.

2.X.1982 Адбыўся сход этнаграфічнай секцыі ГП БГКТ. Прысутныя выбралі старшынёй секцыі д-ра Уладзіміра Юзвюка Закранута было пытанне аб падрыхтоўцы этнаграфічнага альбома, аб ушанаванні памяці пра пабыўку Я. Купалы і Я. Коласа ў Беластоку і падрыхтоўцы мемарыяльных дошак, ушанаванні памятных месц і выдатных беларусаў, звязаных з беларускім прагрэсіўным рухам на Беласточчыне. Удзельнікі пасяджэння выбралі камісію, якая зоймецца праблемамі занікання некаторых беларускіх назваў мясцовасцей на Беласточчыне.

3.X.1982 Адбылася сустрэча кіраўніцтва ГП БГКТ з I сакратаром Ваяводскага камітэта ПАРП тав. С. Завадзінскім, на якой абмяркоўвалася далейшае развіццё дзейнасці БГКТ.

5.X.1982 Камісія асветы ГП БГКТ, якую ўзначальвае Янка Зенюк, на сваім пасяджэнні абмяркоўвала справу склікання ў лістападзе нарады настаўнікаў беларускай мовы, разгледжана таксама была рэалізацыя прапаноў ГП, накіраваных у мінулым годзе да асвет-



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

ных улад, а звязаных з беларускім школьніцтвам.

10.X.1982 Бельскі хор БГКТ „Васілёчкі“ пад мастацкім кіраўніцтвам Сяргея Лукашука выступіў з канцэртам у Гарадку.

10.X.1982 З нагоды Дзён беларускай літаратуры ў Польшчы ў 8.05 па 4 праграме Польскага радыё ў Беластоку ішла перадача на тэму беларускага руху ў Польшчы. Аб дзейнасці аб'яднання „Белавежа“ гаварылі Ян Чыквін, Сакрат Яновіч і Міхась Шаховіч.

10-17.X.1982 У нашай краіне праходзілі Дні беларускай літаратуры. Гасцявала ў нашай краіне дэлегацыя з Беларусі. Яе ўзначаліў вядомы беларускі паэт, старшыня Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Максім Танк. У складзе савецкай дэлегацыі былі Леанід Сарвіра, Вечаслаў Адамчык, Анатоль Грачанікаў, Іван Чыгрынаў і Адам Мальдзіс.

15.X.1982 Прыбылі на Беласточчыну ў рамках Дзён беларускай літаратуры Максім Танк, Іван Чыгрынаў і Анатоль Грачанікаў. Прыехаў таксама з імі саветнік Пасольства СССР у Польшчы А. Каўко. Яны сустрэліся з актывам ТППР, які ўзначаліў яго старшыня К. Дунай, і актывам ГП БГКТ са старшынёй М. Самоцікам. У сяброўскай гутарцы беластоцкі ваявода пазнаёміў гасцей з гаспадарчымі і грамадскімі справамі Беласточчыны, а старшыня ГП БГКТ расказаў пра дзейнасць, дасягненні і цяжкасці ў працы нашай арганізацыі.

На спатканні з сакратарамі ВК ПАРП С. Завадзінскім і М. Козакам сяброўская размова пашырылася да абмеркавання, як дапамагчы БГКТ у справах забеспячэння нашых ліцэяў падручнікамі па беларускай літаратуры і мастацкай літаратурай, павелічэння выдання твораў беларускіх пісьменнікаў Беласточчыны, набыцця беларускіх народных касцюмаў для нашых мастацкіх калектываў і гэтак далей...

15.X.1982 Адбыліся вельмі цікавыя сустрэчы нашых гасцей з Беларусі ў бельскім беларускім ліцэі імя Б. Тарашкевіча, у Доме культуры „Гурнік“ у Гайнаўцы, а таксама ў Нараўцы.

16.X.1982 У бельскім клубе БГКТ адбылася сустрэча з Сакратам Яновічам і Міхасём Шаховічам. На сустрэчу прыйшло многа моладзі з Бельска і навакольных вёсак. Пасля аўтарскай сустрэчы і дыскусіі на тэму іх творчасці былі арганізаваны музыкі.

17.X.1982 У памяшканні Ваяводскага праўлення ТППР у Беластоку адбылося ўрачыстае адкрыццё культурна--асветнага сезона. Прынялі ў ім удзел актывісты нашай арганізацыі, прапагандысты культурнай дзейнасці ў вясковым і гарадскім асяроддзях. Аб дасягненнях мінулага года паінфармаваў прысутных старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік. У час дыскусіі актывісты БГКТ указалі на некаторыя недахопы ў працы таварыства, якіх неабходна пазбыцца. Пасля заканчэння дыскусіі, прысвечанай культурна-асветным справам БГКТ, выступіў Георгій Грэкаў, лектар ЦК КПБ, з дакладам на тэму 60-годдзя СССР. Затым быў паказаны фільм, прысвечаны Якубу Коласу.



19.X.1982 Адбыліся бацькоўскія сходы з удзелам штатных працаўнікоў ГП БГКТ у школах у Клюковічах і Вульцы Нурэцкай (гміна Нурэц), на якіх бацькі выказалі жаданне, каб іх дзеці вучыліся роднай мове.

20.X.1982 У тэатры імя А. Вянгеркі ў Беластоку адбыўся ўрачысты канцэрт Дзяржаўнага народнага хору БССР.

21.X.1982 Дзяржаўны народны хор БССР выступіў з канцэртам у Бельску і Гайнаўцы.

22.X.1982 Адбыўся сход актыву лектарскай секцыі ГП БГКТ. Прысутныя выбралі кіраўніком секцыі Віктара Рудчыка — журналіста „Нівы“. Былі закрануты справы ажыццяўлення статутовай дзейнасці БГКТ у галіне прапаганды.

23.X.1982 Падставовая школа ў Пашкоўшчыне (гміна Орля) арганізавала ўрачыстасць, прысвечаную 100-ай гадавіне з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Я. Купалы і Я. Коласа. На яе былі запрошаны нашы пісьменнікі Сакрат Яновіч і Міхась Шаховіч, якія чыталі свае творы. Пасля адбылася мастацкая частка — мантаж вершаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, пераплеценых беларускімі песнямі.

27.X.1982 Адбылася нарада інспектараў асветы і выхавання, а таксама дырэктараў гмінных школ. Візітатар Кураторыі асветы і выхавання Здзіслаў Лейвода абмяркоўваў заданні школ у арганізаванні навучання беларускай мовы ў нашым ваяводстве.

28.X.1982 У варшаўскім клубе БГКТ журналіст „Нівы“ Мікалай Гайдук правёў лекцыю аб прагісторыі і пачатковай запісанай гісторыі беларускага народа.

29.X.1982 У памяшканні ГП БГКТ адбылося другое пасяджэнне гістарычнай секцыі ГП. На ім абмяркоўваліся тэмы для кніжнага выдання, прысвечанага 30-ай гадавіне нашай арганізацыі, якая будзе адзначацца ў 1986 годзе.

3.XI.1982 Пад старшынствам Мікалая Самоціка адбылося па-



© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

сяджэнне камісіі культуры ГП БГКТ. На ім быў зацверджаны план працы на бягучы культурна-асветны год і ў тым ліку правілы конкурсаў драматычных калектываў і „Беларуская песня — 83"

4.XI.1982 Адбылася вечарына пенсіянераў пры гарадскім гуртку БГКТ у Беластоку, прысвечаная 65-ай гадавіне Вялікага Кастрычніка. На гэтую тэму выступіў з прамоваю інструктар ГП БГКТ Антон Міранович.

6.XI.1982 У Кашаліне стварыўся гурток БГКТ. Членскія дэкларацыі падпісала восем асоб, якія пасля выбралі праўленне гуртка. Потым адбылася аўтарская сустрэча Сакрата Яновіча і Міхася Шаховіча.

6.XI.1982 У памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку адбыўся заснавальніцкі сход студэнцкага гуртка БГКТ. Прынялі ў ім удзел старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік, сакратар ГП Кастусь Майсеня і каля двухсот прадстаўнікоў студэнтаў і навуковых працаўнікоў вышэйшых навучальных устаноў Беластока.

7.XI.1982 Адбылася падобная аўтарская сустрэча С. Яновіча і М. Шаховіча ў клубе БГКТ у Гданьску.

8.XI.1982 Аматарскі мастацкі калектыў з бельскага беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча выступіў са слоўна-музычным патрыятычным мантажом у Доме культуры ў Гарадку.

28.XI.1982 Харавы калектыў БГКТ „Васілёчкі" з Бельска даў два канцэрты ў Кляшчэлеўскай гміне, у вёсках Дашы і Сухавольцы.

2.XII.1982 Гурток БГКТ № 2 (студэнцкі) у Беластоку арганізаваў у памяшканні ГП БГКТ цікавую сустрэчу з удзельніцай польскай экспедыцыі ў Гімалаі, альпіністкай Аннай Акапінскай з Варшавы.

2.XII.1982 Адбыўся групавы выезд дзеячоў БГКТ у Міхалоўскую гміну. Сакратар ГП К. Майсеня сустрэўся з членамі гуртка БГКТ у Рыбаках, інструктар ГП Ірына Васілюк — з членамі гуртка ў Ялоўцы, інструктар Антон Міранович быў у Шымках і расказаў прысутным аб Савецкай Беларусі, аб яе сучасным і мінулым. Сакрат Яновіч адбыў аўтарскую сустрэчу ў Новай Волі.

3.XII.1982 Як актывісты БГКТ журналісты „Нівы" мелі сустрэчу ў Бельскай гміне. Віктар Рудчык быў у вёсцы Аўгустова, расказаў аб працы БГКТ і рэдакцыі „Ніва", а таксама адказваў на шматлікія пытанні. Міхась Шаховіч і Юрка Трачук спаткаліся з жыхарамі Левак і як журналісты і як літаратары. Вера Валкавыцкая па запрашэнні актыву бельскага гуртка спаткалася з ім. Прысутныя абмяняліся думкамі адносна ролі і дзейнасці Беларускага таварыства ў беларускім асяроддзі.

10.XII.1982 Прайшлі аўтарскія сустрэчы Алеся Барскага ў наступных мясцовасцях; у Орлі — з настаўніцкім калектывам, у Гайнаўцы — з актывам БГКТ і Міклашэве (гміна Нараўка) з жыхарамі вёскі.

10.XII.1982 Адбылася аўтарская сустрэча Міхася Шаховіча ў Вульцы Нурэцкай. Прысутны быў Мікола Лобач, працаўнік Акруговага музея ў Беластоку. Ён гаварыў аб патрэбе збірання экспанатаў матэрыяльнай культуры.

10.XII.1982 Прайшла аўтарская сустрэча Сакрата Яновіча ў Мілейчыцкай школе. Штатны працаўнік ГП БГКТ Антон Міранович расказаў прысутным аб гісторыі Беластоцкай зямлі. У той жа дзень Антон Міранович у Ставішчах (гміна Чаромха) выступіў на тэму гісторыі праваслаўя.

11.XII.1982 Міхась Шаховіч правёў аўтарскую сустрэчу ў Вялікіх Тыневічах, Сакрат Яновіч — у Нарве, а ў Трасцянцы — Юрка Трачук.

20.XII.1982 У нашай краіне была створана Нацыянальная рада



*Навука танцаў у ГП БГКТ. 1983 г.*




© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

культуры. У склад Рады ўвайшоў член Прэзідыума ГП БГКТ, загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, добра вядомы нам усім пісьменнік Аляксандр Баршчэўскі.

4.I.1983 Адбылося пасяджэнне праўлення гайнаўскага гуртка БГКТ, на якім былі абмеркаваны арганізацыйныя справы, звязаныя з падрыхтоўкай традыцыйнага карнавальнага балю.

14.I.1983 Дэлегацыя ГП БГКТ у наступным складзе: сакратар ГП К. Майсеня і члены ГП Х. Галёнка і М. Гайдук — разам з прадстаўнікамі Украінскага таварыства сустрэліся ў Міністэрстве культуры з генеральным захавальнікам помнікаў культуры др Б. Рымашэўскім, дырэктарам Упраўлення музеяў і аховы помнікаў культуры мгр. інж. арх. Я. Цыдзікам і намеснікам дырэктара др. Ф. Мідурам, з якім правялі размову аб рэактываванні беларускага музея, а таксама ў справе аховы помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў.

15.I.1983 У Гайнаўскім доме культуры адбыўся міжраённы агляд калядніікаў і „звёзд". Прыехала 13 калядных груп і 4 харавыя калектывы — хрысціян-баптыстаў з Гайнаўкі, акадэмічны праваслаўны з Беластока, хор з Гайнаўскай праваслаўнай парафіі і хор БГКТ, што пры Гайнаўскім доме культуры. Выступілі каляднікі з Грабаўца, Гарадка, Тыневіч Вялікіх, Новага Корніна, Трасцянкі, Белавежы, Ляшукоў, Нараўкі і з Дубіч.

15.I.1983 Адбыліся традыцыйныя навагодне-карнавальныя балі ў Варшаве, Беластоку і Гайнаўцы, арганізаваныя гурткамі БГКТ.

22.I.1983 У Бельску Падляшскім у Доме настаўніка адбылася нарада, прысвечаная справам навучання беларускай мовы. Прынялі ў ёй удзел: кіраўнік аддзела асветы Ваяводскага камітэта ПАРП С. Сэнкоўскі, візітатар Міністэрства асветы і выхавання Ю. Крысінскі, віцэ-куратар Беластоцкай куратарыі З. Камяноўскі, намеснік старшыні ГП БГКТ Я. Зенюк, сакратар ГП БГКТ К. Майсеня, кіраўнік Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта А. Баршчэўскі, прадстаўнікі цэнтра дасканалення настаўнікаў, аддзела ўнутраных спраў Ваяводскага



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

упраўлення, настаўнікі беларускай мовы з усяго ваяводства, дырэктары гмінных школ.

25.I.1983 Праўленне варшаўскага гуртка БГКТ арганізавала навагоднюю ёлку для дзяцей членаў гуртка.

27.I.1983 Адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ з удзелам усіх штатных працаўнікоў. Была разгледжана справаздача з дзейнасці Беларускага таварыства за мінулы год, а таксама справаздача аб выкананні бюджэту. Затым старшыня ГП М. Самоцік прадставіў праект плана справаздачна-выбарнай кампаніі і запрапанаваў асабовы склад статутовай камісіі, якая зоймецца падрыхтоўкай новага статута БГКТ.

28.I.1983 Быў праведзены агульны сход варшаўскага гуртка БГКТ. Праўленне гуртка зрабіла справаздачу аб дзейнасці за 1982 г., у якой паінфармавала пра ажыўленне працы гуртка, дзякуючы актыўнаму ўдзелу студэнцкай і працоўнай моладзі. На сходзе прысутнічаў сакратар ГП БГКТ К. Майсеня.

29.I.1983 Харавы калектыў БГКТ „Дубочкі" з Дубяжына даў канцэрт у пачатковай школе № 3 у Бельску, у якой усе дзеці навучаюцца роднай мове.

2.II.1983 Гурток БГКТ № 2 у Беластоку (студэнцкі) арганізаваў сустрэчу з Сакратам Яновічам, які правёў гутарку на тэму „Перыяд уніі ў гісторыі Беларусі".

3.II.1983 Пенсіянеры, згуртаваныя ў гарадскім гуртку БГКТ у Беластоку, арганізавалі ў клубе БГКТ цікавую сустрэчу з юрыстам В. Склубоўскім, які гаварыў аб новым законе аб пенсіях. Пасля адбылася генеральная рэпетыцыя драмгуртка, які падрыхтаваў дзве п'есы: „Мікітаў лапаць" і „Паўлінку".

4.II.1983 У клубе БГКТ, як у кожную пятніцу і панядзелак, адбываліся заняткі дзіцячага танцавальнага гуртка, які вядзе харэограф Барыс Жэшка.

5.II.1983 У Кнарыдах адбылася ўрачыстая вечарына. Мясцовы харавы калектыў атрымаў назву „Бярозкі".

10.II.1983 У Доме прэсы ў Беластоку адбыўся чарговы штогадовы з'езд карэспандэнтаў „Нівы". Прыехала 16 асоб. На з'ездзе выступіла В. Валкавыцкая, якая вядзе ў „Ніве" супрацоўніцтва з карэспандэнтамі. Абмяркоўваліся датэтуляшнія дасягненні і недахопы ў працы карэспандэнтаў і „Нівы", вызначаліся заданні на будучыню, былі сімвалічныя кніжныя ўзнагароды.

11.II.1983 У памяшканні ГП БГКТ актывісты Беларускага таварыства выказалі шчырае жаданне актыўна ўклю-



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011



*Навука танцаў у ГП БГКТ. 1983 г.*

чыцца ў дзейнасць ПРОН. Шмат галасоў было за тым, каб пры Галоўным праўленні БГКТ утварыць групу актывістаў ПРОН, якая магла б пры дапамозе ПРОН-у вырашаць шматлікія праблемы БГКТ.

11.II.1983 Галоўная рэвізійная камісія БГКТ разгледзела на сваім пасяджэнні грамадскую дзейнасць таварыства ў мінулым годзе, а таксама ход выконвання супольных установак ГП і Сакратарыята Ваяводскага камітэта ПАРП.

13.II.1983 У Гайнаўцы адбылася нарада старшынь гурткоў БГКТ гайнаўскага раёна, на якой абмеркаваны былі дасягненні і недахопы ў нашай арганізацыі.

13.II.1983 На пасяджэнні гістарычнай секцыі ГП БГКТ былі разгледжаны паасобныя тэмы для падрыхтоўкі матэрыялаў у памятную кнігу з нагоды 30-ай гадавіны Беларускага таварыства.

14.II.1983 Адбыўся сход гуртка БГКТ у Сямяцічах з удзелам сакратара ГП К. Майсені і старшыні рэвізійнай камісіі БГКТ М. Хмялеўскага, якія расказалі прысутным аб актуальных праблемах працы Беларускага таварыства.

20.II.1983 У бельскім Доме культуры адбыўся раённы агляд „Беларуская песня — 83".

20.II.1983 Праходзіла пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ, прысвечанае абмеркаванню заданняў на час справаздачна-выбарнай кампаніі, а таксама



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

арганізацыйныя справы. Пленум паклікаў статутовую камісію ў складзе: А. Баршчэўскі, М. Бушко, Я. Зенюк, А. Іванюк, А. Карпюк, В. Склубоўскі і М. Хмялеўскі. Наступілі таксама змены ў БГКТ. У склад Галоўнага праўлення ўвялі новых членаў: Яўгена Валкавыцкага, Уладзіміра Карнілюка, Васіля Сакоўскага, Андрэя Сцепанюка і Лявона Тарасевіча.

21.II.1983 У пачатковай школе ў Рагачах адбылася ўрачыстасць, прысвечаная 65-ай гадавіне Савецкай Арміі. На ўрачыстасці прысутнічалі савецкі афіцэр Валерыян Замяцін, прадстаўнікі мясцовых улад — I сакратар гміннага камітэта ПАРП у Мілейчыцах Віталіс Луба, начальнік гміннага ўпраўлення Мікалай Бартнічук, інструктар ГП БГКТ Міхась Вішанка, а таксама былы салдат Савецкай Арміі Мікалай Турык. У мастацкай частцы выступілі вучні рагачоўскай школы з савецкімі і польскімі песнямі і вершамі.

27.II.1983 У Гайнаўцы адбыўся супольны раённы агляд савецкай песні (арганізаваны ТППР) і „Беларускай песні — 83" (арганізаваны Беларускім таварыствам). У аглядзе прыняло ўдзел 137 чалавек.

2.III.1983 Пад старшынствам Міхася Байко адбылося пасяджэнне праўлення гуртка БГКТ у Гайнаўцы, на якім прыдзелены былі актывістам БГКТ паасобныя гурткі да абслугі і дапамогі ім у працы. Абмеркаваны таксама былі вынікі раённага агляду „Беларуская песня — 83".

6.III.1983 У зале кінатэатра „Форум" у Беластоку адбыўся фінальны агляд „Беларуская песня — 83", які арганізавала БГКТ. У ім прыняло ўдзел 20 калектываў, 11 салістаў і 7 дуэтаў (170 удзельнікаў).

12.III.1983 Самадзейны харавы калектыў з Меляшкоў, што ў гміне Гарадок, святкаваў сваю 10-ую гадавіну дзейнасці. Гучная ўрачыстасць адбылася з удзелам прадстаўнікоў ваяводскіх і гмінных улад, Ваяводскага Дома культуры і ГП БГКТ. Калектыў атрымаў дыпломы і ўзнагароды. За ахвярную працу і ўклад у развіццё культуры асяроддзя заслужаныя спявачкі Ніна Навіцкая, Галена Шыкуць і Вера Ярмолік узнагароджаны сярэбранымі адзнакамі „Заслужаны для Беласточчыны". У калектыве 22 асобы, ён даў 72 канцэрты на Беласточчыне.

13.III.1983 Адбыўся сход літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Член аб'яднання Янка Жамойцін выступіў з



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



*Самадзейны мастацкі калектыў з Волькі Тэрахоўскай. Фота М. Шаховіча.*

дакладам на тэму творчасці „белавежцаў“ за перыяд апошніх двух гадоў. Пасля ў дыскусіі гаварылася аб рэгулярным выдаванні альманахаў „Белавежа“, аб апецы над вучнёўскім літаратурным асяроддзем пры беларускіх ліцэях у Гайнаўцы і ў Бельску. Абмяркоўвалася таксама справа святкавання 25-годдзя літаратурнага аб'яднання „Белавежа“. Вырашана было падрыхтаваць літаратурны дадатак да „Нівы“, прысвечаны творчасці „белавежцаў“ на працягу чвэрці стагоддзя.

13.III.1983 Драматычны калектыў гарадоцкага гуртка БГКТ у Беластоку, які працуе пад кіраўніцтвам Янкі Крупы, выступіў з дзвюма п'есамі: „Паўлінкай“ Я. Купалы і „Мікітавым лапцем“ М. Кудзелькі ў Пашкоўшчыне і Аўгустове (гміна Бельск).

13.III.1983 У Бельску адбылося спатканне актыву бельскага раёна і горада Бельска. На ім была праведзена ацэнка актуальнага стану дзейнасці БГКТ уключна з усімі недахопамі. У дыскусіі гаварылася аб заданнях у справаздачна-выбарнай кампаніі БГКТ. На сходзе прысутнічаў намеснік старшыні ГП Янка Зенюк.



16.III.1983 У Доме прэсы ў Беластоку адбылася сустрэча з пісьманосцамі — заслужанымі пашыральнікамі падпіскі на „Ніву“ на Беласточчыне. У авангардзе іх у 1982 годзе былі: Ян Марчук з Рыбалаў (123 падпіскі), Уладзімір Васільчык з Нараўкі (103), Мікалай Панфілюк з Дубіч Царкоўных (66), Мікалай Лясота з Нараўкі (58), Яўген Весялоўскі з Пасынкаў (57), Віктар Селеванюк з Трасцянкі (53), Уладзімір Весялоўскі з Пасынкаў (52). За ахвярную працу пісьманосцам падзякавала і ўручыла ўзнагароды Ада Чэчуга — сакратар рэдакцыі „Ніва“. У сустрэчы з пісьманосцамі прынялі ўдзел таксама намеснік дырэктара Ваяводскай паштовай управы ў Беластоку Уладзімір Прахарук і кіраўнік выдавецкага аддзела пры Беластоцкім прэсавым выдавецтве Юзэф Макавецкі.

18.III.1983 У Белавежы рэактывеваўся гурток БГКТ, які на сваім сходзе абмеркаваў магчымасці адчувальнай культурна-грамадскай дзейнасці ў сваім асяроддзі.

18.III.1983 У вясковым клубе ў Ласінцы адбыўся школьны конкурс беларускай песні. У ім прынялі ўдзел дзеці з пачатковай школы ў Ласінцы.

19.III.1983 Адбылася сустрэча кіраўніцтва ГП БГКТ з прэзасам Ваяводскага камітэта ЗСЛ Рышардам Нівінскім і сакратаром Янам Бельскім. Абмеркаваны былі справы далейшага супрацоўніцтва паміж ЗСЛ і БГКТ.

20.III.1983 Драматычны калектыў гарадскога гуртка БГКТ № 1 у Беластоку ў памяшканні ГП выступіў з мантажом „Наша сям'я“.

21.III.1983 У Гарадку актывісты гуртка БГКТ абмеркавалі заданні ў сувязі з наступаючай справаздачна-выбарнай кампаніяй у гуртках. Кожны з актывістаў прыняў на сябе абавязак абслужыць па адным гуртку БГКТ у Гарадоцкай гміне. У сходзе прынялі ўдзел старшыня ГП Мікалай Самоцік і інструктар ГП Антон Мірановіч.

24.III.1983 У будынку беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім адбылася перыядычная канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы пачатковых школ бельскай акругі.

24.III.1983 У клубе БГКТ у Беластоку выступіў з дакладам намеснік дырэктара Інстытута гісторыі філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку др Юзэф Марошак на тэму „Этнічныя адносіны ў XVI—XVIII стагоддзях“.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

1.IV.1983 У жыллёвым кааператыве ў Гайнаўцы адбылася арганізаваная гайнаўскім гуртком БГКТ сустрэча з журналістам „Нівы“ Мікалаем Гайдуком на тэму „Гісторыя Падляшскай зямлі, асабліва Гайнаўшчыны, у VII—XIII стагоддзях“. На сустрэчы прысутнічаў сакратар ГП К. Майсеня і інструктар ГП у Гайнаўцы М. Навіцкі. Было каля 30 асоб.

6.IV.1983 Адбыўся арганізацыйны сход гуртка БГКТ у Чаромсе. 14 асоб выказала жаданне ўступіць у рады Беларускага таварыства, яны падпісалі членскія дэкларацыі і аплацілі членскія складчыны за бягучы год. Выбралі таксама 5-асабовае праўленне гуртка. Удзельнікі сходу абмеркавалі план працы гуртка і пастанавілі дапамагчы ў правядзенні справаздачна-выбарнай кампаніі ў чатырох суседніх гуртках БГКТ у Чаромхаўскай гміне. У сходзе прыняў удзел сакратар ГП Кастусь Майсеня.

6.IV.1983 У Мілейчыцах адбылася нарада раённага актыву БГКТ. У ёй прыняў уздзел I сакратар гміннага камітэта ПАРП у Мілейчыцах, член ГП БГКТ Віталіс Луба. Інфармацыю аб дагэтуляшняй дзейнасці Беларускага таварыства зрабіў інструктар ГП Міхась Вішанка. Прысутныя на нарадзе актывісты закранулі справу навучання беларускай мовы ў школах і шырэйшага развіцця культурнай дзейнасці ў беларускім асяроддзі, звярнулі ўвагу на недастатковыя фінансавыя сродкі на культурную дзейнасць.

12.IV.1983 Адбылося пасяджэнне камісіі культуры ГП БГКТ, на якім абмеркаваны былі справы дапамогі ў далейшым развіцці самадзейнага руху з беларускім рэпертуарам. Прысутны на пасяджэнні дырэктар Ваяводскага дома культуры Казімір Дэркоўскі абавязаўся фінансаваць выданне беларускага песенніка і курс для кіраўнікоў аматарскіх харавых калектываў.

14.IV.1983 У клубе БГКТ у Варшаве адбылося дыскусійнае спатканне членаў і сімпатыкаў мясцовага гуртка БГКТ на тэму „Пераклады на польскую мову вершаў класікаў беларускай паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа“. Спатканне вёў паэт Алесь Барскі.

30.IV.1983 У клубе БГКТ у Бельску Падляшскім адбыўся фінал чытальніцкага конкурсу „Жыццё і творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа“, які быў аб'яўлены Галоўным праўленнем БГКТ, рэдакцыяй „Ніва“ і Ваяводскай публічнай бібліятэкай у лістападзе 1981 г. У фінале ўдзельнічала 20 асоб. Два раўназначныя першыя месцы занялі Валянцін Сельвясюк з Махнатага і Янка Іванюк з Бельска; два другія — Яўгенія Шымчук з Грэдалёў і Мікола Ваўранюк з Тыневіч Вялікіх; два трэція месцы — Аля Сідорская з Пілікаў і Віктар Грыгарук з Дубічаў Асочных.



**ЯЎГЕНІЯ ПАЛОЦКАЯ**

# Дзейнасць ГКТЯ ў Польшчы

Дзейнасць Грамадска-культурнага таварыства яўрэяў у Польшчы пачалася ў 1944 годзе, калі на вызваленым кавалачку роднай зямлі, у Любліне, быў створаны Цэнтральны камітэт яўрэяў у Польшчы. Гэта быў пачатак рэалізавання ленінскай нацыянальнай палітыкі нобаўтворанай народнай дзяржавай, якая ў выдадзеным Маніфесце ўрачыста аб'явіла аб роўных правах для ўсіх сваіх грамадзян, у тым ліку і для нацыянальных меншасцей, пражываючых у Польшчы.

Вайна яшчэ не скончылася, а ў вызваленыя польскія гарады і вёскі, на заходнія і паўночныя землі прыбывалі ўжо новыя асаднікі, а сярод іх шмат яўрэйскіх сем'яў. Прыбывалі яны з войскам з лагераў смерці, з партызанскіх лясоў і зямлянак. Ім патрэбна была ўсебаковая дапамога.

Для арганізавання гэтай дапамогі створана была цэлая сетка яўрэйскіх камітэтаў рознай ступені. Узніклі яны ў Вроцлаве і ў тадышнім Вроцлаўскім ваяводстве — у Дзержанёве, Валбжыху, Свідніцы, Легніцы, Жарах і іншых гарадах Ніжняга Шлёнска. Арганізаваны былі таксама яўрэйскія камітэты ў Шчэціне, Гданьску, у многіх гарадах Верхняга Шлёнска, у Кракаве і Любліне, усюды там, дзе ствараліся большыя яўрэйскія асяроддзі. Цэнтральны камітэт яўрэяў у Польшчы быў у той час ужо перанесены ў вызваленую Варшаву.

Прыплыў яўрэйскага насельніцтва павялічыўся пасля заканчэння вайны. Людзі вярталіся з розных бакоў свету, асабліва з Савецкага Саюза, дзе знайшлі гасціну і апеку ў час шалеючага пажару вайны. Існуючыя яўрэйскія камітэты, дзякуючы ўсебаковай дапамозе дзяржавы, заапекаваліся прыбываючым яўрэйскім насельніцтвам: дапамагалі ў атрыманні жылых памяшканняў і ў загаспадароўванні, створана была цэлая сетка спулдзельняў працы, дапамагалі ў арганізаванні індывідуальных рамесніцкіх варштатаў, а на вёсцы — вясковых гаспадарак. Многіх ахвотных кіравалі на працу ў адраджаючуюся дзяржаўную гас-



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

падарку і адміністрацыю. Шмат увагі яўрэйскія камітэты прысвяцілі маладому пакаленню Для іх арганізаваны былі школы, інтэрнаты. Інтэрнаты асабліва былі патрэбны сотням сірот — ахвяр гітлераўскага фашызму. Арганізоўваліся тады таксама пляцоўкі аховы здароўя.

Пасля забеспячэння скромных сацыяльна-бытавых умоў яўрэйскаму грамадству, задумаліся аб стварэнні ўмоў для культурнага развіцця. Тады была створана культурная ўстанова, названая Яўрэйскім таварыствам культуры і мастацтва. Гэта была самастойная ўстанова, якая занялася арганізаваннем сеткі клубаў і святліц у мясцовасцях, дзе пасялілася яўрэйскае насельніцтва. Яна арганізавала розныя культурна-асветныя мерапрыемствы, ствараючы ўмовы для культурнага правядзення часу. Зроблены былі першыя крокі ў развіцці мастацкай самадзейнасці. У той час існаваў ужо вядомы ў свеце Яўрэйскі тэатр і Яўрэйскі гістарычны інстытут. Выходзілі газеты і кнігі на яўрэйскай мове. Развівалася дзейнасць Яўрэйскага таварыства культуры і мастацтва, якое спрыяла стварэнню новага стылю культурнай працы яўрэяў у Польшчы.

Пасля выканання сваіх першых заданняў, Цэнтральны камітэт яўрэяў у Польшчы і Яўрэйскае таварыства культуры і мастацтва вырашылі стварыць адзіну яўрэйскую арганізацыю. На канферэнцыі 29 кастрычніка 1950 года ўтворана было Яўрэйскае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы, якое на аснове Маніфесту ПКВН і фундаментальных канстытуцыйных правоў ПНР паставіла перад сабою заданне развіваць грамадскую актыўнасць яўрэйскага насельніцтва, захоўваць яго культуру, арганізоўваць ідэйна-выхаваўчую дзейнасць у духу інтэрнацыяналізму і патрыятызму, уключаць яўрэяў у сацыялістычнае будаўніцтва і ў барацьбу за мір.

Дзейнічаючы такім чынам, Галоўнае праўленне і мясцовыя праўленні таварыства заўсёды кіраваліся прынцыпамі сацыялістычнай дэмакратыі, ахапляючы як найбольш членаў як раўнапраўных грамадзян, уносілі добраахвотны ўклад працы для дабра нашай айчыны. Выразам гэтага з'яўляецца прыналежнасць Таварыства да Фронту адзінства народу, актыўны ўдзел у агульнапольскіх акцыях ФАН і рэалізаванне яго заданняў у яўрэйскім асяроддзі.

Ва ўсебаковай дзейнасці Грамадска-культурнае таварыства яўрэяў кіруецца надзённымі патрэбамі сваіх членаў. Арганізуе для іх культурныя мерапрыемствы, семінары, даклады і лекцыі на розныя тэмы, запрашаючы лектараў з аддзелаў прапаганды ПАРП, з Таварыства распаўсюджвання ведаў, лектараў і вучоных Яўрэйскага гістарычнага інстытута і журналістаў. Важнае месца ў працы таварыства займаюць мясцовыя чытальніцкія гурткі, якія дапамагаюць у паглыбленні ведаў аб яўрэйскай літаратуры, арганізуюць літаратурныя сустрэчы, актывізуюць мясцовых лектараў, ствараюць магчымасці яўрэям з розных асяроддзяў сістэматычна сустракацца ў сапраўды сямейнай атмасферы і дыскутаваць на літаратурныя, грамадскія і актуальныя тэмы.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Багатая і align-разнабаковая праца ў клубах і святліцах таварыства. Тут сустракаюцца сталыя наведвальнікі на канцэртах і аглядах фільмаў, на пастаноўках Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра, а таксама акцёраў і мастацкіх калектываў польскіх сцэн. Тут адбываюцца лекцыі і даклады. Тут, што варта падкрэсліць, сустракаюцца працоўныя людзі, якія знаходзяць у клубах таварыства спакой і адпачынак.

Галоўнае праўленне і мясцовыя праўленні таварыства арганізуюць таксама ўрачыстасці асаблівага значэння. З вялікім піетызмам адзначаюцца гадавіны: гадавіна паўстання ў варшаўскім геце, дзяржаўныя святы, гадавіны пісьменнікаў і класікаў яўрэйскай літаратуры, гадавіны слаўных палякаў, а таксама шмат гадавін міжнароднага значэння, у тым і СССР. Характар, змест і якасць гэтых дзеянняў маюць не толькі свой уплыў на яўрэйскае насельніцтва ў Польшчы, але пабуджаюць да падобнай ініцыятывы прагрэсіўныя яўрэйскія кругі ў іншых краінах.

Быў час, калі шырэй дзейнічалі ў таварыстве калектывы мастацкай самадзейнасці. Гэты рух атрымаў выключнае месца ў




*Аматарскі калектыў ГКТЯ з Вроцлава.*



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

галіне яўрэйскага культурна-грамадскага будаўніцтва ў краіне. Колькасць удзельнікаў, дынаміка інсцэнізацый і канцэртаў, ідэйна-мастацкі ўзровень, прадстаўлены на яўрэйскіх і агульных фестывалях, добрыя месцы на фестывалях савецкай песні паказалі мастацкі самадзейны рух таварыства з добрага боку.

Таварыства за час сваёй дзейнасці выдала шмат кніжных пазіцый, якія ўвайшлі ў скарбніцу перадавой літаратурнай творчасці. Некаторыя з іх — гэта гістарычны дакумент страшных гітлераўскіх злачынстваў. Іншыя прадстаўляюць гісторыю яўрэяў у перыяд тысячагоддзя польскай дзяржавы. Выйшлі ў свет таксама творы класікаў яўрэйскай літаратуры, а ў кааперацыі з замежнымі выдавецтвамі публікацыі прагрэсіўных яўрэйскіх пісьменнікаў. Усе выдавецтвы таварыства распаўсюджваюцца ў тысячах экземпляраў у многіх яўрэйскіх асяроддзях па ўсім свеце.

Вялікай папулярнасцю ў яўрэйскім і польскім грамадстве карыстаецца прэсавы орган таварыства „Фолкс Штымэ" (Голас народу), выдаваны на дзвюх мовах. Газета праўдзіва і сістэматычна разглядае палітычна-грамадскія, эканамічна-гаспадарчыя і культурныя пытанні жыцця нашай краіны і ў цесным спалучэнні з гэтым — жыццё яўрэйскага насельніцтва. Адначасова газета шырэй паказвае праблемы міжнароднай палітыкі, справы яўрэяў на свеце, выказваючыся на тэму ўсіх спраў, якія ў даны момант знаходзяцца ў цэнтры яўрэйскай грамадскай думкі. Газета таварыства даходзіць да 36 краін свету.

Важнае месца ў культурным жыцці краіны займае Дзяржаўны яўрэйскі тэатр. Ён выступае ў розных кутках краіны і ўсюды прымаюць яго з энтузіязмам. Багаты рэпертуар прыгадвае гледачу мінулае і сённяшні дзень, пабуджае да задумы і захапляе гледача. Тэатр вельмі цэняць і за граніцай, дзе паказвае сябе як прадстаўнік польскіх яўрэяў.

Грамадска-культурнае таварыства яўрэяў у Польшчы цесна супрацоўнічае з Яўрэйскім гістарычным інстытутам, які на працягу многіх гадоў вядзе навуковыя даследаванні па гісторыі яўрэяў у Польшчы і па іх трагічным лёсе ў час гітлераўскай акупацыі. Вучоныя інстытута бываюць у клубах таварыства, дзе сваімі дакладамі дапамагаюць слухачам пазнаваць гісторыю яўрэяў у тысячагадовай гісторыі Польшчы. Працы інстытута выкарыстоўваюць вучоныя ўсяго свету.

У працы таварыства важнае месца займае гуманітарны элемент — апека над старымі, адзінокімі і хворымі. Створаныя для гэтага грамадскія камісіі дапамагаюць адзінокім і хворым членам таварыства.

За час сваёй амаль саракагадовай дзейнасці таварыства ўнесла значны ўклад у культурна-грамадскае жыццё нашай краіны. Асаблівую дзейнасць вяло і вядзе ў яўрэйскім асяроддзі. Гэта дацэньваюць палітычныя і адміністрацыйныя ўлады нашай краіны, дапамагаючы таварыству ў яго працы.





*Семінар дзеячоў ГП ГКТЯ і карэспандэнтаў „Фолкс-Штымэ".*

Патрыятычны рух нацыянальнага адраджэння знаходзіць поўную падтрымку Грамадска-культурнага таварыства яўрэяў у Польшчы, якое таксама ўключылася ў гэты рух як адно з яго звенняў.

**МАЎРЫЦЫ КАЙЛЕР**

# Настаўнікі роднай мовы

У падставовых школах у Гайнаўскай гміне беларускай мове навучаецца 95 працэнтаў усіх вучняў, у 1983/84 навучальным годзе ўсе вучні прыходзілі на ўрокі роднай мовы ў пачатковых школах у Барысаўцы, Махнатым і Новым Корніне, — паінфармаваў нас гмінны дырэктар школ Яўген Гарустовіч. — Школа ў Дубічах налічвае 144 вучні і 138 з іх прыходзіць на ўрокі роднай мовы, у Новым Беразове — 56 дзяцей з агульнай колькасці 79 і ў Арэшкаве — 102 са 114.

Ва ўспомненай гміне настаўнікі і вучні любяць і шануюць сваё роднае. Выхавацелі дбайна ўпайваюць дзецям любоў да



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

роднай мовы. Трэба ўмець у дзіцячых сэрцах разбудзіць прагу да ведаў, жаданне стаць добрым чалавекам і грамадзянінам. Вялікая місія настаўніка — выхаваць маладое пакаленне на ўдумлівых і разважлівых людзей.

Настаўнікі стараюцца зацікавіць вучняў мясцовым фальклорам, мясцовымі беларускімі абрадамі, звычаямі і традыцыямі. Ад падставовай школы таксама залежыць, ці вучань зможа вучыцца далей, дасканаліць родную мову.



Наведалі мы васьмікласную школу ў прыгожай беларускай вёсцы Дубінах. Заняткі па беларускай мове вядзе тут заслужаная, вопытная настаўніца роднай мовы Вольга Гарустовіч. Любіць яна сваю прафесію, любіць дзяцей, прадмет беларускай мовы, і гэтая любоў перадаецца дзецям на ўроках. Сама настаўніца дасканала карыстаецца беларускай мовай. Вучыць яна роднай мове вучняў ад чацвертага да восьмага класаў. Усе яны ахвотна вывучаюць мову бацькоў, і настаўніца гэтым асабліва задаволена. Мае яна добрую падрыхтоўку для навучання гэтага прадмета. Вольга Гарустовіч паспяхова закончыла аддзяленне беларускай філалогіі беластоцкай Настаўніцкай студыі, а затым — Варшаўскага універсітэта. Яе працавітасць, настойлівасць і лінгвістычныя здольнасці перамаглі ўсе перашкоды — дыпломная работа была ацэнена на выдатна.



*Выпускнікі першага курса беларускай філалогіі Настаўніцкай студыі ў Беластоку (1969 г.). У цэнтры дыр. І. Радзюкевіч і М. Тарасаў.*



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Самае каштоўнае ў настаўніцы — педагагічны вопыт, здабыты за 28 год педагагічнай дзейнасці. Яна добразычлівая, заўсёды ўмее ўшанаваць вучня, умее выклікаць у ім зацікаўленне да свайго прадмета. А ў навучанні роднай мове гэта вельмі важна.

Настаўніца прыдае вялікае значэнне класнаму чытанню. Сама яна прыгожа чытае. Эмацыянальнае і выразнае чытанне настаўніцай новага тэксту скіравана на ўдумлівае пранікание ў змест чытаемага, на больш поўнае і глыбокае асэнсоўванне яго. Дзеці ацэньваюць учынкі герояў у паасобных творах. Настаўніца звяртае ўвагу на правільнае вымаўленне, пастаноўку націскаў, захаванне паўз.

На ўроках беларускай мовы вучні чытаюць артыкулы з беларускіх газет і часопісаў: з „Нівы“ і „Зоркі“, „Беларусі“, „Вясёлкі“, „Бярозкі“. Варта дадаць, што ў Дубінскай школе вучні штогод купляюць найменш 60 беларускіх календароў.



*Пачатковая школа ў Дубінах. Фота Я. Целушэцкага.*

У класе, дзе навучаецца родная мова, арганізаваны этнаграфічны куточак. Ёсць заклікі аб пашане да мовы бацькоў. Ёсць таксама выстаўкі новых беларускіх кніжак, цікавых альбомаў.

Дзеці рыхтуюць сценгазеты, фотагазеткі з інфармацыямі, напісанымі на беларускай мове. Робяць альбомы і фотаальбомы на тэмы захаваных да нашых дзён старадаўніх вясковых абрадаў.

Любіць роднае слова дапамагае вучням мастацкая самадзейнасць. На навагоднюю ёлку, на першамайскую акадэмію, на веча-

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011 

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

рыны з нагоды Свята перамогі і Дня маці ды іншых мерапрыемстваў старшакласнікі пад кіраўніцтвам Вольгі Гарустовіч падрыхтоўвалі і выступалі перад вучнямі і бацькамі з п'есамі, дэкламавалі вершы вядомых на Беласточчыне паэтаў, спявалі беларускія задушэўныя песні, якія карыстаюцца тут найбольшай папулярнасцю.

26 сакавіка 1983 года школьнікі з Гайнаўскай і суседніх гмін удзельнічалі ў дэкламатарскім конкурсе, у рэпертуары якога згодна з праграмай з'яўляліся творы нашых беларускіх літаратараў з „Белавежы".

Школьнікі вядуць перапіску з вучнямі з Беларускай ССР. Дзякуючы гэтаму яны знаёмяцца з жыццём і вучобай сваіх калег у суседняй братняй краіне.

А што кажа сама Вольга Гарустовіч пра сваю працу?

— Я проста стараюся працаваць, як можна найлепш, — кажа яна. — Карыстаюся самымі разнастайнымі метадычнымі прыёмамі і спасабамі, працую над вымовай, слоўнікавым запісам, граматыкай, арфаграфіяй. І ніколі не забываю пра выхаваўчыя моманты, пытанні, праблемы.

Лепшымі вучнямі Дубінскай школы з'яўляюцца Эля Гіншт, Люся Леўчук, Бася Баўтрамюк, Дарота Гіншт і Мірэк Якімюк — вучні пятага класа; Света Ярмоц, Бася Лэнчыцкая і Аля Цагелка — вучні шостага класа; Бася Стэфанюк, Мажэна Койла, Люся Калеснік, Дабраслава Харкевіч і Дарота Сідарук — вучні сёмага класа; Аня Гіншт, Аня Шклярук, Аня Рашчэнка, Аня Цімашук і Яўгенія Лапінская — вучні восьмага класа.

У беларускі ліцэй у Гайнаўцы пойдуць вучыцца м.інш. А. Гіншт, А. Шклярук і А. Рашчэнка.

У В. Гарустовіч і яе калегаў-педагогаў высокая патрабавальнасць да ўзроўню навучання. Таму пераважаючая большасць выпускнікоў гэтай школы паступае ў агульнаадукацыйныя ліцэі і прафесіянальныя школы.

Зборная гмінная школа ў Дубінах займае школьны будынак у Навасадах. Тут займаюцца класы I—III. У Навасадах працуюць тры настаўніцы Галена Хадакоўская, Надзея Гаган і Валянціна Паскробка. Роднай мове навучаюць дзяцей Надзея Гаган і Валянціна Паскробка.

Першае зерне зацікаўлення роднай мовай засявае Надзея Гаган. Яна ў другім класе знаёміць вучняў з беларускай азбукай, шмат увагі ўдзяляе чытанню, беспамылковаму пісанню і вымаўленню.

Два гады назад маладая настаўніца Н. Гаган была на курсе беларускай мовы ў Мінску. Яна выпускніца беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Зараз пашырае свае веды на філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Яна вельмі задаволена, што мае магчымасць выкладаць родную мову. Родам яна з Дубін і тут пражывае.

У школе ў Навасадах вучыцца 78 дзяцей. Беларускай мовы ў II класе вучыцца 18 дзяцей і ў III класе — 23. Надзея Гаган прыгожа малюе. Таму ў школе ёсць цікава прыдуманыя і размаляваныя навуковыя дапаможнікі (м. інш. азбука), сценныя газеты і іншыя дэкарацыі. Вучні робяць падпіску на „Ніву". Купілі 50 беларускіх календароў.

Надзея Гаган умее зацікавіць вучняў прадметам роднай мовы. Калі трэба, чытае ім казкі. Іншым разам высвятляе каляровыя дыяфільмы. А які цудоўны ў школе каляндар прыроды, зроблены ўласнаручна!

Найлепшым вучнем з'яўляецца Адам Якімюк. Ён найлепшы і па беларускай мове.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

# IV
# З НАШАГА МІНУЛАГА

## Статут 1529 года

### ЛІТОЎСКІ, ПОЛЬСКІ ЦІ БЕЛАРУСКІ?

На пачатку XVI стагоддзя Вялікае княства Літоўскае было феадальнай магнацкай манархіяй. Уладальнікі вялікіх зямельных маёмасцей складалі ў ім значную сілу ў эканамічным і палітычным жыцці. Згодна з прывілеем ад 2 мая 1447 года вялікія князі літоўскія былі цалкам залежнымі ў фінансавых справах ад феадальных паноў. Прывілеі Аляксандра і Зыгмунта яшчэ болей пашырылі палітычныя правы заможных тытулаваных і нетытулаваных уладальнікаў. Магнатам належалі суды і ўлада. Вялікакняскія суды ў цэнтрах і на правінцыі абапіраліся на звычаёвым праве і на пісаных правадаўчых актах „Рускай праўды". Шляхта і баяры не дамінавалі ў палітычным жыцці Вялікага княства Літоўскага. Толькі з паловы XV стагоддзя літоўская шляхта на сеймах пачала паслабляць палітычную ролю вялікіх князёў. Пачала са здабывання месц у вялікакняскіх судах. Неўзабаве ў палітычнай праграме з'явілася справа звядзення законаў краіны ў адзіную ўзгодненую сістэму, гэта значыць кадыфікацыю права. На беларускіх і ўкраінскіх землях, якія ўваходзілі ў Вялікае княства Літоўскае, абавязвала зусім іншае заканадаўства гэтак званых „абласных прывілеяў". Нягледзячы на гэта, беларуская і літоўская шляхта падтрымлівала літоўскую праграму кадыфікацыі права. На пачатку XVI стагоддзя адначасова з гаспадарчым развіццём эканамічнае і палітычнае жыццё засяроджвалася ў значнейшых асяродках. Развіццё сувязей паміж гарадамі паскорыла працэс уніфікацыі права. Пісаныя законы, якія адобрылі манарх або сасло́ўны канвент, павінны былі заступіць зменлівае звычаёвае права. Замацаванне на пісьме звычаёвага права ўводзіла ў правадаўства новыя элементы, у якіх былі зацікаўлены правячыя групы і класы. Магнацтва дасканала разумела, што гэты запіс у значнай ступені абмяжуе яго палітычную дзейнасць, але ўсё ж умацуе іх эканамічную і звычаёвую пазіцыю.

Замена мясцовых законаў адным паўсюдна абавязваючым дзяржаўным заканадаўствам у эпоху Адраджэння была агульнаеўрапейскім працэсам. У агульным сацыяльна-эканамічным і палітычным развіцці гэта быў чарговы этап пераўтварэння феадальнай дзяржавы ў больш цэнтралізаваную і аднародную дзяржаву. Кадыфікацыя і часткова уніфікацыя заканадаўства была вынікам ажыўлення юрыдычных навук і ростам уплыву правадаўчай тэорыі на суды. Заканадаўства абапіралася на навуцы і ўзбагачвалася элементамі рымскай прававой сістэмы. Уніфікацыя заканадаўства адбывалася амаль ва ўсёй Еўропе. У Польшчы храніст Ян Ласкі ў 1506 г. выдаў збор законаў, гэтак званы Статут Ласкага, які абавязваў у Каралеўстве і запачаткаваў кадыфікацыйныя працы. Затым канстытуцыя 1520 года патрабавала кадыфікацыі заканадаўства, і частковым вынікам гэтага была кадыфікацыя працэсуальнага права ў 1523 годзе. Заслугоўвае ўвагі таксама праект кадыфікацыі, які падрыхтаваў пад уздзеяннем архіепіскапа Яна Ласкага калішскі архідыякан Мацей Сліўніцкі ў 1522—1523 гадах, вядомы ён пад мянушкай Сігізмундзін. Далейшы штуршок да кадыфікацыйнай дзейнасці ў Рэчыпаспалітай даў Статут 1529 г.

У Вялікім княстве Літоўскім увядзенне кодэкса ўзмацняла б ролю вялікага княства ў адносінах да магнатаў. Такім чынам маскоўскі князь Іван III падпарадкаваў сабе мясцовых вяльможаў і баяраў, падрыхтаваўшы ў 1497 г. кодэкс, які уніфікаваў звычаёвыя правы. Вялікім князям літоўскім не была чужой думка пра кадыфікацыю законаў. У 1501 г. вялікі князь Аляксандр, даючы прывілеі агульнага характару, падтрымаў прапановы уніфікавання палітычнага жыцця на землях Вялікага княства Літоўскага. Але толькі ў 1514 г. была прынята пастанова спісаць законы. На гродзенскім сейме ў 1522 г. паслы дамагаліся зацвярджэння праекта. Аднак не захаваліся ніякія дакументы з прадстаўленага праекта. Выглядае так, што ён не быў зацверджаны таксама на сейме 1524 года. Ён быў прыняты толькі на сейме ў 1528—29 г.г. і ўвайшоў у дзеянне як абавязваючы закон. Спісаны збор законаў адлюстроўваў тыя суадносіны сіл, якія былі ў лагеры літоўскіх феадалаў. Статут 1529 г. гарантаваў палітычную і эканамічную ролю вялікіх зямельных уладальнікаў, ён зраўноўваў у правах праваслаўных і каталіцкіх магнатаў (дагэтуль абавязвалі гродзенскія прывілеі, якія абмяжоўвалі правы праваслаўных феадалаў). Статут 1529 г. спісаны на старабеларускай мове. Вось яго загаловак: „Права писаные старого статуту и даны Великому Князству Литовскому, Рускому, Жомоитскому и иных через наяснейшего пана Зикгимонта з божее ласки коро-





© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



*Першая старонка Літоўскага статута 1529 г.*

ля польского, великого князя литовского, руского, пруского, жомоитского, мазовецкого и иных многих".

Статут складаецца з 13 раздзелаў: I — Выключныя правы, якія належаць вялікакняскай уладзе; II — Прававое палажэнне зямельных уладальнікаў; III — Прававое палажэнне шляхты; IV — Мясцовае ўладанне зямлёй; V — Апякунчае заканадаўства; VI — Арганізацыя суда і парадак судовага працэсу; VII — Пра войны, грабежніцтва і напады; VIII — Законы пра зямлю і граніцы; IX — Пра паляванні, пушчы, борці, азёры; X — Пра землі, задоўжаныя і пад залогам; XI — Пра пакаранні баяраў путных і сялян; XII — Пра пакаранні простых людзей; XIII — Пра грабежніцтва і напады. Такім чынам у статут увайшло дзяржаўнае ваенна-феадальнае, шляхоцкае, земскае, апякунчае, судовае і працэсавае заканадаўства.

Статут 1529 г. — разгорнуты кодэкс феадальных законаў, якія абавязвалі ў Вялікім княстве Літоўскім — змяшчае ў сабе многа цікавых даследчыку элементаў. У ім ёсць багаты матэрыял для пазнання эканамічных, звычаёвых і прававых адносін у XV і на пачатку XVI ст.ст. на тэрыторыі Літвы і Беларусі. Гэты надзвычай каштоўны дакумент на старабеларускай мове мае аграмадную вартасць у моваэнаўчых даследаваннях часоў фармавання беларускага народа. Статут у XVI ст. не быў выдадзены друкам. Захаваліся рукапісныя пераклады яго на лацінскую мову (з 1530 г.) і на польскую (з 1532 г.). Трэба прыняць погляд выдатнага савецкага гісторыка У. І. Пічэты, што статут 1529 г. быў кодэксам не польскага і не рускага права, быў ён кодэксам феадальнага права, якое абавязвала на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Ён уводзіў новыя заканадаўчыя нормы.[1] Фактычна Літва і Русь, раздзеленыя палітычна, у заканадаўстве не розніліся паміж сабою. У час эканамічнага развіцця Вялікага княства Літоўскага наступіла перайманне юрыдычнай тэрміналогіі і тых прававых норм, якія абавязвалі ў феадальнай Русі.

Гісторыкі канчаткова не ўстанавілі аўтараў статута 1529 г. Выказваюцца меркаванні, што яго аўтарам быў Альбрэхт Гаштольд, ваявода віленскі, канцлер Вялікага княства Літоўскага. Такія погляды абапіраюцца на тым, што канцлер Вялікага княства Літоўскага па сваіх службовых абавязках мусіў кіраваць кадыфікацыйнымі працамі. У літаратуры захоўваецца перакананне, што паміж статутам 1529 года, які складаецца з 13 раздзелаў і 282 артыкулаў, а статутам 1566 года, у якім у 14 раздзелах знаходзіцца 368 артыкулаў, ідаць вялікую розніцу, бо статут 1566 г. — гэта твор больш дасканалы, у ім выявілася тагачасна прагрэсіўная правадаўчая думка. Прымаецца, што калі Статут 1529 г. у асноўным абапіраўся на звычаёвым праве, то Статут 1566 г. абазначаў увядзенне навуковага правадаўства ў заканадаўства Вялікага княства Літоўскага. Розніца паміж Статутам 1566 года і



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

1588 года (14 раздзелаў і 488 артыкулаў) была значна меншая. Яна абмяжоўваецца да ўдакладненняў у фармуліроўках, пашырэння і дэталізацыі тэксту, а таксама ўвядзення новых прадпісанняў, якія, аднак не змяняюць сутнасці заканадаўчай сістэмы.

Тры статуты нельга аб'ядноўваць у адно цэлае, бо паміж 1529 і 1588 гадамі наступілі істотныя змены ў сістэме і разуменні заканадаўства ў Вялікім княстве Літоўскім, і гэта патрабуе разглядаць кожны статут як асобнае цэлае.[2]

Аўтары Статута 1566 г. наогул вядомыя. На віленскім сейме ў 1551 годзе кароль Зыгмунт Аўгуст абавязаўся паклікаць камісію для выпраўлення статута, якая складалася з дзесяці чалавек, у тым ліку пяці каталіцкага і пяці праваслаўнага веравызнання. Захаванне роўнасці і раўнапраўя веравызнаўцаў абедзвюх рэлігій надта ж паказальнае тым умовам, у якіх адбываліся кадыфікацыйныя працэсы на беларускіх і літоўскіх землях. У ліку вядомых нам членаў камісіі, якая рэдагавала Статут 1566 г., былі: знаўца заканадаўства, біскуп жамойцкі Ян Даманеўскі; канонік, архідыякан віленскага капітула Станіслаў Габрыяловіч (уладальнік прыватнай бібліятэкі); свецкімі членамі былі Павел Астравіцкі, віленскі земскі суддзя і Марцін Валадковіч, пісар вялікакняскай канцылярыі. Найбольшую ролю пры падрыхтоўцы Статута 1566 г. адыгралі: Аўгусцін Ратундус, доктар права Вітэмбергскага універсітэта і Пётр Ройзіюш, прафесар права Кракаўскай акадэміі. Уплыў гэтага апошняга на працу камісіі быў тым большы, што ён з'яўляўся несумненным аўтарытэтам і быў кансультантам-дарадчыкам біскупа Даманеўскага. Праваслаўныя члены камісіі, як відаць з ананімных дакументаў, супрацоўнічала, мабыць, з прафесіянальнымі юрыстамі ў гэтай справе. Развівалі яны законы Статута 1529 г., удасканальвалі іх прыстасаваннем да паняццяў рымскага права.[3] Засваенне Вялікім княствам Літоўскім элементаў рымскага права, званага таксама „цэзарскім", адыгрывала таксама важную палітычную ролю. Радзівілы лічыліся князямі свяшчэннай Рымскай імперыі. Мікалай Стары і Мікалай Чорны Радзівілы былі апекунамі рэфармацыйнага руху ў рэлігійных справах і прыхільнікамі адраджэнскіх перамен у мастацтве, навуцы, жыцці. Іх светапогляд фармаваўся ў часе навукі заграніцай і падарожжаў. Статут 1566 г. быў заканадаўчай сістэмай незалежнай дзяржавы, звязанай з Польшчай толькі персанальнай уніяй. Тое, што унія ў часе падрыхтоўкі гэтага статута стаяла на парадку дня, паскорыла заканчэнне працы па кадыфікацыі. Трыма гадамі пазней у пастановах люблінскага сейма, акце уніі гаварылася пра магчымасць наближэння заканадаўчых сістэм Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага, але без указання на патрэбу супольнага кодэксу. Пра звядзенне да адзінай нормы заканадаўства абедзвюх краін не магло быць мовы, таму што шляхта Вялікага княства Літоўскага бараніла абасобленасці



свае прававой сістэмы, да якой яна была моцна прывязана. У Статуце яна бачыла аснову палітычнай індывідуальнасці Вялікага княства Літоўскага ў складзе федэрацыйнай Рэчыпаспалітай. Работа над Статутам 1588 г. паглыбіла ідэі Адраджэння ў заканадаўстве Вялікага княства Літоўскага. У камісію, якая была паклікана для выпраўлення статута пасля уніі 1569 г., кароль назначыў двух паноў-раду (аднаго біскупа, а другога свецкага) і дзесяць прадстаўнікоў, па адным з ваяводства. У іх ліку былі прадстаўнікі пратэстантаў, праваслаўных і католікаў. У працы над статутам 1588 г. прымалі, між іншым, удзел: Мікалай і Крыштоф Радзівілы, Астафі Валовіч, Леў Сапега. Заканадаўцы Вялікага княства Літоўскага адобрылі некаторыя прапановы прагрэсіўных рэформ, якія сфармулявала палітычна-прававая польская думка і адпаведныя яе ўстановы. Асабліва моцна ўздзейнічалі погляды Анджэя Фрыча Маджэўскага і пастановы варшаўскай канфедэрацыі 1575 г.[4] Разам з развіццём у заканадаўстве Вялікага княства Літоўскага ідэй Адраджэння відаць імкненні, каб права стала ўсеагульным ва ўсёй краіне. Калі Статут 1529 г. толькі пацвярджаў правы і прывілеі саслоўяў, то ў Статуце 1566 г. знаходзім ужо абавязацельствы і прысягу вялікага князя літоўцам, беларусам і ўкраінцам. Статут 1588 г. датычыць таксама іншаземцаў, якія жылі на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага.

Статуты Вялікага княства Літоўскага ў параўнанні іх з заканадаўствам суседніх краін найбольш трапна і адначасова найвышэй ацаніў В. А. Мацяеўскі: „Велічны як на свае часы помнік заканадаўства — гэта літоўскі Статут, такога тагачасная Еўропа не мела. Ён як тая расліна, якая ўвабрала ў сябе солі ад дрэўцаў, што побач кусціцца, на іх узмацнела і,ператварыўшы ў сабе, вярнула ім рэчывы зноў, але ўжо лепшыя і пажыўнейшыя".[5]

**АНТОН МІРАНОВІЧ**

## ЛІТАРАТУРА


[1] Пічэта У. І., *Литовский Статут 1529 г. его источники*, (У:) „Статут Великого княжества Литовского 1529 года", Мінск 1960.

[2] Kutrzeba S., *Historia źródeł dawnego prawa polskiego, t. II, Lwów 1926, s. 69—82. Ehrenkretuz St., Stan badań nad Statutem Litewskim (W:) „Ateneum Wileńskie", t. II, 1924, s. 289—349. Лаппо И. И., Литовский Статут 1588 года, Ковно, т. I, ч. I, 1934, s. 473, ч. II, 1936, s. 591.*

[3] Ehrenkretuz St., *Zagadnienia wpływu prawa rzymskiego na Statuty litewskie, Pamiętnik XI Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich, t. I, Lwów 1935, s. 193.*

[4] Bardach Juliusz, *Statuty litewskie — pomniki prawa epoki odrodzenia, Kraków 1973, s. 17—20.*

[5] Maciejowski W. A., *Historia prawodawstw słowiańskich, wyd. II, t. I, Warszawa 1856, s. 207.*




© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

## ТЭКСТ

## ПЕРШЫХ ДЗЕСЯЦІ ПРАВОЎ СТАТУТА

Права писаные даны панству Великому князьству Литовскому, Рускому, Жомойтскому и иных через наяснеишэго пана Жикгимонта, з Божее милости короля полского, великого князя литовского, руского, пруского, жомойтского, мазовецкого и иных.

Мы, Жикгимонт, з ласки божи король польский и великий князь литовский, руский, пруский, жомойтский, мазовецкий и иных, маючи собе достатное розмышлене умыслом добрым и з ласки нашое, господарскре хотячи обдаровати правы хрестьянскими, всим прелатом, княжатом, паном хоруговным, велможам, рыцерем павышоным, шляхте и всему посполству и их подданым а тубылцом земль Великого князьства нашого Литовского, которого бы колвек стадла а стану были, вси их права и привиля костельные, так латынского закону, яко и греческого, тэж и светцкие, которые от памяти королей и великих князей и от неколи отца нашого Казимера и брата нашого Александра, продков наших, за живота их, на которые бы колве добра и волности мети мають, под которою-колве датою латынскою або рускою даны волности и в собе замыкаючи справедливе слушные, справные вышли, даны, взычоны, которые хочем так мети моцне, якобы в тые листы наши слово от слова выписаны, которые словом нашим господарским и под присягою нашою телесною на светую евангелию вделаны держати и ховати слюбили есмо, как же обецуем и слюбуем в всих их положенях, обычаех и артыкулех з ласки, с цноты и щедрости нашое умыслили есмо потвердити и вмоцнити, как же потвержаем и вмоцняем сказуючи их мети моц вечными часы.

1. Господар шлюбуеть никого не карати на заочное поведане, хотя бы ся дотыкало ображеня маистату его милости. І хто бы тэж на кого несправедливе вел, сам тым маеть каран быти.

Напервей пречоным прелатом, княжатом, паном хоруговным, шляхтам и местом пречоных земль Великого княства Литовского, Руского, Жомойтского и иных дали есмо, иж на жадного чоловека выдане або осочене певное або таменое, подозрене неслушное тых княжат и панов хоруговных, шляхты и мещан карати не хочем ани винити которого виною пенежною, кривавою, нятством або именя отнятьем, нижли бы первей в суде явным врадом права хрыстьянского, коли повод и отпор очивисте стали и остатне были бы поконаны, которыи, по суде и таковом поконани водле звычаю и прав хрестьянских мають быти караны и сказываны подле тяжкости а легкости выступов своих. И тэж коли бы хто, обмовляючи, кого-колве винил ку соромоте або ку страченю головы, а шло бы о горло або имене, або о которое-колве каране, тогды тот, хто на кого помовить, а не доведеть, тым каранем маеть сам каран быти.

2. О зраженье маестату господарского, а то в том, хто был до земли неприятелское втек.

Хто бы колве з подданых наших с панства нашого втек до земли неприятелей наших, таковы каждый честь свою тратить, и имене его отчизное и выслужоное и купленое ни детем ани близким, толко на господара.

3. Хто в кого имене купить або закупить, а тот потом до земли неприятелское втечеть.

Коли будеть оный человек перед вчинком оного злого вчинку, будучи ещо в панстве нашом, продал або щапродал какое имене кому, а будеть ли оь тое рады его не ведал а на то право поднесеть, мает он купленое або закупленое от него имене с покоем держати. А пак ли бы не хотел присягнути, тогды и тот свое властное имене и тое купленое и закупленое от него тратить.

4. Естли бы отец от детей втек до земли непрыятелское, также которых и близкие.

Тэж уставуем: естли бы отец от детей втек до земли неприятелское а дети оставил по собе, а не былибы делни, тогды таковое имене спадываеть на нас, господара, бо через выступ отца их властного вжо они суть отдалены от именя. И хотя бы лет не мели, тым же обычаем. Естли бы также который прирожоный брат або дядко, або который-колве з роду втек до земли неприятелское, тогды делница его спадываеть на нас, господара, а ближний жадный к тому ничого не маеть. А естли бы тэж хотя и сын властный был в отделе от отца а втек до земли неприятелское, тогды его делница не спадываеть на отца, ані на братью, але толко на нас, господара. Леч естли бы сынове были делни от отца своего, а отец втек, а они воли отца своего не ведали а смели бы с того вывестися присягами своими телесными, тогды они части своее не тратять, нижли толко тая часть отцовская спадывает на нас, господара. Тым же обычаем и братьи естли бы были делни, а брат втек, а они бы о том не ведали ани его выправливали а смели бы того вывестися присягами своими телесными, тогда они частии своее не трятять, леч толко того брата, который втек, часть спадываеть на нас, господара.

5. Хто бы листы або печати господарские фалшовал, чим маеть каран быти.

Коли бы хто листы або печати наши фалшовал або их ведомо поживал, таковый каждый фалшер маеть каран быти огнем.

6. Хто бы врадника або посланца господарского не вчтил, чым каран быть маеть.

Тэж коли бы который подданый наш врадника нашого земского або посланца на справе нашой земской эквалтовал, зранил або





© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011
© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

збил, таковый кождый маеть каран быти горлом, так, как бы маестат наш господарский образил.

7. Не маеть нихто ни за кого терпети, але кождый сам за себе.

Тэж ни о чий-колве вчинок жадный иный не маеть каран быти и сказыван, толко тот, который винен. А веджо завжды врад хрестьянского права заховываючи, судом не поконавши, не маеть быти каран, то ест ани жона за выступ мужа своего, ани отец за выступ сына, ани сын за отца, также и ни жадный прирожоный, ани слуга за пана.

8. Хто бы много за мало впросил або побрал без данины.

Тэж хто бы за мало упросил, а то бы на него слушне переведено с права, а знайдено было болшей, нижли впросил, таковый тую выслугу и данину тратить. А хотя бы и добре просил, а без данины што взял, а к тому привернул, тогды однако тую выслугу и тое забране на господара тратить. А хто бы к отчизному своему именю люди або земли, пущи, ловы, озера без данины забрал так многа, как тое имене его стоить, к чому привернул, тогды тое имене маеть тратити на господара с тым, што взял. А хто бы взял чоловека або дву, або десять, албо колко-колвек и з землями або земли пустые, тогды маеть кожого чоловека, колко будеть взял, своим отчизным навезати и землями або землю кождую землю.

9. Всих у Великом князьстве Литовском одным правом сужого быти маеть.

Тэж хочем и вставляем, и вечными часы маеть быти ховано, иж вси подданые наши, так вбогие, яко и богатые, которого раду колве або стану были бы, ровно а одностайным тым писаным правом мають сужоны быти.

10. Листы з канцлереи ку отволоченью права никому не мають даваны быти, леч в причинах слушных.

Тэж обецуем, иж листов заповедных наших, справедливость людьскую якое-колве повстягаючи, от сих мест на потом до жадных судов давати не будем, ани потомки наши будуть давати, окроме толко трех члонков: первое, коли бы хто о реч посполитую в неприятелей наших в нятстве был; другое, коли бы хто был на службе посполитоеречи в панствах наших, третее, коли бы хто правдиве немоцон был, тогды тот, который не стал, маеть на другом руку присягнути, естли бы справедливе немоцон. А в иншых пригодах, кром тых члонков, врадници наши земские и местские таковых листов заповедных, ку кривде одное стороны одержаных, не повинни быти послушни ани их мають приймовати.

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

АЛЯКСАНДР АНТАШЭВІЧ

# Каліноўскі — пачаткі ідэі сучаснай Беларусі

Кастусь Каліноўскі загінуў на шыбеніцы сто дваццаць гадоў таму назад (22.III.1864 г.). Ён — наша легенда і пакутная святасць. З яго імем мы атаесамліваем пачаткі ідэі незалежнасці Беларусі. У ім выявіўся нас, беларусаў, упершыню самастойны голас.

Тады, што канкрэтнага вядома пра Кастуся Каліноўскага нам менавіта? На дзіва вялікае — няшмат. Бачна ў гэтым нейкая заканамернасць — выдатнасць такіх людзей, іх эпахальную велічыню, дакладней заўважаюць будучыя пакаленні, ужо ўнукаў ды праўнукаў, калі, зазвычай, робіцца аднак запозна на падрабязную рэканструкцыю побыту ды дзеянняў апостальскай постаці (выміраюць сведкі адлеглых падзеяў, губляюцца архіўныя матэрыялы і г.д.). Законы жыцця тым і бязлітасныя, што можам адно пагаджацца з імі.

Беларусь нараджалася без тае каралеўскай ці дзяржаўнай легальнасці. Яе глуміла самая гігантычная на тыя часы імперыя свету — Расія. Мікалай Першы, сваім указам ад 25 чэрвеня 1840 г. адмяніў Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года, які тут быў дагэтуль правамоцным, і ўвёў на яго месца рускае заканадаўства. Неяк фіналізаваў усё тое дзень васемнаццатага ліпеня, таксама таго ж года, — дата абвяшчэння забароны назвы „Беларусь", „беларускі", (уводзячы замест іх панацці Паўночна-Заходняга Краю ў афіцыйнай перапісцы, і Заходняй Расіі ў гутарковым варыянце). Карыстацца беларускай мовай — званай „літоўскім языком", — стала немагчымым нават у царкоўных пропаведзях (на Беласточчыне пратэставала, між іншым, і супроць таго пятнаццаць парафій на чале з кляшчэлеўскім пратапопам А. Сасноўскім, святаром з Чыжоў Ф. Гаворскім, і з Новаберазова — А. Панькоўскім). Прыглядаючыся да беларускага лёсу ў Турме Народаў, як назваў Расію сам Ленін, пачынаеш міжвольна зайздросціць у першую чаргу палякам, нацыянальныя патрэбы якіх усё-такі ўшаноўваў Пецярбург, прызнаючы за імі аўтаномію (канчаткова зніштожаную праз паўвеку, у 1888 годзе).

Каліноўскі нарадзіўся на два гады да таго зруйнавання апошніх традыцыйных структураў беларускага палітычнага існавання, якія сяк-так перажылі непрыхільную нам Трэцямайскую канстытуцыю (скасаваўшую Вялікае княства Літоўскае), шаленствы напалеонаўскіх паходаў, польска-расійскую вайну 1830—31 гадоў. У сямейцы збяднелага шляхціца Сымона, зарабляючага



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

на яе ўтрыманне як саматужны ткач, другога лютага трыццаць восьмага года з'явілася на свет дзіця, хлопчык, ахрышчаны ў блізкім ялоўскім касцеле Канстантым, Вінцэнтым. Жылі тады Каліноўскія ў маёнтку Мастаўляны, што за Гарадком. Пра маленства ды маладосць нашага героя можна ўсяго толькі здагадвацца. Кастусь скончыў пяцікласную прагімназію ў мястэчку Свіслач і, пасля дадатковай падрыхтоўкі, семнаццацігадовым юнаком паступіў на юрыдычны факультэт універсітэта ў Маскве.

Французская армія тым часам уступіла ў Севастопаль, і Крымская вайна хілілася да бясслаўнага для Расіі канца, салідна расхістаўшы прытым вуглы парахнеючай імперышчы. У гэтай, па-лермантаўску кажучы, краіне рабоў і паноў, паншчынны мужык быў зведзены да ролі асаблівага быдла, што разумее чалавечую мову, — вёска ўзнімалася, каб агледзець свет божы. Дапамагалі ёй у тым спагадаю ды асвечаным словам душэўна ўражлівыя і недурныя дваранскія інтэлігенты, якіх тадышняя Расея, сваёй нялюдскасцю нясцерпна абражала іхняе пачуццё чалавечнасці. Гэта былі ідэйныя ўнукі самотных дэкабрыстаў. Іх боствам стаў Міхаіл Бакунін, сын цверскага вяльможы і сцяганосец народніцкага руху, сялянскай дэмакратыі, барацьбы супроць прыгону, але і супраць капіталізму, непазбежнасць якога не дапускалася: усё для люду разам з людам! (у дэкабрыстаў не знаходзім таго „разам"). Бакунінскімі публікацыямі, што пранікалі шырокаю кантрабандаю з Захаду, захапляліся і студэнты. Расчытваўся ў іх поначна, напэўна, і наш Кастусь, калі, неўзабаве выгналі яго з маскоўскіх аўдыторыяў на вуліцу як удзельніка пратэстацый, і давялося яму нямала пахадзіць вакол сваіх спраў, каб выратаваць сабе перспектыву навукі — у пецярбургскім універсітэце. У гэтай Паўночнай Венецыі ён, акунуўшыся з галавою ў рэвалюцыйнае падполле, не мог не чытаць лонданскі „Колокол", папулярны часопіс славутага эмігранта Аляксандра Герцэна (жартам пыталі тады ў колах дворні ліберальнага Аляксандра Другога: хто з тых Аляксандраў фактычна ўладарыць у Расійскай Дзяржаве?).

Народнікі наогул, а Бакунін і Герцэн у асаблівасці, выступалі ў абарону правоў на незалежнасць Беларусі, Украіны, Польшчы, Фінляндыі і ўсіх іншых народаў, карпеючых у кіпцюрах двухгаловага арла. Кастусь Каліноўскі, дабіўшыся грунтоўнай адукацыі — кандыдата правоў — адначасова вырас у той пятроўскай сталіцы на пераканананага ды глыбокадумаючага такога народніка.

У 1861 годзе ён вяртаецца ў Беларусь, дзе спрабуе стаць на службу, але яго не прымаюць; за ім валачэцца „хвост" паліцэйскіх падазрэнняў. Такім чынам, як бы сама ўлада падштурхнула маладога юрыста Кастуся В. Каліноўскага пайсці на горкі хлеб прафесійнага падпольніка. Ключом да таечаснай сітуацыі з'яўляецца сялянская рэформа шэсцьдзесят першага года, даспеўшая здаўна ў такой прымітыўнай супердзяржаве, а праведзеная самаўладствам па-ашуканску, — як трапна перадаў сутнасць яе мінскі гісторык прафесар У. Ігнатоўскі; вызваляючы „не сялян ад паноў, а зямлю ад сялян. Трэба [таму] утварыць „мужыцкую" Беларусь, незалежную і ад польскага пана, і ад рускага самаўладства (...)".



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Па сёння не высветлены дарэшты акалічнасці, у якіх дайшло да знаёмства ды супрацоўніцтва яго з Валерым Урублеўскім; абодва яны заснавалі ў Горадні (Гродна) патайную інтэлігенцкую арганізацыю і ўзяліся за прапаганду, вусную і пісьмовую (трэба браць зямлю без усялякіх „выкупаў"!). Увосень шэсцьдзесят другога г. было аж густа ад паўстанцкіх агітатараў, а найбольш па маёнтках, пад касцёламі і па кірмашах (мацаваўся „мяцеж"). Але, адзін з іх, такі беларукі маладзён у сялянскім пераадзенні, што адразу кідалася ў вочы, здаваўся зусім непадобным да іншых, не толькі ў называнні сябе Васілём Світкаю. Ён ненавідзеў яснапанскі двор, хаваўся па вёсках Гродзеншчыны, выкрыкваючы на вулічных зборах; „Сякера паўстанца не павінна спыняцца нават над калыскай шляхецкага дзіцяці!" Значыць, неваспанам меўся быць той паўстанец-мяцежнік. Світка перасцерагаў вельмі, каб, крый Божа, не паверыць змагарам за Польшчу „ад мора да мора", лёгкім на абяцанні, гаворачы: „...такой бязмозглай галаве, як Варшава, не можам даверыць долю Беларусі". Сам, будучы выхаваным у польскім духу, паступова пераўтвараўся ён у чалавека беларускага складу думкі і, затым, свядомасці (паняцце беларускай нацыянальнасці дасць нам, праз адно пакаленне пазней, Францішак Багушэвіч, тады пакуль адзін з баявітых каліноўшчыкаў). Забягаючы яшчэ далей наперад: Янку Купалу ўчыніла беларусам тая самая пагарда прошапанства да хамаў. Любіць свой народ і не быць заядлым беларусам — парадокс, гэта немагчыма!

Фелікс Ражанскі, берастаўіцкі каморнік, потым наш бунтоўны пясняр, якому пашанцавала вынесці ад мураўёўцаў сваю галаву ў аўстрыйскі Кракаў, — успамінаў пра сябе: „...Разам з Кастусём Каліноўскім выдаваў [я] народную газетку пад назовам „Мужыцкая праўда" з подпісам „Яська, гаспадар з-пад Вільні". Некалькі песняў і гутарак на гэтай мове выдаў і Браніслаў Шварцэ ў Беластоку".

Пісаў па- беларуску і той жа Урублеўскі, болей вядомы нам як генерал Парыжскай камуны. Ягонаму аўтарству прыпісваюць даследнікі шосты нумар „Мужыцкай праўды", цалкам прысвечаны трагедыі вуніяцтва і пашырэнню працімаскальскіх настрояў у краі. Дарэчы тут будзе прыгадаць культурны кантэкст мясцовага становішча, услед да аўтарамі „Гісторыі беларускай літаратурнай мовы" (Мінск, 1968 г.): „Польская стыхія пасля паў-



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

стання 1831 г., нягледзячы на рэпрэсіі, выкліканыя гэтым рухам, не страціла сваёй сілы. Уплывала яна на шырокія колы, кранаючы ўжо перыферыйныя слаі насельніцтва, дзе аб русіфікацыі ў гэты час яшчэ не ішла размова". Далей яны даводзяць, што Вільня была вырасла ў самы магутны цэнтр культуры палякаў. У тую студзеньскую завіруху ў гэтым горадзе працавала дзевяць афіцыйных польскіх друкарняў і ўсяго адна руская, а першая няпольская кнігарня была адчынена тут толькі ў 1864 годзе (на агульны іх лік аж шаснаццаці!). Прытым, буйныя выдавецкія дамы ў Каралеўстве Польскім як надзвычай моцнай эканамічна мікалаеўскай правінцыі літаральна засыпалі Беларусь уласнай кніжнай прадукцыяй!

Беларускія патаемныя друкі, перш за ўсё нагадваючыя сабою газетную рэгулярнасць, з'яўляліся яшчэ і перад „Мужыцкай праўдай" (Каліноўскі апынуўся не ў анямелай пустыні беларусаў). Ёсць ведамка пра нейкага Шварцэ на гэтую акалічнасць, дык трохі прыгледзімся да згаданае постаці, выяўляецца, важнай дзеля нашай гістарычнай таесамасці. Інжынер з французскім дыпломам на будове пецярбургска-варшаўскай чыгункі і „чырвонае" арыентацыі канспіратар з вопытам парыжскага барыкадніка, ён утварыў у Беластоку асяродак беларусамоўнай крамалы (што я непрабачальна праваронiў у „Беларускім календары на 1983 год": „Беласток у нашай гісторыі"). Успамагаў яго і замяняў Адольф Белакоз, настаўнік музыкі, але і паўстанцкі начальнік горада (згніў у Сібіры). Ужо ў шэсцьдзесят першым годзе сышчыкі знаходзілі „Гутарку двух суседаў" (вершаваныя дыялогі бывалага Матэвуша з праставатым Юзафам); ведаем пра чатыры нумары выдання, сваім зместам — увага! — даволі блізкага да паслейшай „Мужыцкай праўды". Ідуць у ціхі кальпартаж і дзве, гэтак жа агітацыйныя „Гутаркі старога дзеда", аднак абмежаваныя да панскага рэвалюцыянерства з паклонамі ў бок Польскай Рэчы Паспалітай, і з намовамі, каб мужык палез цалавацца са сваім прыганятым. Хто панапісваў тое? Напэўна не сам Шварцэ, які, як народжаны ў Францыі, найсвабадней паслугоўваўся мовай Бальзака, распаўсюджанай у тагачасным інтэлігентным таварыстве „тутэйшых" на падабенства цяперашняй польскай або рускай сярод сённяшніх таксама — беларусаў. Жандары і шпіёны, а за імі і навукоўцы, што потым дапалі да рассакрэчаных з часам следчых справаў, схільныя былі лучыць тыя тэксты з творчасцю... Уладзіслава Сыракомлі Кандратовіча ды ягонага літаратурнага „альтэр эго" Вінцэся Каратынскага (да аднаго з літаграфічных ужо ўзнаўленняў прыкладзены быў сыракомлеў стары твор з 1848 года „Добрыя весці"). У сувязь сюды ставіўся і Дунін-Марцінкевіч, нягоршы ідэаліст: усе з аднае плеяды ідылічных „лірнікаў зямлі беларускай" і добра заможных маралістаў, якія, усё-



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

-такі, вырабілі глебу пад будучыню нашае літаратуры, хоць самі памерлі палякамі ў беларускай мове.

Захаваліся звесткі пра сардэчна адданых Каліноўскаму супрацоўнікаў — Цітуса Далеўскага, акуратнага выканаўцы яго планаў, асобу дысцыплінаваную ды з зайздроснай вытрыманасцю; паручніка рускай арміі Уладзіслава Малахоўскага, начальніка паўстаўшае Вільні і прыхільніка „чырвонага" тэрору; бліжэй невядомага нам настаўніка Пшыбыльскага і інш. Адных вывезлі на „белыя мядзведзі", другіх замучылі ў засценках правінцыяльнай контрразведкі або расстралялі, трэцім пашанцавала ўцячы ў Заходнюю Еўропу, дзе шматлікія з іх палеглі потым у першую камуністычную рэвалюцыю, у бітве з пабандычанымі батальёнамі версальцаў (гэтымі сялянскімі юнакамі, якія і не чулі пра народнікаў, і далі сабе волю марадзёраў у багатым ды бязбожным „месце"!). Урублеўскі ўцалеў, відаць, маючы больш шчасця, чымсьці спрыту...

Тайны ўрад, кіруючы студзеньскай інсурэкцыяй у Беларусі і Літве, быў „чырвоны". Таго не магло сцярпець „белае" ўсяпольскае кіраўніцтва, якое ўсю справу так рэарганізавала, што ўдаўся яму гэты дзіўны „пераварот"; Каліноўскі і большасць яго паплечнікаў былі вымушаны ўвесну пакінуць сталічную Вільню, беручы напрамак на Гродзеншчыну, у дзеючыя атрады „лясных" (каб пазбыцца, назначылі яго туды камісарам). Знакі запытання ўзнікаюць адразу, і то не так немалаважныя, як, напрыклад, да канца няясна, якімі спачатку сцежкамі дайшоў Каліноўскі да кіраўнічай пазіцыі, ён — дваццацічатырохгадовы дзецюк!? І якімі, зрэшты, хутка вярнуўся з Гродна ізноў да свайго папярэдняга значэння, бо яшчэ перад жнівом, а нават стаючыся цяпер дыктатарам!? Няўдачы „белых" у цэлай той партызанскай вайне з Расіяй — так, але я маю на ўвазе хранікальныя дэталі, якія, у сучасных даследаваннях, сям-там знаходжу іх, бы нейкія пагубленыя кімсьці пэрлы... Дакументацыя „мяцежу" наогул багатая, калі гаварыць пра Польшчу шэсцьдзесят трэцяга ды чацвертага тых гадоў. А вазьмі дакраніся ты Беларусі і ўбачыш пустыя месцы ў часе і прасторы, адно каля другога. Прычын на тое, вядома, процьма, галоўных і негалоўных, і не варта быць нуднікам, пералічваючы іх чытачу. Аднак жа трэба падкрэсліць наступнае: Кастусь Каліноўскі быў знакамітым канспіратарам, майстрам падпольнае работы, што добра паслужыла справе, але на бяду бяспечным гісторыкам тае амаль сівое нам мінуўшчыны; яны падобныя на тую сляпую курыцу, якой час-ад-часу трапляецца зерне... Ёсць меркаванне, прыкладам кажучы, што дэкабрысты аказаліся скрупулёзнымі ў сваіх паказаннях пад час допытаў не таму, што страцілі веру ў робленае або перапалохаліся, — адно і другое не павінна зай-



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

маць нашы думкі. Застаецца трэцяе: пакінуць па сабе нашчадкам ідэі!

Сяляне не пайшлі за паўстаўшымі супроць царызму панамі, і можна вінаваціць іх у тым, што былі яны людзьмі недалёкімі. Чаму ж не, калі гэта менавіта так! Здзіўляцца гэтаму таксама не выпадае занадта. Мужык канчаткова зняверыўся да ўсякіх заклікаў, і „Мужыцкая праўда“ магла здацца, а як жа, панскай інтрыгаю...

У ананімным вершы чытаем:

Кінуў-рынуў паўстанне,
Прыбег к табе, васпане,
Я к тваім ножкам, пане, прыбягаю,
Святым Тадэвушам паздраўляю.
Уздумалі паны Польшч вараціць,
Бадай ці не лепей судару служыць.
Польшчы не адбілі, народ паглумілі,
А бяды па вушы нарабілі...
Бо гэтак у нашай Польшчы:
Усякі хацеў быць большы...
А ты, наш брат мужык,
Горшы яшчэ за сабаку —
Ні сюды, ні туды, ні ўлева, ні ўправа,
Як свіння ў плоце, — кепска наша справа!
Усё ж як тут нам ні круціць,
Хацелася б толькі чалавеку жыць.
Па мху, па балоце, хоць трохі прамок,
Хвала табе, Божа, цэл такі ўцёк...

Мой бацька гаварыў, як яго дзед, мабілізаваны ў паўстанцкае войска, выкруціўся ў астраўскім лесе такім чынам: „„Пацалуй мяне ў боты, хаме, тады пушчу цябе дахаты!“ Я, ягоны праўнук, уяўляю сабе тое цалаванне, панскі рогат, і таго Яновічыка, які, пляснуўшы губамі ў высокую наваксаваную халяву, паімчаў, вызвалены, дамоў, думаючы: „І на вас будзе яма!“...

Падзеі ў польскім і беларуска-літоўскім краі мелі свой непрыхільны водгук і на міжнароднай арэне. Прафесар Ежы Тамашэўскі нядаўна апублікаваў на старонках варшаўскае „Палітыкі“ ўрыўкі запісаў англійскага эканаміста і палітыка Уільяма Сэнёра, якія датычаць ягоных гутарак у салонах Парыжа ў прадвесне шэсцьдзесят трэцяга г. Вось характэрныя цытаты: у Польшчы „шляхта была малымі дэспатамі, люд — нявольнікамі“ (...) „Незалежнасць [Польшчы] абазначае права для васьмідзесяці пяці тысяч сем'яў на прыгнёт чатырох мільёнаў сваіх суайчыннікаў, як і шасці або сямі мільёнаў людзей, што адрозніваюцца ад іх расаю або рэлігіяй, а прыналежных ім толькі таму, што пражываюць яны ў тых краінах, якія два ці тры стагоддзі назад лічыліся Польшчаю“.



Складанасць становішча, у якім аказаўся Каліноўскі як дыктатар беларускага паўстання, не будзе нам адчувальнай так доўга, пакуль не ўвойдзе ў наша падсвядомаснае, гістарычнае рэагаванне тая бяспрэчная праўда, цэльна сфармуляваная прафесарам Ігнатоўскім: паміж сялянствам і такімі, як Кастусь Каліноўскі, стаяў абшарнік-пан, кідаючы свой злавесны цень на чырвоны твар усенароднага ўздыму! „Як толькі сяляне даведваліся, што праз іх вёску будуць ісці гэткія паўстанцы, яны ўцякалі ў лясы“.

Усе сем нумароў „Мужыцкай праўды“ дайшлі ў цэласці да нашых дзён. Пісаныя, хоць і па-агітатарску, і друкаваныя больш чым стагоддзе назад, яны і сёння не страцілі сваёй свежасці ды універсальных каштоўнасцей. Адзін з блізкіх да Каліноўскага дзеячоў занатаваў: „Друкаванае слова было заўсёды яго слабасцю, ён прыпісваў яму нейкае асаблівае значэнне“. У гэтай рэфлексіі ёсць бачнае незразуменне тае сітуацыі, у якой народніцкі дыктатар спрабаваў прабіцца да глыбіняў агульнанароднае патэнцыі. Ва ўласнаручна напісанай ім „Паўстанцкай інструкцыі“, у яе восьмым пункце ёсць такое патрабаванне ў адрас камандзіраў атрадаў: „Найбольш злосных прыгнятальнікаў сялян для прыкладу, у прысутнасці сабраных валасцей учыніўшы ваенны суд, караць смерцяй...“

Нам, беларусам, той векапомны год даў мала, бо не мог даць больш. У тым пекле аднак нарадзіліся мы потым як нацыя. „Мяцежнік“ з-пад Аўгустова Францішак Багушэвіч так адазвецца пазней, у прадмове да сваей „Дудкі беларускай“: „Можа хто спытае: дзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, дзе наша мова жыве...“.

Але польская справа (тэрмін Каліноўскага) не магла выйграць без падтрымкі яе з боку ўсяе неабдымнае Расіі, што дасканала спраўдзілася ў Вялікую Кастрычніцкую рэвалюцыю. Аляксандр Герцэн тлумачыў тое ж братам-расіянам у масава кальпартаваным „Колоколе“, што, дарэчы сказаць тут, і загубіла сам часопіс, як і ўвесь рух за адраджэнне тады рускага народу, адурманенага „патрыятычным сіфілісам“ (словы роспачы таго ж Герцэна!). Ніхто іншы, як паэт Някрасаў, сын польскі і пясняр галоднай рускай вёскі, усхваліў Мураўёва-Вешальніка.

Гісторык Павел Урбан аналізуе карусель унутрыпаўстанцкіх канфліктаў паміж Варшавай і сепаратысцкай ад яе Вільняй: „Усе гэтыя змены і практыка адлюстраваліся таксама і ў практыцы Кастуся Каліноўскага. Пайменна, спачатку беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам кіруе Літоўскі правінцыянальны камітэт, потым утвараецца часовы правінцыянальны ўрад Літвы і Беларусі, за ім ідзе Камітэт, які кіруе Літвой, і нарэшце Кастусь Каліноўскі ўвасабляе „Урад польскі над усім краем



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Літоўскім і Беларускім". Народ у цэласці ён называе літвінамі". Працягваючы пытанні, можна паставіць і такое: ці ў Беларусі наогул адбылося б самастойнае рэвалюцыйнае „выпрабаванне сіл"? Трэба адразу дадаць: без аднačасных бунтаў у самой Расіі? „Зямля і Воля", як адпаведная гэтаму арганізацыя, узнікла ажно праз дванаццаць гадоў пасля! (1876 г.)

Нельга спяшаць з адказам без добра разважаных высноваў найперш. Каліноўшчыкі, што несумненнае, не думалі пра ўзброенае выступленне без папярэдняй, разлічанай на цэлыя гады, грунтоўнай ды ўсёахопліваючай агітацыі. Іх зрок быў накіраваны на бакунінскіх народалюбцаў, іхняе „хаджэнне ў народ" і спробы стварыць тую высокую тэмпературу, у якой загарыцца парахно дэспатызму як быццам стыхійна... Разваліцца, вось і канец яму! На Пецярбург яны глядзелі, а не на Варшаву, у якой на прыезд імператара Аляксандра Другога дайшло да фестывалю энтузіязму, непараўнальнага нават з маскоўскім. У Вільні вітаў самадзержца сябар Міцкевіча, гэтак жа далёкі ад змовы, як і рэшта патрыётаў, Эдвард Адынец:

> A wy, duchy Jagiellonów,
> Spójrzcie na nas z wysokości:
> Oto dziedzic waszych tronów,
> Waszych myśli i miłości...

Паводле словаў аднаго з сучаснікаў, усю дзяржаву пранізвалі нейкія дрыжыкі неразгаданыя, як быццам у тых звяроў, што змяняюць сваю сцёртую скуру. З'явілася някепская назва таго працэсу: маральная рэвалюцыя (людкове пераставалі піць; для прыкладу, у маёнтках Тызенгаўза абанкруціліся амаль усе корчмы!). Але, як запісаў той жа Шварцэ, зайшоўшы на сходку „чырвонае" моладзі ў варшаўскім рэстаране „Тыволі": „Я і іншыя, загаварылі мы былі пра падрыхтоўку паўстання. Тады ўсе кінуліся на нас з крыкам, што мы шалёныя, а ўзнятыя намі літоўскае ды русінскае пытанні былі рашучым чынам адкінуты правадырамі руху як заўчасныя і шкодныя" (растлумачу — згодна тадышняй тэрміналогіі, „літоўскае" трэба разумець як беларускае, „русінскае — рускае" як украінскае пытанні тыя). Здарылася тое ў восень 1861 года.

Сталіца Польшчы амаль легальна святкавала трыццацігоддзе лістападаўскай вайны з Мікалаем Першым і была занята „да самых мазгоў" спосабамі паразумення з такім добрым Аляксандрам Другім! Падпольнікі ў стылі тых з „Бесаў" Дастаеўскага швэндаліся па цёмных завулках над Нявою ды рэчкай Масквою, заходзячы аж на Вераб'іныя горы, але не над Віслаю, дзе, у самым лепшым выпадку, пачытвалі ў таварыскіх гуртах эмігранцкую „бібулу" і ўсяго толькі гаварылі, гаварылі, гаварылі... Хочаце выгаварыць Польшчу, іранізавалі з іх экстрэмісты, самі не спадзеючыся таго, што праз год чарговая бойка з „гігантам на гліняных нагах" збудзецца, як нешта непазбежнае, магчыма — справакаванае фанатычна русафільскім адміністратарам Польскага Каралеўства, графам Аляксандрам Гагзага-Веляпольскім. Уночы з 22 на 23 студзеня шэсцьдзесят трэцяга года чатыры тысячы польскіх змоўшчыкаў рушыла атакаваць... шэсцьдзесят шэсць батальёнаў пяхоты, дваццаць чатыры эскадроны кавалерыі, шэсцьдзесят казацкіх сотняў, сто семдзесят шэсць гармат, розныя дапаможныя фарміраванні; разам статысячную армію. Кажуць, не мелі выйсця, бо ўвесь свядомы і па-маладому непадатлівы чалавечы элемент Веляпольскі хітра задумаў „абуць у боты", гэта значыць, пагнаць у рэкруты (пад афіцэрскі кнут і дысцыпліну). Паўстанне было зусім непадрыхтаванае; сярод яго пачынальнікаў усяго адзін ці два сяк-так ведала ваенную справу; армейскі палкоўнік Рамуальд Траўгут, зрэшты заслужаны ў здушэнні рускімі вянгерскае рэвольты ў сорак восьмым, прыйшоў пазней, каб не сказаць — запозна!.

Беларусь цалкам знянацку захоплена гэтым паўстаннем. Аднак, нягледзячы на абсурднасць канкрэтнай сітуацыі і безнадзею перспектыў для якой-колечы аператыўнай удачы ў змаганні (мілітарным), Кастусь Каліноўскі кідае кліч: „Польская справа — гэта наша справа. Гэта справа свабоды!" І першага лютага т.г. у Маніфэсце абвяшчае пра пачатак паўстання і ў Беларусі, пераймяноўваючы Літоўскі камітэт у Часовы правінцыяльны ўрад Літвы і Беларусі, што, як ведаем, не будзе яму прабачана! У незакончаных „Звестках" рускага генерала В. Р. Ратча знаходзім такі пераказ: „...Каліноўскі баяўся таго зліцця з Польшчай, пры якім потым ад яе нельга было б і адвязацца... Каліноўскі пільна стаяў на варце інтарэсаў Літвы... Літва, гаварыў ён сваім сябрам, скарыстаўшы разлад паміж Расеяй і Польшчай, павінна стаць самастойнай. Энергічна змагаўся ён за тое, каб рэвалюцыйны камітэт называўся Літоўскім камітэтам, а не Літоўскім выканаўчым аддзелам, як хацелі назваць яго ў Варшаве" (цытат паводле савецкага гісторыка Г. Кісялёва).

Студзеньская трагедыя палякаў пакончыла з міфам пра адбудаванне Рэчы Паспалітай у межах з 1772 г. Убачылі яны тады новыя з'явы па дарозе ў зненавіджаную Расію — белавалосую Беларусь ды чарнабрывую Украіну. Нас не павінна тое ашаламляць, тая эмацыянальнасць, калі памятацьмем словы Леніна: „Весь народ польский пропитан насквозь одной мыслью о мести москалям. Никто так не угнетал поляков, как русский народ. Русский народ служил в руках царей палачом польской свободы" (з тома 31-га з 1962 года выдання, стар. 432).

Цяжка вызначыць, у якой меры рацыянальна быў пераконаны Кастусь Каліноўскі наконт спрыяльных умоваў дзеля ўзнят-



© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

ця беларускага люду „каб людзьмі звацца". Руская бяздольная стыхія, апрача шэрагу ўсяго лакальных бунтаў, не разбушавалася ў паўнаводдзе гневу і ломкі старых парадкаў. Сялянская рэвалюцыя накшталт пугачоўшчыны, відаць, перажыла свой час, уваходзячы ў змрочны цень архаічнасці.

Каліноўскі, урэшце арыштаваны ды чакаючы смерці, даваў запавет у сваім „Пісьме з-пад шыбеніцы": „Ты аднак, Народзе, не дажыдайся, ды з чым можаш ідзі ваяваці за сваго Бога, за сваё права, за сваю хвалу, за сваю бацькаўшчыну. Для цябе ўсё можна, нож, сякера, атрута, гэта твае спосабы, бо табе як таму мужыку нявольнаму, бяспраўнаму не прызнаюць права самаабароны, бо табе нічога не можна".

Некаторыя з нас у сваіх роздумах пра Кастуся Каліноўскага і ягоныя справы допускаюць кардынальную памылку, менавіта, якойсьці міжвольнай агістарычнасцю (што не павінна мець месца ў інтэлігентнадумаючага чалавека). Гэта звычайна недапушчальнае гаварыць пра гэтага беларускага палітыка і барацьбіта паняццямі сённяшняга дня і эпохі. Адчуваў сябе Каліноўскі беларусам ці не? Уяўляў ён сабе Беларусь як дзяржаву беларусаў, ці не? І ці ёсць у нас дзеля таго падставы, каб лічыць яго будаўніком нашай нацыянальнай свядомасці? Бо, на ўсё тое, не знаходзім мы выразных ягоных выказванняў, ну, у тым, што ўцалела ці то ў выглядзе друкаў ці проста запісаў... (Устаноўлена: першы тут быў Францішак Багушэвіч, бацька беларускага патрыятызму).

Што ж, праўда, няма такіх. Але гэтая праўда, так сказаць, чыста фармальная. Беларусы ў сваёй масе ўсяго толькі прачыналіся да ўласнага свядомага існавання як народ з уласнай зямлёю, моваю, светапоглядам. У „Мужыцкай праўдзе" ідзе таворка выключна пра мужыцкія беды, бо толькі адолеўшы іх настаў бы час і нагода загаварыць пра вышэйшае — пра культуру і нацыянальную годнасць; „...цар толькі лёстачкамі душу выймае, а новымі падаткамі, некрутам да чыншамі астатню сарочку з ніх зьдзерці хоча", — звяртаецца Васіль Світка да прыгонных сялян, так пішучы, каб яны маглі зразумець яго, сваю найгоршую ў свеце долю, сваю адначасова важнасць, тое, што гэта на іх плячах і трымаецца злашчасная ўлада. „Нехай пазнаюць, што мы можам не толькі карміць сваім хлебам, но ешчэ і ўчыць сваей мужыцкэй праўды", — і подпіс: „Мужыцкую Праўду напісаў і зноў пісаці будзе Яська, гаспадар з-пад Вільні".

Народнікі, як і пазнейшыя сацыялістычны ды камуністычны рухі, нацыянальнай праблематыцы не прыдавалі першараднага значэння, разглядаючы яе маргінальна, у рамках працоўнага вызвалення асобы. Дацэнена яна была зусім нядаўна, калі аказалася, што культуру нельга лічыць за просценькую надбудову грамадскай базы, што можна зрабіцца вельмі партыйным



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

рэвалюцыянерам і разам з тым застацца ў сферы комплексу няпоўнацэннасці, напрыклад, роднай мовы ці эстэтычных густаў. Нацыянальнае вызваленне мела адбыцца аўтаматычна з сацыяльным. Кастусь Каліноўскі, маючы на ўвазе тагачасны ўклад сіл, што хачу падкрэсліць для напаміну, так выказаўся ў вядомым сваім перадсмяротным пасланні (якое ў выглядзе, пэўна, грыпсу трапіла на волю): „Калі Ронд Польскі ўсім братнім народам дае саморондство, маскаль мало таго, што гэтак не робіць, но ешчэ там, гдзе жылі Палякі, Літоўцы і Беларусы, заводзіць маскоўскіе школы, а ў гэтых школах учаць па-маскоўску, гдзе ніколі не пачуеш і слова па-польску, па-літоўску да і па-беларуску, як народ таго хочэ, а ў гэтые школы адно з другого каньца сьвету маскалёў насылаюць, што толькі ўмеюць красьці, людзей абдзіраці, дай служыць за грошы паганаму дзелу на глум народу. Дзікі маскаль думае, што калі можэ народ абдзіраці за ўсякаго дабытку, то і патрапіць кажному ўбіць у галаву свой дурны розум, дурны для таго, што розум маскоўскі, калі нераз харашо кажэ, то ніколі палюдзку нічога ня робіць, адно людзей абманывае, а перад кнутом царскім гнецся, як астатні валацуга".

Пасля перамогі паўстання ў межах гістарычнае Польшчы прадбачваўся рэферэндум у Беларусі, Літве і на Украіне наконт таго, чаго яны канчаткова хочуць: незалежнасці ці аўтаноміі. Тым часам той жа Ронд Польскі на сваёй гербавай пячаці змясціў арла з каронаю, нашу Пагоню і Гаўрыіла, архангела Украіны.

Загінуў Каліноўскі, гэтак жа загінуў Траўгут; паўстанне на Украіне ўвогуле адбілася ў мінімальнай ступені.

Беларусь была замазана накінутай ёй назвай: Паўночна-Заходні Край. На месцы Польскага Каралеўства з'явіўся Прывіслянскі Край. А там, дзе красавалася Украіна, гетманская і непакорная, чарнацеў ужо надпіс: Маларасія.

Шмат хто з гісторыкаў даказваў: не ўсё, трактаванае цяпер намі як напісанае менавіта Каліноўскім, сапраўды створана яго рукою. Для прыкладу кажучы, знойдзены — шляхам навуковага аналізу — пазнакі таго, што шосты нумар „Мужыцкай праўды" ёсць аўтарства Валерыя Урублеўскага; сёе-тое, відаць, дапісваў і Ражанскі (за подпісам „Яська, гаспадар з-пад Вільні" трэба шукаць цэлай групы аўтараў, тых, што працавалі непасрэдна ў паўстанцкім руху, як і тых, што потым, у эміграцыі, публікавалі спадчыну Кастуся Каліноўскага, дзе-ні-дзе „папраўляючы" яе або, звычайна, і шліфуючы „пад Каліноўскага", каб добра змяшчалася тое ў рамках пануючай ідэалогіі Вялікай Польшчы, паказваючы беларусаў як своеасаблівы гатунак польскай нацыі, на падабенства мазуроў ці кракавякаў; „Беларусь, гэта польская правінцыя"). Успомнены Урбан сцвярджае фальшываць нават таго „Пісьма з-пад шыбеніцы", урывак якога я пры-



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

воджу тут ад словаў: „Калі Ронд Польскі..." Дзеля тактыкі, Кастусь Каліноўскі нярэдка экспанаваў ролю гэтага „ронду", звяртаючыся да свайго „мужыцкага народу" з агітатарскім заклікам ці то „прыказам", але не ў пасланні з камеры смерці! Ступаючы ў вечнасць.

Апошнія з апошніх словаў Кастуся Каліноўскага — гэта яго-ны крык — пратэст, калі, стоячы пад пятлёю на віленскім Лукіскім рынку „при огромном стечении народа" і слухаючы смяротны прысуд яму, як „дворянину Калиновскому", выгукнуў урадніку: „У нас няма шляхты — мы ўсе роўныя!"

Пражыў Ён на свеце дваццаць шэсць гадоў.

**АЛЯКСАНДР АНТАШЭВІЧ**

# Вінцэнты Дунін-Марцінкевіч

## (ДА 175-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ І СТАГОДДЗЯ З ДНЯ СМЕРЦІ)

Вінцэнты Дунін-Марцінкевіч належыць да той плеяды культурных дзеячоў XIX стагоддзя, якія па сваім паходжанні былі беларусамі, а па сваім выхаванні — палякамі. Зразумела, што чалавек, які рашаецца пісаць на мове акрэсленага народа, не можа не пераймаць псіхалогіі гэтага народа, элементаў яго свядомасці, урэшце, душы, мовы. З гэтай якраз прычыны ў ніякім выпадку нельга назваць Дуніна-Марцінкевіча паслядоўным палякам, але нельга яго залічыць і ў рады паслядоўных беларусаў. Духоўная раздвоенасць несумненна была прычынай таго, што Дунін-Марцінкевіч пісаў па-польску і па-беларуску. Трэба сказаць, што фактарам, які акрэслівае прыналежнасць пісьменніка да літаратуры данага народа, з'яўляецца мова яго твораў. У выпадку Дуніна-Марцінкевіча трэба яго залічыць да беларускай і польскай літаратуры, бо пісаў ён па-беларуску і па-польску.

Як вядома, у беларускай літаратурнай крытыцы час ад часу паяўляліся спробы зашэрагаваць у рады беларускіх пісьменнікаў нават Міцкевіча або Сыракомлю. Чым кіраваліся гэтыя крытыкі? Галоўным чынам тым, што і Міцкевіч і Сыракомля нарадзіліся на беларускай зямлі, што выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці беларускі фальклор і традыцыі, што шырока адлюстравалі хараство беларускай прыроды, што (гэта адносіцца асабліва да Сыракомлі) адклікаліся да жыцця беларускага народа.

Нягледзячы на тое, што ўсе гэтыя элементы выступаюць у творчасці і жыцці Міцкевіча і Сыракомлі, ні ў якім выпадку нельга гэтых паэтаў залічыць да беларускіх пісьменнікаў. Чаму? Таму, што за рэдкімі выключэннямі паэты гэтыя пісалі амаль выключна па-польску. Якраз мова творчасці Міцкевіча і Сыракомлі назаўсёды звязала іх прозвішчы з польскай літаратурай. Гэтаму не можа запярэчыць тое, што Сыракомля напісаў некалькі дзесяткаў паэтычных радкоў па-беларуску.

Трэба сказаць, што такія „захопніцкія" тэндэнцыі ў адносінах да чужых пісьменнікаў выступаюць не толькі ў беларускай літаратурнай крытыцы. Дарэчы, у польскай крытыцы таксама адзываюцца часам галасы аб тым, што польскім пісьменнікам з'яўляецца Юзэф Кажэнеўскі-Конрад, які быў палякам па паходжанню, але належыць выключна да англійскай літаратуры, бо пісаў па-англійску.

Вяртаючыся да Дуніна-Марцінкевіча, трэба падкрэсліць, што меў насумненна рацыю польскі крытык Юзэф Голомбэк, які, абапіраючыся на мову твораў гэтага аўтара, назваў яго польска-беларускім пісьменнікам.

Дунін-Марцінкевіч нарадзіўся ў 1807 г. на Бабруйшчыне ў фальварку Панюшкавічы. Атрымаўшы элементарную адукацыю, накіраваўся ў Бабруйскую гімназію, якую закончыў у 1824 годзе.

Паводле некаторых звестак, вучыўся таксама на медыцынскім факультэце Пецярбургскага універсітэта, аднак з бліжэй невядомых прычын не закончыў яго.

У 1827 годзе Дунін-Марцінкевіч пасяліўся ў Мінску і тут працаваў у розных установах як чыноўнік. Пераломнае значэнне ў жыцці пісьменніка меў 1840 год, калі купіў ён на Міншчыне невялікі маёнтак Люцынку, у якім правёў рэшту жыцця. У жыцці пісьменніка перапляталіся ідылічныя элементы з драматычнымі. Першыя былі звязаны са спакойным побытам Дуніна-Марцінкевіча — памешчыка. Пісьменнік любіў цэлымі летнімі днямі ляжаць у садзе, слухаючы водгаласы пчол, птушак, песні жнеяў, далятаючыя з навакольных палёў.

Драматычныя элементы ўварваліся ў жыццё Дуніна-Марцінкевіча ў перыяд паўстання 1863 года. Пісьменнік эмацыянальна быў на баку паўстанцаў. Яго дочкі прымалі ў паўстанні больш актыўны ўдзел, чым бацька. З рацыі сваіх прапаўстанцкіх сімпатый Дунін-Марцінкевіч каля чатырох месяцаў правёў у мінскай турме. Яшчэ больш былі праследаваны царскімі ўладамі дочкі пісьменніка.

Зразумела, што ўсё гэта не магло не адбіцца на духоўным стане Дуніна-Марцінкевіча, а таксама на аслабленні яго творчых зацікаўленняў. Да 1870 года пісьменнік знаходзіўся пад паліцэйскім наглядам, не маючы права свабодна перасяляцца па Беларусі.

Памёр Дунін-Марцінкевіч 17 XII 1884 года.

Пачатак літаратурнай творчасці Дуніна-Марцінкевіча звязаны з саракавымі гадамі XIX стагоддзя. Пісьменнік валодаў несум-




© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011
© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

ненна даволі ўніверсальным літаратурным талентам. Быў ён паэтам, драматургам, публіцыстам і ў кожнай з гэтых літаратурных галін сказаў сваё ўласнае слова.

Пачаткова Дунін-Марцінкевіч канцэнтраваў галоўную ўвагу на драматургіі. Напісаў ён па-польску оперныя лібрэта „Рэкруцкі набор" і „Спаборніцтвы музыкаў". Нягледзячы на тое, што гэтыя творы былі пастаўлены на сцэне мінскага тэатра, іх тэксты не захаваліся і не дайшлі да нашых дзён. У пазнейшы час Дунін-Марцінкевіч заняўся паэзіяй, а пад канец жыцця зноў зацікавіўся драматургіяй.

З 1846 годам звязана стварэнне аднаго з найбольш характэрных твораў Дуніна-Марцінкевіча — лібрэта да оперы „Сялянка". Тэкст лібрэта спадабаўся кампазітару Станіславу Манюшку, якога злучала з Дунінам-Марцінкевічам трывалая дружба. Манюшка разам з мінскім скрыпачом К. Кжыжаноўскім напісаў да лібрэта музыку, і твор Дуніна-Марцінкевіча ў 1852 годзе быў пастаўлены на аматарскай сцэне.

„Сялянка" з'яўляецца прыкладам маралізатарскай літаратуры, якая паяўлялася ў асяроддзі паноў, агорнутых хлапаманскай ідэалогіяй. Да такіх паноў належаў, несумненна, Дунін-Марцінкевіч. Мабыць, часткова ад Яна Чачота пераняў ён ідэю, паводле якой памешчыкі былі бацькамі, а сяляне дзецьмі. Зразумела, што абавязкам бацькоў з'яўляецца павучаць, апекавацца, даглядаць, а калі трэба, дык і пакараць сваіх дзяцей. Другім аспектам гэтай ідэі было перакананне аб тым, што прычынай усіх непаразуменняў паміж памешчыкамі і сялянамі з'яўляецца слой пасрэднікаў, эканомаў, прыслужнікаў, адміністратараў. Гэта яны псуюць „сямейную" атмасферу паміж панамі і сялянамі.

„Сялянка" — гэта твор, напоўнены чорнымі або ружовымі характарамі. Факт гэты праяўляецца між іншым ужо ў прозвішчах: Выкрутач, Шчырэцкі, Дабровіч.

Бадай што адзіным героем, які паказаны ў эвалюцыйным развіцці, з'яўляецца памешчык Лятальскі. Аднак развіццё гэтага персанажа належыць да шаблонных і наіўных.

Вось у вялікім скарачэнні змест п'есы. Памешчык Лятальскі, захоплены чужаземшчынай, з пагардай адносіцца і да роднай зямлі, і да мясцовых сялян, і да краёвых звычаяў. Вярнуўшыся з-за мяжы, сутыкаецца з прыгожай мясцовай шляхцянкай Юляй. Яна яму адкрывае вочы на прыгажосць роднага краю і дабрату мясцовага люду. Лятальскі жэніцца з Юляй, вырашае больш нікуды не ездзіць, заняцца ўласнымі падданымі, пакараць людзей, якія злоўжывалі ўладай у яго маёнтку. Зразумела, што маем тут дачыненне з казачным прыёмам перамогі дабра над злом, з канчатковым трыумфам у жыцці розуму і справядлівасці. Каларытнай фігурай у споры з'яўляецца войт Навум Прыгаворка. У польскай дэмакратычнай літаратуры войты наогул паказаны як



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

людзі, якія знаходзяцца на баку прыгнятальнікаў народных мас. Дунін-Марцінкевіч адступае ад гэтых тэндэнцый і паказвае войта ў даволі прыхільным асвятленні. Навум Прыгаворка бачыць усе бясчынствы прыганятых і сялянскія крыўды. Яго сувязь з народам праяўляецца таксама ў шырокім выкарыстанні асаблівасцей беларускай народнай мовы. Праўда, тут пісьменнік напоўніў праз меру выказванні войта беларускімі прыказкамі і прымаўкамі, дзякуючы чаму мова Навума больш напамінае афарыстычны народны слоўнік, чым жывую народную гутарку.

Варта падкрэсліць і тое, што Дунін-Марцінкевіч у нейкай ступені асабіста атаясамліваўся з постаццю Навума Прыгаворкі. Праявілася гэта між іншым у тым, што сам выступаў у ролі войта на сцэне.

Аж дзесяць гадоў пасля публікацыі „Сялянкі" Дунін-Марцінкевіч маўчыць як пісьменнік. У друку не паяўляюцца яго новыя творы. У сувязі аднак з тым, што з 1855 года пісьменнік друкуе вялікую колькасць паэтычных і драматызаваных твораў, можна думаць, што былі яны напісаны раней, але быць можа, па фінансавых прычынах не паяўляліся ў друку.

Характэрнай рысай новага этапу ў творчасці Дуніна-Марцінкевіча з'яўляецца тое, што ўліваецца ў яе ўсё шырэйшы струмень беларускай моўнай стыхіі. Паяўляюцца такія творы пісьменніка, як вершаваныя аповесці „Вечарніцы" — 1855 г. і „Купала" — 1855 г., паэма „Гапон" — 1855 г., вершаваная аповесць „Шчароўскія дажынкі" — 1857 г., „Халімон на каранацыі" — 1857 г., „Быліцы, расказы Навума" — 1857 г., „Травіца брат-сястрыца" — 1877 г.

Пісьменнік друкуе таксама польскія зборнікі „Ciekawyś" — „Przeczytaj" — 1856 г. і „Dudarz białoruski" — 1857 г.

Спецыфіка вялікага цыкла твораў сведчыць аб тым, што Дунін-Марцінкевіч стараўся быць пісьменнікам не фантазіі, а факту. Большасць яго названых вышэй твораў была звязана з такімі або іншымі здарэннямі і падзеямі з навакольнага, найчасцей народнага жыцця. Парадокс заключаецца ў тым, што, нягледзячы на такі стан рэчаў, нельга Дуніна-Марцінкевіча назваць ні народным паэтам, ні фактаграфічным пісьменнікам. Справа ў тым, што, беручы з народнага жыцця асобныя, часта нетыповыя, рэдкія факты, пісьменнік стараўся надаць ім характар штодзённасці, тыповасці і масавасці. Такім чынам разыходзіўся і з фактамі, і з жыццём. Падфарбаваная, ідылічная карціна жыцця беларускіх сялян у творчасці пісьменніка мела не многа супольнага з суровай жорсткай карцінай беларускага рэчаіснага жыцця.

У новы перыяд сваёй творчасці пісьменнік упарта прадаўжае старую ідэйную тэндэнцыю. Паводле гэтай тэндэнцыі, беларускі селянін можа быць поўнасцю шчаслівы тады, калі даверліва зложыць свой лёс у рукі польскага пана і рускага цара. Гэтыя вы-



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

сакародныя асобы зробяць усё, каб беларус мог жыць у матэрыяльным і духоўным дабрабыце.

Такая тэндэнцыя знайшла сваё творчае выяўленне і ў „Шчароўскіх дажынках", і ў „Гапоне", і ў „Халімоне на каранацыі".

І так, „Шчароўскія дажынкі" — гэта з аднаго боку ілюстрацыя прыгожага беларускага народнага жніваньскага абраду, а з другога боку — млосная фальшывая аповесць аб панскай клапатлівасці ў адносінах да беларускіх сялян і сялянскай адданасці ў адносінах да польскага пана.

Такая ж фальшывая тэндэнцыя акрэслівае таксама характар „Вечарніц". Вось, для прыкладу, характарыстыка справядлівага князя Грамабоя, які адзначаецца суровасцю да паноў і пяшчотлівасцю да сялян.

Як родны бацька быў ён для чалядзі,
Любілі яго ў цэлай грамадзе.
Коратка дзяржаў ён родных паноў,
Не папушчаў у крыўду бедных мужычкоў.

Паэма „Гапон" належыць насумненна да найбольш тыповых твораў у беларускай творчасці Дуніна-Марцінкевіча. У гэтым творы праявіліся і наймацнейшыя і найслабейшыя схільнасці творчасці і ідэйнасці пісьменніка. Прынцып, паводле якога паны з'яўляюцца бацькамі, сяляне — дзецьмі, а эканомы — жорсткімі прыгнятальнікамі, знайшоў тут поўнае выяўленне.

Змест паэмы — як гэта бывае ў большасці казак — просты. Вясковы хлапец Гапон кахае вясковую дзяўчыну Кацярыну. Аднак на перашкодзе становіцца злы эканом, які, маючы вока на прыгожую Кацярыну, аддае Гапона ў салдаты. Кацярына аднак не становіцца ахвярай злога эканома, бо бярэ яе на пакоі добрая памешчыца і трактуе дзяўчыну як дачку. Мінае час, Гапон у арміі даслужваецца афіцэра. Прыязджае як старшына рэкруцкай камісіі ў той маёнтак, у якім жыве і эканом і Кацярына. Нягледзячы на розныя хітрасці і выкрутасы, эканом вандруе ў армію, а Гапон звязвае свой лёс з лёсам Кацярыны, якая ніколі яго не забылі і верна чакала.

Такім чынам ідэал: прыгожыя паны, прыгожыя сяляне і брыдкія падпанкі — трыумфуе ў паэме поўнасцю.

Трэба аднак сказаць, што ў постацях сялян, выступаючых у паэме, хоць і многа ёсць ідэалізаванага і казачнага, то ўсё ж такі нямала ў іх таксама аўтэнтычнага і праўдзівага. Этнаграфічнасць і каларызм былі несумненна моцным бокам творчасці Дуніна-Марцінкевіча. У паэме „Гапон" нямала ёсць цікавага і каштоўнага аб сялянскім будзённым і святочным дні, нямала ёсць праўдзівага аб тых справах, якімі жыў і клапаціўся беларускі селянін.

Не хапіла аднак пісьменніку, можа, не жыццёвых ведаў, але адвагі і смеласці, каб сказаць больш горкай праўды аб прыгонн

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

най эпосе, якая няўхільна ў часах, калі пісаў ён свае творы, набліжалася да канчатковага ўпадку. Дунін-Марцінкевіч не толькі не пхаў моцна пахіленую паншчынную, прыгонную структуру, але як мог, так стараўся яе падтрымаць. У гэтым, несумненна, праяўляецца драматычная памылка пісьменніка.

Можна паставіць пытанне: ці верыў у тое, што пісаў? Праўдападобна, хацеў верыць. Кахаючы шчыра і сялян і паноў, рабіў усё, каб пажаданае ставалася рэчаісным, каб найбольшыя гістарычныя ворагі — сяляне і паны — былі сапраўднымі сябрамі.

І думаю, што тут даходзім да сутнасці духоўнай драмы Дуніна-Марцінкевіча. Няма сумненняў — Дунін-Марцінкевіч не быў крывадушлівым фарысейскім тыпам. Ён сапраўды шчыра любіў беларускіх сялян, верыў у іх высакароднасць, захапляўся беларускай мовай, цікавіўся абраднасцю і фальклорам. Пры гэтым аднак любіў і захапляўся ўсім, што было памешчыцкае і польскае.

Падхопліваючы якраз гэтую супярэчлівасць, экспансіўна настроеныя прадстаўнікі польскага кансерватызму атакавалі Дуніна-Марцінкевіча, закідваючы яму непатрэбную, нават шкодную гульню ў народнасць і беларускасць.

І вось, здавалася б, няўпэўнены, хістлівы Дунін-Марцінкевіч — польскі памешчык не паддаецца. Зрэшты, не толькі не ўступае, не толькі не перастае пісаць па-беларуску, але ў многіх паэтычных і публіцыстычных творах праяўляе свайго роду мужнасць і цвёрдасць. Даказвае, што яго беларуская творчасць — гэта не гульня, а толькі свайго роду грамадзянская павіннасць, форма сплачвання доўгу таму народу, які працуе, корміць і інспіруе, — гэта значыць, беларускаму народу.

У вершы „Хіба ж я стары", напісаным у 1856 г., мужна заяўляе:

Для вас, паны, шкада халопскай мне мовы,
Для вас, чые мудрыя надта галовы,
Манеры салонаў засвоіўшы смела,
Смяюцца з таго крытыкуючы смела.
Што тут здраджаецца на родных глебах,
Чужое, хай кепскае, узносяць да неба.
Ваш суд мне не страшны, хай злосна скавыча
У будцы сабака, увагі на пса не звярну я,
Як раіць пясняр Сыракомля пішу я
Цяпер, як заўсёды, на мове мужыцкай.

Цікава, што класавая вымова беларускіх і польскіх твораў Дуніна-Марцінкевіча ў многіх выпадках рэзка супрацьстаўная. Калі ў беларускіх аповесцях і паэмах пісьменнік заўсёды паказвае высакародных, дабрадушных паноў, дык у многіх польскіх творах бачым крытыку панскай жорсткасці і жаднасці.

Дунін-Марцінкевіч гаворыць пра „пыху магнатаў, свавольствы



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

без краю“, успамінае аб сялянскіх крыўдах і аб нянавісці сялян да паноў:

А сяляне тыя
Шлюць праклён з-пад носа,
Пазіраюць скоса,
Што жыве іх працай
Сыты у палацы.

У лісце, апублікаваным на старонках „Gazety Polskiej“, Дунін-Марцінкевіч пісаў аб селяніне, які „палліваючы крывавым потам нівы сваіх паноў, не меў часу для разумовых заняткаў. Калі іншы раз гук матчынай гаворкі даходзіў да прагнага вуха бедака, то гэта быў паток пагроз, лаянак на пагарджаную сірату“.

З усяго сказанага відаць, што Дунін-Марцінкевіч бачыў праўду і ведаў сялянскую бяду, здаваў сабе справу з глыбокага канфлікту паміж польскімі панамі і беларускімі сялянамі. Пры гэтым аднак не дапускаў да сябе думкі аб тым, што гэты канфлікт мог бы выразіцца пры дапамозе класавага змагання. Пісьменнік рабіў усё, каб канфліктавыя стыкі закругліць, спалучыць, звязаць цесным вузлом згоды.

Якая была тактыка пісьменніка? Простая. Ва ўсім, што пісаў па-беларуску — а толькі гэта магло дайсці да неасвечанага тагачаснага беларускага селяніна — гаварыў: пан добры, пан ваш прыяцель, з панам збудуеце сваю будучыню, губіць вас не пан, а толькі падпанак, які ашукоўвае і вас і пана.

У польскай творчасці Дунін-Марцінкевіч не прапаведуе такой наіўнай ідэі. Тут ён больш рэалістычны і ваяўнічы. І хоць непаслядоўна, але час ад часу гаворыць сваім польскім чытачам словы праўды аб жорсткасці паноў, аб цярпеннях, прынесеных імі беларускаму люду. Якраз у гэтым усім і заключаецца спецыфіка, непаслядоўнасць і супярэчлівасць Дуніна-Марцінкевіча.

Меў ён, несумненна, дзве душы; адну панскую і польскую, другую сялянскую і беларускую, і на падставе многіх фактаў можам меркаваць, што беларускае з цягам часу павялічвалася, а польскае паменшвалася, але да канца ні адна з іх на магла перамагчы.

У гэтым і праяўляецца ўся сутнасць Дуніна-Марцінкевіча.

З цягам часу крытыцызм у адносінах да шляхты ў пісьменніка павялічваецца. Прыкладам можа быць п'еса „Пінская шляхта“ — 1866.

У „Пінскай шляхце“ пісьменнік вельмі востра атакаваў норавы, звычаі, мараль шарачковай шляхты. Прыпісваў ёй распойства, прымітывізм, дурацкую канфліктовасць, ганарлівасць, якія з'яўляюцца дасканалай глебай для жыравання хітрых і пражорлівых царскіх чыноўнікаў. Калі б гэта п'еса была пастаўлена пры жыцці Дуніна-Марцінкевіча і калі б яе маглі глядзець беларускія сяляне, дык несумненна ні адзін з іх паставіў бы пісьменніку пытанне: чаму гэта вы так доўга паказвалі нам высакародныя шляхоцкія тыпы і персанажы, а зараз паказваеце такіх страшэнных шляхоцкіх прыдуркаў? І, мабыць, Дунін-Марцінкевіч меў бы клопаты з адказам на такое пытанне.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Апошні сцэнічны твор „Залёты“ — гэта свайго роду адыход пісьменніка на кансерватыўныя пазіцыі. У п'есе аўтар паказвае той гістарычны перыяд, калі шляхта пачала траціць эканамічныя пазіцыі на карысць набіраючай сілы гандлёвай і прамысловай буржуазіі. Шляхта з зайздрасцю глядзела на грошы буржуазіі, а буржуазія з зайздрасцю спаглядала на шляхоцкія тытулы і славу. У такой сітуацыі і адны і другія гарнуліся да сябе, стараючыся аб'яднацца і звязацца сямейнымі вузламі. У польскай літаратуры праблема гэта дасканала паказана ў „Ляльцы“ Баляслава Пруса.

Дунін-Марцінкевіч праўдападобна крыва глядзеў на тое, што чысты шляхоцкі слой засмечваецца ўзбагачанымі людзьмі з сацыяльных нізоў. У п'есе паказаны буржуа Дарабкевіч, які стараецца пралезці ў рады шляхты, жэнячыся са шляхцянкай. Усе грахі свету: хітрасць, ашуканства, крывадушлівасць, недабрасумленнасць, амаральнасць, эгаізм — прыпісвае пісьменнік персанажу Дарабкевічу. Аўтар робіць усё, каб не дапусціць Дарабкевіча ў шляхоцкае асяроддзе, дабіваецца станоўчага выніку. Дарабкевіч замест трапіць у салодкае ложа шляхцянкі, пападае ў астрог.

Зразумела, што маем тут дачыненне з чарговым ідэйным меандрам пісьменніка, з яго непаслядоўнасцю, супярэчлівасцю, з яго зразуменнем новых часоў, характар якіх якраз мела акрэсліць дынамічная новая сіла — хітрая і пражорлівая буржуазія.

Гаворачы аб Дуніне-Марцінкевічу і аб яго ролі ў развіцці беларускай літаратуры, нельга не ўспомніць аб тым, што быў ён першым перакладчыкам „Пана Тадэуша“ на беларускую мову. І факт гэты мае эпахальнае значэнне. Перакладаць Міцкевічаўскі шэдэўр на мову прыгнечанага беларускага народа, мову, якая тады не мела яшчэ напісанай граматыкі, мог толькі чалавек, які горача верыў у перспектыўнае развіццё і будучыню гэтай мовы; чалавек, для якога беларускасць была не толькі тактыкай, але і крыкам душы. І таму, нягледзячы на ўсе непаслядоўнасці Дуніна-Марцінкевіча, трэба яго трактаваць як чалавека, пісьменніка, які больш, чым усе іншыя разам, зрабіў для развіцця беларускай літаратуры і мовы ў першай палове XIX стагоддзя.

У той эпосе, у якой жыў Дунін-Марцінкевіч, творчасць на беларускай мове не толькі не прыносіла славы ці багацця, але была прычынай шматлікіх грамадскіх і эканамічных ускладненняў і клопатаў. Нягледзячы на гэта, Дунін-Марцінкевіч прадаўжаў беларускую справу.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

Прыхіляючыся да тых крытыкаў, якія залічваюць Дуніна-Марцінкевіча да польска-беларускіх пісьменнікаў, трэба падкрэсліць, што для польскай літаратуры быў ён постаццю маргінальнай і перыферыйнай, а для беларускай літаратуры — цэнтральнай, і таму вывучаючы гісторыю беларускай літаратуры адводзім гэтаму пісьменніку тое месца, якое ён заслужыў сваёй упартай і творчай дзейнасцю.

**АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ**

---

# Стагоддзе беларускай палітычнай думкі

Увесну 1884 года з'явіўся ў Пецярбурзе падпольны часопіс „Гомон", (на рускай мове). У масе тадышняй „крамалы" звяртаў ён на сябе ўвагу тым, што называўся беларускім сацыяльна-рэвалюцыйным аглядам. Ягоным патайным чытачам няцяжка было здагадацца, што за ініцыятывай гэткага выдання стаяць людзі з беларускай фракцыі „Народнай Волі", усерасійскага таварыства сялянскіх рэвалюцыянераў. Рэдактары „Гомона" пісалі: „...галоўнаю задачай нашай, беларусаў, з'яўляецца прапаганда федэратыўнай самастойнасці Беларусі..."

Асобы, набліжаныя да „нарадавольскіх" тайніц, магчыма, ведалі ўжо і тады, што адным з вядучых заснавальнікаў тае фракцыі лічыўся Ігнат Грынявіцкі, беларускі патрыёт і забойца цара Аляксандра II, (1 сакавіка 1881 г.). Гэты дваццаціпяцігадовы студэнт тэхналагічнага інстытута праявіў сябе выдатным канспіратарам і арганізатарам нелегальнага друку (фабрыкаваў нават „левыя" пашпарты, патрэбныя арганізацыі!). Калі нарадзіўся „Гомон", яго не было ўжо сярод жывых; у тым замаху сам аказаўся смяротна параненым. Усю справу ўзялі ў свае рукі нейкія студэнты; паліцыя ўстанавіла потым, што кіравалі імі А. Марчанка і Х. Ратнэр. Нічога дакладней пра іх нам пакуль невядома.

„Гомон" выходзіў на рускай мове як тымчасовай; тэхніка друкавання — даволі прымітыўная, гектаграфічная. Кальпартаж быў наладжаны, відаць, не зусім прадумана, калі сышчыкі выявілі рэдакцыю пасля першага нумара, неяк у красавіку. Але, пэўна, не ўсіх схапілі ў той налёт: глыбокай восенню таго ж года выпушчаны быў другі нумар „Гомона". Ці дайшло да трэцяга і чацвертага?



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

„Народная Воля" як цэласць цярпела ад вялікіх правалаў, рух занепадаў, палітычная паліцыя стаяла на ўзроўні сваіх заданняў, і, што важнейшае, вырастанне капіталізму ў Расійскай імперыі высоўвала наперад новую грамадскую сілу, клас рабочых (эпоха сялянства пачынала змяркаць). Увесь той сялянскі сацыялізм, цэлае тое народніцтва не магло не быць утапійным у рэальнай сітуацыі. Тым не менш атрымаў ён высокую ацэнку ў нашчадкаў, а нам, беларусам, дадаткова цікавы яшчэ і тым, што пастаўлена ў ім пытанне аб нацыянальным разняволенні народаў Расіі, без вырашэння якога не магло быць нават і напаміну пра якую-колечы дэмакратыю.

Варта прыгадаць наступны ўрывак выказвання гоманаўцаў:

„...З усіх народнасцей, якія ўваходзяць у склад сучаснай Расіі, лёс беларусаў, як вядома, адметны тым, што на іх ужо здаўна прывыклі глядзець, як на нейкі матэрыял дзеля разнастайных эксперыментаў, а не як на жывую народнасць, здольную самастойна распараджацца сабою. Зыходзячы з гэтага пункту гледжання, бліжэйшыя суседзі беларусаў, карыстаючыся правам мацнейшага, праводзілі над імі свае вопыты і бесцырымонна накладалі жорсткія рукі на жывы арганізм беларускай народнасці, вырашыўшы, што яна павінна пакорліва падпарадкоўвацца мацнейшым і асіміляваецца з імі, растварыўшыся ў вялікарускім і польскім моры...

На шчасце для беларусаў, усе гэтыя вопыты мелі тут уплыў больш на вышэйшыя слаі, чым на народную масу, якая беражліва захавала ўсе свае вызначальныя рысы і асаблівасці. Гэтыя асаблівасці і маглі служыць залогам будучага шырокага развіцця часова прыгнечанай народнасці, у якой рана ці позна павінна была абудзіцца нацыянальная самасвядомасць...

Значыцца, беларуская народнасць, захаваўшы сваю самабытнасць, павінна будзе, безумоўна, заняць у Расіі такое ж месца, якое імкнуцца заняць іншыя больш ці менш вялікія народнасці. Беларусь у асобе сваей інтэлігенцыі пачынае памаленьку ўсведамляць свае вызначальныя рысы, як вобласці, якая адрозніваецца ад іншых абласцей Расіі. Прасякнутая сучаснымі дэмакратычнымі ідэямі, інтэлігенцыя Беларусі пачынае разумець, што іх радзіма толькі тады перастане быць яблыкам разладу і смачным кавалкам для суседзяў, калі яна сваімі сіламі даб'ецца свабоды, сама ўладкуецца... Такія галоўныя прычыны, якія спрыялі ўзнікненню асобнай сацыял-рэвалюцыйнай групы, што выступіла на арэну дзейнасці ў Беларусі. Задачы, якія выпадаюць на долю гэтай групы, вядома, нялёгкія, тым больш, што на кожным кроку ёй прыйдзецца сутыкацца з людзьмі зусім процілеглых думак.

Дзеля болей пэўнага поспеху ў сваёй дзейнасці выступіўшая цяпер група лічыць неабходным мець свой орган, які мог бы



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

служыць выразнікам задач, што яна прымае на сябе. Мы спадзяёмся, што такую задачу выканае наш орган — „Гомон“.

Апрача пытанняў спецыяльна мясцовых, мы будзем у нашым органе закранаць жыццё і іншых абласцей, наколькі яно можа цікавіць сацыяліста-рэвалюцыянера ўвогуле, а беларуса ў прыватнасці. Жадаючы даць чытачам як мага больш жывы матэрыял, мы збіраемся друкаваць артыкулы на рускай, польскай і беларускай мовах...“

У другім нумары „Гомона“ знаходзім асобную абмяркоўку нацыянальнага пытання. Можна пераказаць яго так: кожная нацыя, няхай сабе і зусім слабая, заслугоўвае прызнання за ёй самастойнасці, бо не можа быць вольным той народ, ад якога пакутуе іншы; Беларусі трэба даць вырасці, яна павінна стацца сабою.

Неяк крыўдна робіцца на душы, калі падумаеш, што і пра тую фракцыю і пра гоманаўцаў магчыма сказаць толькі тое, што напісана ў гэтых, усяго двух нумарах „Гомона“ (пра першы з іх паўвеку назад хадзілі адны чуткі!). Несумненнае тое, што трохі контрразведных матэрыялаў наконт тых нацыянальных беларускіх дзеячоў захавалася ў сакрэтных расійскіх архівах, і яны чакаюць свайго ўдумнага даследніка. Як жа хацелася б падаць тут — хоць некалькі падрабязных фактаў, характэрных сітуацый, эпізодаў з жыцця таго ці іншага падпольніка, „панюхаць“ той беларускі час, тую беларускую эпоху, кінуць вокам у прыватныя ды паўпрыватныя перыпетыі тых людзей, бязвусых яшчэ абаронцаў Беларусі, прыдушанай падкаваным ботам чэрствага жандара. Ведаем адну агульшчыну. Тагачасны палітычны беларускі рух меў свае сакрэтныя асяродкі ў Мінску і ў Вільні, у Гродне і ў Магілёве, у Віцебску і ў палескім Пінску, найгусцей — сярод пецярбургскай інтэлігенцка-студэнцкай эміграцыі беларусаў. А хто такія былі Марчанка з Ратнэрам? Адкуль яны, з якога кутка свае айчыны і як склаўся іх далейшы лёс? Пайшлі на катаргу, дзе, як Алесь Гарун потым, набраліся сухотаў ды памерлі?

Такія пытанні наўрад ці наогул з'явіліся ў Францішка Багушэвіча, прызнанага цяпер бацькі беларускага патрыятызму. Не таму, што ён быў тым апошнім з выдатных постацей на нашай зямлі, якія лёс Беларусі яшчэ бачылі залежным ад лёсу Польшчы. Як былому камандзіру з паўстання 1863—64 гадоў, удала замёўшаму за сабою ўсякія сляды свайго ўдзелу ў „мяцежы“, яму вылез бы бокам кантакт з „Народнай Воляй“. Не думаю, каб да вушэй Багушэвіча дайшлі нейкія звесткі пра гоманаўцаў (як і тым жа гоманаўцам пра „Мужыцкую праўду“), хоць у той год акурат пераехаў ён са схоўнай яму Украіны ў Вільню, дзе атрымаў работу і пачынаўся ўжо як наш пісьменнік. Арыентацыя ў яго была не тая! Сябры Грынявіцкага кінулі загледжвацца на палітычную Варшаву, яны трапна зразумелі, што будучыня іхняга



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

змагання — у службе рэвалюцыі ў цэлай Расіі. „Мужыцкая праўда“ і „Гомон“ — гэта антыподы аднае народнае справы. Кастусь Каліноўскі, таксама народнік, але ён заклікаў беларусаў паўстаць супольна з палякамі супраць рускага цара і... польскіх паноў. У самой жа Расіі не наглядалася тады шанцаў дзеля сапраўднага вызвалення мужыцкага народу (што і знішчыла польскі бунт).

„Гомон“ можна і трэба лічыць працягам „Мужыцкай праўды“, — іншая справа, ці свядомым, — чаго нельга ўспрыймаць у простым сэнсе. Каліноўшчыкі не будавалі ідэі беларускай нацыянальнасці, толькі даходзілі да яе, застаючыся барацьбітамі за чыста сялянскія інтарэсы „людзьмі звацца“. Але з гэтай, а не іншай глебы ўзыйшло маладое племя гоманаўцаў з праграмай ужо і сцісла нацыянальнай дзяржаўнасці, і разбуяў велічны талент Багушэвіча. Усяго праз адно пакаленне пасля. Ёсць сцвярджэнні сучаснікаў аб тым, што Ігнат Грынявіцкі называў сябе яшчэ ліцвінам, памятаючы пра традыцыі Вялікага княства Літоўскага; гоманаўцы ж катэгарычна заяўляюць: мы — беларусы, і ніхто іншы! Тое ж і Францішак Багушэвіч, незалежна. Беларусь нарадзілася! Калі быў разгромлены „Гомон“, гэтая жменька маладабеларусаў, Купалу і Коласу, як раўеснікам, было ўсяго па два гадкі, і што цалкам сімвалічнае для нашай духоўнай фізіяноміі, першага ахрысцілі ў касцёле, другога ж — у царкве. Будучая маці боскага ў нашай паэзіі Максіма Багдановіча дарастала да паненства, а будучы Яго бацька (увага: з прыгонных сялян!) настаўнічаў у мінскай пачатковай школе, браўся за беларусазнаўчыя доследы і абцэсам „лез у палітыку“, арганізоўваючы нарадавольскую ячэйку. Ці чытаў ён, Адам Ягоравіч, сакрэтны „Гомон“?

Гоманаўцы ўказвалі на тое, што мясцовыя рэвалюцыйныя групы абавязаны добра ведаць праблемы роднага краю, рэгіянальныя асаблівасці, каб у рашучы момант не даць чужым элементам ашукаць свой народ, зняважыць ягоныя пачуцці, панізіць. Дзеля гэтай работы ніяк не можна дапускаць людзей прышлых, душою і сэрцам не звязаных з тымі, хто корміць іх хлебам і запэўнівае ім будучыню. „Беларускі народ, як нацыя плебейская, чакае яшчэ з'яўлення сваёй інтэлігенцыі. Да гэтага часу ён вылучаў з сябе сілы, якія служылі або польскай, або вялікарускай культуры. (...) Вялікая і святая задача беларускай інтэлігенцыі — раскатурхаць магутныя сілы свайго народа, накіраваць прагрэсіўнае развіццё яго, якое спынілася, даць яму магчымасць праявіць свой нацыянальны геній, глыбока захаваны ад драпежніцкіх намераў палякаў і вялікарускага двухгаловага арла. (...) ...не нізкі ўзровень культуры выклікае яе падпарадкаванне, а, наадварот, падпарадкаванне выклікае застой“, — пісалі па-прароцку дзецюкі з тае беларускай фракцыі (цытую ўсё ў гэтым



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

артыкуле ўслед за ноўшай савецкай хрэстаматыяй „Беларуская літаратура XIX стагоддзя").

Страшэнна недачытаныя мы ж — беларусы з канца дваццатага стагоддзя, але і з канца тысячагоддзя! — неазнаёмленыя з уласным гістарычным мінулым, якое з натугаю адкопваем ды ачышчаем, бы тыя археолагі, што натрапілі на фактычныя рэшткі даўно легендарнай Троі. Калі пачынанні „караля Беларусі" Кастуся Каліноўскага больш-менш замацаваны ў розных, хоць з усякімі інтэнцыямі, публікацыях польскай Вялікай Эміграцыі, дык пра гоманаўцаў даведваемся спарадычнае, у лепшым выпадку з даступных камплектаў следчых матэрыялаў расійскай тайнай паліцыі ці славутага Трэцяга аддзялення імператарскай тайнай канцылярыі. Татальная русіфікацыя Беларусі знішчала падставы дзеля яе адраджэння, дух карэннасці; усё замірала, да чаго дакранулася рука „обрусителя". У дагоманаўскі перыяд замежны „Вестник Народной Воли" змясціў „Первое письмо о Белоруссии": потым „Послание к Землякам Белоруссам". Вандраваў па пецярбургскіх беларускіх дамах безназоўны артыкул з адпаведным нам аспектам, прысвечаны нацыянальнаму пытанню як высунутым з усёй вастрынёю самой прыродаю дзевятнаццатага стагоддзя... І гэта ўсё? І нічога болей не адбывалася ў той працяг беларускага вызваленчага руху?

Перад намі даўжэрны шэраг знакаў запытання, бязмоўных, як цені замучаных у Сібіры.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

---

# Выбраныя праблемы з творчасці Леапольда Родзевіча

У гісторыі беларускай літаратуры і крытыкі было некалькі перыядаў розных супярэчлівых адносін да Родзевіча. Пачаткова выступіла значна завужаная, але наогул аб'ектыўная ацэнка яго творчасці. Потым Родзевіч, як „вораг народу", знікнуў са зрокавага поля даследчыкаў і толькі ў палавіне сямідзесятых гадоў Ян Хаўрутовіч пераклічкай у сваім артыкуле „Ён заслужыў добры ўспамін аб сабе" даў пачатак зацікаўленню гэтай постаццю. Да сёння, аднак, няма ні збору творчасці, ні грунтоўнай манаграфіі, прысвечанай поўнаму вывучэнню яго літаратурнай спадчыны. Нізкі стан ведаў пра Родзевіча застаецца ў поўнай дыспрапорцыі з яго параўнаўча высокай роляй у развіцці беларускай літаратуры. Адна толькі драматургічная спадчына дамагаецца папулярызацыі пісьменніка, які, магчыма, не меў у беларускай пісьмовасці такога значэння, як яго сучаснікі Я. Колас, Я. Купала ці М. Багдановіч, але ў гэтай пісьмовасці знайшоў сваю ўласную, непаўторную і годную вывучэння дарогу.



Пачаткі літаратурнай дзейнасці Родзевіча прыпадаюць на 1910 г., калі, прыехаўшы ў Вільню, пры дапамозе старэйшага брата Часлава, пазнаёміўся ён і сам увайшоў у вір адраджэнцкага руху. Тут таксама беручы ўдзел у працах тэатра І. Буйніцкага, зрабіў першыя крокі ў краіну тэатра. Разам з прыроднымі, а мо набытымі ў дзяцінстве (на жаль, не ведаем, хто быў яго духоўным бацькам), схільнасцямі да аб'яўлення ў літаратурнай форме, факты гэтыя надалі напрамак далейшым зацікаўленням Родзевіча, вызначылі аблічча і характар жыццёвых падзей. Спецыфіка гэтага жыцця і творчасці, якая паўставала ў трох розных эпохах (царскай імперыі, даваеннай Польшчы, савецкай улады) матывуе падзел усёй літаратурнай спадчыны на тры перыяды:

— Нашаніўская творчасць (першы віленскі перыяд, 1910—1915 г.),

— другі віленскі перыяд (1916—1926 г.),

— Савецкі час (1926—1933 г.).

Большасць сваіх твораў падпісваў пісьменнік псеўданімамі. Было іх у Родзевіча асабліва многа. Дагэтуль устаноўлена каля 25: Лявон Жыцень, Лукаш Нехлямяжы, Саўка Змагар, Мікула Грымот, Сучасны, Элер, Антон Замежны, Крайскі, Р. Элер, Крыкун, Ігнат, А. Сталевіч, Юрг., Юргілевіч, Р. Юргілевіч, С., Р. Ю., Антось, Васіль, Васыль Бедны, Васыль Касагар і інш. Мне ўдалося да вызначаных дадаць тры новыя псеўданімы: С. Бірыло, Сцёпка Бірыло, Гаротнік. Карыстаўся імі Родзевіч у перыяд „Нашай нівы". Няпоўнае высвятленне псеўданімаў значна ўскладняе вывучэнне ўсёй спадчыны пісьменніка. З гэтай





© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011






© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

прычыны, між іншым, цяжка ўстанавіць, калі з'явіўся першы твор. Пэўныя меркаванні вядуць нас у 4 нумар „Нашай нівы" за 1910 г., дзе друкаваўся публіцыстычны артыкул „Празоракі", падпісаны псеўданімам „Ігнат". І хоць так падпісваўся Родзевіч значна пазней, то на аснове зместу і месца публікацыі можна здагадвацца, што артыкул належыць яго аўтарству.

Літаратурную творчасць Л. Родзевіча з агульнага фону здабыткаў беларускай пісьмовасці вылучае максімальна шырокая разнастайнасць, як у адносінах формы, так і тэматыкі. Найчасцейшымі матывамі гэтай творчасці былі народ, міжлюдскія адносіны, нацыянальна-патрыятычны, гістарычны, фальклорны, урбаністычны матывы. На розных этапах жыцця Родзевіч прабаваў свае сілы ва ўсіх магчымых напрамках, але ў кожным з іх наглядаецца нейкая характэрная, часта няўлоўная рыса, што набліжае яго творчасць да сцэны.

Неяк так ужо склалася, што найпаўней самарэалізуючай і найбольш задавальняючай маладога Родзевіча была кароткая форма твора, найчасцей форма скетча або сцэнічнай замалёўкі. У такім і падобным стылі з-пад пяра Родзевіча на працягу яго творчай дзейнасці выйшла шмат твораў. Займемся тым часам некаторымі творамі і праблемамі, ці то ў фармальных, ці зместавых адносінах найбольш характэрнымі для ўспасаблення пісьменніка.

Асаблівай увагі заслугоўвае напісаная ў 1912 г. 17-гадовым Леапольдам дасканалая драма „Блуднік", якой аўтар, нягледзячы на як жа малады ўзрост, захапляе чытача сапраўдным мастацкім талентам, спеласцю сваіх поглядаў на жыццё і ўмеласцю трапна ацаніць зло і дабро чалавека, а таксама багаццем арыгінальных матываў для беларускай пісьмовасці. З пастаноўкай і друкам гэтага твора давялося чакаць вельмі доўга, бо цэнзуры не спадабалася сацыяльная завостранасць і тэндэнцыйнасць драмы, у выніку чаго на першай старонцы твора цэнзар напісаў: „Ставіць нельга, бо п'еса нацкоўвае адно саслоўе на другое". Толькі ў 1960 г. трапілі на яе ў архіве. У эфекце публікавалася п'еса пад псеўданімам Мікола Грымог у „Беларускім мастацтве".

„Блудніке" па свайму зместу падобныя на драму К. Каганца „У іншым шчасці няшчасце схавана" (1903 г.) і драму Я. Купалы „Раскіданае гняздо" (1913 г.). Ва ўсіх трох гэтых творах выступае матыў маладой дзяўчыны, якая, спакушаная панам, трагічна гіне ў канцы твора. У „Блудніках" галоўнай гераіняй з'яўляецца Анэта — маладая, прыгожая дачка беднага селяніна Андрэя. Служыць, яна ў двары. Малады пан прыкідваецца закаханым, а потым змушае Анэту задушыць іхняе дзіця, пасля чаго прапануе далейшыя спатканні. Рысуюцца тут два крайне розныя характары прадстаўнікоў двух грамадскіх класаў. Гэтая



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

праблема была ў нейкай ступені традыцыйнай для беларускай літаратуры. Але ёсць у драме і арыгінальныя матывы, якія ўносяць у беларускую пісьмовасць значныя вартасці. Вось хоць бы матыў фабрычнага жыцця, якое, на думку аўтара, было прычынай як фізічнага, так і псіхічнага няшчасця чалавека. Юзік — адзін з персанажаў твора, чалавек з сялянскага асяроддзя, бунтар, пайшоў шукаць шчасця сярод паноў. Пры першай нагодзе, у кругу сваіх выхадцаў прыкідваецца вялікім панам, „фарсістым кавалерам“. Неўзабаве, аднак, пераканаецца, што элегантнае жыццё служыць толькі таму, хто мае грошы, а яму, хлопцу родам з сялянскай сям'і, сярод паноў шукаць няма чаго.

Працуючы на фабрыцы, Юзік траціць здароўе, пасля чаго яго выкідваюць на вуліцу, нібы зношаны прадмет. Забыцця і супакою шукае Юзік у гарэлцы. У канцы твора бачым яго ўжо не толькі як фізічную, але і псіхічную разваліну чалавека. Аднак у ім нараджаецца новая сіла — магутная сіла нянавісці і помсты. Усё ж несвядомасць крыніц свайго няшчасця даводзіць героя да канчатковага маральнага ўпадку. Кончыцца драма тым, што ён забівае жудасным спосабам сваю родную сястру Анэту. Робіць так, бо ніяк не можа пагадзіцца з тым, што Анэта вымушана зарабляць на жыццё нягодным чынам. Постаць Юзіка, як зрэшты і Анэту, паказаны ў глыбока драматычным святле, што адпавядае форме твора і пры жывым, натуральным дзеянні спрыяе таму, каб драма дасканала рэкамендавалася іменна на сцэне. Адно, што не вельмі ўдалае ў п'есе, гэта даволі ўпрошчаны псіхічны аналіз персанажаў, у сувязі з чым рысуюцца або зусім чорныя, або белыя колеры характараў. Асабліва няпоўна ў гэтым святле выглядае постаць Юзіка, пастава якога ў пачатку твора каласальна розніцца ад канцовай. Эвалюцыя, якую герой прайшоў, матывуецца аўтарам вельмі схематычна, павярхоўна.

Зусім непаўторным і новым для беларускай літаратуры з'яўляецца ў творы матыў салдата, які выступае пад характарам адмоўнага героя (ён прадаў Анэту ў публічны дом).

Галоўная ідэя драмы — самаўсведамленне працоўнага чалавека і ўслаўленне яго волелюбівых імкненняў. Драматызм твора заключаецца ў тым, што чалавек працы, які зарабляе на раскошы не аднаго пана, сам не можа зазнаць ніякага шчасця, бо адзінае, што яго сустракае ў жыцці, гэта здзекі, знявагі і ашуканства багатых. Сам загаловак драмы выражае ўжо агульны характар і спосаб жыцця герояў. Блуднікі — гэта Анэта, Юзік, Андрэй — людзі заблудзіўшыя ў жыцці, якія шукаюць дарогі да свабоды і шчасця, але несправядлівыя ўмовы жыцця штурхаюць іх, несвядомых, на дарогу злачынстваў. Да загалоўка „Блуднікі“ Родзевіч у сваёй творчасці вернецца яшчэ раз, некалькі гадоў пазней, каб азагаловіць іншую, на гэты раз аднактавую драму, між іншым, падобную па свайму зместу да першай, але аснаваную на іншых матывах.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

„Блуднікі“ з 1912 г., асабліва для сягоннягняга чытача, вартасныя і цікавыя тым, што дзеянне іх пабудавана на аснове канкрэтных прыкладаў дэкласацыі беларускай даваеннай вёскі, чаго даводзяць хоць бы сцэнкі, якія адбываюцца ў карчме Шлёмы.

Незалежна ад складанасці сюжэта, п'еса бясспрэчна можа быць грана на сцэне, што нязмерна важна ў гэтым гатунку творчасці, і што не заўсёды ўдаецца драматургам нават з вялікім творчым вопытам. Дзеянне ў п'есе жывое, натуральнае.

Несумненна, калі б драма „Блуднікі“ была даступнай шырэйшаму асяроддзю чытачоў, заваявала б не меншую папулярнасць, чым пазнейшы вадэвіль „Збянтэжаны Саўка“, рэцэнзію якому выстаўляюць факты хоць бы таго роду, што быў ён некалькі разоў па заказу слухачоў трансліраваны па радыё, а, праўдападобна, і цяпер яшчэ ставяць яго вясковыя калектывы ў БССР і на Беласточчыне. Нездарма Я. Хаўрутовіч свой манаграфічны артыкул, прысвечаны Родзевічу, пачаў ад слоў: „Хто не ведае беларускага вадэвіля „Збянтэжаны Саўка“. На жаль, як гэта здараецца з вельмі добрымі творамі, якія сваёй папулярнасцю зліваюцца з народнай творчасцю, да сёння нямногім толькі астаецца вядомым, што ў форме вадэвіля твор гэты выйшаў іменна з-пад пяра Родзевіча і публікаваўся ў газеце „Вольны сцяг“, а ў 1921 г. увайшоў у зборнік „Сцэнічных твораў“, выдадзеных пад сапраўдным прозвішчам аўтара.

Сюжэт гэтай п'есы абапіраецца на сітуацыйным камізме. Галоўнымі героямі з'яўляюцца селянін Саўка і яго жонка Магрэта. Стомлены Саўка вяртаецца з поля. Спаткаўшы жонку, пачынае сварку, бо тая не прынесла яму есці. Магрэта наракае, што працавала ўвесь дзень, а няма ніякай пазнакі. У эфекце спрэчкі мяняюцца сваімі абавязкамі. Магрэта ідзе араць у поле, а Саўка астаецца гаспадарыць у кухні. Тут паяўляецца шмат недарэчнасцей, якія выклікаюць у чытача смех да ўпаду. Прыемнае ўражанне пакідае свабоднае, удалае спалучэнне прыгожых, доўгіх дыялогаў у вадэвілі і майстэрскае выкарыстанне (як і ў іншых камедыях — „Конскі партрэт“, „Пасланец“) максімальнай колькасці беларускіх народных прымавак і прыказак, якія ў вуснах герояў з народа гучаць натуральна і паказальна, што разам са сціслацю сюжэта надае камедыі сакавітасці. Спецыфічны беларускі гумар у творчасці Родзевіча спалучаўся са сцэнай вельмі часта, але галоўны герой абмяркоўванага вадэвіля дасягнуў такой папулярнасці, што акрэсленне „збянтэжаны Саўка“ прынялося ў беларускай мове за фразеалагізм. Знайшло гэта непасрэднае адлюстраванне ў беларускай літаратуры. Напрыклад, Міхась Машара ў адной са



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

сваіх кніжак („Лукішкі") піша: „— Я сёння, як той збянтэжаны Саўка. Згубіў усякую арыентацыю". Гэтая камедыя мае асаблівую прыхільнасць і ў самога аўтара. Доказам гэтага можа быць тое, што пазней падпісваўся ён псеўданімам „Саўка Змагар".

Асаблівай увагі ў творчасці Родзевіча заслугоўвае форма яго твораў. Ён як адзін з першых увёў у беларускую літаратуру перамешаны гатунак. Мела гэта несумненна сувязь з тым, што за час усяго свайго творчага жыцця ён шукаў сваёй уласнай, непаўторнай, максімальна камунікатыўнай формы. Былі, мабыць, і іншыя падставы, якія спрыялі ўзнікненню новай формы. Перамешаны гатунак быў якраз у той час модны і выступаў праграмна ў польскай літаратуры. Магчыма, што Родзевіч, вынесшы яшчэ з дому блізкасць польскіх традыцый і культуры, добра знаў і сучасную яму літаратуру заходніх суседзяў. Знаў таксама французскую літаратуру і мову. Узоры гэтых літаратур хацеў, відаць, увесці і ў сваю родную. Праднамеранасць такой формы твораў не мяшала, а наадварот памагала і ў раскрыцці сюжэта, і ў належным яго пераказанні. Пасведчаннем таго, што Родзевіч усё жыццё шукаў больш адпаведнай для сябе формы, перш за ўсё могуць быць паэтычны зборнік „Беларусь" (аб чым далей) і шматлікія творы, як „Хіба ж так не бывае" (1915 г.), „Думкі мужыка" (1915 г.), „На рацэ зімой" (1920 г.), „Сказ аб гуслях" (1920 г.) і інш. Асаблівай меткасцю, як тэматычнай, так і мастацкай, сярод іх выдзяляюцца два апошнія. Аднак, з увагі на ашчаднасць месца, затрымаемся пры адным, „На рацэ зімой", найбольш характэрным у адносінах формы. Пачынаецца ён апавяданнем, потым пераходзіць у абшырны маналог, а ў канцы сцэнічны твор. Нягледзячы на ўскладненне фармальнай і тэматычнай будовы твора, чытаецца ён лёгка і прыемна. Увагу чытача прыцягвае таксама яго праблематыка. Дзеянне твора адбываецца ў даваеннай складанай сацыяльна беларускай вёсцы. На фоне масы жыхароў гэтай вёскі сустракаем канкрэтнага чалавека, Піліпа Крумкача, героя патаптанага, спаняверанага грамадскасцю, які ўсё ж, будучы па натуры добрым чалавекам, хоча пакончыць з бясконцымі асуджэннямі і знявагамі. Адзін ён ніяк не можа з гэтым справіцца, бо ўсе жыхары, знаходзячыся ў кіпцюрах волата Кляшча, слепа становяцца па баку мацнейшага. Даводзіць гэта да жудасцей: жонка Піліпа труецца, а ён сам, надломлены, губляецца ў гарэлцы, аж урэшце, выканчаны псіхічна, выбірае сабе лютую смерць. Псіхіка героя аналізуецца даволі глыбока, у выніку чаго аўтар амаль апраўдвае яго, а галоўную ўвагу крытыкі (асуджэння) кіруе ў бок таго, што: „...ён жыў, як мокрае гарэло! А па-моему, калі ты запісаўся жыць, дык жыві, смурод гэтакі. Глупства, што жыццё пякучае, калючае, а ты хухай, дзьмухай на яго, плюй, кляні, але не вы-



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

пускай. Прымай, значыць, закляўшы гэтае жыццё праклятае, каб яно ў табе аж скрыпела, пішчало..."

Пачуццё патрэбы і сэнсу, падшытае рашучым запалам, якi пранізвае гэтыя страфы, не заўсёды спадарожнічала Родзевічу ў жыцці, што і знайшло сваё адлюстраванне ў творчасці („На шляху да сонца", „Разбітая ваза").

Найяскравейшым адлюстраваннем формы, якою займаўся Родзевіч, з'яўляецца лірычны зборнік „Беларусь" (1922 г.), у які ўваходзіць 16 твораў, але ўсе яны складаюць адну цэласць. Не перашкаджае такой асаблівасці і тое, што камплект яго складаюць надта ж розныя ў сэнсе формы і стылю творы, сярод якіх знаходзім урыўкі рэфлексій, высока-мастацкія рыфмаваныя і белыя вершы, паэтычную прозу, своеасаблівую легенду і адозву. Усе гэтыя творы прасякнуты глыбокім патрыятызмам, клопатамі пра будучае і бязмежнай любасцю да бацькаўшчыны, імя якой „шматпакутная Беларусь мужыцкая".

На першай старонцы зборніка ільсніцца надпіс „Пасвячаю сваёй матулі". Першае ўражанне насоўвае думку, што прысвячаецца ён маці, якая дала аўтару фізічнае жыццё, але ўважлівы аналіз зместу зборніка дазваляе меркаваць, што гаворка ідзе пра іншую маці (хто знае, ці не важнейшую), маці душэўную, якая дала аўтару маральную сілу і сэнс жыцця, а якой магла быць толькі „Беларусь сінявокая". Асаблівага значэння набірае зборнік, калі зважыць, што яго змесціва пабудавана на аснове канкрэтных гістарычных падзей, бачаных праз прызму ўласных, балючых адчуванняў. Пачынаецца кніжка, якую можна было б назваць, ва ўмоўным сэнсе, паэмай, з жахлівага краявіду сучаснай аўтару Беларусі:

„У гразь утаптана ляжыш
Заходзіш кроўю з сьвежых ран..."

якi выклікае ўспаміны не менш журботныя:

„А кругом дужыя, ляскаючы клыкамі,
рвуць сквапнэ цела кускамі: —
Няміга, Люблін і Рыга
калі скрыша іх вясны нашай крыга!"

Тут родзіцца пытанне:

„Братцы, а можа мы блудзім?"

У адказ няяснасць і няпэўнасць заўтра, але і надзея:

„Не тужыце Беларусы
сон то моц
Са сном ноч
сустрачаюць сонца..."

Далей выплываюць менш цьмяныя, больш канкрэтызаваныя жаданні:

„Разсьвяткуйся, неба, выбухні зарніцай,
памажы сярмяжным шумна весяліцца,



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

бо з зямелькі маці мае адрадзіцца
ў кашульцы шчаснай Беларусь сінявока.
Даставай жа, Юр'я, ключы залатыя,
разчыняй пакоі яснавеснавыя.
Падмятай жа, Пётра, з хмар пакоі тыя,
аірам пасып ад Няпра да Беластока".

За заканчэнне такой паэмы трэба б прыняць пазнейшы твор— паэму „Праталіна" (1923 г.), які не ўвайшоў у зборнік (публікаваўся пазней, у іншым — „На паняволеных гонях"), але зместам сваім шчыльна з ім зліваецца. А вось, напамінаючы твор М. Чарота „Босыя па вогнішчы" і „Дванаццаць" А. Блока, настрой паэмы:

„Гура! Гу-у... Ай-ю-га! Трах
вось і па моцных дзьвярах!
Ледзяныя запоры — грузалкі!
Усход надзеі яснапалкі.
З рэвалюцыйным парадам
праз парог вадаспадам
бурліць дух грамады — дух Божы,
злы, як зьмей, як агонь шустры..."

Добрыя зместавыя якасці гранічаць у лірыцы Родзевіча з мастацкімі вартасцямі. Высока-рамантычны стыль, праўда, які часам губляецца ў пафасных узлётах, асабліва ўдала сугучыць з захаванай у некаторых вершах мелодыкай („Белая музыка", „Мінуўшчына"). Нягледзячы на тое, што ў зборнік уліліся глыбока эмацыянальныя, часта сімвалічныя і вельмі асабістыя разважанні аўтара пад існінай даўняй, цяперашняй і будучай Беларусі, некаторыя з вершаў захоўваюць актуальнасць да сённяшняга дня. Пачуцці, улітыя ў зборнікавую лірыку, на стольki магутныя, даставерныя і сапраўдныя ў сваім красамоўстве, што іх аўтару часта не ўдаецца скрыць сваіх эмацыянальных парываў і, парушаючы ўсякія канвенцыі, ён пераходзіць да спантанічнага, з нічым не звязанага праліванння сваіх думак.

Пры ўсім рамантычным успасабленні Родзевіча і схільнасці да патэтычнай маніфестацыі сваіх пачуццяў, лірыка гэтая змяшчае ў сабе шмат рэалізму. У асноўным жа ні на страфу не адрываецца паэт ад рэальнага вобразу Беларусі, якую бачыць ён з аднаго боку бяссільнай, апушчанай і адзінокай, а з другога такой мужыцкай, „шалам дзікай, усёй бунтарскай".

Ёсць у зборніку і вершы менш вартасныя, асабліва тыя, у якіх пераважае дыдактызм або крайняя тэндэнцыйнасць. Агульна ўсё ж лірыка займае пачэснае месца ў творчасці Родзевіча і заслугоўвае шырэйшага вывучэння. Не без рацыі І. Канчэўскі пра зборнік гэты напісаў: „Здаровая, поўная сілы лірыка, якая ўмее не затрымлівацца ў мрочных кутках чалавечага духу, а ідзе разліваецца ў шырокае мора ўсясветнай творчасці."



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Сваім зборнікам „Беларусь" у беларускую літаратуру ўнёс Л. Родзевіч нямала новага, таму і спадзявалася літаратурная крытыка далейшых паэтычных поспехаў. Тым часам кінуўся паэт у вір грамадска-палітычных спраў, якія пасадзейнічалі каласальным зменам яго жыцця, і з рамантычнага паэта сфарміраваўся выдавец і журналіст. З той пары (другая палавіна 20-х гадоў) знікла яго паэзія са старонак газет, а на яе месца паявілася вялікая колькасць публіцыстычных артыкулаў.

Гэтая праца абмежавана толькі да некаторых праблем з буйнага творчага жыцця пісьменніка, драматурга і паэта, што не адкупляе ўпоўні крыўд, якія ён няслушна зазнаў, і абавязвае да далейшых разважанняў.

**ВАЛЯНЦІНА АНІШЧУК**



*Гайнаўскі актыў БГКТ шасцідзесятых гадоў.*



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

У сакавіку 1984 года спаўняецца 415-годдзе выхаду ў свет першай на Падляшшы кніжкі руска-беларускіх першадрукароў Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца, якія ў выніку рэакцыйна-рэлігійных непаразуменняў пакінулі Маскву і перасяліліся ў маёнтак гетмана Вялікага княства Літоўскага Рыгора Хадкевіча ў Заблудаве. Тут яны заснавалі друкарню і ў 1568/69 годзе выдалі „Евангелие учительное“, а ў 1569/70 годзе „Псалтыр с Часословцем“.

Першая мела 408 лістоў друку фармата 31×19,4 см. Да сёння захавалася ў бібліятэках СССР, ПНР і іншых краін 31 кніжка.

Другая налічвала 377 лістоў друку фармата 16,8×13 см, а захавалася ўсяго толькі 3 кніжкі. Абедзве залічваюцца да найпрыгажэйшых тагачасных выданняў. Мастацка выкананы шрыфт, гравюры (крэскі, ініцыялы, застаўкі) і цэлыя кампазіцыі служылі некалькі стагоддзяў недасягнутымі ўзорамі для беларускіх, рускіх, украінскіх і іншых славянскіх друкароў. У іх упершыню ўведзена тытульная старонка, нумарацыя лістоў, націскі, таблічны набор у двух колерах і многа іншых інавацый. Кніжкі надрукаваны на мясцовай і імпартаванай з Венгрыі, а таксама з Германіі паперы. На жаль друкары пакінулі Заблудаў (П. Мсціславец перанёсся ў Вільню, а І. Фёдараў — на Украіну). Магчыма, што мясцовае насельніцтва або царкоўныя бібліятэкі захоўваюць гэтыя рэдкія ўжо выданні. Было б карысна для навукі, каб яны выявіліся.

Ніжэй змяшчаем невялікі мантаж узораў, змешчаных у львоўскім выданні 1974 года, у які ўваходзяць старонка Псалтыра з Часаслоўцам, некалькі заставак і ініцыялаў.

Тым, хто хоча глыбей пазнаць спадчыну першадрукароў, раім сягнуць да літаратуры:

— Зернова А. С. Начало книгопечатания в Москве и на Украине, 1947.
— Неміроўскі Я. Л. Іван Фёдараў... в: 450 год беларускага кнігадрукавання. 1968.
— Запаско Я. Мастэцька спадчына Івана Фёдарава. 1974.

**У. ЮЗВЮК**







*Гравюры заблудаўскіх выданняў.*

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

# V

# АБ НАС ПІСАЛІ

„Historia Białorusi jest, jak wiadomo, jedną z najsmutniejszych i najtragiczniejszych w Europie. Jest to historia narodu, który w ciągu XI wieku tworzył własną kulturę, brał udział w życiu umysłowym Europy, potem zamarł całkowicie po to, by po długich wiekach zacząć żmudną pracę tworzenia się od początku".

**MARIA RUDZIŃSKA-FROELICHOWA**
Uwagi nad literaturą białoruską
*Warszawa 1936, s. 381*

„Byłoby błędne przypuszczenie, że lud białoruski, pozbawiony jest samowiedzy swojej zbiorowości. Przeciwnie, wszędzie wśród ludności białoruskiej można bez trudu stwierdzić silny stan samowiedzy przede wszystkim socjalno-klasowej, religijnej, a także narodowościowej."

**KONSTANTY SROKOWSKI**
Sprawy narodowościowe na Kresach Wschodnich.
*Kraków 1924, s. 7*

„Gdy w latach 1944—1946 sprawowałam funkcję I sekretarza Białostockiego Komitetu Wojewódzkiego PPR, powiat bielski był nie tylko jednym z najlepszych w utrwalaniu władzy ludowej i walce z jej wrogami, ale także niezawodnym źródłem kadry dla komitetów partyjnych, rad narodowych i organów bezpieczeństwa w województwie".

**EDWARDA ORŁOWSKA**
Pamiętam jak dziś
*1973, s. 132*



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

„Po całym kraju rozjechali się towarzysze i przyjaciele, z którymi stawiałem pierwsze kroki na Białostocczyźnie po wyzwoleniu. Zawsze jednak, ilekroć się spotykamy, ze wzruszeniem wspominamy te trudne, lecz piękne, pełne rewolucyjnego romantyzmu pierwsze dni na wyzwolonej od okupanta ziemi białostockiej, kiedy zaczynaliśmy budowę władzy ludowej".

**EDWARDA ORŁOWSKA**
Pamiętam jak dziś
*1973, s. 354*

„Od ćwierćwiecza niemal rozlegają się wśród krytyków i czytelników radzieckich słowa podziwu przede wszystkim dla białoruskiej prozy, która rozwija się zaskakująco organicznie i wielostronnie, co pozwala jej pełnić ważną rolę artystycznego zwierciadła wciąż zmieniającej się rzeczywistości i swoistego poradnika życia".

**FLORIAN NIEUWAŻNY**
O co pyta białoruska literatura
W: *Kontrasty 1982, nr 1*

„Dochodzimy więc do wniosku, że we wschodnich powiatach Białostocczyzny ukształtowała się, na bazie odrębności wyznaniowej, grupa etniczna, nie posiadająca własnego oblicza etnograficznego, wyróżniająca się jednak wyraźnie świadomością swej „inności" i odmiennością zbiorowych zachowań. Jest to więc grupa, która istnieje przede wszystkim dla socjologa".

**WŁODZIMIERZ PAWLUCZUK**
Białorusini jako grupa etniczna
(próba interpretacji socjologicznej)
W: *Studia Socjologiczne 1968, nr 2, s. 50*

„Z perspektywy czasu (nie byle jakiego zresztą, bo więcej niż 20 lat) każdy obraz dzieciństwa odmalowany bywa znacznie pogodniej, czym ono było naprawdę. I choć „cicha białoruska prowincja" nie zawsze cichą była bo wojna długie lata przerwała jej otoczkę spokoju, do krwi, do samego wnętrza — jednakże sentyment, który narasta w miarę oddalania się w przestrzeń i czas, zacierając wiele z okrucieństwa i tragicznych nieporozumień tamtych lat, zostawiając w pamięci to, co niekłopotliwe i dobre, to do czego chciałoby się wrócić. (...) Żyjąc w Wołkowysku znajdowałem się i wychowałem się w polskim ośrodku, wyjeżdżając na wieś, w Białowieską puszczę, trafiłem pomiędzy Białorusinów, pomiędzy ich zwyczaje i językowe osobliwości".

**EUGENIUSZ KABATC**



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

лады ці вырабы, вызначаюцца завершанасцю формы. Гледзячы на іх, здаецца, што іх ужо нельга зрабіць больш дасканалымі.

Драўніна адыгрывала таксама спакон вякоў важную ролю ў народным мастацтве. Нельга тут не ўспомніць аб скульптуры ў дрэве. Зразумела, што гэта была культавая скульптура, але яна выразна выдзяляецца ад прафесіянальнай скульптуры, а лікі святых угоднікаў нагадваюць сялян з іх унутраным светам і перажываннямі.

Большасць народных музычных інструментаў (дудкі, жалейкі, трубы, скрыпкі, басэтлі, цымбалы, гуслі, цытры, ліры) выраблялiся з драўніны або драўлянай сыравіны, ці драўніна спалучалася з карой.

Калі паслухаем, як у руках чалавека пяе скрыпка, дудка і іншыя музычныя інструменты, выкананыя з дрэва, здаецца, што чалавек з'яўляецца толькі прыдаткам да гэтых інструментаў, а дрэва таленавітаму музыканту аддало сваю душу і ўменне, проста даверылася яму, і ў яго руках пяе жывую і загадкавую песню прыроды.

Яшчэ варта ўспомніць і аб тым, што рэдкія цацкі, якія мелі дзеці, былі часта драўляныя, з драўніны быў зроблены інвентар для дзіцячых гульняў.

Дрэва суправаджае чалавека праз усё жыццё ад дня нараджэння і да апошняй хвіліны яго жыцця. У апошні шлях ідзе разам з ім у форме труны, якую нездарма завуць таксама дамавінай.

Стары чалавек ці калека карыстаўся кіёчкам, які амаль арганічна спалучаўся з ім, станавіўся адным з яго органаў. Не зусім можам зразумець, чаму якраз на такім кіёчку бачым часта фігуры звера, птушкі, чалавека, вужакі ці расліны. Ці гэтым хацеў чалавек падкрэсліць другую форму жыцця дрэва, ці рабіў з магічнай мэтай, для нас не мае ніякага значэння. Важна, што чалавек мёртвае дрэва — драўніну хацеў трактаваць як нешта жывое.

Такім чынам, чалавек воляй лёсу доўгія стагоддзі свайго існавання спалучыў з дрэвам. Чалавек і дрэва былі адвечнымі і неразлучнымі спадарожнікамі. Дрэва выціснула трывалы адпячатак у светапоглядзе чалавека, верна і бясспрэчна яму служыла.

Ці заўсёды чалавек разумеў, што і жывое дрэва — яго верны і неабходны сябар? Відаць, не, бо найчасцей народныя вераванні і магічныя забароны разыходзіліся з практыкай.

І толькі ў наш час, калі драўніна выцясняецца з быту, а лясоў становіцца ўсё менш і менш, думка аб тым, што дрэвы і лес з'яўляюцца жыццедайнай сілай, пачынае набываць новы, навукова абгрунтаваны сэнс. У барацьбе за сваё існаванне чалавек ніколі з гэтым не лічыўся. Здавалася, што лясоў многа і яны па сабе аднаўляюцца. А лес адступаў.



Варта аднак задумацца над тым, што нашых продкаў не падвяла інтуіцыя. Абапіраючыся на наіўныя тлумачэнні сваіх шматвяковых назіранняў за жыццём дрэў і прымітыўныя вераванні, астанкавыя формы якіх даходзяць да нас, як трэскі з месца, дзе рубаюць дровы, змаглі яны ў далёкім мінулым знайсці падставу, каб узвесці дрэва да сімвалу жыцця. І ў гэтым не памыліліся.

**МІКОЛА ЛОБАЧ**

## ЛІТАРАТУРА І КАМЕНТАРЫІ

[1] Навукай не высветлена, ці крыж не з'яўляецца, між іншым, і сімвалам дрэва. Многія аздобныя крыжы, асабліва каваныя, вельмі моцна нагадваюць дрэвы. Пры гэтым аздобы на іх — сонца з праменнямі, месяц, птушкі — магчыма ўвасабляюць цэлы вечна жывы Сусвет. Верагодна, што сімволіка крыжа ў розных постацях і формах сінтэтызуе шэраг паняццяў, звязаных з разуменнем чалавекам Космасу і Сусвету. Тым не менш прататыпам хрысціянскага крыжа ў такой форме, якую сустракаем на Беласточчыне, магло быць толькі дрэва. Гэта спрошчаны сімвал або знак на абазначэнне дрэва (заўвага М.Л.).

[2] T. Karwicka. *Zakazy związane z drzewami i motywujące wierzenia. Etnografia Polska, 1973, T. XVII, cz. 1, s. 134.*

[3] K. Moszyński. *Kultura ludowa Słowian, Warszawa, 1967, T. II, s. 511.*

[4] K. Moszyński. *Polesie wschodnie, Warszawa, 1928, s. 72.*

[5] Там жа, *с. 72—73.*

[6] Там жа, *с. 73.*

[7] Архіў геаграфічнага таварыства СССР у Ленінградзе, разрад II, *вынісь 1,* № 4.

[8] К. Брэн. *Мясцовае этнаграфічнае апісанне Бельскага павету,* с. 4, *адв. 5.*

[9] Там жа, *с. 19, адв. 20.*

[10] Там жа.

[11] Ю. А. Якімовіч. *Драўлянае дойлідства беларускага Палесся, Мінск, 1978, с. 82.*

[12] Л. С. Абэцэдарскі. *Белоруссы в Москве XVII в., Мінск. 1957, с. 31—33.*

[13] А. І. Мальдзіс. *На скрыжаванні славянскіх традыцый, Мінск, 1980, с. 224.*

[14] Больш падрабязна гл. у: *Czesław Okołów i Włodzimierz Gacuta. Muzea w Białowieży, Białowieża, 1970, s. 21—36; Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, Białystok, 1972, s. 117—131, а таксама ў шматлікіх публікацыях „Нівы“.*

© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

# VII
# ЛІТАРАТУРНАЯ ЧАСТКА

## АГЛЯД ВЫБРАНАЙ ТВОРЧАСЦІ „БЕЛАВЕЖЫ“ Ў 1981/82 Г.Г.

У 1981/82 г. на старонках „Белавежы“ публікавалася 24 аўтары, у іх ліку — 3 дэбютанткі. Дзевяцёх змясціла ўсяго 1—2 вершы. Найбольш плённымі аказаліся Алесь Барскі, Сакрат Яновіч, Надзея Артымовіч.

Незалежна ад абмежаваных выдавецкіх магчымасцяў, у 1981 г. быў выдадзены паэтычны зборнік Надзеі Артымовіч „Роздумы“, і на польскай мове (у перакладзе) „Samosiej“, „Małe dni“ С. Яновіча і „Na początku było słowo“ Ю. Генюша; усе тры апошнія — прозай.

Галоўны жанр творчасці „Белавежы“ — гэта паэзія, аднак даволі розная ў стылі, форме і мастацкай традыцыі. Сярод аўтэнтычнай паэзіі, напісанай неблагой літаратурнай моваю, у акрэсленым стылі, трапляецца, на жаль, і вершаскладанне не адпавядаючае ўмовам сапраўднае паэзіі. Датычыць гэта перш за ўсё спробаў вольным вершам, а прычына таго не — адсутнасць у іх аўтараў літаратурных здольнасцей, а фальшывая ацэнка вольнага верша, які абсалютна нікога не звальняе ад ведаў у галіне прынцыпаў канструкцыі верша, ды ад пазнання і дасканалення пісьменскага варштату. Паслядоўнасцю спрошчанай ацэнкі з'яўляецца неабгрунтаванае атаесамліванне моды на вольны верш са стылем; прыдумванне заблытанай асацыятыўнасці і незразумелай (мо, нат і самому аўтару) метафорыкі. Заўвагі гэтай, аднак, нельга прыняць як ацэнку творчасці „Белавежы“, ані ацаніць яе як выступленне супраць сучасных плыняў у паэзіі, неабходных для развіцця пісьменнай культуры. Справа ў тым, што сапраўднае мастацтва ў літаратуры вымагае ў аднолькавай меры таленту як і пазнання пісьменскага варштату ў самым шырокім паняцці. Аддаючы належнае „белавежцам“, трэба сказаць, што іх мастацкая свядомасць у асноўным фарміравалася фальклорнымі крыніцамі, цесна звязана з народам, родным краем, яго прыродай, і гэты фактар ляжыць у аснове іх літаратурнай дзейнасці. Сувязі гэтыя маюць вялікае значэнне, асабліва ў час дэзінтэграцыі вясковай грамадскасці і з'яўляюцца гарантыяй віталізму паэзіі перад усім. Незалежна ад паэзіі, пісанай літаратурнай мовай, наглядаюцца ўсё часцей вершы, пісаныя на мясцовым дыялекце, аўтары якіх, праўдападобна, больш дасканала валодаюць тымі гаворкамі, чымсьці літаратурнай мовай. Пазітыўная ацэнка гэтай з'явы заключаецца ў дакументальным значэнні дыялектнага запісу для моваэнаўчых і фальклорных даследаванняў. Скупаваты, у параўнанні з паэзіяй, удзел прозы ў літаратурнай дзейнасці „Белавежы“ рэкампенсуецца яе якасцю.

У 1982 годзе з'явіўся, пакуль што на старонках „Нівы“, прысвечаных „Белавежы“, новы ў беларускім пісьменстве ў Польшчы жанр афарызмаў, пра якія — некалькі слоў далей — пры аглядзе выбранай творчасці некалькіх аўтараў.

Творчасць Сакрата Яновіча, насычаная аўтабіяграфічнымі элементамі, цесна знітаваная з народам, з яго бытам і культурай, вынікае з рэаліяў грамадскага жыцця. У сувязі з гэтым грунтоўнае зразуменне яе можа быць у нейкай ступені абумоўлена пазнаннем біяграфічнага фактару і спецыфікі асяроддзя пісьменніка, што з'яўляецца асноўнай крыніцай творчых задум, базай сюжэту і галоўным адрасатам яго твораў.

У сваёй творчасці, як і ў жыцці, Сакрат Яновіч уяўляе сабою абсалютную індывідуальнасць. Пісьменства яго, фактычна, нельга шуфлядкаваць у ніякія дзялянкі. Ён патрапіць пісаць верш прозаю і наадварот, рэпартаж у яго можа пераплятацца з сатырай, безэмацыянальная нарацыя раптам набывае фарбаў лірыкі, альбо дыялог можа прыйсці на выручку роздумам маналагічнага характару.

Сакрат Яновіч часта прыдае сваёй пісанай мове характар гутаркі з яе дыялектычным запісам, гутаркавай стылістыкай, што надзяляе сюжэтныя эпізоды іх спецыфічным настроем. Гавораная, быццам хатняя, мова ў творчасці С. Яновіча адлюстроўвае клімат асяроддзя, прыдае асаблівасць каларыту бытавой інфармацыі, чыніць тэкст твора больш пераканаўчым. Мова такая не заўсёды падпарадкаваная літаратурным канвенцыям, калі-некалі з незакончанымі фармальна сказамі, з абмежаванай колькасцю прыметнікаў і скарочаным тэкстам носіць характар фразеалогіі ў дыялогу між героямі, але як жа адпавядае яна вымаганням асабліва мініятурных „сакраткаў“, з іх непаўторным унутраным кліматам, настроем.

С. Яновіч не клапоціцца пра тое, каб пасегрэгаваць сваіх герояў на пазітыўных і адмоўных. Ён дае ім свабоду дзеяння, незалежнасць, быццам толькі сочыць за іх манерамі, учынкамі і слабасцямі, але і неўпрыкмет вядзе іх да акрэсленай мэты, ставіць іх сам-насам з грамадскімі праблемамі, надзяляе іх значэннем грамадскага дзейніка, пакідаючы ацэнку таго самому чытачу. У апо-





© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

весцях жа С. Яновіча можа зусім адсутнічаць пазітыўны герой, аднак не можа быць нават найменшай мініяцюры, з якой не вынікала б нейкая праблема, ці акрэсленая ідэя, якая б не прымушала чытача да роздуму. Нараўні з талентам у С. Яновіча наглядаецца ў яго і працавітасць. Дасюль выдаў ён дзевяць кніжак, між іншым: „Загоны", „Сярэбраны яздок", „Вялікі горад Беласток", „Сцяна", „Самасей", „Малыя дні" і шэраг п'ес. Апрача таго знаходзіцца ў друку пяць наступных. Перад усім аднак, выяўляе С. Яновіч сапраўднае майстэрства ў сваіх „сакратках" г.зн. у мініяцюрах, у якіх знайшоў ён самога сябе як пісьменніка з усебаковымі поглядамі на жыццё. Да красавіка 1983 года бібліяграфічная статыстыка С. Яновіча налічвае трыста сорак восем загалоўкаў яго твораў, публікаваных у часопісах ПНР і за мяжою (апроч тых, што ў кніжках).

У творчасці сваёй, выцякаючай з крыніцы бытавой і этычнай культуры народа, выяўляе Сакрат Яновіч частку характару душы свайго народа, гуманную дабразычлівасць, пранесеную гэтым людам скрозь шэрасць гісторыі, кляйміць звіхнутыя характары адзінак і праявы паталогіі грамадскага жыцця. Ён не намагаецца на маралізатарскія тэксты, не хваліць і не ганіць сваіх герояў. С. Яновіч — чалавек цвёрдага, стойкага характару, умела — тонка імкнецца сваім літаратурным словам, праз унутраны свет асобнага чалавека, выявіць у грамадстве сацыяльныя зрухі. Вось у чым заключаецца асноўная ідэя творчасці С. Яновіча — як пісьменніка заангажаванага ў рэчаіснае, а не пажаданае, у фактычнае, а не ў спекулятыўнае, аўтара — што паслугоўваецца сваім уласным, а не пазычаным філасофскім асэнсаваннем, ды сваім, а не пакінутым яму метадам спалучэння натуралізму з псіхалагічным аналізам. Моцнае пачуццё ініцыясці спарадзіла ў С. Яновіча перакананне аб лепшасці роднага над усім іншым і вернасць народнай культуры, а перш за ўсё — роднаму слову. Пачуцці да мовы матчынай вырастаюць у яго да рангу рэлігіі, як культуры найвышэйшай ступені, і з'яўляюцца крыніцай ягонай індывідуальнасці.

Асобным раздзелам у творчасці С. Яновіча 1981—83 гадоў ёсць яго публіцыстычная дзейнасць. Бясцэнную вартасць для беларускай культуры, асабліва для яе гісторыі, уяўляюць сабою апошнія эсэ або рэпартажы з „падарожжа" аўтара шляхамі мінулага. Ба — каб хоць шляхамі, але на самай справе, дык гістарычнымі бездарожжамі, слядамі беларускай культуры, старанліва пазаціранымі прыслужнымі суседзямі. Хто меў нагоду прачытаць эсэ С. Яновіча „Дабрарусь, Дабрарусь" у перыёдыку „Więź" ці цыкл урыўкаў з нованапісанай ім кніжкі „Беларусь, Беларусь" у месячніку „Kontrasty" і „Literatura na Świecie", той усведамляе сабе, наколькі трэба было яму запасціся цярплівасцю, колькі здабыць ведаў і адшукаць ведамымі толькі аўтару спосабамі, дакумен-



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

таў, каб вывесці на свет божы камуфляваныя гісторыяй факты беларускасці! — аўтар даказвае партнёрства беларускай культуры, асабліва з культураю польскаю і, часткова, усходнесуседскаю, а не падапечанасць ці яе залежнасць.

Гэтыя пошукі і публікацыі С. Яновіча напаўняюць пачуццём аптымізму.

Бяда толькі ў тым, што большасць мастацкіх твораў і публіцыстычныя здабыткі Сакрата Яновіча дагэтуль маглі ўбачыць свет адно ў перакладзе.

Нялёгкі пераклад з беларускай мовы адмоўна ўплывае на мастацкія вартасці гэтых твораў (хоць „Беларусь, Беларусь" напісаная перш за ўсё для палякаў і знарочна па-польску).



Літаратурная дзейнасць Аляксандра Баршчэўскага ў 1981/82 годзе заключаецца ў навуковых апрацоўках, у якіх аўтар выступае пад сваім, аўтэнтычным, прозвішчам і ў літаратурна-мастацкім пісьменстве, што публікуе пад псеўданімам Алесь Барскі.

У 1981 годзе Выдавецтва Варшаўскага універсітэта выдала 2-ую частку гісторыі беларускай літаратуры перыяду Кіеўскай Русі і Вялікага княства Літоўскага (І-шая частка была выдадзена раней). У тыднёвіку „Ніва" публікуецца ва ўрыўках апрацоўка „Нашаніўскай пары". Навуковыя публікацыі не змяшчаюцца ў творчасці „Белавежы" і не падлягаюць нашаму агляду, аднак маюць непамерную каштоўнасць, у аднолькавай меры дыдактычна-пазнаўчую, як і папулярызатарскую ў галіне беларускай культуры наогул і асветы ў асаблівасці, не ўспомніць пра гэты факт у аглядзе было б памылкаю.

У літаратурна-мастацкай дзейнасці, апрача лірычнай паэзіі Алеся Барскага з'явіўся новы жанр — малавядомы ў беларускай літаратуры — афарызмаў.

Пяршынства Алеся Барскага ў паэзіі аб'яднання „Белавежа" даведзенае, на маю думку, у аглядзе пад загалоўкам „Белавежа" і застаецца непарушным публікаванай беларускамоўнай паэзіяй польскага аўтарства. Згодна з выяўленым раней намерам А. Барскі закончыў у 1982 г. цыкл 100 вершаў пад загалоўкам „Блізкасць далёкага", у якім апявае галоўным чынам духоўную блізкасць з фізічна аддаленым жыццём ад родных мясцін, дзяцінства і юнацтва.

„Мой тапаліны свет  
Наднарвянскі далёкі,  
Ты ўсё бліжэй, бліжэй,  
А я ўсё адлеглей"... („Ніва" № 27/81 г.) і далей



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

...„Яно злажылася
На тое у што я
Так балюча верыў
З чаго яно?
Са сноў маіх
Са слоў
І цела“. (верш 100).

Агульныя контуры паэзіі Барскага нязменныя ў вернасці ідэі асэнсавання жыцця, якой прысвечана належная ўвага і месца ва ўпамянутым цыкле вершаў.

Крыніцу ідэі ўласнага творчага жыцця шукае аўтар у творчасці Максіма Багдановіча.

...„Максіме Багдановіч!
Тваёй любві мне трэба!
Да пагарджанай
Іншасці — Айчыны“...
...„Веры ў сэнс
Шалёнага парыву“. (верш 81)

Наогул падабенства паэзіі А. Барскага, яе дынамікі і, часткова, стылю да творчасці М. Багдановіча, на мой погляд, несумненнае.

Асноўнай базай паэтычнага ўзлёту паэта з'яўляецца кроўная сувязь з Айчынай, народам, сялом.

„...Айчына сніцца мне
Перастаю быць хворы“... (верш 95)
„Касу мне накляпаць
І даць палетак спелы,
А вецер хай развесіць
Жаўрукоў малітвы
І ўжо тады я Рус
Так як належыць — Белы
Гатоў да радаснай
І бескрывавай бітвы“... (верш 98).

Сапраўднага беларуса А. Барскі ўтоесамлівае з селянінам, бо толькі той аднолькава, ад вякоў і ў сённяшніх умовах жыцця, верны, адданы зямлі роднай, звязаны з ёю „бескрывавай бітвай“ за дабро, якое родзіцца на ёй і прыносіць радасць з вылітага поту, як ніякая іншая бітва на свеце.

Моцныя карэнні А. Барскага — у роднай вёсцы, з яе прыродаю:

...„Мой бандарскі вецер
Разварушыць у маім вершы
Соннасць струнаў“. (верш 88).

Лірычнае светабачанне паэт паказвае ў каларытных вобразах: прыроды, пачуцця, думкі.



...„Беглі вятры
Кульгаючы па травах,
А хмары, нібы
Чорныя крамені
Красалі бліскавіцы“...
...„Было пораўну
Страшна і прыгожа“... (верш 85)

Жменька слоў на першы погляд скупога зместу, простая, неўдзіўлёная. Зразумелая асацыятыўнасць, але як жа па-мастацку закампанаваная ў вобраз з'явы прыроды, выклікаючы добра вядомыя чалавеку эмоцыі.

...„Але бывае так,
Што нас захопіць промень,
Ці кветка у траве
Нашу душу зняволіць
Тады бязвольна
Нам складаюцца далоні
І пальцы моляцца
Да хараства і волі“... (верш 89)

Захапленне прыродай, узвышэнне яе да боскага, зразумелае пачуццям кожнага сапраўднага сына зямлі, але здольнасць вобразнага пераказу іншым, ды пераўтварэнне ў трывалую з'яву на карысць пакаленням — наканавана толькі мастаку.

Апрача пейзажнай лірыкі ды інтымнага характару ў вершах, прысутная і лірыка філасофскага ды грамадскага тыпу.

„Бяжым мы за сабой
Сваім уласным следам,
І кожны родзіцца
На свет не толькі ўнукам
Але пры гэтым родзіцца
Таксама дзедам“. (верш 93)

Іншы прыклад:

...„Жыццё адвечны доўг
І разам з ім — належнасць“...

Прыклад грамадскага ўхілу:

„Дзе ёсць трыумф улады
Там ёсць смерць пачуццям“... (верш 94)

— — —

...„На колькі ж было б менш
У хатах і у сэрцах бедаў,
Калі б урэшце уцямілі,
Хто мы такія“... (верш 99)

Знамянальны вершам Барскага і маралізатарскі характар:

...„Здрадзіць сябе —
Здрада найгоршая з магчымых“... (верш 77)

і далей:



© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

„Не забівай...
...І не крадзі!
Маці шануй і Праўду“... (верш 84)

Да філасофска-маралізатарскай лірыкі можна аднесці апяваны аўтарам прынцып пашаны суверэннасці думкі і ідэі ў іншых:

...„Вучыцца ўсё жыццё
Пашаны чужых думак“...
...„Ідэя іншага,
Так як мая — святая“... (верш 75)

Разважанні пра сувязь духоўнага фактара з фізічным, і іх значэнне ў жыцці аўтар заключае выснавам:

„Быт — будзень наш
І мір — наша надзея“ (верш 80)

Галоўны напал пачуцця і думкі, сягаючы да экстазы, гуртуюць вершы, прысвечаныя ідэі сялянскага жыцця і кантакту з прыродаю. Эмоцыі выкліканыя вяртаннем у вёску выказаны ў вершы 98:

„О радасць сялянская,
Ці хто нас пойме...“
...„Я сёння цар зямлі
Я сёння з Богам роўны“...

Цэлы верш вытрыманы ва ўзнёслым тоне, ад радасці, прычыненай тым вяртаннем, быццам марнатраўнага сына са свету сумятні ды турботаў у абдымкі ласкавай Радзімы, роднай прыроды, ды ад прыліву самазадаволення гэтым фактам і пачуццямі звышвольнасці.

Выбух эмоцыяў, выкліканых асабістымі перажываннямі паэта, уводзіць, аднак, дысананс у вытанчаную, наогул каларытную, лірыку вершаў:

...„Я сёння з Богам роўны
І Бог — мая каса
І Бог — мая радасць“ (той самы 98 верш).

Аб сваім духоўным стане звышвольнасці ці звышшчаслівасці, аўтар пастанавіў пераканаць моцным, кароткім, сімвалам — крайнім, бясспрэчным, паняццем дасканаласці, не пакідаючы чытачу ніякіх шанцаў на ўласныя роздумы.

Падобным да таго „арэолам“, асвяціў сябе паэт, прыгарнуўшы дзяўчыну:

...„Узяў цябе у рукі
І стаўся з чалавека
Богам“... („Ніва“ 6 III 83 г.)

На асаблівую ўвагу заслугоўвае твор пад загалоўкам „Колас“, прысвечаны гайнаўскім сябрам, што з'яўляюцца одай коласу як адвечнаму сімвалу Беларусі і жыцця беларускай краіны — сімвалу дружбы і працы, сімвалу бессмяротнасці. Верш гэты перапоўнены вялікім зарадам эмоцыі. Колас — як сімвал — патрактаваны з незвычайнай паэтычнай рамантыкай, фантастычнасцю і пашанай, даведзены да рангу фэтышу як увасабленне брата, сына, продка, бацькі, дзеда, пана і лекара — словам, увасабленне жыцця пакаленняў, грамадства і свабоды. Ідэя верша, заключаны ў ім эмацыянальны зарад патрыятычнага характару, багатая сімволіка, пявучасць і беззаганнасць мовы ставяць яго ў шэрагу найлепшых, на мой погляд, вершаў Алеся Барскага.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Дыскусійнае, на мой погляд, з'яўляецца лішняе накапленне ў вершы, неабавязкова камунікатыўных між сабою назоўнікаў. Параўнанні коласа: з братам, сынам, продкам, бацькам, дзедам, панам, лекарам, мудрым настаўнікам, паэтам, грузінскім віцязем ці балерынай і г.д. стварае ўражанне ненатуральнай манеры, перабольшання ўласцівасці апяванага „героя“ твора, каб звярнуць увагу на пераносную сутнасць зместу.

Выключнае (у адносінах да цэлай творчасці А. Барскага) згуртаванне сімвалічных паняццяў стварае ўражанне паказнасці, асацыятыўнасці, ад якое кампазіцыя здаецца перагружанай.

Цыкл афарызмаў пад загалоўкам: „Паўторнасць непаўторнага“ з'яўляецца новым жанрам у творчасці А. Барскага, непрысутным дагэтуль „белавежцам“ ды й рэдка сустраканым наогул у беларускай літаратуры.

Гэты нялёгкі літаратурны жанр абумоўлены шырокімі ведамі і зацікаўленнем грамадскім жыццём, назіральнасцю, здольнасцямі канфрантацыі думкі і светабачання ды паслядоўным мысленнем. 150 афарызмаў Алеса Барскага, якія з'явіліся ў „Ніве“, сведчаць пра тое, што ўсе вышэй пералічаныя вымаганні творца дасканала рэалізуе, а шматлікія яго думкі ў афарыстычнай апрацоўцы, дзякуючы выказанай арыгінальнасці, кваліфікуюцца ў фальклорныя прыказкі.

Нп. 11. „Вузкасць заўсёды лічыць шырыню праявам марнатраўнасці“.
16. „Шыла праўды цяжэй заўважыць, чым мяшок маны“.
23. „Змагацца з іншым лягчэй, чым з сабою“.
71. „Мір — гэта антракт паміж спектаклямі войнаў“.

Незалежна ад агульнаграмадскіх ці агульнажыццёвых праблемаў, змешчаных у афарызмах, могуць яны паслужыць у асабістых сяброўскіх дыскурсах:

нп. „Учынку чалавека, які забраў мне афарызм „Бог разумее па-беларуску“ не разумее Бог“.

Вось усяго некалькі ўзятых прыкладаў афарызаваных думак, што ёсць толькі малою часткай усебаковых праблемаў, праяваў жыцця і міжлюдскіх адносін фармуляваных глыбока і па-майстэрску ў калекцыі афарызмаў Алеся Барскага.

Умеласць паслугоўвання словам, спрачаць з ім думку, надаваць мысленню адпаведную каларыстнасць, прымушае чытача верыць



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

у моц і сугестыўнасць творчага слова аўтара, прыдае слову незвычайную каштоўнасць.



Уладзімір Гайдук — пачынае свой падрыхтаваны да друку зборнік пад загалоўкам „Блакітны вырай“ вершам „Дзівасіл“. Прыводзіць у ім на памяць незніштожаныя часам курганы — сляды войнаў, прыгадвае падзенне каронаў, тронаў і палацаў пад напорам бунтарнага духа мучаных.

„Дзе сцежкі зарастаюць муравою
Архангел мечам часу не кранае...
...ні курганоў, ні славы, ні герояў...“

Далей:

„Пралітай кроўю сцяг нястрымнай хваляй
Змятаў кароны, троны і палацы...“

Надзвычайнае багацце метафары і сімволікі, згуртаванай у вершы прыдае твору алегарычны характар. Дзівасіл — як сімвал аднолькава зарастае магілы пераможаных і герояў, на вякі паяднаных смерцю. Аўтар перасцерагае перад грозным грыбом Хірасімы як сімвалам знішчэння і перад новым — сягаючым у космас Праметэем; спасылаецца на навуку, што павінна агарнуць зямны шар ідэяй міру:

„О голубе навукі!
Ты запануй над зямным шарам“...

Глыбокая ідэя твора, дбайная апрацоўка яго, можа ўмоўна быць прынята як сінтэз творчасці Уладзіміра Гайдука. Наступны верш, які звяртае на сябе ўвагу сярод іншых — гэта „Каліна“. Тон задумы, суму вельмі набліжае твор да элегіі. Каліна, якая сама ёсць сімвалам дзяўчыны, адзінока сцеражэ, вядомую толькі ёй, магілу маладой партызанкі. „Сама задумана на лузе“ нясе сваю варту безупынна і нягледзячы на нягоды — мяцеліцу, мароз і інш.

Наступны верш „Быль аб партызанскім кані“ накшталт балады — нараўні са спомненымі дзвюма папярэднімі — сведчыць пра застрэмленыя ў памяці аўтара вобразы ваенных жахаў.

„Час песні“ дае пачатак іншаму напрамку думак — прасякнутых гуманістычнымі матывамі.

Пахвала новай творчай працы пасля ваенных знішчэнняў, радасць ад яе вынікаў, надзея на пабудову новага жыцця, не заглушае аднак „крыку братоў, што вайне аддалі сваю кроў гарачу“.

Уся далейшая творчасць Уладзіміра Гайдука верная ідэі гуманізму, моцна звязаная з красою роднай прыроды, не пазбаўленая рамантычных акцэнтаў. Аўтар вяртаецца, час ад часу, да гадоў сваёй вясны, шукае яе рэха, то зноў спрабоўвае разважанняў над сэнсам жыцця, ці звычайна дорыць чытачу непрэтэнцыёзны эпізод з жыцця свайго асяроддзя.

У. Гайдук дае спробы розных формаў верша, але змест — незалежна ад формы — заўсёды камунікатыўны, метафара ў ім зразумелая, хоць і неабавязкова паспалітая. Гэта вершы, што лёгка знойдуць чытача, бо могуць быць і прычынай задумення і інтэлектуальнага адпачынку.



Леапольд Танкевіч — блізкі па жанру і стылі да творчасці Уладзіміра Гайдука. У абодвух паэтаў відавочная залежнасць між лёсам і характарам творчасці. Л. Танкевіч, як і У. Гайдук піша для людзей у шырокім разуменні гэтага слова. Кожны, хто мае адкрытае сэрца на паэзію, каму неабыякавае роднае слова, прырода родная, Бацькаўшчына, каму не чужое пачуццё настальгіі за светам і краем дзяцінства ды маладосці, хто кахае родны край, можа знайсці ў вершах Леапольда Танкевіча — кроплю духоўнай асалоды, адарвацца думкамі ад штодзённай мітусні, і перанесці ў той свет, куды:

„Кліча луг зялёны,
Шум лясных дуброў“...

— дзе

...„Кругом навокал
Вёскі ў зяляніне
І накрыты белым
Дываном сады“...

Вобразы вершаваных пераказаў Л. Танкевіча выразныя, простыя, зрэшты, як і цэлая яго паэзія без вычварнай метафорыкі, пісаная даступнай, меладычнай і прыгожай мовай, амаль выключна традыцыйнай формай верша. Частка ягонай паэзіі прысвечана пытанням філасофіі — сэнсу жыцця. У вершы „Меч“ аўтар разважае сэнс войнаў, тых „выбухаў эўфорыі“, якія гналі чалавецтва да праліванння свае крыві. У вершы „Дзень“ закранае ён праблемы цаны часу ў жыцці чалавека:

„Хтосьці выкінуў дзень,
Мо згубіў незнарок.
Сёння ходзіць, як цень,
Лічыць кожны свой крок“...

І далей

„Б’ецца ў горы сваім
Са сваім пачуццём.
Бо цяпер за яго
Ён аддаў бы жыццё“.

Леапольд Танкевіч ведае цану жыцця і смак хлеба, яму нястрашныя цяжкасці і нягоды:

„Той не спужаецца нічога
Каму жыццё глядзела ў вочы“.





© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

На ўвагу заслугоўвае верш п.з. „Хацеў бы кветкі пасадзіць на дынаміце“.

Аўтар стварае тут лірычны малюнак візіі вольнасці і міру. Хацеў бы ён, каб дынаміт, на якім насадзіць кветак народных колераў — як сімвал вольнага жыцця народу — больш не дзейнічаў знішчальна, але каб даў мацату жыццедайных сокаў тым кветкам. Алегарычна выказаная ідэя вольнасці і міру з'яўляецца доказам глыбокай думкі аўтара, інспіраванай яго патрыятычнымі пачуццямі.

Аб прысутнасці фальклярыстычных матываў у творчасці Л. Танкевіча можа сведчыць верш „Не сумуй, бяроза“, што быццам просіцца прывабіць да сябе мелодыю.

Вось асноўныя матывы паэтычнай творчасці Л. Танкевіча, з якою, магчыма, можна будзе бліжэй пазнаёміцца ў апрацаваным да друку зборніку пад загалоўкам „Пацеркі вясны“.



Літаратурная і публіцыстычная творчасць Міхася Шаховіча, пераважна заснаваная на канве прыроды, а нават прырода і звязаны з ёю народныя легенды, трыдыцыі і вераванні з'яўляюцца галоўнай мэтай яго публікацый. Тэзіс гэты пацвярджаюць, між іншым, вершы, апублікаваныя ў „Ніве“ на працягу апошніх 2-х гадоў: „Роздумы“, „Гутарка з сумленнем“, „Краявід“. Іншы верш, з апошняга перыяду скромнай за гэты час яго паэтычнай дзейнасці, „Прароцтва“, прысвечаны дачцы Марце, перапоўнены па--мастацку выказанай трывогай за лёс дзіцяці.

Верш з няясных прычын працінае песімістычны акцэнт. Міхась Шаховіч гэта паэт, які развіўся дзякуючы літаратурным пошукам і прысвойванню новых плыняў у паэзіі. Прыпыніўся — на белым вершы, што ў асяроддзі беларускай літаратуры запэўніў сабе месца. Творчасць М. Шаховіча ў апошні час адрозніваецца ад папярэдняе большай дасканаласцю сродкаў уздзейнічання і цікавейшай метафарай, адначасна захоўваючы вернасць сялянскаму асяроддзю, з якога выводзіцца сам паэт. Ён вывучае красу роднае прыроды і галубіць любоў да яе, будуе цэлую сваю творчасць на базе гэтага ж асяроддзя.

Паэтычная ўражлівасць Міхася Шаховіча, тэарэтычная падрыхтоўка, працавітасць і ўменне паслугоўвацца добрымі ўзорамі вырашылі аб яго паступовым, даволі хуткім дасканаленні пісьменскага варштата. Доказам выпрацавання ім сваёй паэтычнай канцэпцыі, стварэння на гэтай базе ўласнай візіі ўзнятай тэмы ды самастойнага малюнку з яго індывідуальнасцямі з'яўляецца паэма „Святая ноч“. Лірычны малюнак з'яў прыроды, пашана да жыцця, прыдае твору гуманітарны характар:



„Я кветак дарыць не ўмею.  
Глядзець не магу як канаюць,  
Як просяць жыцця безнадзейна  
Як смерцю другіх пацяшаюць“.

Апісванне праяваў прыроды пераплятаецца ў паэме з яго філасофіяй жыцця. Міхась Шаховіч не разглядае ночы як часу цемры. Ён бачыць у ночы супакаенне, прыпынак для стомленай цяжкасцямі штодзённага жыцця душы.

„Багіня душы! сваёй сілы чароўнай  
Занясі мяне ў сон — краіны здароўя“...

Далей:

...„Ноч з тайнамі вышла. Эліксір надзеі  
Лье ў чашу жадання безгранічнае веры“.

У гэтай персаніфікацыі ночы ўводзіць матыў фэтышызму.

Акцэнт прамінання, які пастаянна прысутны ў творчасці Міхася Шаховіча, у паэме паўтараецца:

...„Праспявалі мае пеўні, кветка папараці зацвіла другому“, і далей:

...„Свайго жыцця я поўнасцю не абяцаў нікому,  
Але ці ж з вясною ў сілах таргавацца?  
І толькі ўваскрасала пакрыёму  
Адно — каб яшчэ раз пабегчы басаногж па сенажаці“.

Адчувальны ў гэтых вяртаннях у дзіцячы свет сум і настальгія ўводзяць у паэму нотку песімізму.

Мова Міхася Шаховіча культурная і прыгожая, у літаратурным сэнсе дбайна фармаваная — каларытная.

Несумненны талент Міхася Шаховіча і ягоная праца над сабою ставяць яго ў шэраг спелых паэтаў „Белавежы“.



Даволі вялікі крок ад пачынальніцкай дзейнасці Яшы Бурша зрабіла Надзея Артымовіч. Ідзе гаворка, зразумела, пра ўмоўна--асацыятыўную паэзію алегарычнага характару, пісаную свабодным ці белым вершам.

Надзея Артымовіч — паэтка шырокага дыяпазону ў тэматыцы вобразнасці думання, асацыятыўнасці ды пераменнасці настрою.

Паэзія Надзеі Артымовіч гэта, наогул, не звычайны пераказ адназначнага, рэалістычна-закончанага вобразу. Яна пабуджае чытача да думак ды разважанняў, а сваім багаццем сродкаў мастацкага выразу — сістэмай арганізацыі вершаванай мовы, арганічным яднаннем свабоднага рытму з умоўна асацыятыўнай вобразнасцю дапамагае ў выяўленні думак і пачуццяў паэтэсы ды спосабу эстэтычнага адлюстроўвання ёю жыццёвых праяваў. Н. Артымовіч не кранутая комплексам вёскі, якім часта надзяляюць паэтаў „Белавежы“, ані настальгіяй за сялом. Праблематыкай сваёй паэзіі выходзіць яна ў шырэйшае кола зацікаўленняў без тае псіхалагічнай нагрузкі „вясковасці“. Дзеля гэтага разважаная



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

ёю між іншым праблема звязанасці з роднаю зямлёю наогул, ды пытанне гэтай духовай сувязі людзей, якіх лёс адарваў ад асяроддзя ў выніку масавай міграцыі з вёсак у асаблівасці — мае не толькі эмацыянальнае значэнне, але і глыбокі сэнс філасафічна-маральнага характару. Нп. „Мой родны горад маленькі", „Бацькаўшчына", „Ты падаруй мне грудку зямлі", „Калі загіне сон", „Там тваё месца", „Ты прызвычаіўся" і інш. Галоўная аднак тэматыка вершаў Надзеі Артымовіч гэта роздумы над сэнсам жыцця, а ў сучасных умовах асабліва, ды пра сутнасць душы. нп. „Пройдзе сон", „Апранем штодзённы свой шкілет", „Калі блізкі зраніць цябе" і інш.

У залежнасці, праўдападобна, ад духоўнага спакою паэтэсы, яе вершы з рэфлексійным ухілам маюць у сабе песімістычны характар, а нат ёсць з нотай фаталізму, як „Чарнее ноч", „Ёсць бераг, да якога ніколі не дойдзеш", „Нерухома стаяць мае дні", то зноў характарызуюцца яны праявай веры ў той жа сэнс жыцця і думкі, нп. „На гары, што прайшла вясна", ці „Думка". Надзея Артымовіч нямала месца прысвячае і любоўнай лірыцы. Цыкл яе вершаў „Мы так блізка сябе", прысвечаны гэтаму жанру, нараўні з іншымі мае рэфлексійны характар.

Незалежна ад прыведзеных у гэтым кароткім аглядзе загалоўкаў са зборніка „Роздумы", паэтычная плённасць Надзеі Артымовіч у апошні час заслугоўвае на ўвагу ў адносінах колькасці поруч з якасцю вершаў, аб чым сведчыць, часткова, літаратурная старонка „Нівы" за гэтыя два гады.



Дзмітры Шатыловіч — прадстаўнік класічнага вершаскладання і стылю, якому застаецца верны ад пачатку паэтычнай дзейнасці. Сваё пісьменства Дзмітры Шатыловіч пачаў за колькі год да ўзнікнення аб'яднання „Белавежа" і ад часу згуртавання дзеячоў, зацікаўленых літаратурай, далучыўся да іх, пасля стаў удзельнікам аб'яднання, з якім падтрымлівае кантакты і сістэматычна супрацоўнічае па меры сваіх магчымасцей.

У сваіх творах — пераважна расцягнутых — дбайна ўтрымоўвае сілабатоніку, упарадкаванае чаргаванне рыфмаў і, наогул, рупліва захоўвае гукавую арганізацыю вершаванай мовы.

Тыповым прыкладам жанру і стылю, практыкаванага Дз. Шатыловічам, можа паслужыць апублікаваны ў „Ніве" з 3 IX 81 г. верш „Чаромуха" — апавяданне ў вершаванай форме. Эпічна — спакойная аповесць пра гісторыю чыгуначнай станцыі, яе лёс. наканаваны падзеямі вайны ды не загоеныя раны. У рэалістычны змест гэтай эпічнай аповесці ўплецены фрагменты аўтабіяграфічнага характару, якія з'яўляюцца лірычнымі адступленнямі ад эпасу.



Уся творчасць Дзмітра Шатыловіча рэалістычная; ужываныя ім час ад часу параўнанні ці метафары стасуюцца так, каб былі зразумелыя і адпавядалі фабуле ды наратарскай плыні верша, нп.: „Жанчына з Луўру" ці „У літахароне".

У сваіх вершах Дз. Шатыловіч не толькі дзеліцца з чытачом уражаннямі, роздумамі ці перажываннямі. Большасцю твораў ён стараецца пераказаць, у вельмі даступнай форме, веды з галіны гісторыі, міфалогіі, ці культуры, і гэта яму наогул удаецца.

Нягледзячы на шматслоўную гэтую расцягнутасць вершаў, творчасць Дзмітра Шатыловіча вылучаецца сумленнай апрацоўкай.



Кароткі і даволі свабодны агляд выбранай творчасці „белавежцаў" не аддае поўнасцю сутнасці і іх дзейнасці. Мае ён папулярызатарскі характар адносна галоўных жанраў, але нат з гэтай жмені інфармацыяў можна вывесці заключэнне, што разнастайнасць жанраў і стыляў дасведчаных пісьменнікаў „Белавежы" можа паслужыць узорам маладым адэптам літаратурнай творчасці.

На жаль, з боку аб'яднання не відаць руплівасці без матывацыі і зацікаўлення ёю з боку старэйшых сяброў.

Праблема вось вартая развагі — як ажывіць дзейнасць аб'яднання „Белавежа", каб фармальныя — скліканыя 2 разы ў год семінары пераўтварыць у творчыя спатканні, з думкай перад усім пра моладзь, якая б магла прапанаваць ацэнцы сяброў свае спробы літаратурнага творства ды абмяняцца поглядамі ў гэтых справах?

**Красавік, 1983 г.** **ЯНКА ЖАМОЙЦІН**



## А. БАРСКІ

Заснулі ветры у аблоках,
Заснулі ветры у таполях.
Месяц глядзіць жаўтавокі
У соннасць пшанічнага поля
Прыснілася сёння мне ласка
Між збожжа, на матчынай
сцежцы
І быль налавалася з казкай,
Дзяцінства запахла
усмешкай.
І стаў я стары і маленькі,
Палонны бандарскага поля;
Успомніў усенька, усенька
У сумным і радасным болю.
Нясецца удаль праміінанне,
Стрымай час на хвілю, мой
Божа!
Шукаю магільны я камень,



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

А вечнасць ў цяжарнасці
збожжа.

★

А вечны мой пажар —
Гэта мая Айчына.
І прагну аднаго,
Каб ён не згас ніколі.
Як палымнее ён,
Дык мы сыны — не гінем.
А калі згасне —
Стануся халоднай золлю.
Мне не ўсяроўна,
Як пяюць у Беларусі,
Бо я адно з яе
Пяючых сёння зерняў.
Нялюбае кахаць
Ніхто мяне не змусіць.
І кужалю не буду
Сажаю я чэрніць.
Жыць горда, горда паміраць
Вось гэта мэта!
Радзіму ўзнімаць
Ды сонца ў далонях.
Рукамі кавалёў,
Сялян
І іх паэтаў,
З учора сёння будаваць
І заўтра сёння.

★

Над далінай туман
узвышаецца,
У калысках галін ветры
сонныя;
Як кахалася нам, так
кахаецца,
Мы сабою навек запалонены.
Паглядзі на усход — неба
беліцца,
Сыплюць зоркі святло па-над
хатамі;
Прайшлі ява і сон па
аселіцах,
Як прыгожыя мы, як
багатыя.
Праз хвіліну зямля бухне
гімнамі,
Узарвуцца вятры над
калыскамі.
О, прасторы зямлі
неабдымныя,
Як вы мілыя нам, як вы
блізкія,
Прачынаецца свет і
ружовіцца,
Твары лісцяў расою абмытыя;
Маладзіца зямля непакоіцца,
Першым промнем сягоння
аблітая.
І начная імгла пераможана,
Узнялася кругом светласць
ранняя.
Сэрцы шчасцем ізноў
устрывожаны,
Я табой, а ты мною, каханая.

★

Пейзажы.
Краявіды белавежскія,
Сонцы
Ў трасніках панаднарвенскіх.
І цішыня
Такая галасістая,
Што будзіць
Мае сны каменныя.
Мае Афіны тут —
Назваў іх Бандарамі.
Шукаю месца я
Для муміі сваёй
Ці чучала уласнага,
Туга набітага
Бандарскаю саломай.

★

Плюсаў і мінусаў
Ў свеце,
У зямлі,
У пашчынцы
І ў маім сэрцы —
Заўсёды мусіць быць
пароўну.
Калі становіцца інача
І раўнавага страціць
Раўнавагу —
Бушуюць буры
У бесканечнасці касмічнай,
Землетрасенні
Рвуць кару зямную,
Пясчынкі крышацца
На мікраскопны пыл
Гарачы...
А сэрца піша верш.

★

Паміж старым і новым,
Як молатам і накавальняй
Сумленні нашы
Мучацца, як птахі.
Пад жорсткімі ўдарамі
Віхуры грамабойнай
Добрасумленнасць,
Прынцыпы,
Імкненні.
Гэта ўсё
Для двух багоў,
Старым і новым
Называных,
Злепленых з мізэрных
воскаў,
З якіх таксама лепяць
І бездзялушкі,
І забаўкі.

## МІРА ЛУКША

### АПОВЕСЦЬ І

Мы купілі кусок неба. Бацька заплаціў за блакітны фон. Мама — за пёрыстыя воблакі. Я — за баранчыкі. Неўзабаве аказалася, што пёрыстых воблакаў стала крыху замнога. Засланілі цэлае неба. Бацька раззлаваўся і сказаў, што яго такі інтарэс не цікавіць. Маці таксама не скрывала свайго раздражнення. Я застаўся сам са сваімі баранчыкамі.

### АПОВЕСЦЬ ІІ

Майму знаёмаму кату выраслі крылы, вялікапышныя арлі-ныя крылы. Я ўцешыўся і занёс яму кветкі. Быць знаёмым ката з арлінымі крыламі — гэта вялікі гонар. Мой знаёмы кот марыў. Ён вачыма фантазіі бачыў здымкі, як узлятае ён над горамі са здабычай у лапах. Знізу не будзе відаць, што гэта толькі мыш.



© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК

## КАРЫСНАЯ ДУРНАТА

Калі гітлераўскі фашызм напаў на Савецкі Саюз, мне было амаль 15 гадоў. Гэта многа, як на вясковыя ўмовы. Ужо прыйшлося мне напрацавацца і пераўжыць усяго найгоршага. Паспеў я ўжо адмарозіць пальцы на нагах і на руках, выкарміць тысячы вашэй, выгадаваць дзесяткі нарываў на сваім паспрышчаваным чырвонымі, нібы іголкай наколатымі ўкусамі блох, целе, паспеў паспрабаваць зялёнага хлеба ды не падумайце, што такога, як цяпер вы бачыце ў сваіх хлебніцах. О, не, мой зялёны хлеб быў зялёны зверху і ў сярэдзіне, з яго курыла. Быў ён горкі, але ж я ведаў, што гэта не што-небудзь дрэннае, а хлеб, і з голаду еў. Пасля, каб горыч і пыл гэтага хлеба выпаласкаць з рота, проста піў ваду і ўсё сплывала да страўніка. Я ж не пытаў страўнік, як яму гэта смакуе. Раз ён дамагаўся есці сваім бурчэннем ды смактаннем мяне ў сярэдзіне, я яму даваў. Аднак злосць мяне брала, што не можа ён, гэты пракляты страўнік, абысціся без ежы. А яшчэ горш злаваў, што ўсе людзі маюць па адным, а ў мяне аж тры, бо так сказала мачыха, а старшым людзям трэба ж верыць. Нават ёсць на гэта факты, што ў мяне больш страўнікаў, чым у маіх сяброў. Вось, напрыклад, Коля. возьме ў торбачку пірага (белы, пшанічны хлеб, бо ён жытняга „не мог“ есці), пруток каўбасы, бутэльку малака. Носіць усё гэта з сабою і яму нават у галаву не прыходзіць ежа. Таксама Фонька і іншыя. Яны гуляюць у нейкія гульні, калі каровы добра ходзяць, а я толькі думаю, дзе б здабыць нейкую ягаду або і шчаўе. Прыйдзе пара абедаць, хлопцы сядуць ды і з'ядуць тое, што маюць у торбачках, і зноў толькі ходзяць на тафілаўскае па смачную ваду. А мне, чорт вазьмі, піць не хочацца, толькі есці.

Але дурному так і трэба. Калісьці давялося мне пасвіць каровы сам-насам з Колем. Хацелі мы добра пасвіць рагаціну і тафілякам не зрабіць шкоды, бо Колеў бацька таксама на тафілаўскім меў сваю сенажаць, то мог даведацца і прынамсі мне ўлупіць. Дык вось каровы „шмагаюць“ салодкую траву на грабавецкай палавіне сенажаці, а мы з Колем стаім з кіямі, каб не пусціць за мяжу, на тафілаўскае. Каровы нас зразумелі і перасталі парушаць парадак. Карыстаючыся цішынёй і спакоем, Коля пачаў абедаць. Выняў з торбачкі пірог, нібы сонца, і пруток вэнджанай каўбасы. Пачаў есці хутчэй з абавязку, чым з голаду. Укусіў раз каўбасы, укусіў другі і, скрывіўшыся, шырнуў у кусты са славамі: „салёная, халера“. Мне вельмі хацелася есці і шкада было каўбасы, якой я і святам не бачыў, а ўсё такі дурната не пазволіла яе падняць і з'есці. Коля еў булку з малаком, а я напіўся вады з рэчкі, каб хаця чым-небудзь напоўніць страўнік.

Гэта было калісьці, а цяпер 1941 год. Я пасу ў Тафілаўцах авечак. Гэта адна з багацейшых вёсак, і я не галадаю. Як ёсць, так ёсць, а есці даюць па чарзе і даюць тое, што самі ядуць. І вось толькі цяпер я буду гаварыць тое, што карыснага прынесла людзям мая дурната, як гэта ў загалоўку.

У выніку ваенных дзеянняў і ў першыя дні нямецкай агрэсіі савецкія і нямецкія войскі параскідалі многа розных снарадаў і гранат. Ляжалі яны на палях і сенажацях, як парасяты, горбамі і паадзіночку. Пастушкі і не толькі пастушкі спачатку абыходзілі іх, баючыся. Але калі яны так сабе моўчкі ляжалі і нікому нічога дрэннага не рабілі, то мы пачалі да іх прыглядацца ўсё бліжэй, з усё большым зацікаўленнем. Мы пачалі думаць, як бы іх разбіраць або разрываць. Мы бачылі, як немцы разрывалі горбу снарадаў, што ляжалі ля самай Стаўковай дарогі ў Васіля Сапёлкі за пуняю. Але мы не ведалі як, не ведалі чым немцы за адзін раз маглі ўзарваць такую колькасць тых „парасят“. Пачалі мы памалу самі дабівацца праўды і вывучаць тэхніку разбірання снарадаў. А былі сярод нас мазгаўні, былі. Міцька абыйшоў снарады, якія ляжалі ў Бурку, дагледзеў, што пістоны ў гільзу не ўроблены на пастаянна, а ўкручваюцца. Давай мы пры дапамозе каменя і цвіка прабаваць гэтыя пістоны выкручваць. Гэта ж невялікі страх, бо ззаду. Спераду, там, дзе галоўка, мы не чапалі, бо ведалі, што гэта запальнікі. Калі нам удалося выкруціць пістон, мы ўбачылі, што там ёсць порах, але не такі, як у патронах, выкапаных намі на дубіцкіх палях, дзе ў час першай сусветнай вайны працягвалася лінія акопаў рускіх войск. Гэты порах па-першае быў нейкага саламянага колеру і не высыпаўся. Эгэ, хлопцы, справа штораз цікавейшая. Нам жа абавязкова трэба пабачыць, што гэта за порах. А як пабачыць? Каб выняць порах, трэба выбіць снарад. Давай, мы ўзялі адзін удвух і ледзь нясем да пянька. (Адзін аб другі біць баяліся). Прынеслі і яшчэ баімося: біць ці не? Але што нам шкодзіць паспрабаваць, давай! Паднялі мы гэты снарад — і аб пянёк: раз, раз, раз! Білі і стараліся, каб не ўдарыць запальнікам. Гільза хутка падалася і снарад, бы вялізная цыгара, высунуўся з яе, а за ім і порах, нібы макарон, высунуўся. Мы ўбачылі, які доўгі і тоўсты порах. Давай мы яго прабаваць, ці гарыць. Вылажылі з яго дарожку і падпалілі. Пабег агонь па дарожцы, значыць, добра наша. Вось цяпер будзе весела, бо пры дапамозе пораху мы будзем рваць снарады. А разрыў снарада — гэта не трэск з пугі. Той, брат ты мой, як гухне, то аж у вушах зазвініць, а вароны, як ашалелыя, уцякаюць...

Мы сваёй вынаходлівасцю пахваліліся калегам, што, маўляў, так і так, можна дастаць порах са снарадаў. Але дзе там, мы зу-





© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

сім не былі першымі. Вечарам даведаліся, што Грышка разбіраў гранату з цікавасці і дастаў па нагах ды адарвала правую руку... Жыве. Трахімка дзесьці так, як мы, біў снарадам аб пянёк. Разарвала, але яшчэ некалькі гадзін жыў. Нават паспелі прывезці дамоў, напаіць вадой, вельмі ж прасіў. Мой сябра, паляк, які ў Тафілаўцах супольна з маткай пасвіў кароў, таксама паспеў ужо страпянуць кішкамі, недзе пад хмарамі. Ну, не пад хмарамі, але сведкі гаварылі, што бачылі, як пасля выбуху снарада спадалі з неба кавалкі цела і вопраткі. Галавы так і не знайшлі. Галава галавою, мусіць, адарвалася ад дурнога цела ды палянцела проста да неба шукаць лепшае пасады.

Гэта не ўсе, хто астаўся калекаю або трупам. Я толькі так, больш-менш. Але здарэнні з сябрамі прымусілі мяне крыху думаць і асцерагацца. Пачаў я шукаць метадаў, каб рабіць выбухі, а не падвяргнуцца небяспецы ранення або, чаго добрага, і смерці. Думаў, думаў і выдумаў. А справа аказалася надта простай, толькі мала паспяховай. Менавіта: клаў я снарады ў сваім напрамку галоўкамі і прабаваў трапіць з вінтоўкі. Надта некарысная справа, бо не ведаў, з якой адлегласці можна ў снарады страляць, каб у выпадку разрыву не дастаць па клешнях яго асколкамі. Страляў здалёк, а здалёк трапіць у такі кружок, як дзесяць грошай, гэта можа быць толькі выпадак. Аднак я на такі выпадак не лічыў. Наклаў я гэтых смерцяносных „парасят“ у такі спосаб, што насамі глядзелі яны насупраць ляжаўшых. А аднаго між імі, у сваім напрамку носам. Гэта было лагічна, бо калі б я папаў у запальнік сярэдняга снарада, то ён, рвучыся, разрываў бы і іншыя. Але страляў, страляў і не трапіў. Божа ж ты мой! Дзе галавы не меў, то не меў, але тут, дзеля здзіўлення калег сваёй вынаходлівасцю, прыдумаў я цудоўны і таксама просты спосаб. Замест трапляць з вінтоўкі ў запальнік снарада, лягчэй жа трапіць у шырокую дошку. Дык вось прыдумаў я, што калі ў дошку ўб'ю цвік і настаўлю яго проста ў нос снарада, у нейкай там адлегласці, а нос аб нос, і стрэлю ў дошку, то абавязкова снарад рассыплецца. Так і было. Але вядома, тут жа няма ніякага сакрэту, усе даведаліся, што гэта я выклікаю дэтанацыі. Прыяцелі гаварылі: „О, брат, Васька дае! Усе снарады паразрывае і людзі перастануць гінуць“. Баязліўцы і хто мяне не любіў, гаварылі: „О, зноў, дурны Мазур снарады рве. Страшна каля яго праходзіць“!

Гэта нічога дзіўнага. Тая мая рацыяналізацыя — гэта звычайнае мужыцкае дасягненне супроць таго, што выдумаў Аляксееў Федзя! Ён браў цэлы снарад, выбіваў з яго галаву ды абыякава кідаў яго набок. А гільзу з порахам ставіў, нібы чыгун з макаронамі, на сцежачцы. Усё гэта зрабіўшы, сядзе на гільзу і глядзіць на мяне знізу ды ўсміхаецца.

— Ну і што далей? — пытаю.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

— Што? Зараз пабачыш.

Бярэ Федзя кавалак жалеза і капае ямку. Выкапаў ямку, дастаў з кішэні запалкі, падпаліў заране падрыхтаваную вату і кінуў яе ў ямачку. З ваты, якая ў ямачцы тлілася, выдабываўся дым і тоненькай смужкай расплываўся вакол нас. Федзя зноў глянуў на мяне і ўсміхнуўся. Бачачы, што я не дадумваюся яго-нага фокуса, Федзя хапае гільзу з порахам, убівае яе ў ямку ўверх дном — робіць гэта хутка і... становіцца на дно гільзы! Валасы ў мяне наежыліся, але Федзя з гільзаю ў паветра не вылецеў. Толькі вакол яго, стаяўшага на гільзе, зямля выпучылася, ды пачаў свістаць дым. Выглядала гэта так, як бы кругом Федзі гарэла трава. Ён сабе спакойна стаяў на гільзе і гаварыў, што робіць гэта ўжо не першы раз і „яшчэ ніколі не выкінула мяне нават на вышыню альшыны“.

Ну, раз Федзю нічога не сталася, то і я ж не хачу быць горшы. Аднак ніколі не вырвала гільзы з зямлі і не вынесла нас пад нябёсы, як мы маглі спадзявацца.

Набраўшыся смеласці да снарадаў, гранат і ўсялякай такой чартаўні (здавалася, што ўсё гэта пакінута войскамі як невыпалы), іду карчамі, бачу, тырчыць у пяньку уверх крыламі мінамётны снарад (міна). Ну, раз тырчыць, значыць, яшчэ ніхто яе не бачыў. Я першы буду змагацца, як яе тут выцягнуць з пянька, калі відны толькі крылы? Што да яе разрыву, то я не баяўся, бо ведаў: калі трахнула ў пянёк з такой сілай, што аж уся ў яго ўлезла, то і не разарвецца пры выцягванні. Давай яе цягнуць. Не даецца, нават не варушыцца. Тады пачаў я пянёк даўбсці ножыкам. Крыху наддоўб і зноў цягну. Удалося. Выцягнуў і швырнуў у балота — маўчыць. Далёка я яе не адкінуў, бо цяжкая. Калі б выбухнула, то абавязкова мяне падкасіла б, але не. Ну, думаю, я і так давяду цябе да разрыву. Нанасіў галля і распаліў вогнішча, а міну туды. Касцёр гарэў, а я ўводдаль стаяў ля авечак і ўсё чакаў выбуху. Бачу, ужо агонь пагасае, а эфекту ніякага няма, але баюся падыйсці, каб падкінуць дроў. Было гэта на Барыса, бо памятаю, што жабракі ішлі да Корніна напач пад заўтрашняе свята, Ганну. Адзін з іх захацеў пакарыстацца агнём для прыкурэння папяросы і пайшоў да вогнішча, якое тлела ў ядлоўцах. Я нават не ўбачыў, калі ён апынуўся ля кастра. Гляджу, а той сядзіць у почэпкі над агнём і палкай прыкурвае папяросу. „А бадай цябе агонь спаліў“, — крыкнуў я са страху, а да яго: — „Дзядзька, уцякайце ад агню, бо там міна!“ Тыя, што з імі ішлі, але асталіся на дарозе, калі ён пайшоў прыкурыць, пачуўшы вокрык „міна!“ патрухцелі бягом у напрамку Карыцiск. А ён нібы ніколі нічога, прыкурыўшы, спакойна ішоў да дарогі. Я да яго з гоманам, што, моў, магло вас на кавалкі разарваць, бо ў агні ёсць міна. Дзед быў добра глухаваты і, відаць, толькі з маёй насцярожанасці зразумеў, што чакала яго небяспека. Зра-



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

зумеў, і таксама пабег за сваімі. А я рагатаў, што ўцякае, калі ўжо не трэба. Міна не разарвалася, бо сухое галлё, відаць, хутка згарэла і яна не паспела напаліцца. Трахнула на другі дзень, гэта значыць, на свята Ганны. Так я зусім несвядома адзначыў імяніны сваёй Мамы, якая мусіла мяне пакінуць трынаццаць год таму назад, лічыўшы ад 1941 года.

Вось якім я быў снарадарванцам і аж дзіўна, што ані разу не давялося трапятаць нагамі ў паветры. Адным словам, ідыёты маюць шчасце, або такіх абарванцаў, як я, то і Бог не хацеў да сябе прымаць, бо бы яшчэ анёлаў папсаваў.

Аднойчы Маскоўскае радыё ў перадачы для моладзі гаварыла аб гераізме савецкіх сапёраў пры разміноўванні палёў. Гэта перадача называлася „Оставь свой след". Там расказвалі вельмі прыгожа аб адным камсамольцу, які згінуў у час размінавання, але гэтым выратаваў невядома колькі людзей. Праўда, што гэта смерць герайчная і хлапец малады пройдзе праз вякі ў славе. Але бачыце, яго вучылі, як гэта рабіць, і ўсё роўна загінуў. Відаць, быў добрым семянінам, бо кажуць, што дрэнь то ў агні не гарыць і ў вадзе не тоне. Толькі цяпер мяне цікавіць, колькі Грышкаў, Трахімкаў, Раманкаў ды іншых загінула б, калі б не было такіх дурнёў, як Васька? А пра іх жа ніхто не гаворыць нічога добрага. Наадварот: дурнямі іх называюць.

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

---

**З. САЧКО**

## МОЙ ПАРТРЭТ МАЛЮЮ

апускаю крылы і прастору
бо хаця шукала
— блудзіла і нічога не знайшла
быццам прагматычная
тэорыя праўды
уступяць у мяне сцены
дзеці якія — думаю —
рэдка родзяцца з яблыка кахання
працягнуць нітку маёй элегіі
зусім яе не прадаўжаючы
да мужа і прыяцеляў
— шчыльна
як толькі можна прыпасці
да каменя



урэнце быўшы ў цяперашнім
я не мушу ўвесь час
аб несмяротнасці

★

шкода як адыходіт нэпокуой
і зводіт гладко проходіўшэ
жыцце
і всё закрытэ явіцьця бez свэі
тайны
ты — которы хотіэў назваті сэбэ
братом
ты тэпэр — як выпрошчаны
лабірынт
і еслі становітся пэвны
зграбно кладушчогося слова
то ульга туолько для тэбэ
— по разному вого до глубіны
в якуой появляецьця сьвіэт.

★

говору о свободі
а нэ прызнаюся до сэбэ
люб'ю і жычу смэрті
і тым мое ворогі
доўго жывут і здоровы
а я пэрэстаю віэрыті в Бога
ворочаюсь до пустэі кліэткі
а прыятелі вкідают куосць
коб грызла
і луокоть на нуоч пуд голоў

★

у порану кажну
як встаю
на што ж мніэ так клопотаті
о всё што будэ
а коб буольш было
чыж нэ помнажала маёнтку
нэ здобувала наукі
і нэ провірала еі
а всё-такі



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

ны буольшэі радосьці
ны глубшого спокою
і таксамо тэр'пю

## ЮРКА ТРАЧУК

Я і не помню
як, калі
сваімі
мы
даткнуліся
вачыма
Я помню толькі
хвалі
глыбіні
і ўсё апошняе,
як уцякала
міма.
І як
паўней,
паўней,
паўней
Танулі
ў бляску мы
азёраў,
Быццам
у соннай
цішыні
Вадою
ўскалыхнула
святло
зораў.

### У ДУШЫ —ЗАЛАТЫЯ БЯРОЗЫ

У душы — залатыя бярозы,
Галубіны сніцца блакіт,
І, міжвольна, гарачыя слёзы —
Вочы ўбачылі свой краявід...

Эх, красуні мае, прыгажуні!
Ў сэрца родны ўліваецца звон.
Не забыць мне зялёнае руні,
Не забыць мне ўсмажлівых дзён!



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

На дворы ўжо здаровая восень.
На дворы клічуць ўдаль жураўлі.
А я ў марах збіраю калоссе,
А я ў марах — ледзьве жывы...

Эх, далёка дзесьці дарогі...
Вецер будзіць дрымотну сасну.
Залатыя мае бярозы,
Дайце ў марах я белых засну...

ЮРКА ТРАЧУК

## МІХАСЬ ШАХОВІЧ

### СВЯТЫ ЛЕС

*Эве*

1

У лабірынце
Дзён,
У бездарожжы
Сцежак,
У блытаніцы
Слоў
Пустых
І падхалімных,
Надзейна ідзе сон
Ад мройных узбярэжжаў,
Як рэха дум
Нязбыўных,
Вястун
Даброт бязмежных.

2

За небасхілам
Прагных ценяў,
Пагоні вечнай,
Вечнай стражы
Ёсць край
Бяскрайных летуценняў.
Душы
Нястрымнае імкненне,
Клубком навітым
З думак пражы,
Дарогу значыць
Марам чулым
У свет
Вясны,
У свет
Натуры,
У эльдараднае
Імгненне.

3

Па дарозе ў рай
Анёлы
Злыя, злыя.
І той дождж,
Вечны дождж
На чужыне.
Па дарозе ў рай
Анёлы
Важаць, важаць.
І тая боязь,
Вечная боязь,
Даважаць — не даважаць.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Па дарозе ў рай
Анёлаў
Многа, многа.
І зноў ласка,
Вечная ласка,
Нават у Бога.

4

На гарызонце
Лес Святы —
Надзея продкаў
І іх сіла,
Прыпынак
Стомленай душы...
Іду,
Не раз зблудзіўшым
Сынам!
І бачу зноў —
Бярозы ў белі,
Нібы русалкі
У імгле вячэрняй,
Кружацца
У танцы-каруселі,
У карагодзе прывітальным.
Танцам жыцця,
Танцам купальным
Плывуць над лугам,
Укол крыніцы.
Іду туды,
Іду напіцца,
Ачысціць
Душу здзервянелу
І веры продкаў
Пакланіцца.
Схіляю цень свой
У святасць мараў,
Кідаю думкі
У чыстасць тоні
І,
Дакрануўшыся
Да чары,
Бачу цудоўную ікону.

5

Выйшла ты
Нечакана
З імглы лугавой
Падарыла
...Чаканне,
Прынясла
...Неспакой.
Паявілася ты
Чырванню
На рабіне.
Дакрануўся
Да ягад
І трывога ніколі
Мяне
Не пакіне.
І пустэчаю
Дзённасць,
І са мною
Усе чары,
Калі ты
Са мной побач,
Ажываюць
І мары.
Счаравалі цябе
Вячэрнія росы,
Водар
Кветак і траў
Сенажатных пакосаў.
І,
Узняўшыся ў высі,
Аж да зор навальніцы,
Адбілась іконай
У тоні
Цуднай крыніцы.

6

Тваё косы,
Як лён
Беларускі,
Вочы —
Валошкі дзве
У полі.
Месяц,
І той,
Толькі раз азірнуўся,
І прысеў
На вяршыне таполі.
П'ю захланна
Крынічныя воды...
Слёзы і сілу
Маёга народа
Толькі той
Можа зведаць
І змераць,
Хто,
Хоць раз у жыцці,
Быў прамеран.
Акунаюся
У сімвал былога,
Лабірынтная
Наша дарога...
П'ю партрэт твой,
Увесь выпіваю.
І дужэю
І веру,
І надзея ў світанак
У грудзях расцвітае.
На
Алімпе маім
Бела-белая з'ява.
Яна цень мой
І Бог,
Уваскрэсшая мара.
На
Алімпе маім,
Здаўна апусцелым,
Сёння
Модлы і агонь,
Сёння
Святасць і спевы.
У тваім
Лесе Святым,
Дзе
Не быў я ніколі,
Сёння
Сцежкі мае
І твая —
Маёй воляй.

## САКРАТ ЯНОВІЧ

### У КАНЦЫ АДНАГО ЛЕТА

Я бяспамятна даўно лазіў па дрэвах і, пэўна, таму не здолеў абабраць усіх сліваў за адзін дзень. Танкаверхія вянгеркі гнуліся пада мною; ногі дрыжэлі і ад натугі, ды ад нязручнага стаяння на лесвіцы. Ледзь-ледзь дацягваўся я рукою да адтапыраных галінак, падатлівых на злом пры гэткай урадлівасці; вядзерка дзеля збору чапляў на сукі. Адчуваў я сябе, як памаладзелы Бог (калі не грэх так выказацца)! Гэта я быў гаспадаром у садзе ды агародзе ў пару пад Багача.

На папяроўцы, што на загоне з капустаю, сям-там яшчэ трымаліся яблыкі, падзюбаныя птушʼём, на якія сонна сядалі заласцістыя восы. Вераб'і ўшчэнт выпілі мак, і не было ад іх спасу, хоць паставіў я туды страха з лахмоцця. Я потым нарабіў тых страшыдлаў больш і сяліў іх, дзе трэба было і не трэба; найжахліўшага пасадзіў на тую яблыню, дзе карпеў ён з нейкай зладзейскай зацятасцю. Зрабілася весялей мне тут.

Пагода ўстаялася. Бабяе лета трымцела паблiскамі ад павуціння на чартапалохах і маладой жаўцізны на высозных вербах па-





© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

-над азярышчам. Адсюль відаць сіняя ў такі час палоска рачулкі, што выплывае з багонніка пад маёнткам. Надоечы хадзіў я ў тыя крыніцы; на ўсыпаным каменьчыкамі дне сцюдзёнага стачка вынаходзіў крэмені, якія нагадвалі мне сякеркі першабытных людзей.

Зайшоў да мяне сусед.

— Слівы рвеш, — сказаў ён.

— Ага, ад учора так, — мяне не ўцешыла ягонае з'яўленне.

— Добра насушыць вянгерак, — задраў ён галаву на мяне ў галіноўі. — Мая баба думае, каб хлебную печ дзеля таго напаліць...

— А я іх на віно.

— А-а, цукру адкуль набрацца? Гэта ж давай і давай!

— Кажуць, не вельмі і шмат...

— Не вер ты, — гугнявіў ён. — Мала дасі — воцату начаўпеш, а не слодычы!

— Частуйся, во, — паказаў я на поўныя кашыскі ўнізе.

Ён сапраўды гатоўліва падсеў да іх, панастаўляных мною вакол прасцяцкага стала з дошак, які я збіў сабе ды ўкапаў пад раскладзістай антонаўкаю. „Есць, бы сыты пасля шкоды падсвінак", — падумалася мне зверху пра яго, і пачынаў браць мяне лішні смех.

— Бардзо смачныя, — азірнуўся ён на мяне, усё роўна бы паціху шкадаваў я яму іх. Цямкаў з прагнасцю ці бо патульнасцю.

— Не люблю польскіх словаў у беларускай мове! — панесла мяне, і я ад таго мала не пакаўзнуўся з прыступкі; лесвіца крыва асядала ў мяккую баразну бульбянішча, рыжэючага. — А ведаеш ты, чаму? Бо за гэтым ідзе такое шчырае самааплёўванне... — слоўка „бардзо" кальнула мяне, але ані ў ім, ані ў той самапатардзе, што выныргала за ім, так напраўду не была тая цэлая справа. Ён, вось што, горш парабка менавіта ў нечым падлізваўся да мяне. Я гэта ўсё выразней адчуваў і спрабоўваў здагадвацца, чаго трэба яму ад мяне. Прыходзіў, нібы, от так сабе, па-суседску, а найчасцей тады, калі я грэбаўся на агародзе ці бо ў садзе, ды ўшчынаў са мною неабавязковую гутарку (з прадчуванымі мною ў ёй заднімі думкамі). Мы нават не зналіся як след, у сваёй гамане не выходзячы за штодзённую непатрэбшчыну.

Адкуль ён і ўзяўся, гэты чалавек?!

У свае мястэчка я вярнуўся пад канец саракоўкі, рыхтуючыся як быццам да — здаровай? — старасці. Усё пакуль яшчэ жывучы ў тым Беластоку, у якім ужо не чакала мяне ніякая высакапасадніцкая кар'ера. Бацькоўскі дом мой шчасліва не быў збыты пасля таго, як паўміралі старыя, і я тым часам браў на кватэру болей культурную навалач, што шукала сезонных здабыткаў у нашым старонні (збіраў грошы на капітальны рамонт).

З немалым здзіўленнем не ўпаткаў я аніводнага свайго равесні-



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

ка; яны, відаць, укараніліся недзе ў Польшчы, а і, чуў, колькі дзяўчат выйшла замуж у замежжа (адна, хоць сама і безагляднная каталічка, у кацапападобную Сербію). Па хатах жылі людзі, якія ў маё дзяцінства, магчыма, усяго толькі папрыходзілі на свет і не мне было іх ведаць, як некалі майму прадзеду, калі вярнуўся ён маскалём з мікалаеўскіх салдат.

— Ай, бардзо яны, бардзо... — ён абціраў губы далоняю, няйначай спадзеючыся на маё жаданне працягваць з ім гутарку. Але я маўкліва матляшыў у кучме слівы, усё роўна, што пачціва забыўшыся на прышлага госця. Надакучлівец гэты кашлянуў быў значна, ад чаго я не паўстрымаўся, каб з відавочнай заўзятасцю абсцёбваць вецце з гірляндкаў пладоў: „А ідзі ты сабе, чалавеча!..“

...Даўно было: я тапіўся ў Супраслі. З даволі выпадковай сябрынёю ў прысвятак рэзаўся ў карты, разлёгшыся на беразе каля Навадворцаў. Гулялі мы ў банальнага „воза“. Ад Васількова, з-над лясоў за Соханямі і Юраўцамі, бачна напаўзала на неба злосна-чорная хмара і нам мус было паспяшаць. У гэткім паганяні я прайграваў. Калі ж здаўся, нехта крыкнуў, што вада ў рэчцы перад бураю асабліва цёплая, і ўсе, будучы без дзяўчатаў, параспраналіся дагала, як бізуны, ды, пахаваўшы адзенне ў капіцы сена поблізу, з хлапцоўскім іржаннем пабеглі ныраць у нявараты пад мостам. Я выцяў ілбом у нейкую недагнілую палю ў глыбокім, аднак утрымаўся пры памяці. Напіўшыся муці, не меў змогі ратавацца, і калі б не тое, што мяне аднесла з плынню на пясчаную мялізну, пэўна скончыўся б. Вылазіў я ракам і так, бы ўкалечаны звер; ванітаваў у траве. А яны пасталі нада мною асочніцкаю лаваю і рагаталі да ўпаду. Напацяшаўшыся (ну і разява!), урэшце сыйшлі некуды, а я, здаецца, прыдрамаў; зямля ўздрыганулася ад грому, накоціста зашумеў у зараслях дождж. Яго цяжкія кроплі разварушылі мяне, я ўстаў, падстаўляючы свой запаскуднелы твар пад лівень. Навальніца гэтак жа раптоўна аціхла, і было відаць, як ад лугоў з мураваным хутарам у бок Дубравак набліжалася новая яе сцяна з водсветамі бліскавіц. Мае апранахі тыя лайдакі чамусьці параскідалі, яны ўмакрэлі, і мне давялося папагрэцца ў пазалонскай саломе (з мышамі) пад паветкаю даўняга гумна, да якога дабег я яшчэ ў гэты перапынак. У адвячорак перастала падаць, і зноў выбліснула сонца, лагодзячы ўдушную парнасць.

Абыходзячы навэдворскія агароды буйнай капусты і расчырванелага маку, аселіцамі за садкамі выбраўся я на палявую дарожыну. Наперадзе, як бы выглядваючы па-над жытамі, чысценька зелянявіў ельнічак, і я бегма кінуўся туды: у лесе цяплей. З маладога аўса выскачыла перада мною казуля, сігаючы прэч у кустоўе: я ўвесь скалануўся ад нечаканасці, праз добрую хвілю не цямячы з перапуду, што тут адбываецца. У мяне нястрымна



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

дрыжэла правая рука і нага, і, каб супакоіцца, я доўга прасядзеў у слабасці на ўчарнелым пяньку, пакуль не пеканулі мурашкі. У Багноўку, у той нядаўні прыбеластоцкі прыгарад з канцавым прыпынкам гарадскога аўтобуса каля прэтэнцыёзнае вілі з хлеўчуком, давалокся я папоцемку, зблудзіўшы ў Ярашоўскім барку (у якім лапатала крыламі разбуджаная вялізная птушка, у альшынах бліз саджалак: вызіраў месяц, высярэбраваючы сабе сценку ў цемень затоння і там запаўцела дзерціся адурэлая сосну качка).

...Я ўсё-такі пачуваў благое ў яго прыходах да мяне. Праўда, хоць прыблізна не мог адказаць сабе, у чым, — зусім не ведаючы ягонае асобы, як, мабыць, і ён гэтаксама не дадумваўся або і наагул не думаў, якім чынам апаганіць і сябе і мяне. Яму, а як жа, збрыдала самота, але, разам з тым, наўрад ці задаў сабе пытанне: наколькі павінен ён намагацца выходзіць да людзей, не рызыкуючы ўласнай годнасцю, і ў чым можа быць неабходнасць майго якраз удзелу ў гэтым? Трэба ж усяляк памятаць пра тое, што адыходзім з жыцця пераважна бясслаўна, хоць у кожнага з нас ёсць незлічоная колькасць вымушаных прычын таго ў свае апраўданне. Дык скажам так: легкадумныя мы, ідучы насустрач адзін аднаму, бесклапотна прыносім другому і зло, якое нажылі сабе паасобку.

Швэндаючыся па сваім садзе і калоцячыся сам з тымі роздумамі, ад якіх усяго крок да дзівакаватасці, ды ўспамінаючы насцярожлівасць пакойных бацькоў, якая, старэчая, так смяшыла і, адначасна, злавала мяне, прагнага мітусні да таго чагосьці, што завецца ўдачаю, я, аднак жа, аказаўся непадрыхтаваным да бяды. Яна з'явілася занадта хутка, а перш-наперш маленечкай, як на мой сусвет, тым не меней дастатковa ўедлівай мне, каб у чарговы раз зразумець розніцу паміж ідэалам і рэчаіснасцю.

Начная віхура раскрыла дах хаты, трохі каля коміна, а наймацней над шчытом, што на нізок да выгана. У такі ветрагон, прадвяшчаючы блізкую восень, наабтрасала яблыкаў; што не было дзе нагою ступіць (ад старое антонаўкі аддзерла тоўстую галіну). Я не знайшоў запасу чарапіцы, абшукаўшы закуткі на падворышчы, у склепе і на гарышчы.

Мне рабілася дурна прасіць у гэтага прылезы помачы!

Ён, абглездзеўшы ўсё, загаварыў не пра тое:

— Ніхто не родзіцца беларусам, стаецца ім потым, — сказаў, як п'яніца, што цягне ўчарашнюю размову, і я зразу не скеміў, чаму ён так. — Э-гэ-гэ-ээ, наскідала ж табе чарапіцы, — і захадзіў ізноў наўкола будынка. — У мяне няма яе, такой формы, але я ведаю, хто будзе мець... — ён назваў даволі нечужое прозвішча.

— Заплачу!

— Якая там плата, — зіркнуў мне ў вочы, як здалося, з пагневам. — Ты так бардзо не раскідайся грашыма. Яны табе, ой-як прыдадуцца...

— Ну, я не хачу задарма. Ніхто ж нікому не дае за адно „дзякуй“!

— Палічымся, — па-дзялецку паправіў сабе шмальцаватую шапку і, чагосьці абвёўшы вачыма ваколле, дадаў скорагаворкаю, як бы ўспомніўшы пра пільнае: — То я пайшоў. Прыду ў панядзелак.

— Я, ведаеш, сам перакрыў бы, але ж адзін не дам рады...

— Добра, — адказаў ён мне і сапраўды папраставаў паміж дрэвамі да веснічак. Было відаць, як доўгімі нагамі пераходзіў ад майго дварыска цераз вузкі ў гэтым месцы выган. Прайшоўшы ўжо каля сваіх платоў, ён знік за вішняком нечай апусцелае сядзібы, пэўна кіруючыся да таго, пра каго і гаварыў быў.

Ён выканаў абяцанае, хоць мне, неяк падсвядома, не верылася ў тое. Усё парабіў, акуратна і так, бы знарочна клапоцячыся пра мае быццё тут. Амаль не дапускаючы мяне да нічога.

Тыя, хто любіць заўважаць, кажуць, што чалавек пакутуе ды паміраe, усё-такі, ад аднае хваробы, (пра гэта я дазнаўся значна пазней). Тады ж неспакоіла мяне нешта неакрэсленае, пэўнае ведаючы столькі — не чакаць мне дабра!

Нельга сказаць, каб жылося мне далей у нечым горш ад наспадзяванага сабе. Хату я добраўпарадкаваў паводле сваёй задумы (ламарэнддзе папаліў у печах, а ўсякае жалеззе прадаў на лом). Павялічыў сад, агародніны меў адпаведна да ўласных патрэбаў і ні бульбіны звыш таго. Перабіў платы. Без спеху, як той, у каго ўсенька ёсць свае.

Але вось што: я потым не знаходзіў сабе месца ад пачуцця ўдзячнасці гэтаму чалавеку, пра якога неўзабаве стала мне добра вядома, што ён вялікі нягоднік (жах бярэ гаварыць, у чым ён такі і чаму).

Ад таго нават зубы былі разбаляліся!

I чаго не здаралася са мною — пачынаю баяцца людзей...


© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

# VIII

# ПРАЧЫТАЕЦЕ — СКАРЫСТАЕЦЕ

## ПРАКТЫЧНЫЯ ПАРАДЫ ПА ЎПАРАДКАВАННЮ СЯДЗІБЫ, РАМОНТУ БУДЫНКАЎ ЦІ МЭБЛІ

Усё, што чалавека акружае ў штодзённым жыцці, выклікае яго асаблівую зацікаўленасць. Таму ў календары на бягучы год мы вырашылі прысвяціць частку гаспадарчых парадаў парадкаванню сядзібы, рамонту пабудоў, памяшкання і мэбляў, з улікам, што зробім гэта самі.

### I. СЯДЗІБА

Сядзіба з'яўляецца вельмі важнай часткай сялянскай гаспадаркі. Яна служыць не толькі для жыцця, але таксама з'яўляецца месцам працы і сустрэч з суседзямі на працягу ўсяго года.

Адны сядзібы ўпарадкаваны, загаспадараны, заўсёды выклікаюць прыемнае ўражанне, іншыя занядбаныя, быццам пакінутыя сям'ёй і вёскай. Сядзібы кшталтаваліся ў перыяд складвання селішча, а пасля, у выніку падзелаў, рабіліся ўсё менш выгаднымі. У вёсках тыпу вуліцовак яны вузкія і празмерна доўгія. Само хаджэнне з хаты да стадолы складзе на працягу аднаго дня шматкіламетравы шлях. Аднак было б неразважна раіць змену сядзібы, да якой прызвычаілася ўся сям'я і суседзі. Але ў выніку ўзможанай міграцыі часткі вясковага насельніцтва ў гарады, здараецца магчымасць пашырыць сядзібу, а можа нават наблізіць да хаты гаспадарчыя будынкі. Мы заўважылі цікавы падзел мадэрнізаванай сядзібы на дзве часткі: адну складала агароджаная хата і сад, а другую — хлявы і стадола, дзе ўсё прызначана для жывёлы і дамашняй птушкі. Пры нагодзе яшчэ раз трэба задумацца над размяшчэннем асноўнай плошчы саду, які будзе нам служыць амаль усё жыццё, нават паасобных дрэў вакол хаты ці хлявоў, ля дрывотні ці альтанкі. Не забудзьце пакінуць каля хаты месца на кветкі і вінаград, які любіць віцца на паўднёвай сцяне будынка.

### II. АГАРОДЖА

Выгадна гаспадарам і прыемна наведвальнікам, калі сядзіба агароджана. Гэта праўда, што матэрыялаў і рабочай сілы ўсё менш, але трэба шукаць выхаду з гэтага становішча. У многіх вёсках захоўваецца добры звычай гараджэння ўздоўж толькі аднаго боку сядзібы, а другі пакідаць суседу, — гэта ўжо палавіна коштаў і працы. Нельга шкадаваць грошай на трывалую агароджу сядзібы ад вуліцы — гэта ж візітоўка вёскі. Калі не хапае на жалезную або з сеткі, трэба зрабіць цэментавыя слупкі, абразныя штыкеты і жэрдкі з альхі, якія будуць стаяць дзесяткі гадоў.

Задняя агароджа можа быць менш прыгожая, не надта разбудаваная, але заўсёды функцыянальная і адрамантаваная. Назіранні паказваюць, што там, дзе хоць раз на сядзібе быў пастаўлены плот, ён будзе заўсёды. На яго выкананне знойдзецца і матэрыял і час. Брамы трэба рабіць з асіны, яны лёгкія і вельмі трывалыя. Доўгія брамы абавязкова трэба ўзмоцніць крыжаўкамі і даць дубовыя або сасновыя смольныя слупы. Цэментавыя часта ломяцца.

### III. СТРАХА

Пакрыцц. гаспадарчых пабудоў у пасляваенныя гады змянілася на больш трывалае. Але на старых стадолах і хлявах яшчэ часткова захоўваецца традыцыйная сялянская страха. Рамантаваць яе не раім, таму што цяпер саломы ў сялян мала, а крыццё вельмі працаёмкае. Карысці будзе нямнога, да таго павялічыцца небяспека пажараў.

Кожнае пакрыццё патрабуе догляду. Найбольш распаўсюджаная дахоўка з цэменту або чырвоная чарнавеская з выпальванай гліны з часам пакрываецца мохам. Трэба купіць некалькі драцяных шчотак, узлезці на дах і, не здымаючы дахоўкі на зямлю, добра яе пачысціць, адкінуць знішчаную і пераламаць на чарговых многа год.

Найбольш трывалае пакрыццё цынкавай бляхай вымагае дробнага рамонту — недзе вецер адарве замацаванне, якое трэба адразу направіць, каб забяспечыцца ад значна большых шкод.

Больш клапатлівая кансервацыя пакрыцця з чорнай бляхі. Яна вельмі хутка ржавее і таму патрабуе перыядычнага малявання, спачатку мініяй або іншай фарбай падкладовай, а калі высахне — фарбай нітра (да жалеза). Можна таксама маляваць на некалькі год іншымі фарбамі. Цяпер фарбы і праца дарагія, а чор-





© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

ная бляха як не зверху, дык знізу хутка пераржавее і трэба будзе яе сарваць з даху. Ёю крыць сталых будынкаў не раім. Калі няма дахоўкі, выпадзе купіць этэрніт.

## IV. СЦЕНЫ

Сцены хат з дрэва, а такіх у нашых вёсках яшчэ найбольш, таксама патрабуюць рамонту. Раней малявалі іх вапнай, глінай, а новыя — алейнай фарбай. Старыя нягладкія сцены так маляваць не раім. Пойдзе вельмі многа фарбы. Не трывалае таксама абіванне папай. Лепш такія сцены ашаляваць дошкамі. Цяпер сяляне маюць крайзэгі, габляркі, і можна з абы-якой сасны, ялі-ны, асіны, нават вярбы самому зрабіць у заклад або ў пазы прыгожую шалёўку. Яна не павінна быць шырэйшай, чым 12—15 см, а з адпадаў зрабіць яшчэ на палову вузейшую. Хопіць толькі нямнога згэбляваць абочыны, прыбіваць пераменна і атрымаем прыемныя ўзоры. Шалёўка ўзмоцнівае сцяну. Яе можна памаляваць дрэўналакам або фарбай алейнай, спачатку падкладовай, потым эмаллю (арэх ясны, шэры, махань).

Сцены хлявоў ці стадолаў ачышчаем ад нанесенага пяску ці моху і забяспечваем ад непасрэднага ўздзеяння ападкаў. Часта трэба павялічыць капеж.

Неабходна захаваць пры рамонтах архітэктурную разьбу, якая ўпрыгожвае вуглы, шчыты, вокны, ганкі. Знішчаныя элементы можна дарабіць паводле захаваных узораў, потым спраўдзіць замацаванне да сцяны, пашпахляваць усе трэшчыны, а калі шпахлёўка высахне, працерці яе шклянай паперай і памаляваць алейнай фарбай. Раней трэба падрыхтаваць адпаведныя да вясковых звычаяў колеры фарбаў. Увядзенне адменнай каларыстыкі можа выклікаць іранічныя заўвагі суседзяў.

## V. СТАЛЯРКА

Перыядычны рамонт сталяркі проста неабходны. Вокны, дзверы найчасцей зроблены са смольнай сасны і таму доўга не гніюць, але чарнеюць, выглядаюць брыдка і зацямняюць памяшканне. Сталярку трэба часта маляваць, пры тым заўсёды сухую і аднолькавай фарбай. Спачатку паўбіваць драўляныя і жалезныя цвікі, потым паправіць кіт ля шыбаў, добра шклянай паперай выраўняць паверхні рам, сцерці з іх адстаючую старую фарбу. Карысна загрунтаваць жалезнае акуццё мініяй, а рэшту рам — кітам да дрэва. Пасля зноў працерці шкляной паперай і памаляваць фарбай падкладовай, а калі высахне — некалькі разоў белай алейнай эмаллю (уключна з кітам). Каб не пабрудзіць шыбаў, можна зрабіць бляшаную лапатку і пры маляванні аддзяляць ёю шкло ад маляванай рамы. На сталярцы не можа быць зацёкаў фарбы.

Аналагічным спосабам малюем дзверы, але ўжо іншымі колерамі фарбаў, сярод якіх найчасцей сустракаецца ясны арэх і махань.

Вясною вокны трэба адкрыць, каб добра высахлі ад зімовай вільгаці, інакш будуць гніць.

## VI. КВАТЭРА

Кожнае памяшканне праз пяць-дзесяць гадоў ужывання трэба рамантаваць. Яно брудзіцца, нішчыцца, „старэе“ для нас і наведвальнікаў. Рамонт выканаць трэба самому. Цяпер можна купіць неабходныя прылады працы і гатовыя фарбы. Яны не складуць нават чацвертай часткі коштаў рамонту, які правядзе рамеснік. А пры тым выяўляюцца нашыя артыстычныя здольнасці і задавальненне з самастойна выкананай працы.

Пачынаць рамонт неабходна ад полапа і сцен. Іх можна тапэтаваць, абіваць або маляваць. Моцна знішчаныя няроўныя паверхі трэба абіць цвёрдай або мяккай пільснёвай плытай, падклеіць спалучэнні аркушаў паперай, памаляваць галоўкі цвікоў алейнай фарбай, каб не вылазіла іржаўчына, і толькі пасля гэтага маляваць або тапэтаваць. Маляванне алейнымі фарбамі больш трывалае, але каштоўнае. Таму распаўсюджана больш тапэтаванне.

Выбар тапэты, яе якасць і асабліва колер неабходна абмеркаваць з усёй сям'ёй — кожны будзе мець нейкія пажаданні, якія для агульнага спакою выпадзе ўлічыць. Цяпер адна ролька тапэты — 5 м² каштуе ад 130 да 500 злотых, добра адначасова купіць клей.

Тапэту трэба парэзаць на акрэсленыя кавалкі і разаслаць адваротным бокам на стале ў два рады. Верхні кавалак пры дапамозе пэндзля смаруем клеем. Потым адна асоба яго падцягвае, а другая крыху рассоўвае ніжнія кавалкі, каб пазбегнуць клею на ўзорыстым баку, і далей смаруе клеем. Адна з іх самастойна замацоўвае тапэту верхняй часткай на полапе ці на сцяне, а ад сярэдзіны тапэты, спачатку лёгка пальцамі, пасля шчоткай прыклейвае так, каб не было маршчын. Часта горшыя гатункі тапэтаў размакаюць, робяцца няроўныя, але на другі дзень выраўноўваюцца без нашай дапамогі.

Не абітых драўляных сцен маляваць не раім, таму што яны хутка чарнеюць, і прыдзецца даволі часта іх аднаўляць.

Тынкаваны полап ці сцены найлепш маляваць клеевымі або эмульсійнымі фарбамі. Прадаюцца яны ў хімічных крамах гатовыя (сухія клеевыя ў трохкілаграмовых мяшочках, а эмульсійныя — у банках). Найбольш клапатлівае саскрэбванне і змы-





© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

ванне папярэдняй фарбы вадой з мылам, асабліва полапу. Яго трэба часткамі мачыць, а потым шпахлёўкай здзіраць старую фарбу і адначасова шпахляваць няроўнасці, шчыліны, дзіркі. Калі высахне, памаляваць белай фарбай першы раз са сценамі ўключна, а другі раз — толькі полап. Сцены будзем маляваць два разы іншай фарбай дзеля атрымання роўнага колеру.

Маляванне клеевай фарбай патрабуе вопыту. Аднакірунковыя рухі малярскім пэндзлем, так званым лаўкоўцам, павінны быць роўныя, плаўныя, каб не пакідалі зацёкаў ці плям. Добра мець малы плоскі пэндзаль, якім можна падправіць маляванне каля карнізаў, вокан.

Значна лягчэй і намнога трывалей маляваць больш дарагімі эмульсійнымі фарбамі „Поленіт". Яны на апакаванні таксама маюць падрабязныя ўказанні. Выгадна купляць „Поленіт" белага колеру і пігментавую пасту (ясна-жоўтага, зялёнага, чорнага, аранжавага або іншых колераў). Падрыхтаваныя паверхні зноў пачынаем маляваць ад полапа. Потым белую фарбу дзелім прапарцыянальна да плошчы пакояў і да кожнай часткі вельмі асцярожна дадаем пігментавую пасту жаданага колеру, адначасова доўга мяшаючы. Добра нават памаляваць у куточку крыху сцяны, пачакаць, пакуль высахне, і пераканацца, ці колер нам адпавядае, а калі не, дык далей дадаваць пасты або, наадварот, белай фарбы.

Само маляванне — гэта сапраўднае задавальненне. Фарбы гэтыя дасканала накладваюцца на тынкаваныя сцены, не расхляпваюцца, а маюць вельмі прыемны колер. Калі высахнуць, не фарбуюць пры датыканні, а да таго з іх змываюцца вадою з мылам плямы.

Эмульсійнымі фарбамі можна маляваць таксама старыя тапэтаваныя полапы і сцены. Трэба толькі спачатку старую тапэту добра падклеіць, зліквідаваць трэшчыны, дзіркі.

Не раім у кватэры рабіць многа каштоўнай баазэрыі з дошак, ляміната ў, ліштваў ці фанеры.

## VII. ПАДЛОГА

Падлога з сасновых або яловых не памаляваных дошак часта пэцкаецца, а пры змыванні вадою ўцягвае вільгаць і гніе. Сапсаваныя дошкі трэба выменіць, паўбіваць выстаючыя цвікі, зашпахляваць трэшчыны, а потым загрунтаваць падкладовай алейнай фарбай. Калі яна высахне, некалькі разоў памаляваць алейна-жывічнай эмаллю. Найчасцей спатыкаецца колер ясны арэх. Памаляваную падлогу трэба праціраць шматкай, змочанай у вадзе з дадаткам воцату. Падлогу такую нішчаць танцы, асабліва ў абутку на шпільках, перасоўванне мэбляў, майстэркаванне. Там, дзе фарба сатрэцца, можна яе зноў памаляваць.



## VIII. МЭБЛЯ

Тапчаны, версалькі, крэслы, на якіх чалавек праводзіць палову жыцця, а таксама сталы, шафы і іншая мэбля таксама патрабуюць рамонту. У тапіцэрскай мэблі найчасцей псуюцца спружынячыя матэрыялы. Трэба аддзяліць іх, спраўдзіць, ці спружыны добра замацаваны, а калі парваліся шнуры, зацягнуць новыя. Спачатку неабходна добра прасачыць шлях вязі шнура і па чарзе прывязвацца да кожнага парванага канца, каб прадоўжыць вязанне. Кожны адрэзак шнура павінен быць аднолькава нацягнуты і не дэфармаваць спружыны пры яе абцяжванні. Інакш адна з іх хутка зноў сапсуецца.

Потым падшыць знішчаную частку матраца старым коцам ці посцілкай і ўсё замацаваць такім самым спосабам, як гэта было раней. Нельга падсцілаць тапіцэрскай мэблі, асабліва тапчана, штучнай губкай, таму што яна хутка дэфармуецца, а да таго парыць цела. Знешняе пакрыццё найчасцей змяняць не трэба, пры нагодзе яго можна толькі вымыць ці пачысціць.

Гнутую мэблю, узмоцненую шрубамі, трэба моцна падакручваць акрэсленай велічыні ключамі або адвёрткай. Пазрываныя шрубы замяніць новымі.

Фарніраваныя шафы, бібліятэчкі, сталы маюць найчасцей пашкоджаны фарнір. Яго трэба падклеіць сталярскім клеем і нечым прыціснуць на адзін дзень. Калі высахне, пачысціць шкляной паперай. Ад вільгаці часта ўвесь лак, а нават фарнір, можа патрэскацца. Рамонт такой паверхні вялікага эфекту не прынясе. Неабходна ўсё ж яго выраўняць. Карысна зрабіць тампон, гэта значыць, адрэзаць кавалак латы (10 см) і абіць фільцам, а пасля абкруціць шкляной паперай. Чысціць спачатку грубай, а потым тонкай паперай, выраўняць і памаляваць два разы дрэўналакам. Зразумела, лепш было б зацягнуць палітурай, палістэрам або нітралакам і сашліфаваць на высокі полыск.

Кухонная мэбля, якая была памалявана белай алейнай фарбай, найчасцей жаўцее і чарнее. Аднаўляць яе пачынаем ад чышчэння шкляной паперай і шпахлявання трэшчын. Маляваць можна зноў белай фарбай фталёвай (сінтэтычнай), гэта значыць, „Эмолякам", адзін або два разы.

Рамонт кухоннай мэблі з ляміна ваных пліт даволі складаны. Паламаныя пліты найлепш выменіць, можна склеіць сталярскім клеем пад націскам. Цэлыя забруджаныя элементы добра змываюцца вадой з мылам, дэнатуратам ці бензінам. Узоры ляміна ванай абалочкі пасля многіх гадоў ужывання сціраюцца, але з гэтым трэба паміріцца.

У кухні ці на калідорах падлогу часта пакрываюць рознымі выкладзінамі, з якіх найбольш трывалы гумоліт (на гуме). Не раім прымяняць лентэксу. Ён уцягвае вільгаць, гніе, а пры тым выдзяляе непрыемны пах.

**У. ЮЗВЮК**



© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

ВІНЦУК СКЛУБОЎСКІ

## САЦЫЯЛЬНАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ СЯЛЯН І ІХ СЕМ'ЯЎ

Ад 1 студзеня 1981 года абавязвае закон з 14 снежня 1982 года аб сацыяльным забеспячэнні індывідуальных сялян і членаў іх сем'яў. Ён больш карысна, чым закон, які абавязваў дагэтуль, вырашае справу сацыяльнага забеспячэння сялян і ў гэтых адносінах прыпадабняе сялян да рабочых і служачых.

Ацэньваючы новы закон, трэба браць пад увагу і тое, што толькі 1/3 частку выдаткаў на выплаты, звязаныя з забеспячэннем, будуць пакрываць складчыны, якія ўносяць сяляне.

### I. Хто падлягае сацыяльнаму забеспячэнню

Сацыяльнае забеспячэнне, рэгуляванае законам з 14 снежня 1982 г., адносіцца да індывідуальных сялян, г.зн. мужа і жонкі, якія самастойна вядуць сельскую гаспадарку, плошчай не меншую, чым 0,5 га. Гаспадарка не абавязкова павінна быць уласнасцю селяніна, які на ёй працуе. Забеспячэнню падлягае таксама арандатар і кожны карыстальнік зямлі, хоць бы да зямлі гэтай не меў ніякага права. Сацыяльнае забеспячэнне адносіцца таксама да членаў сям'і, якія скончылі 16 год і працуюць на гаспадарцы, калі гаспадарка з'яўляецца іх галоўным сродкам утрымання і калі яны не забяспечаны на аснове іншых законаў.

Забеспячэнне з'яўляецца абавязкавым. Яно не адносіцца да асоб, забяспечаных на аснове закону аб забеспячэнні членаў сельскагаспадарчых вытворчых кааператываў і кааператываў сельскагаспадарчых гурткоў, а таксама да асоб, якія карыстаюцца дэпутатавымі землямі, альбо землямі, якія з'яўляюцца уласнасцю веравызнанняў.

### II. Умовы атрымання пенсіі

Пенсія належыцца селяніну і членам яго сям'і. Сялянамі з'яўляюцца муж і жонка, якія працуюць на сельскай гаспадарцы, а членамі сям'і лічацца асобы, якія працуюць на гаспадарцы, знаходзяцца ў супольнай хатняй гаспадарцы скончылі 16 год, не застрахаваны іншым спосабам, а праца на сельскай гаспадарцы з'яўляецца іх галоўным сродкам утрымання.

Адрозніваецца пенсія па старасці і пенсія па інваліднасці. Пенсія па старасці належыцца селяніну, які:

1) скончыў — мужчына 65 год, а жанчына — 60;

2) працаваў на гаспадарцы — мужчына 25 год, а жанчына 20 год і за гэты час аплачваліся страхавыя ўзносы. Умова аплачвання страхавога ўзносу лічыцца здзейсненай, калі селянін, згодна з законам аб пенсіях для сялян, які абавязваў дагэтуль (ад 1 ліпеня 1977 года) аплачваў складчыну і заплаціў узнос на страхоўку члена сям'і паводле новага закону;

3) мужчына на працягу 25 год, а жанчына на працягу 20 год прадавалі грамадскім установам сельскагаспадарчыя прадукты не меншай вартсці, чым 5 цэнтнераў жыта ў год з кожнага пералічанага гектара, лічачы паводле цэн скупу, якія існуюць у даным годзе. Умова гэта лічыцца здзейсненай, калі ад 1 студзеня 1977 года да 31 снежня 1982 года селянін прадукаваў і прадаваў грамадскім установам сельскагаспадарчыя прадукты не меншай вартасці, чым 15 000 зл., а ад 1 студзеня 1983 г. прадае прадукты не меншай вартасці, чым вартасць 5 цэнтнераў жыта і то да канца года, у якім перадае гаспадарку наследніку або дзяржаве;

4) перадаў бясплатна наследніку або дзяржаве сельскую гаспадарку, вартасць якой не зменшылася на працягу апошніх пяці гадоў перад перадачай. Абніжэнне вартасці гаспадаркі не бярэцца пад увагу, калі наступіла яно незалежна ад селяніна.

Члену сям'і належыцца пенсія па старасці, калі ён дажыў старасці, працуючы на гаспадарцы, або не пазней, чым пяць год ад спынення працы, а працавалі на гаспадарцы — мужчына 25 год, а жанчына — 20 год.

Інвалідская пенсія належыцца селяніну, які:

1) з'яўляецца інвалідам I або II групы, а таксама III групы калі ён поўнасцю няздольны да працы на гаспадарцы, а здольны толькі да іншай працы;

2) працаваў на гаспадарцы перад інвалідствам:

а) год, калі яно ўзнікла перад заканчэннем 20 гадоў,

б) 2 гады, калі ўзнікла ва ўзросце 20—22 гадоў,

в) 3 гады — ва ўзросце 22—25 гадоў,

г) 4 гады — ва ўзросце 26—30 гадоў,

д) 5 год — ва ўзросце больш 30 гадоў.

Калі інвалідства ўзнікла ў выніку выпадку ў часе працы, або прафесіянальнай хваробы, хапае які-небудзь прамежак часу працы на гаспадарцы;

3) у вымаганым прамежку часу прадукаваў і прадаваў грамадскім установам сельскагаспадарчыя прадукты не меншай вартасці, чым вартасць 5 цэнтнераў жыта ад кожнага пералічанага гектара;

4) аплачваў у вымаганым прамежку часу страхавыя ўзносы;

5) перадаў бясплатна сельскую гаспадарку наследніку або дзяржаве, вартасць якой не зменшылася з яго віны на працягу апошніх пяці год.

Члену сям'і належыцца інвалідская пенсія, калі:

1) з'яўляецца інвалідам I або II групы, або III групы, калі ён поўнасцю няздольны да працы ў сельскай гаспадарцы;



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

2) інвалідства ўзнікла ў часе працы на гаспадарцы, або не пазней, чым 18 месяцаў ад спынення працы;

3) мае патрэбны стаж працы як селянін-інвалід, а за гэты час аплачаны страхавыя ўзносы.

Калі б член сям'і пачаў працу на гаспадарцы, скончыўшы 40 год, інвалідская пенсія прыслугоўвала б яму пасля 10 год працы.

Муж або жонка, якія не дасягнулі ўзросту пенсіянера, могуць атрымаць пенсію толькі ў тым выпадку, калі дасягнуць гэтага ўзросту на працягу пяці год ад дня перадачы гаспадаркі. Гэта адносіцца і да інваліда, які прадаў гаспадарку дзяржаве або наследніку, а яго жонка не мае ўзросту пенсіянера або не з'яўляецца інвалідам.

### III. Размер пенсіі

Кожнаму пенсіянеру належыцца найніжэйшая пенсія, якая выплачваецца працаўнікам прадпрыемстваў дзяржаўных устаноў.

Пенсія прызнаецца асобна мужу і асобна жонцы. Пенсія мужу і жонцы павялічваецца, калі ўзрастае колькасць прадуктаў, прададзеных адзінкам грамадскай гаспадаркі, па 0,8 працэнта ад вартасці продажу да 50 000 зл., 0,6 працэнта ад вартасці продажу звыш 50 000 да 500 000 зл., 0,5 працэнта ад вартасці продажу звыш 500 000 да 1 000 000 зл. і 0,4 працэнта ад вартасці продажу звыш 1 000 000 зл.

За вартасць продажу бярэцца сярэдняя вартасць за апошнія 10 год перад перадачай гаспадаркі, або за карацейшы час, калі перыяд працы на гаспадарцы быў карацейшы, чым 10 год. Бярэцца пры гэтым пад увагу змена цэн сельскагаспадарчых прадуктаў.

Вышэй апісанае павелічэнне пенсіі дзеліцца на мужа і жонку пароўну, калі працавалі супольна, а адпаведна да часу працы на гаспадарцы, калі адзін з іх працаваў менш, чым 10 год. Калі адзін з іх не мае права да пенсіі, цэлае павелічэнне выплачваецца другому.

Селяніну, які бясплатна перадаў гаспадарку дзяржаве, павялічваецца пенсія на 400 зл. у месяц, калі вартасць пераданай зямлі, садоў, лясоў і будынкаў не перавышае 50 000 зл., на 4 зл. ад кожнай тысячы вартасці гэтых элементаў, калі вартасць іх перавышае 50 000 зл. і на 2 зл. у месяц за кожную распачатую тысячу, калі іх вартасць больш 200 000 зл. Аднак гэткае павелічэнне пенсіі на можа быць большым, чым 2500 зл. у месяц.

Вартасць зямлі ўстанаўліваецца паводле дзяржаўных цэн, будынкаў — паводле ацэнкі, устаноўленай для страхоўкі, сады і іншыя плантацыі — паводле цэн, якія абавязваюць пры перадачы нерухомай маёмасці.


© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Гэта павелічэнне дзеліцца пароўну на мужа і жонку, а калі права да пенсіі мае толькі адзін з іх, яно прыпадае ў цэласці яму.

### IV. Сацыяльныя належнасці для сялян і пенсіянераў

На правах, якімі карыстаюцца рабочыя і служачыя, селяніну і членам яго сям'і, а таксама пенсіянерам і іх сем'ям, прыслугоўваюць наступныя правы:

1) лекарская і акушэрская апека. Забеспячэнне лекамі, артапедычнымі прадметамі, пратэзамі, перавязачнымі сродкамі, належнасці, звязаныя з прафесіянальнай рэабілітацыяй або зменай прафесіі ў выпадку страты магчымасці выконваць прафесію земляроба;

2) радзільная дапамога прыслугоўвае застрахаванаму ў выпадку нараджэння дзіцяці або прыёму дзіцяці ва ўзросце да аднаго года з мэтай яго адопцыі (2500 зл.);

3) мацярынская дапамога прыслугоўвае застрахаванаму за перыяд 16 тыдняў у выпадку нараджэння аднаго дзіцяці і 24 тыдні, калі нарадзілася пры адным родзе больш чым адно дзіця. Калі б дзіця нарадзілася нежывое або памерла на працягу шасці тыдняў, дапамога прыслугоўвае да 6 тыдняў. Мацярынскую дапамогу складае 1/30 частка асноўнай сумы пенсіі, г.зн. без павелічэння, якое прыпадае за вартасць прададзенай прадукцыі;

4) сямейная дапамога прыслугоўвае асобам, якія не атрымоўваюць гэткай дапамогі на іншых асновах і маюць нізкія даходы ў пералічэнні на аднаго члена сям'і;

5) апякунчая дапамога на дзяцей прыслугоўвае на тых самых правах, што рабочым і служачым;

6) пахавальная дапамога прыслугоўвае ў выпадку смерці селяніна, яго жонкі або члена сям'і ў размеры трохразовай пенсіі. У выпадку смерці пенсіянера або члена яго сям'і гэтая дапамога выплачваецца ў размеры шасціразовай асноўнай пенсіі. Пахавальная дапамога выплачваецца таму, хто пакрыў кошты пахавання. Калі памершага пахаваў не селянін, зварочваюцца яму кошты паводле прадстаўленых дакументаў, але не больш, чым у размеры шасцімесячнай асноўнай пенсіі.

### V. Няшчасныя выпадкі ў часе працы

За няшчасны выпадак у часе працы на сельскай гаспадарцы лічыцца раптоўнае здарэнне, выкліканае вонкавай прычынай падчас нармальных дзеянняў, звязаных з працай на сельскай гаспадарцы, а таксама ў час выконвання даручаных палітычнымі і грамадскімі арганізацыямі заданняў або грамадскай працы.

Пацярпеўшаму прыслугоўваюць:


© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

1) дапамога на лячэнне, якая выплачваецца, калі няздольнасць да працы трывае больш 15 дзён, але за перыяд не большы, чым 180 дзён, у размеры 1/20 часткі асноўнай пенсіі;

2) аднаразовая кампенсацыя, якая належыцца, калі пацярпеўшы панёс трывалыя або доўгатрывалыя страты здароўя на тых самых асновах, як рабочым і служачым. Гэта значыць, што памер кампенсацыі залежыць ад працэнту трывалай або доўгатрывалай страты здароўя. Калі б у выніку выпадку наступіла смерць, кампенсацыя належыцца членам сям'і. Аднаразовая кампенсацыя таксама асобе найбліжэйшай селяніну, для якой праца ў гаспадарцы не з'яўляецца галоўным сродкам утрымання, калі пацярпела ў выпадку ў часе працы на гаспадарцы,

3) перыядычная пенсія прыслугоўвае селяніну, калі ў выніку выпадку ў часе працы на гаспадарцы прызнаны інвалідам I, II групы або III групы, калі поўнасцю няздольны да працы на гаспадарцы, але далей кіруе гаспадаркай і мае непаўналетняга наследніка, які не больш, чым за 10 год, будзе паўналетнім. Пенсія выплачваецца ў размеры 50 працэнтаў асноўнай сумы.

## VI. Сямейная пенсія

Сямейная пенсія належыцца членам сям'і ў выпадку смерці пенсіянера, а таксама застрахаванага селяніна, які ў момант смерці кіраваў гаспадаркай або працаваў на гаспадарцы перыяд не меншы, чым патрэбны для атрымання інвалідскай пенсіі. Пенсія прыслугоўвае сваім і ўсыноўленым дзецям, а таксама прынятым на выхаванне перад дасягненнем паўналетнасці, а таксама ўнукам, братам, сёстрам.

Сямейная пенсія не належыцца, калі хоць адзін з членаў сям'і здзяйсняе ўмовы, патрэбныя для пераняцця і вядзення гаспадаркі.

Аднак сямейная пенсія сялянам, якія не маюць права да пенсіі па старасці або інвалідстве, прыслугоўвае, калі іх абое бацькі або апекуны не жывуць, або жыве адзін з бацькоў або апекуноў, але не вядзе гаспарадку і не мае права да пенсіі.

Сямейная пенсія прыслугоўвае ўдаве пенсіянера або застрахаванага селяніна, калі споўнены наступныя ўмовы.

1) выйшла замуж перад перадачай гаспадаркі, але не мае права да пенсіі;

2) у часе смерці мужа скончыла 50 год або была інвалідам I або II групы, а таксама III групы, калі была поўнасцю няздольная да працы ў гаспадарцы, або выхоўвае дзіця, унука або брата ці сястру, якія маюць права да сямейнай пенсіі, не скончылі 16 год, а калі вучацца — 18 год або апякуецца дзіцём, залічаным да I або II групы інвалідаў і мае права да сямейнай пенсіі;

3) не вядзе гаспадаркі і не мае сталага сродку ўтрымання.

Права да сямейнай пенсіі мае таксама ўдава, якая скончыла 50 год або зрабілася інвалідам не пазней, чым 5 год пасля смерці пенсіянера.

Вышэй апісаныя правілы прымяняюцца адпаведна да ўдаўца.

Жонцы, якая выйшла замуж за пенсіянера, пенсія належыцца толькі ва ўмовах, калі б шлюбнае жыццё трывала не менш трох год, або перад шлюбам, або пасля шлюбу нарадзілася дзіця, або смерць пенсіянера наступіла ў выніку выпадку ў часе працы на гаспадарцы.

Асновай размеру сямейнай пенсіі з'яўляецца пенсія з дадаткамі за продаж сельскагаспадарчых прадуктаў і на падставе перадачы гаспадаркі дзяржаве.

Пенсія для адной асобы ў месяц вызначваецца — 85 прац. асновы да сумы 3000 зл і 50 прац. ад падвышкі. На кожную іншую асобу пенсія павялічваецца на 5 прац. асновы. Гэтак вызначаная пенсія павялічваецца на 10 прац., калі смерць наступіла ў выніку выпадку ў часе працы на гаспадарцы або прафесіянальнай хваробы. Круглай сіраце павялічваецца пенсія на 30 прац. асноўнай пенсіі без дадаткаў.

## VII. Дадаткі да пенсіі

Да пенсіі па старасці, інвалідскай і сямейнай належаць дадаткі:

1) сямейны дадатак належыць на аснове закону аб сямейнай дапамозе, якая выплачваецца рабочым і служачым;

2) апякунчы дадатак у суме 30 прац. асноўнай пенсіі не менш 1500 зл. належыць асобе, якая скончыла 75 год;

3) дадатак за адзнаку ордэнам, акрэсленым законам аб забеспячэнні працаўнікоў і іх сем'яў, належыць у размеры 25 прац. атрымоўванай пенсіі, але не больш 3000 зл. у месяц.

## VIII. Супадзенне правоў да пенсіі і спыненне выплачвання пенсіі

Калі б селяніну належала, апрача пенсіі для сялян, іншая пенсія, ён атрымае выбраную сабой цэлую пенсію і палову другой. Члену сям'і належыцца толькі адна пенсія. Гэта не адносіцца да супадзення пенсіі для сялян з ваеннай інвалідскай пенсіяй, або пенсіяй, звязанай з інвалідствам у часе вайсковай службы, і пенсіяй за інвалідства, якое ўзнікла ў выніку знаходжання ў канцэнтрацыйным лагеры, а таксама з пенсіяй за інвалідства, якое ўзнікла ў выніку выпадку пры працы.

Выплачванне пенсіі спыняецца, калі б пенсіянер пачаў працу па-за гаспадаркай на поўным этаце або калі б пенсіянер ці яго жонка далей кіравалі гаспадаркай, а таксама калі б наследнік, якому перададзена гаспадарка, не заняўся гаспадаркай, а гаспадаркай далей карыстаўся пенсіянер.





© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

### IX. Перадача сельскіх гаспадарак

Наследнікамі селяніна могуць быць дзеці і ўнукі, усыноўленыя, пасербы і выхаванцы, браты і сёстры і іх дзеці і ўнукі, а таксама мужы і жонкі вышэй вылічаных асоб. Калі б гэткіх асоб не было, наследнікам можа быць супольны ўласнік гаспадаркі або муж ці жонка.

Наследнікам можа быць асоба, якая:

1) стала працуе на якой-небудзь гаспадарцы непасрэдна ў сельскагаспадарчай прадукцыі або мае адпаведныя кваліфікацыі ў сельскагаспадарчай прадукцыі або мае адпаведныя кваліфікацыі для вядзення сельскай гаспадаркі;

2) мае не больш 55 гадоў;

3) не з'яўляецца інвалідам I або II групы, або III групы, калі няздольная да працы на гаспадарцы.

Як правіла, гаспадарка перадаецца аднаму наследніку, пры чым першынства мае той, хто працуе на гэтай гаспадарцы. Калі наследнік жанаты, гаспадарка можа быць перададзена мужу і жонцы. Некалькім наследнікам гаспадарка можа быць перададзена, калі яны, або іх жонкі, маюць сваю зямлю і разам з атрыманымі землямі былі ўтвораны гаспадаркі, здольныя да таварнай прадукцыі. Наследнікі могуць атрыманую гаспадарку апрацоўваць супольна, не дзелячы яе.

Калі наследнікаў няма або яны не згаджаюцца прыняць гаспадарку, можа яна быць перададзена дзяржаве.

Калі селянін або яго жонка маюць некалькі гаспадарак, перадаць неабходна ўсе гаспадаркі.

Наследнік, які атрымаў гаспадарку, не можа прадаць нават яе часткі на працягу 10 год. У важных выпадках гмінныя ўлады могуць дазволіць прадаць цэлую гаспадарку або яе частку.

Калі селянін перадае гаспадарку дзяржаве, можа вылучыць і затрымаць на ўласнасць дзялянкі з будынкамі, а таксама жывы і мёртвы інвентар. У выпадку продажу гэтай дзялянкі дзяржаве прыслугоўвае першынства куплі зямлі па дзяржаўных цэнах, а будынкаў — паводле ацэнкі, якая абавязвае пры страхоўцы. У выпадку даравальнага акту дзяржава мае права выкупу па вышэй пададзеных умовах.

Незалежна ад дзялянкі, якую селянін затрымаў на ўласнасць, мае ён права да карыстання з участка не большага, чым 0,3 га, і не большага, чым 1/10 перададзенай гаспадаркі. Пасля яго смерці ўчастак пераходзіць ва ўладанне дзяржавы.

Калі селянін перадае гаспадарку наследніку, не можа затрымаць будынкаў. Прыслугоўвае яму права карыстацца кватэрай і гаспадарчымі будынкамі ў размеры, неабходным для заспакойвання патрэб яго і яго сям'і, а таксама ўчасткам зямлі да 0,3 га і 1/10 часткі гаспадаркі.



Гаспадарку наследніку перадаюць умовай, заключанай у форме натарыяльнага акту. Аб перадачы гаспадаркі дзяржаве вырашае гмінная ўлада.

### X. Ад якога часу абавязвае новы закон

Новы закон увайшоў у сілу 1 студзеня 1983 года. Аднак поўная яго рэалізацыя патрабуе велізарных фінансавых сродкаў. Таму прадбачаныя законам належнасці будуць рэалізавацца паступова.

I так, асобы, якія пераходзяць на пенсію ад 1 студзеня 1983 года, да канца 1984 г. атрымаюць толькі 80 прац. асноўнай пенсіі. у 1985 годзе — 90 прац., а толькі ад 1 студзеня 1986 года атрымаюць поўную пенсію паводле новага закону.

Мацярынскі дадатак да канца 1984 г. будзе прыслугоўваць за 8 тыдняў на адно дзіця і 12 тыдняў, калі народзіцца адразу некалькі дзяцей. Ад 1 студзеня 1985 г. перыяд, за які належыцца дадатак, будзе штогод павялічвацца на 2 тыдні на адно дзіця і 3 тыдні на двое і больш.

Сямейны дадатак будзе выплачвацца ад 1 ліпеня 1986 г.

Калі на аснове закону, які абавязваў дагэтуль, пенсія была прызнана супольна мужу і жонцы, пенсія дзеліцца, прычым, часткі гэтыя падвышаюцца так, каб кожны з іх атрымоўваў асноўную пенсію.

Сяляне, якія перадалі бясплатна гаспадарку наследніку перад 1.І.1978 г. і атрымоўвалі належнасць 750 зл. на адну асобу, а 1000 зл. на мужа і жонку, ад 1 ліпеня 1983 г. атрымоўваюць асноўную пенсію — з дадаткамі: сямейным, апякунчым і за адзнаку ордэнам.

**ВІНЦУК СКЛУБОЎСКІ**

© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011

## КАЛЕКТЫВІЗМ ЖЫХАРОЎ ВЁСКІ ТРАСЦЯНКА

Калектывізм — гэта супрацоўніцтва, салідарнасць і ўзаемадапамога ўсіх членаў акрэсленай супольнасці людзей у барацьбе за існаванне. Сярод беларускага насельніцтва яшчэ захоўваюцца некаторыя формы калектывізму, асабліва ў цяжкай працы і абраднасці. У многіх вёсках яны былі ў мінулым вельмі разнародныя, трактаваліся як правы і выконваліся сумленна.

Жыхары перанаселенай ад стагоддзяў Трасцянкі таксама выпрацавалі цікавыя формы калектывізму. На агульных сходах або выбранымі вясковымі раднымі ў ліку 10—15 аўтарытэтных жыхароў прымаліся шматлікія пастановы. Многія з іх датычылі асноўнага пытання — зямельных угоддзяў вёскі. Пры тагачасным зямельным голадзе, а адначасова малаэфектыўнай трохпольнай сістэме апрацоўкі зямлі, важна было выдзяленне палетка пад азімыя культуры і пры тым так, каб кожны селянін меў у ім дастатковую плошчу пасеву на жыта або пшаніцу. Яравых збожжаў сеяць тут не дазвалялася, каб не перашкаджалі ў працы.

Пасля звязення азіміны з поля, пожня пакідалася на месяц для пасення авечак і быдла. Карысці з ранейшага заворвання былі вядомы, але гэта не дазвалялася.

Палетка папару, на якім пасвіліся авечкі, а часта і свінні, таксама заворвалася ў акрэслены сходам час. У паасобныя гады трэцюю яго частку — кожнаму селяніну па адной рэзцы (палетку) — дазвалялася засеяць лубінам на прыворку або палявымі травамі. Іншыя культуры былі забаронены.

Пачатак сенакосаў устанаўляў агульны сход, а касіць сена на рацэ Нарве пачыналі ўсе сяляне ў той жа дзень. Разам з суседзямі лягчэй было па паліках знайсці сваю рэзку, сушыць і вазіць сена. У многіх выпадках у забалочанай даліне гразлі коні, людзі і неабходна была ўзаемная дапамога. А між тым сушэнне сена, асабліва для моладзі з усёй вёскі, было адначасова і цяжкай працай і святам. Вечарам вярталіся з песняй „Касяры косят“ і гоманам, быццам не працавалі.

Іншай формай калектывізму быў удзел суседзяў, сяброў ці сваякоў у дажынках. Сям'я жала збожжа сярпамі або косамі некалькі дзён і ў апошні дзень недзе каля поўдня далучалася без папярэджвання яшчэ 10—15 асоб, якія працавалі так выдайна, каб пад вечар зрабіць дажынкі. А гэта ўжо цэлая ўрачыстасць.

Найчасцей разам цэпамі збожжа малацілі. Самому ішла гэта праца цяжка і малавыдайна, а вось „удвох“ або „ўтрох“ многа спраўней. Змалоцяць аднаму жыта і пераходзяць да другога супольніка.

Падобныя формы працы арганізоўвалі жанчыны. У адзіночку прасці лён вельмі сумна. Завязваліся 5—10-асабовыя „кудзельніцы“, якія запрашаліся да хатаў па чарзе. Кожная жанчына прала, праўда, сваю кудзелю, але крыху спаборнічала ў выдайнасці, якасці ніткі, а пры тым усе гаварылі, спявалі, часамі ў міжсвяцці пахмяліўшыся, патанцавалі. Да „кудзельніц“ далучалі мужчыны, каб пайграць у карты, пагутарыць і забраць позна вечарам жонку дадому.



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Супольнымі сіламі сяляне будавалі вуліцу вёскі, дарогу на сенажаці над ракой Нарвай, масты на рэчках. Яшчэ перад I сусветнай вайной яны выкапалі каля паўкіламетравай даўжыні русло ракі Чорнай, а ў міжваенны перыяд і ў першыя гады пасля вызвалення правялі меліярацыю „лугоў“ Пэнькі, Калігуска, Даліны і іншых, выдзелілі супольныя жвіроўні і месцы капання гліны.

На сходах сялян прымаліся пастановы аб абмежаванні пагалоўя жывёлы, асабліва быдла і авечак, у залежнасці ад велічыні гаспадарак. Захоўвалі аж да 1950 года агульнавясковыя выганы і лясы, аб выкарыстанні якіх таксама вырашаў сход. Ад даўнішніх часоў усходняя частка вёскі, званая Далінай, з яе „потонам“ быдла, выкарыстоўвала выганы ўздоўж рэчкі Малынкі да даліны Нарвы, а Гара — уздоўж рэчкі Чорнай да той жа даліны. Цэлы пагон, які налічваў 100—150 галоў жывёлы, пасвіў адзін сталы пастух, а аднаго або двух прыпаскаў дадавалі яму па чарзе. Трэба было мець вялікі вопыт, каб магчы пакіраваць паміж пасевамі збожжаў такой чарадой пагалоднай жывёлы.

Агульнаграмадскія лясы захоўваліся 30—40 год, а пасля на працягу некалькіх дзён яны вырубваліся, дрэва складвалася ў роўныя „прызмы“, а пасля лясавання сяляне забіралі належную ім частку дамоў, незалежна ад таго, ці мелі ўласнага лесу многа ці мала.

За агульным парадкам на полі сачыў, апрача солтыса, наняты вясковы „лапач“. Быў гэта вельмі рухлівы чалавек, які за знішчэнне збожжа ці лесу малышоў сам па-бацькоўскі караў на месцы, а старэйшых перадаваў солтысу дзеля ацэньвання і зрэкампенсавання шкоды. Асабліва часта здаралася гэта са знішчэннем збожжа недапільнаванай жывёлай.

Узаемная дапамога была да нядаўна часткай штодзённасці. Закупленае ў Белавежскай пушчы дрэва на пабудову хаты вяскоўцы прывозілі сваімі фурманкамі, незалежна ад 20—30 км адлегласці, у адзін дзень, за наступных некалькі дзён больш блізкія — патрачавалі, а ўлетку ставілі хату да кроквы і рабілі „вінковае“. Рэшту працы выконваў ужо сам гаспадар.

Падобна будавалі хлявы і стадолы, можа толькі з меншымі эмоцыямі.

Празмерна вялікім цяжарам для сялян былі частыя неўраджаі. І на гэта знайшліся формы ўзаемадапамогі. Яшчэ задоўга да I сусветнай вайны жыхары вёскі арганізавалі ў старым школь-



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

ным будынку ля дарогі ў Белкі „збожжавы пазычальны магазін“. На пачатку кожны гаспадар пазычаў гэтаму магазіну мерку (каля 2 пудоў) жыта, аўса ці грэчкі, словам, такога збожжа, якога меў крыху больш. У неўраджайныя гады пашкадаваныя сяляне пазычалі па некалькі мерак збожжа на адзін год пры ўмове, што аддадуць яго „з чубам“. А гэта азначала, што ў час пазычання яно згортвалася роўна з берагамі меркі простым бокам дошкі, а пры аддаванні ўвагнутым бокам, які ствараў чуб сталай велічыні. Тады, апрача бязменаў, вялікіх вагаў не было — вось і ўведзены быў просты, але як жа справядлівы спосаб разліку. З часам магазін разбагацеў і стаў нават прадаваць надвышкі збожжа.

Лагодзіліся таксама вынікі розных няшчасцяў. Калі згарэла ў час пажараў сена ці збожжа, пашкадаваны жыхар атрымліваў ад сялян, якія згодна з рашэннем сходу выносілі ў акрэслены дзень вязку сена, некалькі снапоў збожжа на абочыну вуліцы перад сваёй хатай, Часта пагарэльцу гэтыя дараванні звозілі яго сябры або суседзі, каб не адчуваў перад вяскоўцамі незаслужанай пакоры. Не дазвалялі жабраваць па суседніх вёсках, хоць такіх жабракоў-пагарэльцаў самі ўспамагалі. Лічылася, што мінімум сродкаў да пражыцця года, у якім здарылася няшчасце, вёска загарантавала. Здараліся выпадкі парушання гэтых звычаяў, але яны абмяркоўваліся на агульных сходах.

Недзе пасля эканамічнага крызісу трыццатых гадоў вёску пачалі наведваць розныя гандляры, якія за дробныя тавары жадалі многа сельскагаспадарчых прадуктаў: яек, масла, саланіны. Каб пазбегнуць гэтых паслуг, пачаліся захады аб арганізаванні грамадскай крамы „спулдзельні“. Атрымалі статут „Сполэм“, на сходзе выбралі праўленне, у якое ўвайшлі Рыгор Захарчук, Пётр Стэпанюк і Уладзімір Філіпюк, і рэвізійную камісію на чале з безработным тады настаўнікам Андрэем Сергеюком. Амаль усе жыхары вёскі ўнеслі па 5 злотых „паю“, потым адрамантавалі грамадскі будынак і выбралі першага штатнага прадаўца („прыказчыка“) Васіля Максімчука. Гандаль ішоў добра. Спачатку на вялікія пакупкі тавараў у беластоцкіх магазінах „Сполэм“ і ў яўрэйскіх крамах грошы пазычалі ад жыхароў вёскі, а фурманкі вызначаліся па чарзе бясплатна, а пасля дзве сталыя фурманкі давозілі тавары два разы ў тыдзень на суму 2000—2500 злотых. Як успамінае старшыня праўлення Р. Захарчук, прывезенага (200 кг) цукру хапала на цэлы месяц, таму што сяляне купллялі яго па паўкілаграма і менш. Хутка ўзбагачаўся асартымент тавараў, маржу на якія акрэслівала праўленне крамы, а часам і агульны сход. У той час у вёсцы былі яшчэ дзве невялікія крамы: Ёзавых і Перца, але гандлявалася ім вельмі дрэнна з увагі на канкурэнцыйную дзейнасць грамадскай крамы. Росквіт дзейнасці крамы спыніла II сусветная вайна. Да сёння старэйшыя жыхары вёскі ўспамінаюць, што была гэта іх супольная крама.

Несустраканую форму абароны перад здзерствам святара ўвялі сяляне ў палове трыццатых гадоў. Замест жаданай ім аплаты 32 злотых за шлюб, сход вырашыў плаціць толькі па 18 злотых, а дакладней гаворачы — раўнавартасць двух цэнтнераў жыта. Аплату за іншыя паслугі таксама абмежавалі. Здарылася так, што мой бацька, які быў вясковым радным і цвёрдым прыхільнікам абмежаванняў, выдаваў замуж ужо чацвертую пляменніцу-паўсірату Любу. Вясельнікі ў царкве, а святар і бацька больш гадзіны лаюцца за аплату паслугі. Урэшце збегліся „братчыцы“, нешта пагаварылі з маладым, і пачаўся шлюб. Сяляне аднак не адступілі ад прынятай пастановы.

Змена ўмоў жыцця спрыяла адыходу ад традыцыйных форм калектывізму. Падзел зямлі на калёніі, зліквідаванне зямельнага голаду, меліярацыя сельгасугоддзяў дзяржавай ці ўспрыняццё ПЗУ абавязкаў у няшчасцях пашыраюць індывідуалізм, а ад цікавай мінуўшчыны застаюцца толькі ўспаміны.

**УЛАДЗІМІР ЮЗВЮК**



© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

ЗМЕСТ

I. **Каляндарная частка** . . . . . . . . . . . . .
II. **Сорак год Польскай Народнай Рэспублікі**
Іван Анацік — Шлях да вызвалення . . . . . . . . 29
Уладзімір Юзвюк — Пачаткі народнай улады на Беласточчыне . . . . . . . . . . . . . . . . 41
уюю — З успамінаў Андрэя Трусевіча . . . . . . . . . 52
Уладзімір Юзвюк — Праблемы гаспадарчага развіцця Беласточчыны . . . . . . . . . . . . . . . 54
Леанід Лойка — Сорак гадоў без вайны . . . . . . . 69
Язэп Трусевіч — ТІПР на Беласточчыне . . . . . . . 74
III. **На хвалях жыцця**
Яўгенія Палоцкая — Летапіс БГКТ 1982—1983 . . . . . 81
Маўрыцы Кайлер — Дзейнасць Грамадска-культурнага таварыства яўрэяў у Польшчы . . . . . . . . . . 95
Янка Целушэцкі — Настаўнікі роднай мовы . . . . . . 99
IV. **З нашага мінулага**
Антон Мірановіч — Статут 1529 года — літоўскі, польскі ці беларускі . . . . . . . . . . . . . . 104
Аляксандр Анташэвіч — Каліноўскі — пачаткі ідэі сучаснай Беларусі . . . . . . . . . . . . . . 113
Аляксандр Баршчэўскі — Вінцэнты Дунін-Марцінкевіч . . 124
Сакрат Яновіч — Стагоддзе беларускай палітычнай думкі . . 132
Валянціна Анішчук — Выбраныя праблемы з творчасці Леапольда Родзевіча . . . . . . . . . . . . . . 136
V. **Аб нас пісалі** . . . . . . . . . . . . . 148
VI. **Народная культура**
Мікола Лобач — Адвечныя спадарожнікі . . . . . . . 153
VII. **Літаратурная частка**
Янка Жамойцін — Агляд выбранай творчасці „Белавежы“ . 176
Алесь Барскі — ...Заснулі ветры ў аблоках . . . . . . 189
...А вечны мой пажар . . . . . . . . 190
...Над далінай туман узвышаецца . . . . 190
...Пейзажы . . . . . . . . . . . 190
...Плюсаў і мінусаў . . . . . . . . . 190
...Паміж старым і новым . . . . . . . 191
Міра Лукша — Аповесць I . . . . . . . . . . . 191
Аповесць II . . . . . . . . . . . 191
Васіль Петручук — Карысная дурната . . . . . . . . 192
Зося Сачко — ...Мой партрэт малюю . . . . . . . . 196
...шкода як одыходіт нэпокуой . . . . . 197
...говору о свободі . . . . . . . . . 197
...у порану кажну . . . . . . . . . 197
Юрка Трачук — ...Я і не помню . . . . . . . . . 198
...У душы — залатыя бярозы . . . . . 198
Міхась Шаховіч — Святы лес . . . . . . . . . . 199
Сакрат Яновіч — У канцы аднаго лета . . . . . . . 201
VIII. **Прачытаеце — скарыстаеце**
Ул. Юзвюк — Практычныя парады па ўпарадкаванню сядзібы, рамонту будынкаў ці мэблі . . . . . . . 206
Вінцук Склубоўскі — Сацыяльнае забеспячэнне сялян і іх сем'яў . . . . . . . . . . . . . . . . 212
Уладзімір Юзвюк — Калектывізм жыхароў вёскі Трасцянка 220



© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011